Зьміцер Бартосік

# забіць упалмінзага

Падарожжы Свабоды

Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода

**Зьміцер Бартосік. Забіць упалмінзага.** Падарожжы Свабоды. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2022. 360 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Сяргей Дубавец*
Карэктар *Марына Сідаровіч*

„Забіць упалмінзага“ — трэцяя кніга Зьмітра Бартосіка ў сэрыі „Падарожжаў Свабоды“ пасьля папярэдніх: „Быў у пана верабейка гаварушчы“ і „Клініка кітайскага дантыста“. Тут, як і ў ранейшых кнігах, апавядаецца пра невядомыя факты беларускай гісторыі на падставе дакумэнтаў і галасамі жывых сьведак, якіх на момант выхаду кнігі амаль не засталося. Гаворка ідзе пра апошнюю спробу ўратаваньня рэальнасьці, якой яна была ў пасьляваеннай Беларусі, — без інтэрпрэтацый. Фота аўтара.


FOL

ISBN 978-0-929849-95-9

# Зьмест

# Археалёгія Беларусі

Спытае анёл, хто ты,

І пачуе: капач.

Спытае анёл, што капаў,

Пачуе: мінуласьць.

Спытае анёл, што знайшоў,

Пачуе: прышласьць.

Узрадуецца анёл, бо гэта боская справа,

І заплача, бо ўсе палі тут мінныя

І ўсе шляхі вядуць праз іх,

А іншых няма

Ад зямлі да неба.

І ад неба да зямлі.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

## „Ніхто не дазнаецца пра паўстаньне ў Крыжоўцы“

*Слова на дарогу*

Часьцяком завязка інтрыгі літаратурнага твора хаваецца ў падрабязным апісаньні таго фатальнага дня, які цалкам зьмяніў жыцьцё героя. Ён у драбніцах можа прыгадаць, чым займаўся, пра што думаў, якое за вакном было надвор'е… Калі прагучаў *той самы званок*. Пасьля чаго герой выпраўляецца ў падарожжа. Дзе яго чакаюць такія адкрыцьці, якіх да яго яшчэ не рабіў ніхто.

Я ня памятаю таго дня, калі мне патэлефанаваў наш знаны выдавец, чые кнігі займаюць добрую паліцу ў маёй шафе. Адбылося гэта пасьля ўзьлёту майго „Верабейкі“ да гедройцеўскіх вышынь. Штотыдзень вось ужо дваццаць гадоў я вандраваў па Беларусі ў пошуках жывой гісторыі і вусных сюжэтаў для сваіх радыёперадач і пэрыядычна пакутаваў ад таго, што мае патэнцыйныя героі ўсё хутчэй пакідаюць гэты сьвет, а значыць, новых тэмаў для падарожжаў і новых адкрыцьцяў ужо не прадбачыцца. Ну

не пісаць жа пра пасьляваенную ўдаваную калгасную радасьць. І тут гэты званок.

— Зайдзі, калі ласка, да мяне. І як мага хутчэй. Па тэлефоне ня буду распавядаць пра ўсе дэталі. Але цябе гэта можа зацікавіць. Толькі не забудзься на аб'ёмную флэшку.

Зразумела, я вырашыў не адкладаць запрашэньне да сьвятога ніколі. І вось дзень свайго візыту да спадара выдаўца запомніў ужо ў дэталях.

Ягонае выдавецтва знаходзіцца на першым паверсе звычайнага блёчнага дома, якімі забудаваны ўвесь гэты раён, вядомы старым менчукам як Шалман. Галоўны фокус Менску ў тым, што за любым банальным фасадам цябе могуць чакаць цікавыя неспадзяванкі. Ніколі не забудуся, як апынуўся аднойчы ў гасьцях у вучонага балотазнаўца Вячаслава Раковіча, дзе за звычайнымі дзьвярыма мяне чакаў сапраўдны музэй этнаграфіі і гарадзкога побыту. Не забудуся таксама, як шукаў сьляды БНР у сёньняшнім Менску і трапіў у аўтэнтычны інтэр'ер эпохі 1918 году. У кватэру немаладой менскай дамы, далёкай сваячкі аднаго з айцоў-заснавальнікаў першай беларускай дзяржавы. Кватэру з кандэлябрамі, з разьбянымі шафамі ды парцалянавымі статуэткамі.

Таму і гэтым разам, увайшоўшы зь дзённага сьвятла ва ўтульны паўзмрок, я быў гатовы да незвычайнага. Але ўявіць, што падрыхтаваў мне гаспадар гэтых прыцемак, ніяк ня мог. Усё

адбывалася, як у дэтэктыўным стандарце. Глыбокі фатэль, моцная кава, ветлівая ўступная размова пра бягучыя справы. І нарэшце.

— Я паклікаў цябе, каб перадаць пэўныя дакумэнты. Іх чыста выпадкова знайшоў адзін добра вядомы табе гісторык, Міхась Чарняўскі. Ён працаваў у звычайным раённым архіве і нечакана натрапіў на некалькі тэчак, якіх ніяк ня мусіла там быць. Гэтыя тэчкі павінны былі назаўжды зьнікнуць у закрытых архівах КГБ. Чарняўскі прынёс з сабой фотаапарат і пачаў здымаць. Усё, што там было. Аркуш за аркушам. Зірні, калі ласка. Ты, вядома, нічога ня чуў пра паўстаньне ў Крыжоўцы. І я таксама ня чуў. Чарняўскі разумеў, што зямнога часу яму засталося нямнога. І прасіў мяне перад сьмерцю аб адным: каб я перадаў гэты архіў у самыя надзейныя рукі. Асабліва ён хваляваўся, што ніхто не раскажа, ніхто не дазнаецца пра паўстаньне ў Крыжоўцы.

— Але ж я не гісторык, не архівіст. Я ўсяго толькі...

— Усяго толькі аўтар вось гэтай кнігі. Гэтага мне дастаткова.

Выдавец паказаў майго „Верабейку“.

— Ты нават не ўяўляеш, што цябе чакае наперадзе…

Імя Міхася Чарняўскага толькі дадавала ўсёй сцэне загадкавасьці і чароўнасьці. Вядомы археоляг і дысыдэнт, якога звольнілі з Акадэміі навук у 1970-я, сябра Ўладзімера Караткевіча і Зя-

нона Пазьняка, пісьменьнік і грамадзкі дзяяч, ён заўсёды быў крыху ў цені сваіх публічных таварышаў. І пазнаёміўся я зь ім, ня ведаючы, што мой новы знаёмец — Міхась Чарняўскі, чалавек, які ніяк не адпавядаў маім яшчэ школьным уяўленьням пра беларускага дзеяча.

А ўяўленьні мае зьявіліся дзесьці ўвосень 1982 году. Тады мой гомельскі таварыш і аднаклясьнік першым з нас дваіх наведаў Менск.

„Ну і як табе беларуская сталіца?“ — спытаўся я. „Жах, — адказаў прыяцель. — Шырокі пусты Ленінскі праспэкт. Бясконцы дождж. Шэрыя дамы за далягляд. Нават зялёныя дрэвы ўздоўж тратуараў таксама здаюцца шэрымі. А ў тых дамах змрочных пісьменьнікі сядзяць“. — „Чаму пісьменьнікі?“ — „Ну а хто ж яшчэ? Толькі пісьменьнікі там і жывуць. Сядзяць у гэтых шэрых дамах суткамі і пішуць усякую херню на беларускай мове“.

Пасьля той размовы я разгарнуў падручнік беларускай літаратуры. Адтуль зь непрыхаванай гідлівасьцю глядзеў на мяне галоўны беларускі байкапісец. Я ўявіў гэты твар у вакне шэрага сталічнага гмаха, і мне надоўга перахацелася ехаць у сталіцу рэспублікі.

Адкуль нам было ведаць, пра што і як піша Мікола Ермаловіч у сваім самвыдацкім часопісе „Гутарка“. Мы яшчэ не пазнаёміліся з сапраўдным Васілём Быкавым. І Караткевіча зналі толькі з экранізацыяў. Мы нічога ня ведалі і ведаць не маглі ні пра разгром „акадэмічнага

асяродку“, ні пра паседжаньні „на паддашку“, ні пра „Майстроўню“. Гэта ўсё прыйдзе пазьней. У маім выпадку значна пазьней за аваloданьне беларускай мовай.

У сярэдзіне 1990-х, ужо надрукаваўшы пару артыкулаў у „Нашай ніве“ ды напісаўшы некалькі песень, я адчуваў сябе часткай творчага асяродку. А мой таварыш, мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі, устурбаваўся маёй сямейнай неўладкаванасьцю і ўсё часьцей, склаўшы мне кампанію, па-братэрску накіроўваў мяне туды, дзе маглі быць маладыя незамужнія дочкі з інтэлігенцкіх сем’яў. Чые прозьвішчы мне тады нічога не гаварылі. Такім чынам мы весела бадзяліся, як пэрсанажы гогалеўскай „Жаніцьбы“, па прыстойных беларускіх дамах. Дзе на стары Новы год, дзе на дзень нараджэньня. І неяк зімовым вечарам апынуліся сярод панэльных пяціпавярховікаў у раёне Партызанскага праспэкту на нейкай сямейнай урачыстасьці.

Запомніўся гаспадар дома. Нестары, невысокі, зь вельмі прыемным тварам, з уважлівымі вачыма чалавек. Інтэлігент прыродны. Ніякай позы ці пошласьці ні ў словах, ні ў жэстах, ні ў інтанацыі. Дачка — сапраўдная прыгажуня, усьмешлівая бляндынка зь вялікімі вачыма. І настолькі чыстым позіркам, што ніякай надзеі на лёгкі флірт не заставалася. Я быў зьбянтэжаны і заціснуты, што вылілася ў нейкае блазенскае гусарства. Я сьпяваў не зусім дарэчнага тут раньняга Высоцкага. Сыпаў не зусім

прыстойнымі анэкдотамі. Шмат сабе наліваў і гучна сьмяяўся над сваімі ж жартамі.

У нейкі момант зірнуў на прыгажуню і прачытаў у вялікіх вачах толькі адно: „Божа, які ідыёт!“

Праз колькі гадоў, ужо крыху павысіўшы ўзровень сваёй абазнанасьці ў беларускіх справах, я адчуваў сорам і за сябе школьніка, і за сябе „творцу“. Аказваецца, ня ўсе пісьменьнікі жылі на ленінскіх праспэктах. І ня ўсе пісалі „ўсякую херню“. На пачатку нулявых я купіў кніжку Міхася Чарняўскага „Як пошуг маланкі“. Нарыс, прысьвечаны сапраўднаму беларускаму падпольшчыку Расьціславу Лапіцкаму. І гэтая тоненькая брашура для мяне пераважыла многія тамы і расплюшчыла вочы на іншую Беларусь.

І вось на адной зь літаратурных вечарын я сустрэў аўтара гэтай кнігі. І ўтрупянеў. Гэта быў той самы інтэлігентны чалавек з засьнежанага пяціпавярховіка. Ён ужо ведаў мяне з маіх радыёпадарожжаў. Магчыма, нават чуў нейкія песьні. Можа быць, ён і забыў даўно пра мой раскошны „творчы вечар“ 1990-х за ягоным сталом. Але кожнага разу, калі мы перасякаліся на розных імпрэзах, я заўжды баяўся прачытаць у ягоных вачах: „Божа...“, ну і далей па тэксьце.

Цяпер Міхася Чарняўскага няма ў жывых, а я стаю ў дзьвярах выдавецтва і атрымліваю ад яго такое вось прывітаньне.

— Зьвярні асаблівую ўвагу на справу ў вёсцы Крыжоўка, — працягваў выдавец, — Чарняўскі называў тое, што там адбывалася, паўстаньнем. І больш за ўсё перад сьмерцю перажываў, што не напісаў пра тую Крыжоўку. „Гэта бомба! І я не пасьпеў яе рвануць!“ — у адчаі сказаў ён мне. Адным словам, дзейнічай.

Я выйшаў з выдавецтва, калі на вуліцы ўжо зьвечарэла. У маёй кішэні ляжаў маленькі пэнал, поўны фатаздымкаў з маладачанскага архіву. На скрыжаваньні шумела будоўля станцыі мэтро „Кавальская Слабада“. У шэрых дамах запалілася сьвятло. Але звычайны, сумны бэтонны менскі краявід раптам страціў сваю банальнасьць. Дрэвы! Высокія старыя дрэвы. Яны былі пасаджаныя ў гэтым прадмесьці задоўга да пабудовы мікрараёну. Яны памятаюць іншыя кірункі вуліц, іншыя дамы, іншыя жыцьці і сьмерці. Менскія дрэвы памятаюць больш за менскія будынкі.

Вярнуўшыся дадому, я не адразу ўставіў флэшку ў кампутар. З салодкім задавальненьнем адцягваў момант сустрэчы з тым таямнічым, што атрымаў для працы. Запарваў моцную гарбату, глядзеў тэлевізар, дзе ішоў нейкі сумны хакей, курыў на бальконе. Крыху баючыся расчаравацца ў тым, што мяне мусіла зьдзівіць. Урэшце, калі ўсе сямейнікі паснулі і ў доме запанавала ціша, я падвёў курсор да кнопкі *open*. Каб прасядзець каля манітора да раніцы, нэрвова ўзіраючыся ў каляровыя

здымкі сініх, жоўтых, шэрых аркушаў з мутнымі літарамі друкарскіх машынак.

Адна тэчка была нашмат таўсьцейшая за іншыя — справа паўстаньня ў Крыжоўцы. Дзясяткі дакумэнтаў — рукапісных, друкаваных, з Расеі. І было мноства маленькіх тэчак зь іншымі сюжэтамі, ад самага канца вайны да хрушчоўскай адлігі. Усяго больш за сто судовых справаў. У асноўным — пра бандытызм і дапамогу бандытам.

У кожным раёне дзейнічала па некалькі ўзброеных атрадаў. Якіх кармілі, лячылі, якім давалі прытулак тысячы людзей. Выглядала, што адразу пасьля вайны на гэтай зямлі пачалася новая вайна, якую вялі войскі МГБ. Вялі бяз танкаў і „кацюш“, без гармат і самалётаў. Толькі аўтаматамі і кулямётамі. Але той вайной была ахопленая ўся заходняя частка Беларусі. Тайны і яўны фронт быў літаральна паўсюль…

Я заснуў пад раніцу ў смутнай горычы. Яшчэ з часоў „Верабейкі“ я зразумеў, што нічога ня ведаю пра „зямлю, дзе прыходзіцца жыць“. Маштаб антысавецкай партызанкі і геаграфія таго, што праз гады назавуць мірным супрацівам, адначасова ўражвалі і абезнадзейвалі. Няўжо ўсе гэтыя ахвяры, усе гэтыя гады лягераў, усе драмы — усё гэта было дарэмна? А імёны супраціву так і засталіся б нікому не вядомымі, не зьвярні Міхась Чарняўскі ўвагу на зашмальцаваныя архіўныя тэчкі?

На наступны дзень я ўзяў з паліцы „Атлас БССР“ 1959 году выданьня і ўважліва паглядзеў на сёмую вобласьць.

Маладачанская вобласьць была сфармаваная ў верасьні 1944 году. Па сутнасьці, гэта тая



самая Віленская вобласьць БССР, якая ў 1939-м стала рэальнасьцю толькі на месяц-паўтара.

Па вайне БССР падзялялася на 12 абласьцей. Зроблена гэта было на выпадак новай вайны. Лічылася, што ў мэтах абароны ў невялікай вобласьці лягчэй арганізаваць мабілізацыю. Пасьля сьмерці правадыра, у 1954 годзе, вобласьці сталі ўзбуйняць. Іх засталося сем. Да Маладачанскай адышлі часткі былых Полацкай і Баранавіцкай.

Сёмая вобласьць налічвала 850 тысяч чалавек, зь якіх 90 працэнтаў жылі ў вёсцы. Гэта была самая вясковая вобласьць краіны. Вядома, быў тут і свой абкам партыі, і свой аблзаг, і свая абласная газэта, якая спачатку называлася „Сялянская газета“, а з 1951-га — „Сталінскі шлях“. Былі і свае абласныя ўправы МУС і МГБ. Быў, вядома, і абласны суд, які выпісваў тэрміны па лініях абодвух ведамстваў.

Аднак празь некалькі гадоў Маладачанская вобласьць зьнікла. Чым яна не задаволіла маскоўскіх кіраўнікоў? Журналіст Валянцін Жданко, які вывучаў тэму, лічыць, што ўся справа ў дэмаграфіі. У параўнаньні з астатнімі абласьцямі БССР Маладачанская вылучалася ня толькі сваім аграрным характарам, але і малалюднасьцю. Менавіта таму ў студзені 1960-га яе зьліквідавалі. Разам з настаўніцкім інстытутам, „Сталінскім шляхам“ і судом. І вось тут пачынаецца наша гісторыя.

Архівы абласнога суду, як і архівы абласных МГБ і МУС, мусілі адправіцца на новыя адрасы. Штосьці ў Менск, штосьці ў Горадню, штосьці ў Віцебск. У тыя цэнтры абласьцей, паміж якімі і падзялілі колішнюю Віленшчыну. Але ці то ў мітусьні сьпешнага пераезду, ці то ад нядбайнасьці самых нізавых выканаўцаў некалькі тэчак нікуды не паехалі.

Я сабе ўявіў такую карціну. 1960 год. Ужо сем гадоў няма ў жывых Сталіна. Татальны страх нібыта прайшоў. Ужо ходзяць палітычныя анэкдоты пра кукурузу ды прыпеўкі пра Хрушчова. І вось нейкі недарэка-сяржанцік, грузячы сакрэтныя скрыні ў цяжкавік, перакуліў адну зь іх на зямлю. Каб не марнаваць часу, запхнуў хуценька ў машыну тое, што пасьпеў падабраць. Сказаў свае чароўныя словы „Ну и хер с ним“ і заскочыў у кабіну да кіроўцы. А нашыя тэчкі, выпадкова выкінутыя са скрыні, адправілася ў звычайны, несакрэтны, раённы архіў. Дзе праз некалькі гадоў іх выпадкова ўбачыў Чарняўскі.

З такім маім дапушчэньнем пагадзіўся гісторык і знаўца савецкіх архіваў Ігар Кузьняцоў. Тэчкі маглі проста „згубіцца“ ў адным з кабінэтаў на пачатковым этапе пераезду, а потым, калі асноўны архіў разьехаўся, на іх маглі махнуць рукой і накіраваць у звычайны архіў. Галоўнае ў такіх памылках — чалавечы фактар. І такая службовая нядбайнасьць — галоўная радасьць для любога дасьледчыка. А можа,

нехта са служывых пакінуў гэтыя тэчкі цалкам сьвядома? Пакінуў, рызыкуючы. У разьліку на будучага гісторыка. Пакінуў нават ня тэчкі, а тэчку. Адну толькі, важную для сябе, тэчку. Астатні стос пайшоў „для адводу вачэй“. Тады вынікае, што ў маіх руках апынулася бязмоўнае пасланьне... Мэта зразумелая — вярнуць добрае імя несправядліва асуджанага. Але каго? А можа, хацелі вярнуць памяць пра ўчынак, які можа цэламу народу зьмяніць уяўленьне пра самога сябе?

Мне ўспомнілася гісторыя антычнага злачынцы Герастрата, які спаліў храм Артэміды, каб ня быць забытым. Эфэскі абласны суд пастанавіў ніколі ня згадваць ягонага імя. І ўсё б атрымалася так, як задумаў элінскі судзьдзя, калі б не гісторык Фэапомп. Дзякуючы яму ўчынак і імя засталіся ў стагодзьдзях. І гэта справядліва. Бо ня кожны чалавек здольны на ўчынак. Але кожны ўчынакварты памяці. Пагатоў зьдзейсьнены як акт свабоды ў несвабодным часе. І платай за які стала само жыцьцё. Нават безыменны герой працягвае жыць, калі памятаецца ягоны чын. А тут, у гэтых тэчках, не абстрактныя герастраты, а зусім канкрэтныя людзі.

І я пачаў глядзець усё ад пачатку.

## „Што вы тут вычвараеце?“

Вось першая датай судовая справа. Артыкул — сабатаж. Гэта сорак чацьвёрты год. Яшчэ няма ніякіх бандытаў. Адна толькі радасьць вызваленьня. Селянін Уладзіслаў Янушэўскі з засьценку Падравішкі з-пад Відзаў мусіў здаць дзяржаве 6300 кг збожжа, 3000 кг бульбы, 482 кг сена і 150 кг мяса. А здаў толькі 1760 кг жыта і 150 кг бульбы. І ўсё. Прысуд — 10 гадоў лягераў і канфіскацыя маёмасьці.

Калі падсудныя прапісваюцца падрабязна, зь імёнамі па бацьку, дык судзьдзі фігуруюць толькі прозьвішчамі. А ў гэтай справе яшчэ і вялікімі літарамі. **„ПРЕДСЕДАТЕЛЬ МОЛОДЕЧЕНСКОГО ОБЛСУДА ГОРБ“**.

З усёй „бандыцка-тэрарыстычнай“ плыні вылучаецца справа 1949 году. Судзілі трох жыхароў розных вёсак Валожынскага раёну. А менавіта дваццацігадовага лесатэхніка Мікалая Баўтрука, ураджэнца Магілёва, беларуса, жыхара вёскі Зафінава. А таксама двух лесьнікоў-палякаў, 53-гадовага Язэпа Наркевіча,

жыхара вёскі Зацішша, і саракагадовага Язэпа Сабалеўскага зь вёскі Скадорвы. Усім тром далі надзвычай гуманны для таго часу тэрмін. Усяго адзін год пазбаўленьня волі. Але за што!

**„Балтрук Николай Александрович, Наркевич Иосиф Иванович и Соболевский Иосиф Васильевич, работая в Вишневском лесничестве Воложинского района, 3-го мая 1949 года, встретившись с бандитской группой, возглавляемой Ковалевским, действовавшей на территории Воложинского района, в день конституции бывшей буржуазной Польши, по приказанию бандитов Балтрук вывешивал в дер. Римовичи польско-националистический флаг и дал бандитам подписку собирать в их пользу сведения информационного характера, однако ни один подсудимый о встрече с бандитами и о их преступных действиях не сообщили органам советской власти“.***

Як цікава, амаль паэтычна савецкія сьледчыя назвалі бела-чырвоны сьцяг. „Польско-националистический“. І ці змаглі б яны патлумачыць, чым ён адрозьніваецца ад польска-камуністычнага. „Як жа вам, беларусам, пашанцавала! — казаў мне яшчэ ў 1996-м польскі сябра Павал Казанэцкі. — Вашы сымбалі так адрозьніваюцца ад іхных, бальшавіцкіх. У ПНР

* Тут і далей цытаты судовых справаў даюцца ў адпаведнасьці з арыгіналам.

крыху адрозьніваўся толькі герб. А сьцяг і ў іх (камуністаў), і ў нас быў адзін“.

Бадай, з усіх эпізодаў у атрыманым мною архіўным скарбе гэты адзіны меў настолькі дэманстратыўную польскую афарбоўку.

У 1948 годзе ў тым жа Валожынскім раёне быў створаны „Арлоўскі атрад“. Пра яго вядома з судовай справы, у якой праходзілі тры беларусы, адзін расеец і адзін паляк. Нават свая прысяга была ў таго атраду. Шкада, што тэксту не прывялі ў судовых дакумэнтах. Згодна суду, як у той песьні пра Мурку, „банда занималась тёмными делами“. Гэта значыць, рабаваньнем крамаў, падпалам і рабаваньнем савецкіх грамадзян, забойствамі, а таксама вырабам і распаўсюджваньнем антысавецкіх улётак. Усе ўдзельнікі „Арлоўскага атраду“ атрымалі па дваццаць пяць гадоў лягераў. На той час — найвышэйшую меру пакараньня.

Забягаючы наперад, скажу, што нават выйшаў на адну старую з тых мясьцінаў. Аднак дзеці яе не далі дазволу на размову. Я прадставіўся карэспандэнтам Свабоды, ніколі раней гэта не выклікала недаверу. Але цяпер на двары быў 2020 год…

Сялянам, якія ўзьнялі „польска-нацыяналістычны“ сьцяг, прысудзілі год няволі кожнаму. Байцам „Арлоўскага атраду“ — па дваццаць пяць. І такі самы тэрмін атрымаў Раман Мялейша, ураджэнец вёскі Міцюны на Астравеччыне.

Гэты дваццацігадовы дзяцюк, **„проживая в гор. Ленинграде и будучи враждебно настроенным по отношению к Советской власти, в 1948-49 г.г. вёл дневник, в котором излагал свои антисоветские взгляды и намерения вести борьбу против существующего в СССР Государственного и политического строя, возводил клевету на Советскую власть, извращая Советскую действительность, восхвалял бывшее буржуазное польское государство. Он же с 1939 года по 1951 год хранил у себя антисоветский польский националистический песенник“.**

Нікога не забіў, не абрабаваў, нічога не падпаліў. Дык за што дваццаць пяць? За польскі сьпеўнік? Ці за „извращение советской действительности“? І як гэта можна перакласьці на зразумелую мову? Скажэньне, вычварэньне рэчаіснасьці? „Што вы тут вычвараеце?“ — такі прыклад прыводзіць слоўнік.

Дзіўна, як часам падобныя крымінальныя справы супадаюць паводле месца і часу „злачынства“. За адзін 1951 год на Ашмяншчыне ажно трох антысавецкіх агітатараў выявілі. Насамрэч іх было, вядома, нашмат болей. Гэта толькі тыя, што фігуруюць у маім архіве. Так, 46-гадовы беларус Іван Лагуновіч зь вёскі Слабада **„восхвалял жизнь в капиталистических государствах и, в частности, в буржуазной Франции“**. А ягоны аднагодак зь вёскі Гароднікі, беларус Баляслаў Ждановіч, **„распростра-**

**нял слухи о скорой войне капиталистических стран против Советского Союза, о скором поражении Советского правительства**“. А 57-гадовы паляк Зігмунд Дубіцкі зь вёскі Аляны ўсяго толькі **„возводил клевету на руководителей партии и Советского правительства**“. У чым была тая „клевета“ і ці была, невядома. Усім траім далі па дзесяць гадоў.

Прадчуваньне вайны вісела ў паветры. І гэтая свая вайна пасьля вайны была нібы пачаткам, прэлюдыяй новай вайны, вялікай, якая мусіла нарэшце зьнішчыць прыгон, усталяваць справядлівасьць і назваць антысавецкіх злачынцаў героямі. І тэрміны па 10-25 гадоў, мабыць, успрымаліся больш як спроба застрашыць, бо хто ж будзе сядзець іх цалкам, калі вайна?

Справа двух валожынскіх падпольшчыкаў, Мікалая Шарэцкага і Фёдара Ўласіка. **„На протяжении 1948–1950 г.г. систематически один-три раза в неделю, в числе других граждан города Воложино в количестве от 5 до 10 человек, собирались на сборище в дом гражданина Янова И.А., проживающего на улице Новогрудской дом №145, проводили антисоветскую агитацию, искажали действительность колхозного строя. Одновременно распространяли слухи о неизбежности войны между СССР, Англии и Америки. Утверждали, что Советский Союз будет разбит и не будет колхозов“.**

Які стыль і якая абазнанасьць у мясцовых рэаліях! Чаго вартыя толькі „граждане города Воложино“! Між іншым, вуліца Наваградзкая цяпер носіць імя Леніна. Гэта бясконца доўгая, вузкая вуліца, што цягнецца ў вільготнай нізіне. Там да гэтае пары захаваліся старыя пачарнелыя драўляныя хаты з даваеннай эпохі. Лепшага антуражу для зборышчаў падпольшчыкаў і не прыдумаеш. Атрымалі чальцы валожынскага клюбу па 25 гадоў.

За тую самую антысавецкую агітацыю тыя самыя 25 прысудзілі валожынцу Мікалаю Пачыкоўскаму. Такі ж тэрмін далі жыхару Гервятаў беларусу Станіславу Хадыку. Не паглядзелі нават на паважны ўзрост — 58 гадоў.

Выглядае, што слова новыя ўлады баяліся больш за кулю. Толькі пачынаеш чытаць мутныя літары на сіняй паперы, і ўжо ведаеш, што ў канцы будзе „дваццаць пяць“. Як у справе жупранскага ксяндза Баляслава Гельмера. Ён **„с 1937 года хранил у себя контрреволюционную литературу до момента ареста. С 1946 года по 1951 год Гельмер устраивал сборище детей младшего школьного возраста и проводил с ними изучение религии“.** Гэта значыць, рабіў сваю звычайную ксяндзоўскую справу.

А сьвятар зь недалёкага Анжадава Касьпер Валадкевіч свой 25-гадовы тэрмін атрымаў ня толькі за агітацыю, але і за прагнозы. **„В своих проповедях в костёле предсказывал гибель Советской власти и восстановлении**

**буржуазных порядков в Белорусской ССР“.** Дастаткова было нават не называць гэтай улады, а сказаць: „Чакайце, зло ня вечнае, дабро пераможа!“ — і ўсе ўсё разумелі.

За захоўваньне контрарэвалюцыйнай літаратуры атрымаў 25 гадоў сьвятар з Кабыльніка Пётра Васюцёнак. Ягоная справа цікавая сьпісам літаратуры, якую ў яго забралі: Горкі, Астроўскі, Сэрвантэс, Шчадрын, Чэхаў, Пушкін, Гогаль, Лермантаў, Някрасаў, Талстой, Тургенеў... Нічога не разумею. Ага, вось яны! **„Религиозные книги на польском языке — 84 т.“**

Тым часам жыхар Мядзела Мечыслаў Варакса, акрамя запісак польска-нацыяналістычнага характару, **„без специального разрешения хранил в своем доме сильнодействующее ядовитое вещество «Стрихнин»“.**

Стрыхнін — гэта рэчыва, якое вылучаюць з ванітных арэшкаў, насеньня чылібухі (наскрозь атрутнага трапічнага дрэва). У мінулым яго дзе толькі ні выкарыстоўвалі: і непасрэдна як атруту, і як энэргетык-допінг у спорце, і як афрадызіяк (казалі, што „стрыхнін падыме што заўгодна“), і нават дадавалі ў піва (у славуты гатунак ІРА, для гаркаты). Ну а беларускія сяляне труцілі ім мышэй і пацукоў. Сёньня стрыхнін афіцыйна ўжываюць хіба ў мэдыцыне. Але тагачасныя пракуроры, відаць, асацыявалі яго толькі са зброяй.

Гальшанскі францішканскі касьцёл вядомы сваім прывідам Белай Панны — змрочнай

легендай пра ўмураваную жыўцом маладую жонку аднаго з будаўнікоў (каб сьцены мацнейшымі былі). Таксама тут апавядаюць пра здань Чорнага Манаха — ахвяру злоснага магната, бацькі ягонай каханай. Такую гісторыю, часта замест рэальнай, расказваюць турыстам. Але была ў гэтага касьцёла і найноўшая, немістычная гісторыя. Не для турыстаў.

У 1951 годзе тут служыў арганістам дваццацігадовы Вітольд Барыла. Ён захоўваў антысавецкую літаратуру, „**в которой возводил клевету на колхозный строй, коммунистическую партию /Большевиков/ и Советское правительство**“. Маладому арганісту далі дзесяць гадоў.

Пра Барылу піша ў сваёй кнізе пра рэпрэсаваных каталіцкіх асобаў Леанід Маракоў: „БАРЫЛА Вітольд Пятровіч [1931, в. Дзеркаўшчына Дзісенскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — ?], арганіст. З польскай сялянскай сям’і. Атрымаў сярэднюю спэцыяльную адукацыю. Да арышту служыў у касьцёле сьв. Яна Хрысціцеля ў в. Гальшаны Ашмянскага р-ну Гарадзенскай вобл. Быў жанаты, гадаваў дзіця. Арыштаваны 9.8.1951. Асуджаны 14.9.1951 за «антысавецкую агітацыю» на 10 гадоў ППЛ. Далейшы лёс невядомы“.

Далейшы лёс невядомы… Але ж месца ягонага нараджэньня добра мне вядомае. Дзеркаўшчына. Нягледзячы на позьні час, я затэлефанаваў свайму дзеркаўскаму прыяцелю.

Высьветлілася, што далейшы лёс арганіста вельмі нават вядомы!

Антысавецкай літаратурай былі ноты. Ноты незвычайныя. Ноты Паўла Карузы, фальклярыста і кампазытара, выпускніка Віленскай кансэрваторыі, зьбіральніка беларускіх народных песень, рэдактара газэты „Крыніца“, дэпутата разагнанага перад санацыяй польскага Сэйму, перабежчыка ў БССР, вязьня Салавецкага лягеру. Пасьля лягеру беларускі італьянец працаваў дырыгентам Маладачанскага абласнога ансамбля песьні і танца. Да 1947 году, калі яго саслалі ў Нарыльск. Пасьля сьмерці Сталіна Каруза жыў у Вільні, дзе працаваў дырыгентам у Дзяржаўным ансамблі польскай песьні і танца Літоўскай ССР. Памёр у Вільні ў 1988-м, на 82-м годзе жыцьця.

А Вітольд Барыла выйшаў зь лягеру ў 1956-м. Вярнуўся на радзіму, дзе быў звычайным калгасьнікам. Ад адраджэньня касьцёла ў роднай Дзеркаўшчыне ў 1990-м да самай сьмерці ў канцы нулявых гадоў працаваў арганістам.

А вось „опять двадцать пять“. На гэты раз прысуд 19-гадоваму Івану Бабнісу зь вёскі Махалы Іўеўскага раёну. За “антисоветскую агитацию в письменной форме”. Іван „**в феврале 1949 года написал своему дяде Ясюкевич, проживающему в Аргентине, в котором возводил клевету на Советскую действительность. Содержание письма клеветнического характера было написано молоком. На протяжении**

**временной оккупации немцами территории БССР и Ивьевского района хранил у себя на квартире антисоветскую литературу — журнал «Катынь», который при обыске был изъят и приобщен к делу. Кроме того, Бабнис И. И. в первых числах мая 1950 года написал и распространил две антисоветские листовки в адрес Советских активистов — Левицкого А. К. — агента райуполминзага по Слесарскому сельсовету и учительницы — Валюшкиной Е. С. с угрозами убийства, имеющими целью заставить их отказаться от активной государственной и общественной деятельности. В результате чего Валюшкина Е. С. вынуждена была переехать в Липнишский сельсовет, а Левицкий в Субботницкий сельсовет“.**

Якая ж тут агітацыя? Тут і тайнапіс малаком, і пагрозы забойствам, і — самае галоўнае — удалы вынік „тэрарыстычнай дзейнасьці“.

Пра „нябачныя лісты“ мы даведаліся ў 1970-я — з апавяданьняў пра „дзядулю Леніна“, які гэткім няхітрым спосабам падманваў царскую паліцыю. Напісаў паміж звычайных чарнільных радкоў малаком, пасьля прайшоўся па аркушы прасам — і ўсё тайнае рабілася яўным. Але чаму „царскія сатрапы“ былі такія дурныя? І чаму сталінскія цэнзары такія разумныя? Яны што, кожны ліст за мяжу прасавалі? Выглядае, што так. Аднак Іван Буб-

ніс такі вызваліў родную мясцовасьць і ад апантанай настаўніцы, і ад райупалмінзага.

Якое, дарэчы, страшнае слова! Гэта табе не камсорг з зампалітам. Гучыць, як імя пэрсанажа з сэрыі раманаў пра Гары Потэра. Упалмінзаг — Лорд Вальдэморт! Толькі постаць зусім не фантазійная, а цалкам змрочная ў тутэйшай паваеннай рэальнасьці. Гэтак называўся ўпаўнаважаны Міністэрства нарыхтовак. Той, хто, па сутнасьці, рабаваў сялянскія сем'і ў самыя галодныя часы.

Стварылі міністэрства ў сакавіку 1946-га. Дакладней, перайменавалі. Тады ўсе народныя камісарыяты станавіліся міністэрствамі. Але 15 сакавіка 1953-га, не пасьпелі ўсенародныя сьлёзы прасохнуць, міністэрства зьліквідавалі, яно стала адным з аддзелаў Міністэрства сельскай гаспадаркі. Але… Ужо ў лістападзе таго ж 1953-га яго вярнулі. Напэўна, без жывога правадыра народ „расслабіўся“, таму на сцэну вярнулі ўпалмінзага. Безь яго аброк зьбіраўся ня так плённа. Трэба сказаць, што пасада была надта рызыкоўная, пра што ёсьць шмат сьведчаньняў у сеціве. Вось толькі самыя першыя:

**„На протяжении 1947–1949 годов Романчук и участники его бандгруппы совершили ряд террористических актов. Так, в июне 1947 года Романчук и Демух убили председателя Квачевского сельсовета и помощника уполномоченного Министерства заготовок СССР по Несвижскому району“.** Раманчук

і Дэмух, між іншым, героі майго „Верабейкі“. Ці вось пра Яўгена Жыхара, чыё імя да гэтае пары памятаюць жыхары Глыбоччыны: **„В июле 1947 года Жихарь принимал участие в совершении теракта в деревне Глинщина Дуниловичского района над сотрудником Глубокского РО МВД. Летом 1948 года банда Жихаря в деревне Рудевичи Поставского района убила агента Уполминзага и двух работников лесничества“.**

І, вядома, дзякуй абласному суду за вестку пра „Катынь“. Ці гэта быў менавіта часопіс, невядома. Затое зразумела, што ў Беларусі пра расстрэл бальшавікамі 11 тысяч польскіх афіцэраў, у тым ліку беларусаў, ведалі адразу — і ведалі праўду, якую ўлады СССР прызнаюць толькі перад самым развалам гэтай краіны, у 1990-м.

Чытаю пра знаёмыя мясьціны. Сосенка, вёска на беразе Вялейскага вадасховішча. Адзін з найлепшых пляжаў і кавярня з гатэлем „Украінскі дворык“ з жоўта-блакітнымі літарамі ў аздабленьні. За Сосенкай ляжыць вёска Касута, радзіма Піліпа Орліка, аўтара „Пактаў і Канстытуцыі правоў і вольнасьцяў Войска Запароскага“. Няйначай, заезны ўкраінскі двор быў пабудаваны ў разьліку на гасьцей з поўдня. Ня ведаю, наколькі часта яны наведваліся на радзіму Орліка, але кухня там заўжды была добрая. А жоўта-блакітнае аздабленьне не магло не выклікаць моцных эмоцыяў. У каго наплыву сьветлых надзей, а ў каго прыступаў шаленства.

Сосенка — радзіма Бранiслава Андрыеўскага. Якому далі пяць гадоў за тое, што ён **„13-го марта 1951 года в присутствии ряда рабочих лесозаготовок, будучи в нетрезвом состоянии, высказывал антисоветские настроения, высказывал пошлую нецензурную брань по адресу Сталинской конституции, Советской власти и руководителей Советского правительства“.** Герою з Сосенкі 26 гадоў усяго. Напэўна, высокі суд улічыў нецьвярозы стан маладога чалавека як прыкмету сацыяльна блізкага. Значыць, п’янства магло або зьмяншаць антысавецкую віну, або ўзмацняць яе, у залежнасьці ад… Чаго?

Справа ад 8 жніўня 1953 году. Ужо пасьля сьмерці Сталіна, але яшчэ да хрушчоўскай адлігі. Судзілі 27-гадовага Гаўрыіла Сварубовіча зь вёскі Міцкавічы сёньняшняга Смаргонскага раёну. **„Подсудимый Сворубович 24-го июня 1953 года, будучи в опьянённом состоянии, совершил хулиганские действия, выразившиеся в том, что он колом от забора разбил три окна в магазине Жодишского сельпо, два окна в доме сторожа этого магазина Мусской Надежды Яковлевны, после чего набросился в проходившую в это время мимо него гражданку Духович А.М. и стал избивать её колом, причинив последней при этом телесные повреждения в области головы, левого плеча и предплечья правой лопатки, бедра и левой половины живота, относящихся к разряду**

**менее тяжких, вызвавших у Духович длительное расстройство здоровья. После содеянного Сворубович, зайдя в здание Мицковского сельсовета, колом разбил портрет одного из руководителей Коммунистической партии и Советского правительства, затем разбил в здании сельсовета окно и в присутствии Дремлюк Татьяны, Мусского Генадия и Дремлюк Степана произносил клеветнические высказывания в адрес Советской власти, Коммунистической партии и Конституции СССР, дискредитируя Советскую действительность“**. Во як разышоўся Гаўрыла без правадыра! Згодна з тэкстам пратакола.

Але адна справа — выказаць усё, што думаеш, у адрас партыі і савецкага кіраўніцтва нападпітку, у коле калег і таварышаў. І зусім іншая — на працягу доўгіх гадоў, ад 1936-га па 1954-ы, весьці дзёньнікі. Як гэта рабіў Язэп Бублевіч, жыхар вёскі Вашкуны, што каля Варнянаў. Дзёньнікі, вядома, канфіскавалі ў дзень арышту. А якая цікавая, улічваючы пэрыяд запісаў, там мусіла быць хроніка! Да таго ж выключна дзёньнікамі вашкунскі летапісец не абмяжоўваўся. Спрабаваў па меры сваіх сіл уплываць на жыцьцё. **„Свои антисоветские взгляды и враждебное отношение к Советской власти Бублевич излагал и в изготовляемых им анонимных документах, которые направлял в советско-партийные организации и требовал распространять антисовет-**

**ское содержание этих документов через радио и печать. Наряду с этим Бублевич вместе с дневниками в своей квартире до дня ареста хранил изданные за границей антисоветские листовки с карикатурами на руководителей партии и Советского государства“**. У 1954 годзе, калі яго арыштавалі, Язэпу было 64. Далі яму 8 гадоў.

Цікавая дэталь, якую мы яшчэ сустрэнем у гэтых справах, калі судзілі людзей за іх антысавецкія допісы ў газэты, а асабліва на радыё. Ці сапраўды аўтары верылі, што іхныя лісты прачытаюць у эфіры? Ці яны спадзяваліся самім радыйнікам раскрыць вочы на тое, што адбываецца? Маўляў, вось вы ўсё гэтае бясчынства хваліце, але ж яно бясчынства і ёсьць. Ці дапускалі, што і там усё бачаць і думаюць так, як яны, і аднойчы нехта набярэцца сьмеласьці і… грымне, як мусіла грымнуць новая вялікая вайна?

Дакумэнты ажно з двух пасяджэньняў у справе аднаго падсуднага. Судзяць немаладога селяніна Мікалая Кур'яновіча, 1903 году нараджэньня. Адно пасяджэньне адбылося ў 1957 годзе, другое ў 1958-м. Вось што фігуравала ў першым.

**„Курьянович систематически захватывал колхозные сенокосы, запахивал колхозную землю, жал колхозные посевы, а когда это самоуправство пресекалось председателем колхоза Киселевым или кем-либо другим, что**

**Курьянович набросился на людей с вилами, косой или ещё с чем-нибудь другим. Кроме того Курьянович написал в 1955-1956 годах большое количество писем контрреволюционного содержания, которые адресовал в редакцию «Правды» и другие советские и партийные органы**“. А вось і вырак: **„Направить в специальную психиатрическую больницу для принудительного лечения, связанного с изоляцией“.**

І раптам справа скончылася ў 1958-м. **„Прекратить, в связи с выздоровлением, принудительное лечение Курьяновича Николая Федоровича, 1903 года рождения, выписав его из Ленинградской тюремной психиатрической больницы МВД СССР на попечение его жены — Курьянович Ольги Ивановны, проживающей в дер. Ручьи, Мильчанского сельсовета, Кривичского района, Молодечненской области**“.

Пасьля выракаў зь вялікімі тэрмінамі лягераў чытаеш такі прысуд з палёгкай. Быццам хэпі-энду дачакаўся. Адчуваньне такое, што гэты праўдалюб да гэтае пары жыве ў тых Ручаях, дагледжаны сваёй жонкай. Стоп. У якіх „Ручьях“? „Под Воложино“? Вёска Руччо была і ёсьць — тады ў Крывіцкім, цяпер у Вялейскім раёне. Для сьледчага МГБ назва аказалася невымаўляльнай і невыпісальнай. І ён зь лёгкасьцю мяняе назву беларускага паселішча так, каб было зразумела і камфортна менавіта яму.

Ізноў знаёмыя мясьціны! Іказьнь, пра якую я пісаў у „Верабейку“. Мястэчка, вядомае сваім нэагатычным касьцёлам, а таксама антыбальшавіцкім паўстаньнем 1919 году, якое падняў ксёндз-беларус Міхал Буклярэвіч. Гэтым разам на пажаўцелых аркушах стаіць 1956 год. Сталін ужо тры гады ляжыць у маўзалеі. У Маскве адбыўся XX зьезд КПСС, на якім разьвянчалі культ асобы. МГБ перайменавалі ў КГБ. Але маладачанскі суд працягвае выдаваць 10-гадовыя тэрміны. У сьнежні 1956-га менавіта такі тэрмін выпісалі іказьненскаму блогеру.

Зрэшты, Уладзімер Шваб, які толькі адзначыў сваё паўналецьце, наўрад ці здагадваўся, што ён блогер. Але тое, што ён рабіў, — гэта ўжо сапраўдная барацьба. Сьвядомая акцыя чалавека, які хоча данесьці сваю праўду. Хай у якасьці пляцоўкі для мэсыджу будзе ўсяго толькі мост цераз рэчку. А сярод чытачоў знойдуцца і стукачы.

**„Шваб Владимир Аркадьевич, будучи враждебно настроенным по отношению к коммунистической партии, Советской власти и колхозному строю, с января месяца 1956 года систематически занимался изготовлением и распространением листовок антисоветского содержания, а именно:**

**а/. Так, в январе месяце 1956 года Шваб В.А. в своём дому изготовил листовку, в которой призывал народ к борьбе против Советской власти, к срыву проводимых мероприятий**

**в деревне, к истреблению колхозного имущества. Указанную листовку Шваб В.А. наклеил на мосту за дер. Иказнь, где её впоследствии читали гр.гр. Неведомская Н.М., Яроцкий А.А., Денисова А.К. и другие. (…)**

**б/. Не прекращая свою преступную деятельность, Шваб Владимир Аркадьевич в мае месяце 1956 года снова изготовил 9 антисоветских листовок, их которых 7 экземпляров распространил в разных местах на территории колхоза им. Черняховского, а 2 экземпляра уничтожил.**

**По своему содержанию листовки содержат пропаганду о скорой войне против Советского Союза, а также призывы к борьбе против коммунистов.**

**Распространенные Швабом В.А. семь листовок были обнаружены гр. Хадарёнок, которые и поступили в органы КГБ“.**

Блогер ня блогер, але ў якасьці інтэрнэту выкарыстаў тое, чым ён у мэтафарычным сэнсе і зьяўляецца, — мост, дзе праходзяць усе людзі, дзе яны крыху мабілізуюць увагу, дзе сустракаюцца ўрэшце.

А вось судзяць яшчэ аднаго блогера, але ўжо зусім не інтэрнэтнага. Непаўналетняга Генрыха Пялінка. Тэрмін — два гады. За што? **„Во второй половине ноября месяца 1956 года, возвращаясь с работы из Плисской МТС домой, в дер. Горовые и имея при себе топор, Пялинок обтесал ствол ели около дороги, ведущей**

**из МТС в дер. Черенки, и на обтёсанном месте синим копировальным карандашом учинил антисоветскую надпись, призывающую к физическому уничтожению коммунистов. Эта надпись была обнаружена 21 ноября 1956 года учениками Прошковской неполной средней школы Драмочёнок и Бульгой, которые поставили в известность об этом директора школы Милешко, а последний сообщил в органы УК ГБ. Наряду с этим Пялинок незаконно хранил холодное оружие — винтовочный штык, который 29 января 1957 года во время обыска в квартире Пялинок был обнаружен в соломе его кровати“.**

У тым самым Пліскім раёне судзілі 55-гадовую жанчыну зь вёскі Каралёва, ураджэнку Пскова з шыкоўным прозьвішчам — Марыю Іванаўну Мэрло. Дык што ж такога нарабіла пані Мэрло, што атрымала сем гадоў? **„В феврале и марте месяцах 1957 года Мэрло М.И. написала два анонимных письма антисоветского, контрреволюционного содержания, в которых клеветала на советскую действительность, высказывала угрозы и месть в адрес коммунистической партии и Советского правительства, восхваляла капиталистический строй. Изготовленные письма подсудимая Мэрло М.И. направила в Главные управления радиоинформации Министерств культуры СССР и БССР“.**

Што за такую страшную помсту выказвала ў сваіх лістах загадкавая пані Мэрло, мы ўжо не даведаемся. Як і ў выпадку з блогерамі, напэўна, гэта быў стандартны набор народнага гневу, які адчувалі ўсе, але вымавіць ці напісаць адважваліся толькі самыя сьмелыя. Часам наіўна верачы, што іхныя лісты прачытаюць і ацэняць на радыё. Бо праўда ж. Хутчэй за ўсё, Марыя Мэрло стала ахвярай сваёй наіўнасьці. Паверыла ў XX зьезд КПСС, у даклад Хрушчова і адлігу. Але адліга была ў Маскве. А ў Маладачанскім абласным судзе сядзеў усё той жа безыменны сталінскі судзьдзя таварыш Горб. Які не заўважыў аніякай адлігі.

## „Не хацелі ўступаць у гасудараства гэта“

*Крыжоўка, Астравецкі раён*

Словы Міхася Чарняўскага пра бомбу, якую ён не пасьпеў ірвануць, гучалі ў маёй галаве, калі я праглядаў самую „тоўстую“ справу — пра паўстаньне ў Крыжоўцы. Ключавое слова тут — „паўстаньне“. Уся гісторыя Беларусі пад расейскай акупацыяй — чарада паўстаньняў супраць гэтай акупацыі. Але як Чарняўскі зьбіраўся сваю бомбу рвануць? Выдаць яшчэ адну брашуру? Яўна тут мелася на ўвазе штосьці іншае.

Я паспрабаваў зірнуць на рэчы вачыма свайго героя і раптам адчуў сябе наведнікам начнога музэя. Карціны і вобразы, якія паўстаюць з крамзоляў сьледчых і няроўных літараў друкарскіх машынак, сплятаюцца ў адзін драматычны сюжэт — батальнае палатно. Але ў маіх руках толькі ліхтарык, промнем якога я магу выхапіць адно кавалак карціны. Каб убачыць увесь сюжэт і маштаб палатна, майго ліхтарыка замала.

Вось на полі пара коней: цягнуць за сабой жняярку, гэткі падобны да самалёта-этажэркі камбайн. Адзін конь уздыблены. У ягоную збрую ўчапілася маладая жанчына. Другі конь ірвецца ўбок. Ягоны хвост гарыць! „Этажэрку“ асядлаў мужчына, апрануты ў пінжак, галіфэ і ялавыя боты. Адной рукой ён ухапіўся за

дзяржальна жняяркі, другой размахвае ў бок кабеты. Твар ягоны скрыўлены злоснай грымасай. Калі перавесьці ліхтарык убок, становяцца зразумелымі паводзіны коней. Там група дзяцей і падлеткаў кідае ў іх камяні і запаленыя палкі. Твары ўзбуджаныя, вочы гараць агністым бляскам. Гэта цэнтар палатна. Крыху вышэй, на ўскрайку поля, відаць гурт людзей, дзясяткі асобаў. Над натоўпам гараць паходні. Узначальвае шэсьце паважная сівая кабета. У руках у яе драўлянае расьпяцьце.

**„В Прокуратуру Островецкого района поступили материалы о произошедших массовых безпорядках в колхозе «Заветы Ильича», Воронского сельсовета Островецкого района.**

**Произведенным предварительным расследованием этого дела установлено следующее:**

**В нарушение постановления общего собрания колхозников колхоза «Заветы Ильича» об уборке озимых посевов коллективно /л.д. 32/, 22 июля 1950 года собрались колхозницы на поле возле дома Рынкевич Аполонии, где договорились не допускать к работе по уборке урожая ржи жнеяркой. В 12 часов дня при появлении жнеярки с уполномоченным райисполкома Бобрик, секретарем сельсовета Сидоренко и председателем колхоза Дакутовичем их встретила толпа колхозниц, возглавляемая Рынкевич Апполонией, Рынкевич Еленой и Змитрович Саломеей и вооружённых палками, камнями. Указанные женщины начали**

**избивать лошадей палками, камнями и глыбами земли, бросая всё на жнеярку и увлекая за собой остальных колхозниц и подростков. Лошади, испугавшись, бросились на кусты, что могло вызвать поломку машины-жнеярки. При новой попытке начать работу они были также встречены этой толпой. Таким образом в этот день была оборвана работа по уборке урожая ржи колхоза «Заветы Ильича» жнеяркой“.**

Што можна зразумець з гэтага дакумэнта? Што сялянкі сабраліся на полі з адной мэтай — каб не дазволіць сабраць ураджай. Перашкодзіць працы жняяркі любымі сродкамі. Прычым прысутнасьць раённага начальства зусім не астудзіла рашучасьці жанчын, наадварот, толькі справакавала іх на больш рашучыя „масавыя беспарадкі“. Але што ж такое здарылася з калгасьніцамі „Запаветаў Ільіча“? У той час, як усе савецкія людзі… Каб адчуць кантэкст падзеі, разгорнем абласную „Сялянскую газету“ за ліпень 1950 году.

**„Члены сельскагаспадарчых арцелей «Сталінскі шлях» і імя Варашылава Мядзельскага раёна прагледзелі нядаўна першую серыю кінафільма «Сталінградская бітва». Карціна выклікала ўсхваляваныя водгукі аб гераізме совецкіх воінаў, якія мужна абаранялі горад Сталінград“.**

**„Новая школа будуецца ў калгасе імя Сталіна Мядзельскага раёна. Будаўніцтва**


Прокуратура Островецкого р-на
№ 2-3 – 1953 года
МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ БССР
Островецкий районный отдел
Молодечненской обл. БССР
№ 2-54 – 1952 года
ДЕЛО № 3231
По обвинению
№ 2-138 – 1950 года
Начато
Окончено 15 августа 1953
Арх. №
Фонд № 1-185
Опись № 8
Дело № 336

ў поўным разгары. Будаўнікі Шаранговіч, Навіцкі і другія, якія імкнуцца да тэрміну здаць памяшканне ў эксплуатацыю, працуюць па-стаханаўску“.

„У калгасе імя Сталіна Астравецкага раёна адбылася чытацельская канферэнцыя па раману С.Бабаеўскага «Кавалер залатой звязды». На канферэнцыі прысутнічала

**звыш 20 калгаснікаў. Выступаючыя высока ацанілі гэты твор, які вучыць любіць наша калгаснае жыццё“.**

Пакуль шчасьлівыя калгасьнікі захоплена абмяркоўваюць навінкі савецкага кіно і дыскутуюць на літаратурных канфэрэнцыях, у вёсцы Крыжоўцы ўжо трэці дзень адбываюцца „масавыя беспарадкі“.

**„25 июля сего года группа колхозниц и подростков с целью воспрепятствования коллективной уборке озимых посевов жнеяркой на полях колхоза «Заветы Ильича» напали на жнеярку, избивали лошадей и гр. гр. Чернецова и Сидоренко, которые управляли машиной, а колхозницы Рынкевич Апполония, Рынкевич Елена, Змитрович Саломея бросали зажжённые факела из колосьев ржи и соломы на жнеярку и машину, от чего могло сгореть колхозное добро — рожь. Помимо этого они совместно с колхозниками Рынкевич Владиславом и Змитрович Иваном нанесли побои камнями и палками Чернецову и Сидоренко, предварительно засыпав глаза песком последним. Не взирая на присутствие представителя власти, депутата Верховного Совета БССР, тов. Подалиса, который призвал их к порядку, они продолжали свое, чем была вторично сорвана работа жнеярки по уборке колхозной ржи. Таким образом вышеуказанные лица являлись инициаторами и активными участниками произошедших**

**массовых беспорядков в колхозе «Заветы Ильича» 22-25 июля 1950 года“.**

Што насамрэч адбылося ў Крыжоўцы ў тыя ліпеньскія дні 1950-га? Што стала з гэтымі людзьмі? Ці засталіся ў Крыжоўцы тыя, хто памятае тое паўстаньне? І ці існуе яшчэ сама Крыжоўка? З гэтымі думкамі я ехаў у той край без асаблівай надзеі каго ці што-небудзь знайсьці.

За шыльдаю з надпісам „Крыжоўка“ няма аніякай вёскі. Былая вясковая вуліца ператварылася ў зарослую дарогу, каля якой туліцца ўсяго пара хатаў. У адной зь іх я разгаварыўся са старажылкай Крыжоўкі Ганнай, народжанай у 1941 годзе. Гэта значыць, у 1950-м ёй было 9 гадоў. Але сьмяшлівая старая зусім ня памятае ні таго паўстаньня, ні чутак пра яго. Ці па-майстэрску робіць выгляд, што ня памятае. Я зачытваў ёй матэрыялы справы, называў імёны фігурантаў. Некаторых яна ўзгадвала. Таго ж „прадсядацеля Сідарэнку“. Зь яе слоў вынікала, што радня Рынкевічаў, як толькі пачалася калектывізацыя, зьехала ў Літву. А тыя, што засталіся тут, як Уладзіслаў Рынкевіч, памерлі.

— Помню матку Ўладзіслава Рынкевіча. Помню сястру. Валодзька. Той, што ў магазыне рабіў. Жулік такі, каб вы зналі. Як ён выкручваўся... Ужо няма ў жывых ні яго, ні сёстраў. Помню, калі калхозы рабілі, як мой бацька ўцякаў, як па кустох хаваўся. Прыходзілі толькі паесьці і зноў праталіся. Але нічога не памагло.

Потым паздавалі коней і пайшлі ўсе ў калхоз. Помню, як праталіся па лесе. Дуракі былі...

Вам гэта нічога не нагадвае? Хаваньне ў лесе. Вяртаньне ў сваю хату толькі па начах, каб сабраць які харч. Так паводзяць сябе пад акупацыяй.

Крыху расчараваны, я паехаў у недалёкую вёску Слабодку да памятнага крыжа, пастаўленага ў гонар інсургентаў Кастуся Каліноўскага на 150-я ўгодкі ягонага паўстаньня. Паблукаўшы каля помніка, заўважыў на суседнім гародзе старую кабету. Ядвізе 90 гадоў. І тыя падзеі яна памятае.

— Не хацелі ўступаць у гасударства гэта.

Дакладней, бадай, і ня скажаш.

— Землі забралі, коні забралі, усё забралі. Мы не паддаваліся, як маглі. Даўней — о! Як курсавалі! Зямля — гэта ж зямля! Мой бацька меў валоку зямлі. Багатыр які быў! Зямля... Таму і не паддаваліся.

Адна дэталь у яе ўспамінах не супадала. Пра Ўладзімера Сідарэнку. Начальніка, які кіраваў той жняяркай, што хацелі пашкодзіць бунтаўнікі.

— Сідарэнка быў прадсядацель калхоза. Над намі быў старшы. Рукавадзіцель!

Ядзьвіга назвала яго старшынём калгасу. Але ў справе ён фігуруе як сакратар сельсавету. Можа, старшынём ён стаў пасьля?

Старая падказала мне, дзе жыве Збыслаў, унук былога старшыні таго, што быў перад Сідарэнкам.

Збыслаў аказаўся чалавекам разумным, начытаным, з выдатнай пісьменнай мовай. Я даўно заўважыў, чым больш пісьменная і багатая ў беларускага чалавека беларуская мова, тым меней у ім савецкай насьцярожанасьці. Збыслаў, народжаны пасьля 1950 году, пра крыжоўскую справу ня чуў. Але ад дзеда ведае, што канфлікты былі ледзь ня ў кожнай вёсцы.

— Людзі ж стараліся. Апошнія грошы ўкладалі ў зямлю, у кароў. Таму і канфлікты здараліся. Мой дзед ня быў камуністам. Ён быў з народам. Хацеў людзям за тое, што яны зарабілі, тыя працадні, раздаць зернем. Тады ж грошы не плацілі за працадні. А ўраджай быў добры. Дык ён хацеў заплаціць людзям збожжам. Але паставілі новага прадсядацеля. І ўсё аднялі, што дзед намеціўшы быў. І пасьля гэтага ён захварэў на галаву. Ляжаў у хаце, ні з кім не гаварыў. Усё разумеў, але ніякага ўдзелу ў жыцьці не прымаў. Замкнуўся.

Збыслаў прынёс пасьведчаньне аб дзедавай сьмерці. У дакумэнце, запоўненым непісьменна па-расейску, паведамлялася, што „Вашкевич Егорь Викентович“ памёр 24 „сеньтября“. Прычына сьмерці „от невроза“. Гэта быў ня той чалавек, які сеў кіраваць жняяркай. Сідарэнка стаў старшынём пасьля таго, як Вашкевіча зьнялі з пасады. Але я зусім не пашкадаваў,


Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка
Белорусская Советская Социалистическая Республика

ПАСВЕДЧАННЕ АБ СМЕРЦІ
СВИДЕТЕЛЬСТВО О СМЕРТИ

ПЯ № 121238

Гр. Вашкевиг
(прозвішча—фамилия)
Егорь Викентовиг
(імя і імя па бацьку—имя и отчество)
памёр(ла) умер(ла) 21.IX.1952 г. (двадцать первого
(прописсю і цифрамі год, месяц і число—
сентября тысяча девятьсот пятьдесят второго
прописью и цифрами год, месяц и число)
прычына смерці причина смерти невроз
аб чым у кнізе запісаў актаў грамадзянскага стану аб смерці
о чем в книге записей актов гражданского состояния о смерти
1952 года года сентября месяца месяца 24 чысла числа
утворан адпаведны запіс за
произведена соответствующая запись за № 8
Месца смерці: горад, сяло Слабода раён
Место смерти: город, село район Островецкий
вобласць, рэспубліка
область, республика Молодечненская обл. БССР
Месца рэгістрацыі
Место регистрации Волейкишский с/совет
(назва і месцазнаходжанне бюро ЗАГС—
Островецкого бюро ЗАГС
наименование и местонахождение бюро ЗАГС)
Дата выдачи 24 сентября 1952 г.

М. П.

*Загадчык бюро запісаў актаў грамадзянскага стану*
*Заведующий бюро записей актов гражданского состояния*

Белорусский Гознак. 1947.

што завітаў у гэты дом. Ежы Вашкевіч, якога новыя ўлады назвалі „Егорем“, хацеў застацца прыстойным чалавекам — на пасадзе, якая не прадугледжвала прыстойнасьці. Заплаціць ня палачкамі працадзён, а жытам. І, ня здолеўшы гэтага зрабіць, звар’яцеў.



Ежы Вашкевіч (у першым шэрагу справа)

У тагачаснай раёнцы „Сталінская праўда“ ёсьць вясёлая карцінка пра тыя працадні. Грузчыкі зацягваюць у хату піяніна. Побач стаіць задаволеная гаспадыня. Пад малюнкам подпіс: „Ох, і цяжкія твае працадні, гаспадыня!“

Цікава, зь якім пачуцьцём гэта чыталася? Тымі, хто хаваўся ад калгасаў па лясах.

Калі ў 1940-я абласная „Сялянская газета“, як магла, усхваляла новы сталінскі парадак, што абрынуўся на Заходнюю Беларусь, дык улетку 1950-га ў кожным нумары ішла прапаганда калектывізацыі. Газэта арганізавала тое, што праз гады назавуць „прэс-турамі“. Шчасьлівым калгасным раем прадставілі Случчыну, якую акалхозілі яшчэ ў 1930-я. А ролю агітатараў выконвалі жыхары заходнебеларускіх вёсак, якім дазволілі зірнуць на той калгасны рай і якія дзяліліся на старонках газэты сваімі ўражаньнямі.

**„Вярнуўшыся дамоў, я раскажу сваім калгасьнікам тое, што бачыў і прыкладу ўсё сваё старанне, каб мы маглі хутчэй пабудаваць такое забяспечанае жыццё. У тым, што мы хутка будзем жыць так, як жывуць калгаснікі „Чырвонага маяка“, я ніколькі не сумняваюся. Зараз мы ўсю сваю ўвагу ўдзелім далейшаму арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгаса“. А.Мелях, брыгадзір паляводчай брыгады №1 калгаса імя Сталіна Іўеўскага раёна.**

**„Калі я збіралася ў дарогу паглядзець, як жывуць калгаснікі на Случчыне, да мяне прыйшлі аднавяскоўцы і сказалі: «Паязджай, Еўдакія. І добра паглядзі жыццё слуцкіх калгаснікаў. А калі вернешся, падрабязна раскажаш, што бачыла». Дамоў я ўжо вярнулася. І,**

**вядома, ёсць, што расказаць. Я бачыла многа добрага і павучальнага. Калгаснікі жывуць у многа разоў лепш нас, аднаасобнікаў“. Е.Рынкевіч, сялянка вёскі Дубіна Вярэніцкая Валожынскага раёна.**

**„Што мне яшчэ спадабалася, дык гэта машыны. Убачыў я самаходны камбайн! І пераканаўся, наколькі тэхніка аблягчае працу чалавека, працу хлебароба. Камбайн абслугоўвае толькі адзін чалавек, але замяняе гэта машына многа рабочых рук. Можна гаварыць многа аб тым, што савецкія людзі акружаны сапраўднымі клопатамі. На гэтыя клопаты яны адказваюць гераічнай працай на карысць Радзімы. Іх поспехі выдатныя. Зробленыя нашымі адзінакроўнымі братамі выклікаюць сапраўднае захапленне. Экскурсія пераканала мяне ў тым, што нам нельга адставаць ад жыхароў усходніх абласцей. Аб’яднаўшыся ў калгасы, мы зможам зажыць таксама радасна і шчасліва, такім жыццём, якое я бачыў уласнымі вачыма“. Л. Анісенка, аднаасобнік вёскі Грыцкі Пастаўскага раёна.**

Рэдакцыя газэты падводзіць рысу:

**„У заключэнні свайго пісьма сяляне нашай вобласці, якія пабывалі ў гасцях у слуцкіх калгаснікаў, пішуць: «Раз’язджаемся мы па дамах поўныя ўражанняў. Мы раскажам сваім аднавяскоўцам аб бачаным і пачутым. Будзем выкрываць кулацка-нацыяналістычны паклёп на калгасы. Ад чыстага сэрца**

**мы скажам сваім аднасялчанам — уступайце ў калгасы, дарагія браты і сёстры! Будуйце новае шчаслівае жыццё па прыкладу нашых усходніх братоў!»“.**

Кулацка-нацыяналістычны паклёп — гэта штосьці новенькае. Адкуль ён узяўся ў 1950-м? „Варожыя“ галасы? Але польская „Вольна Эўропа“ пачне вяшчаньне толькі праз два гады. А беларускае радыё „Вызваленьне“ ажно праз чатыры. Няўжо гэта сьлед Саюзу беларускіх патрыётаў, разгромленага ўладамі тры гады таму? Але пра яго абласная прэса маўчала. Ці гэта барацьба з Саюзам беларускай моладзі, чыіх сяброў вышуквалі і арыштоўвалі ўсе паваенныя гады? Ці, можа, рэакцыя на ўлёткі і вольныя размовы? Напэўна, усё разам. Гэтым прапагандысцкім штампам прыпячатвалася ўсё, што магло падаць голас нязгоды. Але без канкрэтыкі. Канкрэтыка пакідалася органам МГБ, абласному суду і таварышу Гарбу.

Ужо адчуўшы азарт дэтэктыва, які знайшоў патрэбную нітачку, я паехаў па навакольных вёсках, грукаючыся ў хаты наўгад. І ў адным з дамоў у вёсцы Трокенікі мяне чакала неспадзянка. Гаспадыня мне расказала, што Крыжоўка — гэта ня толькі тыя хаты, што за аднайменным паказальнікам. У баку ад той Крыжоўкі ёсьць яшчэ хата. І там жывуць Рынкевічы.

З-за дрэваў, якімі абсаджаная дарога зь Вільні на Полацак, гэтай сядзібы не відаць. Знаходзіцца яна за кілямэтар ад вёскі. Клясычны

беларускі хутар. Вялікі дом, гаспадарчыя пабудовы. Да хутара вядзе дарога, паабапал якой кукурузнае поле і маляўнічы луг. Пасярод лугу стаіць самотны дуб. Пэйзаж — хоць у раму ўстаўляй. Побач з галоўным вялікім домам ёсьць яшчэ і маленькая старая хата. Да мяне выйшла гаспадыня. Немаладая сівая кабета з кароткай стрыжкай і ў акулярах. Я пачаў чытаць той прысуд 50-га і высьветлілася, што мая суразмоўца Ганна Рынкевіч — нявестка Алены (дакладней, Гелены) Рынкевіч, асуджанай на сем гадоў. Пані Ганна мне і растлумачыла, што прымусіла жанчын паўстаць.

— Яны самі пасеялі на сваім полі. А ўраджай ім ужо сабраць не далі. Бо ўжо калгас быў. Усё пачалі забіраць. І ад гэтага яны і пайшлі сваю зямлю зашчышчаць... З гэтымі факеламі. Выклікалі міліцыю. І забралі ўсіх.

Дык вось у чым справа. Людзі адсеяліся на гэтым полі ўвосені. Пэўна, атрымалі абяцанку, што ўлетку зьбяруць свой ураджай. Але тым часам іх зямля, а разам зь зямлёю ўсё, што на ёй расло, стала калгасным. Вось чаму і не пускалі калгасную жняярку на сваё поле гэтыя людзі. Вось адкуль такая зацятасьць, злосьць і лютасьць.

— Сьвякроў мая выйшла. У яе было ўсё харашо. А былі ж людзі, якія паўміралі там, дзе сядзелі. У турме. Там і пахаранілі іх. Вось тут тры домікі стаялі. Гэта дваюрадныя браты былі. І гэтыя браты там прысутнічалі. Пры абароне



Ганна Рынкевіч

сваёй зямлі. Ды іхныя мацеры. Але маладыя паўцякалі. Казалі, што па іх стралялі. Дык яны паўцякалі ў лес, пахаваліся. Потым хаваліся доўга яны. Я ня помню, колькі іх там было, па іхных расказах. А тая зямля? Дык вось яна. Дзе кукуруза. Вось за яе ішла вайна. І каням хвасты палілі, факелы пабраўшы. Не давалі сваёй зямлі. Але ж правільна!

У 1950 годзе, калі ў Крыжоўцы адбывалася „бітва за ўраджай“, у Менску кампазытар Уладзімер Алоўнікаў напісаў на словы паэта Алеся Бачылы песьню, якая перажыла і 1950-я гады, і Савецкі Саюз. Не забылася яна і сёньня.

Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасьці жаданым жыві!
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві!

На рэках шырокіх і нівах,
Заводах, будоўлях — наўсьцяж
Народ наш працуе руплівы
І край узвышаецца наш.

Тады ствaралася нямала песень, мэта якіх была „падбадзёрыць людзей, натхніць іх на новыя працоўныя подзьвігі, раскрыць прыгажосьць калгаснага ладу“. Пра калгас было нямала песень складзена. Але ў гэтай песьні не было ні подзьвігаў, ні калгаснага шчасьця. Былі зусім простыя словы пра радзіму. Сам я яе ўпершыню пачуў у культавым фільме 1960-х „Застава Ільліча“. У такога майстра, як Марлен Хуцыеў, выпадковых кадраў і гукаў не бывае. Алоўнікаўскую „Радзіму“ сьпяваў беларускі дзіцячы хор у тэлевізары, пакуль галоўны герой — малады, сьветлы „шасьцідзясятнік“ — спрачаўся з паджылым савецкім канфармістам. Зьмест той кіношнай спрэчкі забыўся, а мэлёдыя ў памяці засталася назаўжды. Галоўны герой глядзеў у экран і думаў: „Што ён за чалавек? Што гэта значыць — людзям напляваць адно на аднаго? Ня можа гэтага быць. Ня можа быць, каб ён меў рацыю“. І адразу за гэтым тэкстам палілося:

Навокал жыцьцё расьцьвітае —
І песьня ўзьлятае сама:
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на сьвеце няма.




На жаль, гэтая песьня ў 1950-я ня мела ніякіх шанцаў стаць гімнам. Гімнам БССР стала іншая песьня — дзе былі словы пра братнюю Русь, пра Сталіна, пра партыю і пра сьцяг камунізму, „радасьці сьцяг". Але „Радзіма мая дарагая" запамінаецца адразу і дзякуючы мэлёдыі слухаецца, як сапраўдны гімн. Ёсьць у ёй радкі, якія прыйшліся б па душы і нашым героям, крыжоўскім бунтаўнікам: „Чужое зямлі нам ня трэба". Дакладней, бунтаўнікам па душы было б, каб такім прынцыпам кіраваліся нападнікі.

Між іншым, на гэтым полі ў ліпені 1950-га песьні гучалі. Якія, праўда, не фігуруюць ні ў адным дакумэнце.

З тлумачальнай запіскі дэпутата Вярхоўнага Савету БССР Падаліса Вікенція Ёсіфавіча:

**„Три женщины, как мне после стало известно, Рынкевич Аполония Ивановна, Рынкевич Елена Иосифовна и Змитрович Саломея Юльяновна с зажжёнными факелами из соломы и криками «Ура» бросились к лошадям. В это время колхозники, фамилии которых мне не известны, с криками «ура» подбежали к машине и начали забрасывать машину и находящихся при ней товарищей Чернецова и Сидоренко камнями и песком. Их примеру последовали и другие колхозники и колхозницы. В результате товарищи Чернецов и Сидоренко получили по несколько ударов и им были засыпаны глаза песком. На этом работа была прекращена и мы пошли проводить собрание“.**

Ганна Рынкевіч паказвае мне сямейны фотаальбом.

— Яны з іконамі ішлі. Малітвы сьпявалі:
Сьвенты Божа, Сьвенты Моцны,
Сьвенты а Несьмертэльны,
Зьмілуйся над намі…
Ад паветша, глоду, огня і войны
Выбаў нас, Пане!
Ад наглай а неспадзяванай сьмерці
Заховай нас, Пане!
Мы, гжэшні, Цебе, Бога, прасімы
Выслухай нас, Пане!

З фатаздымку на мяне глядзіць Алена Рынкевіч, усьмешлівая, хударлявая, мілавідная жанчына. З тых кабет, якіх гады толькі ўпрыгожваюць. Мы з Ганнай ізноў выйшлі на поле.

— Вось тут яны і пайшлі ім насустрач з тымі факеламі. Міліцыя прыехала, і ўсё. Палучылі турмы. Маю сьвякроў выпусьцілі, бо ў яе быў маленькі сын. Яна, можа, з год прасядзела.

Згодна з прысудам, дзьве старэйшыя жанчыны, Рынкевіч Алена і Рынкевіч Апалёнія, атрымалі сем гадоў лягеру. Па тры гады далі дваццацігадовым Івану Зьмітровічу і Ўладзіславу Рынкевічу. Усе чацьвёра знаходзіліся пад вартай у маладачанскай турме №1. Саламея Зьмітровіч была пад падпіскай аб нявыезьдзе і схавалася. „Перешла на нелегальное положение". Яе справу вылучылі ў асобнае вядзеньне.

У архіве захавалася характарыстыка і касацыйная скарга Алены Рынкевіч. Выходзіць, тую скаргу праз год задаволілі.

З характарыстыкі Алены Рынкевіч:

**„До вступления в колхоз Рынкевич имела по всем видам поставок недоимки, а также плохо рассчитывалась по всем госплатежам. При вступлении в колхоз также плохо участвовала в колхозной работе. Во время уборки урожая тормозила в коллективной уборке. 22-го июля первой выступила с палкой и сагитировала за собой женщин, чтобы не допустить жатку на озимую рожь".**



Алена Рынкевіч (справа)

Стоп. Рынкевіч не была аднаасобніцай. Ні Алена Рынкевіч, ні Апалёнія. Яны былі калгасьніцамі. Якія мусілі ведаць, што ні каліва таго ўраджаю з гэтага, ужо калгаснага, поля ім не перападзе. Дык навошта быў той бунт? Адказ на гэтае пытаньне я ўжо чуў — у Слабодцы. Ад Збыслава! Напэўна, паміж Рынкевічамі і папярэднім старшынём, Вашкевічам, была вусная дамоўленасьць наконт таго, што пасеянае дадуць сабраць для сябе. Хоць частку. Апошні раз! Тады становіцца зразумелым той адчай, зь якім сялянкі баранілі свой ураджай.

А вось касацыйная скарга Алены, напісаная яўна пад дыктоўку адваката.

**„Приговор суда считаю слишком суровым, подлежащим изменению по следующим основаниям. При определении мне меры**

**наказания суд не учёл, что действия, которые мне вменялись в вину, заключающиеся в том, что я в числе других женщин колхозниц противодействовала работе жнеярки на колхозном поле, я совершила по несознательности, в силу пережитков тяжёлого прошлого в своем сознании“.**

Сярод дакумэнтаў той справы захаваліся характарыстыкі на Івана Зьмітровіча і Ўладзіслава Рынкевіча. А таксама іхныя касацыйныя скаргі. Зьвярну вашу ўвагу на мову, якой напісаная характарыстыка на Івана Зьмітровіча. Для судоў і прысудаў у савецкай дзяржаве магла быць толькі адна мова. Якой беларускія сьледчыя, мяркуючы зь іх пісаніны, вучыліся на хаду. Адсюль і зьяўляліся такія прававыя тэрміны, як „фулиганство“.

**„Во время проводимых мероприятий Змитрович проявлял фулиганство. Так, например, когда проводился сбор подписей под Стокгольмским воззванием, гражданин Змитрович агитировал молодёжь против. И сам от росписи отказался. На уборку уражая сам не выходил. Проявлял ряд фулиганских поступков“.**

Стакгольмскі заклік — гэта ініцыятыва францускага фізыка Фрэдэрыка Жаліё-Кюры аб забароне ядзернай зброі. Падпісалі той заклік пісьменьнікі Якуб Колас і Томас Ман, сьпявак і актор Іў Мантан, мастак Марк Шагал, кампазытар Дзьмітры Шастаковіч. Адмовіліся падпіс-

ваць такія „фуліганы“, як беларускі селянін Іван Зьмітровіч і расейскі паэт Барыс Пастэрнак. Самае цікавае, што Іван сапраўды мог і пазьбегнуць турмы, улічваючы ўжо задаволеную скаргу Алены Рынкевіч.

Саламея Зьмітровіч, якая, хутчэй за ўсё, атрымала свой прысуд пазьней, трапіла пад амністыю ў красавіку 1953-га, пасьля сьмерці Сталіна. Вынікае, што самай трагічнай фігурай у гэтай гісторыі стала Апалёнія Рынкевіч. Найстарэйшая з удзельнікаў (на той час мела 60 гадоў), зь лягеру яна не вярнулася.

З усіх магчымых спадкаемцаў гэтага фатальнага поля тут застаўся толькі Генадзь, сын Ганны, унук Алены. Ён якраз прыехаў дахаты зь недалёкай адсюль АЭС, дзе працуе ахоўнікам. Бачна, што гаспадар ён добры. Ёсьць у яго і трактар, і аўтамабіль, і скаціна. Вось толькі зямлю гэтую ён забіраць не сьпяшаецца. Мае двух сыноў. Адзін працуе электрыкам на той жа АЭС, другі сканчае школу. Усе маюць „карту паляка“ і лічаць сябе палякамі. Цікава, што ў крымінальнай справе ўсе героі гэтай гісторыі фігуруюць спачатку як „белоруссы“. У характарыстыках, першых допытах і Алена, і Саламея, і Іван, і Ўладзіслаў, і Апалёнія пішуцца „белоруссами“. Але бліжэй да суду іх пераводзяць у палякі. Няўжо прынцыповыя сьледчыя раптам выяўляюць праўду? Каб ня сьмелі варожыя элемэнты хавацца за правільнай савецкай нацыянальнасьцю?

Пра таямніцы пятай графы мне расказаў гісторык, дасьледчык сталінскіх рэпрэсій Мікола Іваноў. Паводле перапісу 1926 году, на тэрыторыі СССР жылі 1 мільён 250 тысяч палякаў. Да пачатку 1937 году людзей з нацыянальнасьцю „паляк" у пятай графе засталося 800 тысяч. Падчас вялікага тэрору былі расстраляны 200 тысяч, альбо кожны чацьвёрты. Ніводная нацыя тады ня зьведала такога вынішчэньня. Нацыянальнасьць „паляк", па сутнасьці, ужо была прысудам. Натуральна, што тутэйшых жыхароў Заходняй Беларусі пад польскай уладай гэтыя жахі не кранalі.

Пасьля была вайна і паваеннае масавае перасяленьне палякаў зь Беларусі ў Польшчу, а беларусаў з Польшчы ў Беларусь, і былі тысячы прычын і матываў тутэйшых людзей называцца так або гэтак, мяняць ці не мяняць нацыянальнасьць. А яшчэ — тысячы валявых рашэньняў прадстаўнікоў улады, калі чалавека перапісвалі то ў палякі, то ў беларусы. Урэшце, зьяўленьне „карты паляка" ў наш час стала моцным стымулам успомніць свае колішнія „польскія" карані.

А чаму Генадзь не сьпяшаецца „забіраць зямлю", сваю спадчыну? Адказы на гэтае пытаньне я чуў ня раз. Асноўны матыў — а навошта нам тая зямля? Новыя часы, дзеці на ёй працаваць ня будуць, і таму падобнае. Але тут, каля менавіта гэтага поля, я не захацеў яго распытваць, каб пачуць сто разоў пачутае. Не захацеў ставіць яго ў становішча, пры якім

ён мусіў незнаёмаму чалавеку з дыктафонам хлусіць. Бо ён разумее, што і я разумею. Зямлю забрала „гасударства гэта“. І, пакуль яно існуе, пра сваю зямлю можна толькі марыць…

Я скіраваў свой уяўны ліхтарык уніз вялізнага палатна, туды, дзе сканчаецца поле, і ўбачыў джып ГАЗ-67 бяз тэнту. Каля яго — пара міліцыянтаў у цёмна-сініх кіцелях і трое мужчын у цывільным. Адзін, у добрым двухбортным касьцюме і фэтравым капелюшы, нешта піша ў нататнік. Мужчыны ў цывільным ажыўлена перамаўляюцца. Міліцэйскі сяржант чухае патыліцу, позірк яго азадачаны. Афіцэр у мундзіры стаіць як укапаны, рукі ў бокі, на твары нядобрая ўсьмешка. Тое, што адбываецца на полі, усіх гэтых людзей адначасова бянтэжыць, нэрвуе, зьдзіўляе і палохае. Яны звыкліся да іншых паводзінаў „простага народу“ — да паслухмянасьці, пакорлівасьці, прынамсі да маўчаньня. Але толькі не да супрацiву.

Раптам у музэйнай залі ўспыхнула сьвятло. Карціна паўстала ў цэласьці. А на суседніх сьценах асьвяціліся іншыя палотны і сюжэты. З тым самым сэнсам.

## „Я нічэво есьці не вазьму“

*Новы Двор, Пастаўскі раён*

Перамогу ў вайне адзначылі незвычайна сьціпла. 9 траўня 1945 году „Сялянская газета“ надрукавала паведамленьне пра капітуляцыю Германіі, віншаваньне, партрэт Сталіна — і ўсё. У пераможным 1945-м і ў абласной, і ў раённых газэтах галоўная тэма — гэта ня фронт і не перамога. Гэта пастаўкі. Пастаўкі бульбы, збожжа, мяса, малака і ўсяго, што можа даць сельская гаспадарка. Вось што пісалі „Сялянская газета“ і пастаўская раёнка „Совецкі шлях“ за 1945 і 1946 гады.

**„Тав. Міхалевіч не толькі датэрмінова і поўнасцю выканаў план хлебапаставак, але разлічыўся з дзяржавай па ўсіх астатніх, даведзеных яму планах. Так мясапастаўкі ён выканаў на 140 працэнтаў, сенапастаўкі на 150, малакапастаўкі на 105 і поўнасцю разлічыўся па фінансавых плацяжах. Як на франтах Айчыннай вайны, так і ў мірнай працы т. Міхалевіч паказвае сваю беззаветную аддпнасць Радзіме, прымаючы актыўны ўдзел у ажыццяўленні задач новага сталінскага пяцігадовага плана“.**

**„Здаючы апошнія кілограмы бульбы, Жук Антон сказаў, што ўлічваючы асаблівасці гэтага года і задачы сялянства ў справе датэр-**

**міновага выканання сельскагаспадарчых прадуктаў, сваім абавязкам перад Радзімай я паставіў у гэтым годзе ў самы кароткі тэрмін разлічыцца з дзяржавай па бульбапастаўках, першым у Пастаўскім раёне“.**

**„Выступаючыя на сходзе, гаварылі аб многім. Адны бралі абавязацельствы на датэрміновы разлік з дзяржавай па ўсіх відах сельгаспрадуктаў, другія ўносілі каштоўныя парады, як лепш іх ажыццявіць. І ўсе прыйшлі да аднаго вываду — хутчэй сушыць, малаціць і, не трацячы ні адной хвіліны, чырвонымі абозамі здаваць хлеб дзяржаве“.**

Але траплялі ў поле зроку маладачанскіх журналістаў і нехарошыя людзі. Таварышы, якія не да канца зразумелі палітыку новай улады.

**„За апошнія дні з Навасёлкаўскага сельсовета зусім спынілася паступленне хлеба на дзяржаўныя склады. Гэта выклікае вялікую трывогу ў раёне. Сакратар сельсовета т. Шаўцова нават не ведае, колькі сельсовету неабходна яшчэ здаць хлеба да поўнага выканання дзяржаўнага плана. Роўнадушша і спакой пануе ў навасёлкаўскіх кіраўнікоў“.**

**„Сур'ёзнай прычынай у марудным паступленні хлеба ў адстаючых сельсоветах, з'яўляецца і тое, што ў радзе вёсак работа сельскіх упаўнаважаных даручана неправераным людзям. Так, напрыклад, упаўнаважаным вёскі Душкава, Выганіцкага сельсовета пра-**

**цуе кулак Патаповіч. Ён сам не здае дзяржаве хлеб і ўзяў пад сваю ахову сабатажнікаў хлебапаставак Аляксандра Шыпун, Марыю Дзяруга, Эдвін Радзеўскага, Казіміра Мірановіча і Марціна Патаповіча“.**

**„Тав. Герасіменка, як кіраўнік сельсовета, як комуніст, не забяспечыў належнага кіраўніцтва хлебанарыхтоўкамі, не накіраваў актыў сельсовета на барацьбу за хутчэйшае іх выкананне, не прад'яўляе патрабавальнасці да кулацка-заможнай часткі сялян“.**

Чытаецца такое сёньня „наадварот“, з хваляваньнем за людзей, якім хапала сумленьня не вытрасаць апошняга зь сялян. І чыё зьяўленьне на старонках газэты нічога добрага ім не абяцала. Усе, як могуць, прыстасоўваюцца да новага жыцьця. Адны выкручваюцца, падманваюць, прыхоўваюць, чакаюць, калі гэта ўсё скончыцца. Другія, пакуль яшчэ савецкая ўлада не замацавалася жалезабэтонна, спадзяюцца на людзей у лясах і „на Амэрыку“. Трэція, як той жа старшыня калгаса Вашкевіч, спрабуюць у вачах сваіх людзей не выглядаць акупантамі. А вось тое, што зусім не трапляла ў друк:

**„2 сентября 1946 года.**

**Судебная коллегия по уголовным делам Молодеченского областного суда в составе председательствующего Федорова, народных заседателей Боровко и Ратниковой, при секретаре Малятиной, с участием сторон — прокурора Денискина и адвоката Михневич,**

**рассмотрела уголовное дело по обвинению Скипор Бронислава Семёновича, 1881 года рождения, малограмотного, беспартийного, ранее не судимого, крестьянина-единоличника, имеющего 11 га земли, жилые и хозяйственные постройки, лошадь, две коровы и другой скот, семейного, один из сыновей в период немецкой оккупации служил в самоохове, второй сын служит в РККА, уроженец дер. Новый Двор Поставского района Молодеченской области, в совершении уголовного преступления, предусмотренного ст. ст. 72-а и 94. ч.2 УК БССР — коллегия установила:**

**Виновность Скипора доказана в том, что он отказался выполнять зернопоставки по доведенному обязательству в количестве 1188 кг, не выполнил сенопоставку в количестве 472 кг, мяса 24 кг. Наряду с этим 24 августа на собрании граждан и 25 августа 1946 года в присутствии Еремей, Клименок и Соколова высказывал всевозможные контрреволюционные измышления на проводимые мероприятия партией и Советским Правительством, т.е. в совершении преступления, предусмотренного ст. ст. 72-а и 94 ч.2 УК БССР“.**

Ад 1946 году прамінула ўжо цэлае жыцьцё. Вёскі Новы Двор даўно няма на сьвеце. На яе месцы быў пабудаваны вайсковы аэрадром, ад якога ўжо таксама амаль не засталося сьлядоў. Таму, абзвоньваючы абанэнтаў Пастаўшчыны з прозьвішчам Скіпар, я мала на што спа-

дзяваўся. Але на пятай спробе дазваніцца на тым канцы дроту адказаў слабы жаночы голас. Я растлумачыў, што шукаю сваякоў Браніслава Скіпара. „Гэта мой сьвёкар“, — пачуўся зьбянтэжаны адказ.

На наступны дзень я сядзеў у гасьцях у пастаўскай кватэры. Тарэса Скіпар, так завецца мая суразмоўца, кабета немаладая, мажная, зь невясёлым тварам (здаецца, яна ні разу падчас гутаркі так і не ўсьміхнулася), але з цудоўнай жывой моваю і гатоўнасьцю расказаць пра мінулае жыцьцё.

— Ці была тады ў мяне радасьць ад перамогі? Не. Я тады Польшчы жалела. Першы клас скончыла пры Польшчы! Тады жылося лепей, як цяпер. У пана заробіш, дык пан табе яшчэ гасьцінца дасьць. А цяпер трэба пану даць гасьцінца, каб ён табе работу даў. І тры гады былі немцы. Высялялі ж яны адтуль, з Расеі — Смаленск, Бранск — сюды людзей. Было іх многа. Там яны былі жабракі — ня дай Бог якія. Галодныя і халодныя.

Вось пра што я ня ведаў, дык гэта пра перасяленьне расейцаў падчас акупацыі. Няўжо прадстаўнікі арыйскай расы так заклапаціліся пра лёс недачалавекаў? Хутчэй за ўсё, смаляне пабеглі ў Беларусь па сваёй ініцыятыве. Далей ад фронту.

— Немцы ж былі пад Маскву загнаўшы рускіх. Таму тут і бежанцы ў нас. Расейскія былі бедныя, ня дай Бог. Усё там пакідалі, сюды



Тарэса Скіпар

пераехалі безь нічога. Былі такія, што і дзяцей былі аставіўшы там, у Расеі.

На мяне паліўся паток беларускага бытавога нацыяналізму. Не скажу, каб мне, расейцу, было прыемна слухаць словы старой беларускі ў адрас „брацкага“ народу. Але ж спрачацца не выпадала.

— Яны гультаі. Я помню гэтых бежанцаў. Лодары. У нас цьвяты ў агародах растуць. Сірэнь! А ў іх — крапіва пасохшы, авечкі ходзяць, хата — вокны аж да зямлі стаяць. Водку толькі піць і не работаць. Гультаі вялікія. Расказвалі, як яны там жылі: „Заколем на тры пуды кабанчыка, а патом паўдзярэўні пляшэм, паём! Самагоначкі выганім і пляшэм!“ А беларусы — рабочыя людзі. У нас і капусты, і агурчыкаў, бочкі насальвалі ўсяго. А яны ўсё гэтак пляшуць. А тады жраць нечага. Гультаі яны!

Калі я слухаў Тарэсу, ня мог стрымаць сьмеху, настолькі артыстычна яна перадавала гэтае расейскае „пляшем“. Высокім голасам, з інтанацыйным „падвыпадвертам“. „Плясать“ — гэта ня тое самае, што танчыць. Дзіўна, але гэты вясёлы дзеяслоў часта ўжываецца ў прымаўках з самым змрочным сэнсам. Вядомы выраз — „плясать под чужую дудку“. Але ж яшчэ ёсьць і „пляски на костях“, і „пляски смерти“.  На захад Беларусі ўцякалі людзі, якія выжывалі пасьля калектывізацыі. Таму й кабана білі трохпудовага, пакуль яго не забралі. Таму, відаць, і „плясалі“, як апошні раз. А можа, гэта мэнтальнае? Выяўленае ў прымаўцы „Раз пошла такая пьянка, режь последний огурец“? І абвостранае самой магчымасьцю апошняй п’янкі. Для вясковай беларускай дзяўчыны гэты „глоток напоследок“ застаўся незразумелым. Зрэшты, пані Тарэса не зусім вяскоўка. Дзяцінства і юнацтва яна правяла „за польскім часам“ у мястэчку. Сама магла стаць нябеднай гаспадыняй. Вось і сумуе па Польшчы.

— Дунілавічы было мястэчка. І я там жыла да 16 гадоў. А ў шаснаццаць мяне цётка багатая забрала ў Вярэнькі да сябе. У яе нікога не было. І адпісала ўсё мне. Там было і двое коней, і карова, і малатараня, і ўсё! Яны багатыя былі. А калхоз усё забраў. Засталася я бедная. Ды гэта ня толькі ў мяне. Ва ўсіх. Мала я пабыла едзіналічніцай. Якія тры гады. І калхоз начаўся.

Свайго сьвёкра Тарэса ня памятае. Бо, калі выйшла замуж за Станіслава Скіпара, Браніслаў Скіпар ужо быў у турме.

— У іх было 12 гектараў зямлі. Пашчыталі, кулакі. Тры каровы, і цялят, і сьвіней пабралі. Але ж тады іх усіх у турму, кулакоў, забіралі.

Браніслава Скіпара, 65-гадовага селяніна, галаву сям'і, бацьку пяцярых дзяцей, абвінавацілі ў канкрэтных лічбах недапаставак.

Для неабазнанага чалавека ўсе гэтыя цэнтнэры з гектара, пра якія фонам чуў з навінаў радыё, заўсёды ўспрымаліся як абстракцыя. Бо не свае. Насамрэч кожны пункт паасобку з гэтага пратаколу можа заваліць усю гаспадарку, ня кажучы ўжо пра ўсе разам. Мне гэта даходліва растлумачыў Міхал Залескі — эканаміст, колішні выкладчык БДУ, аглядальнік „Белсату“, ураджэнец Бяльмонтаў, што на Браслаўшчыне. Міхал — найлепшы тлумачальнік складаных эканамічных законаў для тых, хто эканоміку ведае толькі з цэньнікаў у крамах.

— У нас было 20 цэнтнэраў з гектара. Жыта, ячмень. Калі чалавек быў бедны, у яго магло быць 12 цэнтнэраў. Калі ён угнаеньняў ня ўносіў. Такім чынам, ад 12 да 20. Бярэм 12. Два пакідаем на пасеў. А з астатніх дзесяці цэнтнэраў адзін забраць на падаткі. Бальшавікі пры гэтым ня ўлічвалі, што ў чалавека ёсьць дзеці, сьвіньні, каровы. Сяляне — гэта людзі, якія балянсавалі ўвесь час на мяжы. І калі гэты ба-

лянс існаваньня парушаецца, магчымы абвал. Як сьпявалі? „Жавароначкі, прыляціце. Вясну красную прынясіце. Бо зімушка надаела, усе хлебушкі пераела“. Табе хлеба павінна хапіць не на заўтра, а да новага ўраджаю. Ты павінен да жніўня дажыць, а не да заўтра. Бальшавікі гэтага ня ўлічвалі. Чалавек стаіць на зэдліку зь пятлёй на шыі, а ў яго гэты зэдлік забіраюць. „Ты так пакуль павісі. А мы табе потым новы падставім“. Гэта нікому, вядома, не падабалася. І людзі больш рашучыя супраціўляліся гэтаму, як маглі. Яны хавалі збожжа. Яны ўцякалі зь вёскі.

А цяпер забіраем паўтоны сена для каровы.

— Яны забіраюць частку сена ад каровы. Карова — яна што, трактар? Паставіш — і яна будзе стаяць? А ў яго ж не адна карова была. Калі ў чалавека забіраюць сена, значыць, адной зь ягоных кароў сена ня хопіць. А яна цяліцца павінна. А селяніну парушаюць, сучаснай мовай кажучы, кругаабарот статку. Калі ня будзе гэнай каровы — ня будзе цяляці. І гэтак далей. Усё мусіць ісьці сваёй чаргой. А ён не плянаваў гэтага. У яго няма магчымасьці купіць гэтае сена, якое ён аддасьць. Сялянская гаспадарка — гэта ўстойлівасьць на мяжы.

Ну і, нарэшце, самы „лёгкі“ пункт. Дваццаць чатыры кілягарамы мяса.

— Мяса 24 кілягарамы. Што гэта за жывёліна такая? Няма такой жывёлы. Значыцца, яму трэба нешта зарэзаць. Ну зарэжа ён сьвіньню.



Зіма. Калгаснік урачыста дамоў аплату працадня вязе.

А ён жа ў пару павінен яе рэзаць. І ён ужо ведае, што з той сьвіньні будзе. Будзе шынка, будуць каўбасы, будзе тое-сёе. А зараз? Людзі ж не ва ўсякі дзень сьвіней рэзалі. Значыць, і тут ён павінен выкручвацца. Пасьля такога кіраваньня чалавек думаў: чым мяне будуць даводзіць да інфаркту, лепей гары яно ўсё гарам. Забірайце вы ўсё. Ідзіце к чорту. А я дзяцей выпраўлю ў Вільню ці ў Рыгу. Тады з Маладачанскай вобласьці ехалі на поўнач. На Клайпеду, на Калінінград, на Даўгаўпілс.

Пасьля ўсяго пачутага пастаўце сябе на месца гэтага селяніна. І паспрабуйце ня стрымліваць сябе ў выразах у адрас народнай улады, савецкага ўраду і асабіста таварыша Сталіна.

Для Браніслава Скіпара судзьдзя Фёдараў з народнымі засядацелямі Бароўкам і Ратніка-

вай лягерных гадоў не пашкадавалі. А маглі ж даць, згодна з артыкулам, паўгода.

**„Скипор Бронислава Семёновича подвергнуть лишению свободы на 6 /шесть/ лет с отбытием в исправительно-трудовом лагере с поражением в избирательных правах на срок три года без конфискации имущества.**

**Меру пресечения содержание под стражей оставить без изменения с зачётом предварительного заключения, отбытого с 29 августа 1946 года.**

**С имущества осуждённого в пользу коллегии адвокатов за защиту по назначению адвокатом Михневич взыскать 200 рублей“.**

Больш Браніслава радня ўжо ня ўбачыла.

Я гляджу на фотапартрэт ладнага падхорцістага прыгажуна ў белай кашулі і чорным пінжаку. Акуратна падстрыжаныя вусы, высакародная хударлявасьць, у прыгожых вачах лёгкая трывога. Ну проста гусарскі палкоўнік, пераапрануты ў цывільнае. Прыгажуну на выгляд гадоў сорак, ня болей. Значыцца, здымак зроблены ў мірных дваццатых гадах. Гэта Браніслаў Скіпар.

У Браніслава было шасьцёра дзяцей. Пяць сыноў, малодшы зь якіх загінуў у 1945-м, бавячыся зь нямецкай мінай, і адна дачка, Яніна. Я сяджу ў старой Яніны Шынкевіч, у ейнай сьціпла абстаўленай кватэрцы на ўскраіне Воршы, і дзякую лёсу, што знайшоў жанчыну ў добрым здароўі і пры памяці. Яна адзіная

з Браніслававых дзяцей, хто дажыў да нашых дзён.

— Кагда я радзілася, мама, наверна, пракляла мяне. Яна ўсё любіла мальчыкаў, а тут дзевачка. І бабка, каторая бабіла (раньша акушэрак не была): „Ой, — гаворыць, — роды началіся. Олечка, дачушка!“ А мама ляжыць, раджаець і гаворыць: „Пускай бы лучшэ мальчык. Шчасьлівейшы. А дзевачкі — вечныя мучаніцы“. Во. Як прыгаварыла. Усю жызь такая невязуха. Во сыночка аднога схараніла. Во, у ваеннай форме. У пяцьдзясят два гады. Утарой радам. У пяцьдзясят тры. Астаўся трэці сын. Адным словам, цяжолую жызь пражыла. Без атца асталась. Судзілі за непасільны налог. Жылі едзіналічна, зямлі было дванаццаць гектар.

Паступова, нібы выява на фотапаперы ў сьвятле чырвонага ліхтара, з казённых радкоў прысуду праяўляецца жывы чалавек. Праяўляюцца ягоны характар, ягоныя словы. Праяўляецца таксама і тая атмасфэра, у якой адбываўся арышт і суд.

— Ані яго, значыць, какой-та нагайкай па хрыбту. На вуліцу выгналі. Я гляджу — ацец паваліўся. Я плачу, упала. Упаўнамочаны прыходзіць — нагой меня ў бок. „Рэвёш, карова? Нада была ацца застаўляць налог плаціць“. Талкануў мяне, і ўсё. „Чорны воран“ падашоў, бацьку пасадзілі і папёрлі. Я плакала. Мама казала: „Дачушка, ня плач. Не прападзеш. Я вас вырашчу“.



Яніна Шынкевіч
(Скіпар)

Хадзілі, людзям памагалі. Жыта жалі сярпом. Во ладошку выразала, сноп дажынала. Мама: „А Божа мой, а зачэм я цябе брала!“ Кроўю сьцякаю, выразала ладошку.

Я толькі зараз заўважыў скалечаную кісьць Яніны.

— Сельскі савет, Новы Двор, паказацельны суд. На ўсю дзярэўню прэступніка прывялі. Судзьдзі з Пастаў прыехалі. Але ж месныя, беларусы. Глаўна — вывесілі абʼяўленьне: „Просім усіх явіцца на паказацельны суд Скіпара Браніслава Сямёнавіча“. На судзе людзі плакалі ўсе. Адна баба прыгаварывала, я помню: „А Божачка, а што вы дзелаеце? Зачэм жа вы гэтага чалавека чэснага, трудзягу, рубашкі ад поту развальваліся, а вы яго берацё! А дзетак сіра-

ціць!“ Ніхто слушаць не хацеў. Ацец, кагда судзілі, гаварыў: „Есьлі я ўплачу налог, страдаць будзе ўся сям’я. Жана і дзеці будуць галадаць. Я не магу яго ўплаціць“. А яму: „Кулацкая морда!“.

Яніна 1930 году нараджэньня. Гэта значыць, у 1946-м яна ўжо была амаль дарослай дзяўчынай. Яна, невысокая, худзенькая, зь мілавідным тварыкам, такой, па сутнасьці, і засталася. Толькі жыцьцё ў Воршы моцна зьмяніла яе прыродную мову.

— Пасылкі слалі. Картошку сушоную. Помню, мама налупіць картошкі. Я — нож у рукі, ачышчу картошку, памыю, а тады тоненькымі-тоненькымі лісьцікамі нарэжу. У друшляк. Вада сьцячэць. І тада фасоль варым. Насушым поўны яшчык пасылачны. А сядзеў ён у Воршы. Дык мама ж мая, кагда я зумаж выходзіла, плакала: „Дачушка, зачэм ты туды выходзіш? Там твой бацька, у гэтай Воршы, пагіб. Не выхадзі замуж“. Але ж панравіўся. А бацька пісаў у пісьмах: „Ольга, я цібя прашу. Нікакіх пасылак. Нічэво. Я нічэво есьці не вазьму. Памру галоднай сьмерцю. Кармі дзяцей, каб дзеці сыты былі“. Так і палучылась. Я тыя пісьмы пісала. Мама ж няграматная была. Мы пісьмы пішам, а яны варочаюцца. „Адрасат выбыў“. Он, наверна, ня ўзяў есьці і памёр з голаду. Помніла, калі памёр. І бумага была аб рэабілітацыі. І ўчара іскала, не нашла. Наверна, сын выкінуў. Дзе якая бумажка — не паглядзіць, выкінець.

Толькі зараз я прыгадаў, што мне казала Тарэса Скіпар пра сваю швагерку. „Адзін сын памёр, а другі з турмы не вылазіць“. І толькі цяпер я ўважліва агледзеўся вакол сябе. Абстаноўка ў кватэры была ня сьціплая. І нават ня бедная. А пустая! Там, у сэрванце, дзе ў савецкіх традыцыях мусіў стаяць калі не крышталь, дык фарфоравы сэрвіз, была пустата. Такія ж пусткі былі на пыльных, абшарпаных кніжных паліцах. У гэты час пачуўся скрыгат дзьвярэй і ў пакой увайшоў невысокі худы бледны чалавек з выцьвілым позіркам, няпэўнага веку. Павіталіся. Мы зь Янінай працягнулі размову. Але чалавек перарваў. „Мужчына, а вы па какому вапросу?“ Я растлумачыў, што я гісторык, займаюся старымі „ўгалоўнымі дзяламі”, цікаўлюся лёсам ягонага дзеда. Ад словаў „угалоўныя дзяла“ ягоныя мёртвыя вочы ажываіліся. „Тагда вам к маме“.

Якая сумная карціна выраджэньня. Каб роду завянуць і змарнець, яму не абавязкова быць графскім. Ранейшай адкрытай размовы ў прысутнасьці ўнука ўжо не атрымалася. Але сёе-тое Яніна яшчэ пасьпела паведаміць. Памёр Браніслаў недзе праз паўгода ў аршанскай турме. Давёў сябе голадам.

Ужо другі чалавек на маім чарняўскім шляху даводзіць сябе да сьмерці адмовай есьці. Маўклівы, пакутны хрысьціянскі чын. З надзеяй на цуд, які адбудзецца ўжо ня ў гэтым жыцьці.

Родныя пра ягоную сьмерць даведаліся толькі праз тры гады. Рэабілітавалі яго ўжо пры Хрушчову. Мы ведаем, у чым заключалася ягонае злачынства паводле 94-га артыкулу. А вось як выглядалі „контрреволюционные измышления“ паводле артыкулу 72.

— Ён сказаў: „Немец враг быў — і то хлеба даваў. А вы — дзеці з голаду падохнуць, а вы не дадзіце!“ — „Ах ты контррэвалюцыянер!“ Адным словам, нешчасьлівая сям’я. І браты ўсе... Толькі што во Бог даў век. Маме было восемдзесят сем, а мне ўжо восемдзесят восем. Ужо маміну точку дажыла.

Вязьняў аршанскай турмы хавалі на адным з участкаў гарадзкіх могілак. Магілы бацькі Яніна не адшукала.

— Хадзілі мы з падругай. Умесьце работалі. Па ўсех красты стаяць, фамілія, імя. А хто зь цюрэмшчыкаў — радам жа, напроці кладбішча... Хадзілі. Кажу, можа я папу свайго найду. Хадзіла-хадзіла... А там толькі цыфры стаяць. А што гэта абазначае? Можа, у каком гаду? Пахадзіла-пахадзіла і нічыво не нашла. Усё мама на мяне: „Ня йдзі ты замуж у гэту Оршу! Зачэм ты ў Оршу пойдзеш замуж? Бацька там твой пагіб“. Жызь пражыць — ня мех пашыць.

Яніна часта ўспамінае тату — таго, які на партрэце. Жыцьцярадаснага чалавека, адзіны клопат якога — дзеці.



Браніслаў Скіпар

— Польскія паны едуць. А бацька глядзіць — упаў нейкі сьвёртак. А пан і пані едуць на брычке. Упала што-та. Бацька паднімаець і дагнаў іх. І гаворыць: „Пані, во вы паціралі“. А яна дастаець папяросы. „Прошэ, пан, запаліць“. „Во, — кажэць, — хоць бы сказала: «На дзецям на канфеты». Хоць бы злоты дала! «Прошэ запаліць цыгарэта!»“ А бацька ж ня курыць… Очань любіў пець. О ўжо была! На свадзьбу як прыгласяць, і мяне ж прывучыў. Просяць усе, у ладошкі хлопаюць, каб папелі бацька з дочкай. Ён пяе, і я зь ім умесьце пела. Ён у цюрме умер. Людзі гаварылі: „Каб знали, кагда умер, мы б за яго душу пелі б ўсю ноч, не аддыхаўшы“. Каб душа ў рай папала... Гора за горам, гора за горам...

А ці мог у гэтай гісторыі быць шчасьлівы канец? Заплаці Браніслаў той аброк, прамаўчы лішні раз на судзе. Схавайся ў бульбу. Будзь, як усе, ня лезь на ражон. Не, ніякіх варыянтаў тут быць не магло. Бо Браніслаў Скіпар быў сапраўдным ворагам для савецкай улады. Ворагам эканамічным, ворагам ідэалягічным. І, галоўнае, ворагам псыхалягічным. Прыродным, прыроджаным ворагам. Ягоную адчайную волю добра відаць на партрэце. У чым савецкая ўлада была сапраўды таленавітая, дык гэта ў здольнасьці распазнаваць сабе ворагаў. І тут яна не памылілася.

## „Як іграюць, так і пляшы“

*Вялікія Споры, Пастаўскі раён*

Упершыню я прыехаў у Маладэчна ў жніўні 1992 году. У будынку палітэхнічнага тэхнікуму адбывалася міжнародная канфэрэнцыя, прысьвечаная нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў. Мае вочы, дый ня толькі мае, яшчэ не нацешыліся нацыянальнымі сьцягамі над урадавымі будынкамі. Вуліцы Маладэчна, у адрозьненьне ад сталіцы, поўніліся гукамі жывой беларускай мовы. Прамовы на канфэрэнцыі праменілі аптымізм. Наперадзе нас чакала бліскучая беларуская будучыня. Доказам таму быў Вялікі Гасьцінец, яшчэ нядаўна праспэкт Леніна. А сам помнік правадыру на галоўнай плошчы ўжо выглядаў артэфактам мінулай эпохі. І трэба было быць вельмі цьвярозым рэалістам, каб не паддацца той нацыянальнай эўфарыі, што панавала на канфэрэнцыі. Здаецца, такім адзіным чалавекам выглядаў засяроджаны і крыху сумны Васіль Быкаў. Няўжо ён прадчуваў штосьці ўжо тады? Але мяне зьдзівіў не ягоны настрой. Я ўбачыў Быкава!

Упершыню мы, савецкія шкаляры, пазнаёміліся зь ім на ўроках беларускай літаратуры. „Жураўліны крык“ і „Альпійская баляда“. І гэта не была „херня на беларускай мове“. Дзяку-

ючы Быкаву нам адкрылася тое, чаго мы ніяк не чакалі ад савецкага ваеннага пісьменьніка. Ды яшчэ ў кніжках „пра вайну“. Праўда аб перадваенных гадах. Карціны калектывізацыі. Расказы пра высылкі ў Сібір…

Але галоўнае маё знаёмства з майстрам адбылося ўлетку 1987-га. Я быў зачапіўся зь нейкім „каралём раёну“ на Сяльмашы. Спачатку „кароль“ мяне зачмарыў на вуліцы. Потым я, крыху выпіўшы і праслухаўшы Высоцкага, перастрэў таго на вечаровай вуліцы — і ён ад мяне пабег! Я, нібыта інтэлігентны хлопчык, акулярнік, бяз досьведу вулічных боек, гнаў па сяльмашаўскіх дварах „караля раёну“. Вось што значыць сіла мастацтва! Але праз пару дзён быў сустрэты „каралём“ ужо са сьвітай. Як у той песьні — „их было восемь“. Білі нядоўга, але сіл не шкадавалі.

І вось я ляжаў з пабітай мордай, безь пярэдняга зуба, пакрыўджаны, зьнясілены, і шкадаваў сябе. Выпадкова на вочы трапілася кніга Быкава „Знак беды“, выдадзеная па-расейску маскоўскім выдавецтвам „Молодая гвардия“ ў 1984 годзе. І там жа, у Маскве, купленая бацькам. Ці то назва кнігі мяне падштурхнула да чытаньня (надта адпаведная была яна майму стану), ці то абрыўкі чутых размоваў. А пра гэты твор бацькі гаварылі многа. І я вырашыў разгарнуць нашумелую кнігу. І аўтар зачараваў мяне адразу. Самым першым сказам. „Время и люди не много оставили от некогда раскинувшейся здесь просторной хуторской усадьбы“.

І чым больш я паглыбляўся ў чытаньне, тым болей забываўся на свае „знакі бяды“.

Чытаў я нясьпешна, часта вяртаючыся да прачытанага і зноў ступаючы ў пакуты герояў. І адбылося дзіва, якое можа зьдзейсьніць толькі вялікая літаратура. Адпакутаваўшы разам з героямі, якім аўтар не пакінуў ніводнага шанцу на выйсьце, разьвітаўшыся зь імі, я прачнуўся цалкам акрыялы. Як і не было нічога. Я зноў быў жывы і жыцьцярадасны. Як ён гэта зрабіў? Апошняя фраза была ня кропкай. „Но бомба дожидалась своего часа“. І вось праз пяць гадоў у Маладэчне я бачу гэтага чараўніка. Які зусім ня радуецца таму, што бачыць навокал сябе.

Наступная сустрэча з майстрам адбылася праз доўгія пяць гадоў, увосень 1997-га. Над краінай ужо не луналі бел-чырвона-белыя сьцягі. А на выданьне быкаўскай новай кнігі „Сьцяна“ людзі скідваліся па капеечцы. Мой таварыш і калега, тэлежурналіст Алег Дашкевіч, запісаў для Віленскай тэлевізіі інтэрвію з Быкавым. Але ў працэсе запісу забыў уключыць мікрафон. Каб ня ганьбіцца другі раз, Алег папрасіў мяне запісаць яшчэ адну гутарку.

Мы сустрэліся з Быкавым каля менскай „Ямы“. Ён сам прапанаваў гэтае месца. Я адбарабаніў Дашкевічавы пытаньні. Але прыпас і сваё. „Васіль Уладзімеравіч, беларусы шмат пакутавалі на чужых войнах. Але ніколі не ваявалі за сябе. Можа, для таго, каб нацыі адбыцца, ёй патрэбная *свая вайна*?“ Быкаў і да

таго глядзеў проста ў вочы. Але пасьля гэтага пытаньня паглядзеў асабліва. Уважліва. Неўразумела. І з адказам не сьпяшаўся. Адказ той я помню.

І гэта быў, як мне здалося, адказ не пісьменьніка Быкава, а адказ Быкава-франтавіка: „Не. Ня трэба вайны. Калі можна пазбыцца вайны, трэба пазбыцца. Не дапаможа нам вайна“.

Але вяртаюся ў Маладэчна 1992 году.

Тэхнікум, дзе адбывалася канфэрэнцыя, таксама ўражваў сваёй нераённасьцю. Такіх багатых сталінска-ампірных тэхнікумаў я ў райцэнтрах ня бачыў. Ды й навакольныя будынкі — паштамт, рэстаран, унівэрмаг — выглядалі зусім не на раённы ўзровень. Тады я і даведаўся, што ўся гэтая раскоша — сьляды колішняй сталіцы зьніклай Маладачанскай вобласьці. І палітэхнічны тэхнікум — гэта ніякі ня тэхнікум, а Дом саветаў, палац для абласных уладаў.

Гартаючы газэту „Сталінскі шлях“, часам са зьдзіўленьнем я выяўляў, наколькі мужныя людзі працавалі ў той час у абласной прэсе. Сапраўдныя героі-падпольшчыкі. Бо сёньняшнімі вачыма такія матэрыялы чытаюцца, як тонкі тролінг. Як сапраўднае „извращение советской действительности“.

**„Гэта было яшчэ восеньню. У наш калгас прыехаў прапагандыст т. Пліскуноў. Ён прапанаваў усім камсамольцам выбраць форму палітычнай вучобы ў новым навучальным**

**годзе. Мы пажадалі займацца ў гуртку па вывучэнню біяграфіі Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.**

**Т. Пліскуноў склаў спіс слухачоў, назначыў дзень першых заняткаў і паехаў.**

**З нецярпеннем чакалі мы назначанага тэрміну. Гэта ж вялікае шчасце — вывучаць біяграфію любімага правадыра, вялікага Сталіна.**

**Нарэшце гэты дзень настаў, але... Пліскуноў не прыехаў.**

**Не прыехаў ён ні на другі дзень, ні на трэці. Наогул больш мы яго не бачылі.**

**Як відаць, забыў т. Пліскуноў аб палітгуртку. Мы, калгасная моладзь, патрабуем, каб гурток нарэшце пачаў працаваць“.**

Уяўляеце сябе калгасную паваенную вёску? Вось чым бы заняцца ў рэдкія гадзіны адпачынку? Пасьля ўсіх зробленых працадзён, пасьля ўсіх здадзеных нарыхтовак, пасьля працы на ўласным лапіку зямлі? Ну адказ відавочны! Іншых варыянтаў быць ня можа. Узяць ды павывучаць біяграфію таварыша Сталіна. Прычым у гэтага вострага журналісцкага дасьледаваньня два аўтары, Юры Варанец і Мікалай Грабянёк. Страшнавата за прапагандыста Пліскунова.

Але ня толькі прафэсіяналамі быў слаўны „Сталінскі шлях“. На вёсцы таксама былі свае летапісцы эпохі. Вось якім болем падзяліліся


НЕ ЗАБУДЗЬЦЕ ПАДПІСАЦЦА

— НА —
СВАЮ АБЛАСНУЮ ГАЗЕТУ
„СТАЛІНСКІ ШЛЯХ“
на 1952 год
*Падпіска прымаецца аддзяленнямі „Саюздруку“ і ўсюды на пошце.*

*Выпісвайце газету „Сталінскі шлях“ на працяглыя тэрміны — 6, 9 и 12 месяцаў.*
*Доўгатэрміновая падпіска выгадна падпісчыку і дзяржаве.*

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 месяц — 5 руб.
на 3 месяцы — 15 руб.
на 6 месяцаў — 30 руб.
на 12 месяцаў — 60 руб.

ГП 37630 г. Молодечно Заказ № 2.059. Тир. 100.000

камсамольцы калгасу „Камсамолец“ Ільлянскага раёну.

**„Праводзячы агітацыйную работу, агітатары мабілізуюць калгасных хлебаробаў сустрэць дзень выбараў новымі працоўнымі посьпехамі.**

**Пасля гутаркі агітатара члены сельгасарцелі імя Берыя ўзялі на сябе абавязацельства выканаць план вывазкі лесу да 20-га лютага. Да гэтага ж часу хлебаробы далі слова поўнасцю адрамантаваць сельскагаспадарчы інвентар, ачысціць насенне. Сваё слова калгаснікі ажыццяўляюць“.**

Цікава, даць калгасу імя таварыша Бэрыя падказалі самі агітатары? Лепшай знаходкі

для абуджэньня працоўнага энтузіязму цяжка прыдумаць. Асабліва ў справе лесанарыхтовак. Паспрабуй ня ўправіцца зь лесанарыхтоўкай да 20 лютага! Адразу малюецца пэрспэктыва валіць лес у іншых установах ведамства Лаўрэнція Паўлавіча.

Мне вельмі захацелася прагуляцца па колішняй, даруйце за перарobленую цытату вядомай турэмнай песьні, „сталіцы Калымскага (прабачце, Вялейскага) краю“. Маім гідам выступіў эканаміст Міхал Залескі, чые сваякі жылі ў Маладэчне. І зь ягоных дзіцячых успамінаў абласная сталіца не выглядае дзюркай.

— У Маладэчне была ўся інфраструктура. Там было многа працоўных месцаў. Горад рос. Паўсюль былі будоўлі. Былі і крамы, і рэстараны, і цырульні. І ўсё трымалася на тым, што культура працы яшчэ была капіталістычная. Усё было вельмі хораша. Бо людзі прывыклі рабіць добра. І яны так рабілі. Захоўвалася дасавецкая працоўная этыка. Напрыклад, што мяне дзівіла тады ў маладачанскай рыбнай краме — там заўсёды прадавалася беларуская жывая рыба. Вугор, мянтуз, лешч, шчупак, сом. Я памятаю, як я глядзеў на гэтыя ванны, дзе ляжалі гэтыя рыбіны! І гаспадыні іх з задавальненьнем куплялі. Былі тады ў калгасах рыбалавецкія брыгады, якія ўмелі лавіць рачную рыбу. Беларусь да рэвалюцыі была чыстым экспартэрам рачной рыбы. І гэта ўсё заставалася.

А тым часам, пакуль хлопцы разглядаюць самоў і ляшчоў у рыбнай краме, у Маладачанскім судзе — свой улоў. Тут у сьнежні 1948-га адбываўся працэс над сямю асобамі. Рознага ўзросту, полу, сацыяльнага становішча. Такім чынам, судзілі:

**„Скиндер Иосифа Станиславовича, 1906 г. рождения, уроженца и жителя хутора Четверть Поставского района Молодеченской области, из крестьян-середняков, поляк, гражданин СССР, беспартийный, малограмотный, женат;**

**Липницкую Евгению Семёновну, 1926 г. рождения, уроженка и жительница хут. Шарковщизна Поставского района, Молодеченской области, из крестьян-кулаков, полька, гражданка СССР, беспартийная, грамотная, несудимая, незамужняя;**

**Куликовскую Клавдию Семёновну, 1926 г. рождения, уроженка и жительница хут. Шарковщизна Поставского района Молодеченской области, из крестьян-кулаков, полька, гражданка СССР, беспартийная, грамотная, несудима, незамужняя;**

**Куликовского Бориса Адольфовича, 1923 г. рождения, из крестьян-бедняков, поляк, гражданин СССР, беспартийный, грамотный, несудим, женат, участия в Отечественной войне не принимал;**

**Жаховскую Татьяну Павловну, 1918 г. рождения, уроженку и жительницу гор.**

**Поставы Молодеченской области, из крестьян-бедняков, полька, гражданка СССР, беспартийная, грамотная, незамужняя, несудимая, без определённого занятия;**

**Божечко Антонину Людвиговну, 1901 г. рождения, уроженку гор. Вильнюс Литовской ССР, при польском правительстве имела свой магазин, жительница дер. Б. Споры Поставского района Молодеченской области, полька, гражданка СССР, беспартийная, грамотная, несудима, замужняя, связная партизанского отряда им. Суворова;**

**Липницкого Семёна Васильевича, 1882 г. рождения, уроженца дер. Споры, жителя хут. Шарковщизна Поставского района Молодеченской области, из крестьян-кулаков, поляк, гражданин СССР, беспартийный, несудимый, малограмотный.**

А вось і склад злачынства.

**„Подсудимые Скиндер Иосиф, Липницкая Евгения, Куликовская Клавдия, Куликовский Борис, Жеховская Татьяна, проживая в Поставском районе, установили преступную связь с участниками вооружённой грабительской террористической банды, возглавляемой Кривицким, которая действовала на территории Поставского и Мядельского районов Молодеченской области, оказывали содействие в преступной деятельности участникам бандгруппы, представляли последним свои жилые и надворные постройки для**

**сборищ, ночлега, снабжали бандитов продуктами питания и самогоном, устраивали вместе с бандитами п'янки. Божечко Антонина, занимаясь незаконной медицинской практикой, и, поддерживая преступную связь с участниками бандгруппы Кривицкого, в июле 1948 г. оказывала медицинскую помощ раненому бандиту Ратко, скрывающему на хуторе принадлежащегося Липницким и в лесном массиве.**

**Липницкий Семён, зная о преступной связи с бандитами его дочери Липницкой Евгении, Куликовской Клавдии, зная Куликовского Бориса, о том, что его дочь Евгения поместила раненного бандита Ратко в сарае и приводила в дом, где оказывали медицинскую помощ бандиту, не донёс органам Советской власти о посещении его дома и построек бандитами".**

Нават беглае прачытаньне дае зразумець, што расейская мова для чалавека, які друкаваў дакумэнт, зусім ня родная. Адна „помощ" чаго вартая. А якія мучэньні з канцылярытам! Але нават сярод гэтых „скрывающему принадлежащегося" можна зразумець галоўнае. Антысавецкае падпольле. Загадкавы камандзір Крывіцкі. Паранены баец, якому перавязвае раны карэнная вільнянка, колішняя ўладальніца ўласнай крамы і да таго ж савецкая партызанка. А даглядае партызана 24-гадовая дзяўчына, дачка заможнага хутараніна.

Вялікія Споры ўжо даўно не вялікія. Нежылыя хаты паступова зносяцца. Жылых на колішняй вуліцы засталося ня больш за дзясятак. Вёска імкліва ператвараецца ў маляўнічы хутар. У адной з хат я знайшоў дваіх старажылаў — Натальлю Маліноўскую, увішную бабульку 87 гадоў, і яе крыху маладзейшага суседа, Генрыка Канчаніна. Гаворыць Натальля:

— Тая Бажычковая медзікам была. Лячыла ўсіх людзей, хто да яе абрашчаўся. У мяне вочы васпаліліся, балелі. Ну дык яна закапвала нейкімі каплямі. І ў мяне быстра прайшло гэтае васпаленьне. А мужык ейны нічога не рабіў, толькі сядзеў. Яна намнога маладзейшая, і кульгала яна. І ўсім людзям дапамагала. І бандытам гэтым, і ўсім. Добрая, адзыўчывая, нікому не адказывала. Скіндара я знала. Жонка Ядвінька ў яго была. Яны былі зьвязаныя з бандытамі. А бандыты гэтыя былі проста проці савецкай уласьці. На вайну не пайшлі, хаваліся. Усе былі добрыя, нармальныя людзі. Но былі процi савецкай уласьці. І ўсё. А ім нада было жыць. Дык людзі давалі. Ня будзеш сапраціўляцца, самі возьмуць. Гэтыя бандыты любілі магазыны сельскія абіраць. Наберуць адэкалонаў, коней адэкалонамі аблiюць. А тады ж былі людзі, якія налогі сабіралі. Фінагенты. Пярэймуць фінагента, грошы адберуць і Крывіцкі напіша запіску, што „ўзяў Крывіцкі“. Што фінагент не вінаваты. І іх не вінавацілі, фінагентаў, што грошы адабралі.



Генрык Канчанін

У размову ўступіў Генрык:

— Фінагентаў Крывіцкі не забіваў. Ён быў на вайне. А пасьля быў заўмагам. І нешта праваліў. І тады пайшоў да бандытаў.

Імя Крывіцкага, галавы банды, што спустошвала сельскія крамы ды рабавала фінагентаў, мае велікаспораўскія суразмоўцы не прыгадалі. Але як дзіўна і нязвыкла гучыць гэтае „добры бандыт“. Добрыя людзі, нармальныя людзі. Але ж у бандыты пайшлі. Такое адчуваньне, што мае суразмоўцы ня ведаюць, як называць гэтых „нармальных людзей“. Назваць іх партызанамі не рашаюцца. Бо гэтае слова жалезна прыкаванае да пэўнага вобразу. Таму і называюць іх так, як ім падказала прапаганда. Не забываючы дадаць азначэньне „харошы“. Зрэшты, той Крывіцкі сапраўды быў высака-

родным разбойнікам, калі клапаціўся пра алібі для абрабаваных фінагентаў.

Генрык працягвае:

— Каб спэцыяльна забіваць?... Такога не было. Іх ніхто не баяўся. Абыкнавенныя людзі, якія работалі на зямлі. І ўсё. А гэтага Ратко проста спасалі. Ён зь вёскі Крэўні. Там цэлая база была. Вобшчэм, тут очэнь усё было сьвязана зь людзьмі. І людзі гэтых бандытаў не баяліся. Свае людзі. І хто як мог памагаў ім выжываць. А тое, што вы чытаеце, — гэта ўзгляды са стараны савецкай уласьці.

Але зусім іншае ўспамінаецца Тарэсе Скіпар, якая ў той час жыла ў Новым Двары, кілямэтраў за 10 ад Спораў. Зь яе словаў Крывіцкі паўстае абсалютна ідэйным партызанам, мэтанакіраваным забойцам савецкіх службоўцаў і камуністаў.

— Красавец быў! Яшчэ да мяне карагодзіўся! Як сказалі, што гэта ён, дык я ўцякала па-страшнаму ад яго. Баялася. Яму абы якога камуніста застрэліць. Быў наваліўшыся на камуністаў, ня знаў, як іх унічтожыць, гэтых камуністаў. Ну дык я яго баялася, як невядома што. А перасякліся мы ў Труханках на свадзьбе. Там свадзьба была. І там ягоная цётка родная жыла. Ён у яе часта і хаваўся. І ён многа іх перастраляў, гэтых камуністаў. І нашто яму гэта было, дурню гэтаму? Багаты, красавец! Нашто табе было чапаць гэтае... Дурак. А тады яго паймалі. І застрэлілі тожа. Ён граматны быў,

і такі дурак. Нашто гэта было яму? Хоць і граматны, трэба маўчаць. Як іграюць, так і пляшы. Яму было недзе пад трыццаць. Як ён толькі да мяне закарагодзіўся, а мы ж знал, хто ён такі, мы тады з падругай ходу, чэраз балота, чэраз кусты. У провалаку ўчапіліся — так уцякалі. Мы яму там і ня нада. Ён ня гэтага. Ён там блукаў, каб камуніста ўбіць якога. Слава пра яго ішла! У магазыне камуніста забіў. Тады ж Рамбальскага забіў у Красках. Рамбальскі па мясу хадзіў. Начальнік па мясу і малаку. Штрафаваў, хто ня здаў. А патом Крывіцкага спаймалі. Казалі, што да матацыкла прывязалі жывога і ён так і забіўся, у Паставы вязьлі. А хто казаў, што расстралялі яго. Хто яго знаець, што тут праўда?

Сёньня, стоячы на цёмнай вясковай вуліцы, дзе ў туманнай цемры мігціць толькі пара вокнаў, цяжка ўявіць тую вёску канца саракавых гадоў. Шматлюдную, поўную дзіцячых галасоў вёску, дзе сьвеціцца кожнае вакно. Яшчэ цяжэй уявіць шматлікія хутары і засьценкі, якія былі параскіданыя па ўсёй былой Віленшчыне. Але ж далёка ня ўсім былі тут рады.

Напрыклад, кіраўніку смаргонскага райфінаддзелу Канстанціну Пяцко. Пазнаёміўся я зь ім дзякуючы бацьку журналіста Алега Грузьдзіловіча Анатолю Грузьдзіловічу. Спадары Анатоль і Канстанцін працавалі ў Маладачанскім абкаме перад самай ліквідацыяй сёмай вобласьці. Як толькі я сказаў у тэлефонную слухаўку, што мяне цікавіць былая

вобласьць, дык адразу атрымаў запрашэньне ў хату. Хоць здароўе ў 95-гадовага вэтэрана было ня лепшае для прыёму гасьцей. Гаварыў ён са мной, не ўстаючы з ложка. За ягонымі плячыма франты II сусьветнай вайны, баі на вуліцах Бэрліна. А пасьля фронту — іншы фронт, праца ў Маладачанскай вобласьці. Сам спадар Канстанцін родам з Усходняй Беларусі.

— Это были такие люди, как вам сказать… Там общество делилось на прогрессивное, у которых было сочуствие советской власти, и вторая часть — против советской власти. В основном там шла борьба между этими группами. И они выступали агрессивно. И в сорок пятом году было принято решение, чтобы специальные отряды внутренних войск заняли сплошную линию и проходили каждое селение, каждый дом, каждый кустик и проверяли. Приходили. „Оружие есть?“ — „Няма“. Начинают искать. „А это что?“ Могли и подбросить. И до холодных времён их всех загнали в Прибалтику и освободили территорию.

Калі такія пляны, па выцісканьні ўзброенага супраціву за межы Беларусі, сапраўды існавалі, многае становіцца зразумелым. У самай савецкай рэспубліцы не павінна было быць нават намёку на ўзброены супраціў. Партызаны ў рэспубліцы-партызанцы маглі быць толькі савецкімі. Любая антысавеччына мусіла альбо зьнікнуць за літоўскай ці польскай мяжой, альбо загінуць. Але ж тым плянам суджана было збыцца толькі

часткова. Ім удалося схаваць маштабы барацьбы, але „холодные времена“ зацягнуліся на беларускай Віленшчыне ажно да канца 1950-х.

— Опасные были люди. Особенно сопротивлялись коллективизации. Коллективизация шла очень сложно. Часть уехала в Польшу, часть осталась здесь. Последний, кто погиб — это работник госбезопасности. Похоронили его в сквере у Дома культуры. До конца 1950-х годов эти отряды поставили точку. Было ли тут страшно? Были правила перемещения госслужащих. Обязательное сопровождение двенадцати-пятнадцати человек, военнослужащих внутренних войск. Это для тех, кто из области приезжали. Люди штатные! Люди охранные! Тут рисковал каждый, кто приехал из-за Минска.

Тузін чалавек узброенай аховы. Перасоўваньне толькі днём. Гэта рабочая паездка любімых сталінскіх кіраўнікоў у вызваленыя рэгіёны Савецкай Беларусі ці гэта рымскія кантубэрніі ў мяцежнай Юдэі? Майму суразмоўцу, начальніку фінаддзелу, па штаце належаў толькі адзін ахоўнік.

Ад пачатку стварэньня Віленскай вобласьці, у 1939-м, яе цэнтар знаходзіўся, натуральна, у Вільні. А пасьля пераехаў у Вялейку. Нібы нейкая насьмешка. Віленская вобласьць стала Вялейскай. Але па вайне, у 1944-м, абласны цэнтар зь Вялейкі перанесьлі ў Маладэчна. Чаму менавіта ў Маладэчна, а ня ў больш, напрыклад,

старажытную Ашмяну, мне растлумачыў Канстанцін Пяцко:

— В сорок четвёртом году, исходя из административно-стратегических условий, поскольку эта область была сугубо индивидуально-товарная, промышленности тут не было, аграрная, хуторская область… Говорили, что мощный очаг был — это депо Молодечненской станции. Пролетарский состав! И вот было принято решение, в связи с тем, што главная опора — это пролетариат, перенести сюда областной центр. А Молодечно тогда — это деревня-матушка и одно депо мощное, пролетарское.

„Деревня-матушка“? Давайце вернемся на маладачанскія вуліцы, па якіх нас вядзе Міхал Залескі, і паслухаем, на якой мове гаворыць горад і пра што.

— Ніякай іншай мовы, акрамя беларускай, на вуліцах Маладэчна не гучала. На вуліцы Рэвалюцыйнай і ў цэнтральных крамах можна было пачуць расейскую мову. На іншых вуліцах расейскую ўжо не пачуеш. Прычым па-расейску ніхто і не спрабаваў гаварыць. Мой родзіч, які потым стаў генэралам расейскіх ВПС, прыехаўшы ў Маладэчна зь вёскі, зайшоў у кватэру да цёткі. І спытаўся: „Валечка. Я чуў, што вы туды серацe. А як вы гэта тут робіце?“ І паказаў на ванну. Ён замест дзьвярэй у прыбіральню адчыніў ванны пакой… Памятаю сваю сустрэчу з „русским миром“. Я трапіў у цэнтар Маладэчна. І там, на Рэвалюцыйнай, у двары

дзеці гулялі ў футбол. Чыгунка падзяляла той сьвет і гэты. Для дарослых гэта было ня так прыкметна, як для мяне. І вось я заходжу, чую, як адны дзеці гуляюць у футбол, а другія крычаць: „Унитаз — каманда первый класс!“ Я спытаў у цёткі Валі, што такое „унітаз“. Яна мне паказала. Але ж чаму так крычалі дзеці, я так і не дазнаўся. Толькі нядаўна з інтэрнэту даведаўся, што каманда „Унитас“ была чэмпіёнам Санкт-Пецярбурскай футбольнай лігі ў 1912 годзе. Гэта была дарэвалюцыйная сталічная каманда. І яе дэвізам быў „Унитас — каманда первый класс!“. І менавіта яе крычалі дзеці ў маладачанскім двары ў 1959 годзе. Нешта ішло з Польшчы, нешта зь Нямеччыны, нешта з Расеі. Усе прыўносілі сваё. Так будуецца цывілізацыя. Нацыянальная ў тым ліку. Яна будуецца пад уплывамі тых, хто ў нечым апярэдзіў. У нас не было каманды, якая б да рэвалюцыі пакінула свой дэвіз. Бо не было асяродзьдзя, дзе гэты дэвіз будзе жыць. Былі добрыя каманды, але не было нацыянальнай зьявы, якая б адбілася ў мове. А ў расейскай адбілася. І гэтыя ленінградзкія дзеці, якія жылі ў гэтых прыгожых сталінскіх дамах, яны гэты дэвіз ведалі. Мова пранікала і такім, культурным чынам. Ня толькі праз расейскую школу. Ну й тады Маладэчна стала Маладзечнам. Па схеме кацярынінскіх часоў. Бо ехала тут Кацярына, царыца-маладзіца…

У маладачанскай раёнцы я і сапраўды знайшоў гэтую кацярынінскую вэрсію. Ехала, значыцца, аднойчы імпэратрыца па новадалучаных землях. Больш рабіць ёй не было чаго. Сустрэла на дарозе маладую беларуску і кажа ёй (прычым чалавечым голасам і на чыстай беларускай мове): „Радуйся, красна маладзіца, хачу з табой параіцца! Так мне на душы хораша, што хачу спытаць, чаму?“ Што адказала царыцы беларуска, легенда пра тое маўчыць. Напэўна, адурэла ад такой выпадковай сустрэчы і мову заняло. Але ж з таго глыбокага пытаньня зьявіліся на мапе і Радашкавічы, і Краснае, і Раёўка, і, вядома, Маладэчна.

Але ў колішняй абласной газэце такія „царскія“ экскурсы яшчэ не друкаваліся. Газэта жыла сучаснасьцю. Выхоўвала і настаўляла. Прышчапляла правільныя кулінарныя густы. Ну як беларус можа пражыць без акрошкі? Культывавала ў Заходняй Беларусі так званы „рускі хакей“, гэта значыць хакей зь мячом. Лядовыя баталіі ішлі паміж Маладэчнам і Ашмяной. А яшчэ па транспартных навінах добра відаць, наколькі адарваныя былі гэтыя гарады адзін ад аднаго. Сёньня ў Варшаву, здаецца, лягчэй трапіць, чым тады ў Ашмяну.

**„У выхадны дзень я пайшоў у лазню Маладзечанскага горкомгаса. Адчыніўшы дзверы раздзявальнага пакою, я ўбачыў, што ўсе лаўкі і падаконнікі завалены вопраткай. Каля кожнай скрынкі шафы стаяла шмат людзей.**

Вызвалілася скрынка — прышлося чакаць нямала, пакуль атрымаў таз. Але і пасля гэтага зручнасці было мала. У лазні толькі адзін кран з гарачай вадой. Калі ж будзе наведзен парадак у гарадской лазні".

„У летні час паяўляецца вялікая патрэбнасць да халоднага блюда — акрошкі. Але з чаго яе прыгатаваць, калі ў Маладзечне з самай вясны няма ў продажы хлебнага квасу.

Дырэктар Міжрайгандлю тав. Левін, відавочна, лічыць дробязным пытаннем вытворчасць гэтага злюбленнага ўсімі напітка".

„Казалася, што чыстая перамога застаецца за маладзечанцамі. У гэтым былі глыбока ўпэўнены і самі хакеісты Маладзечна. Гэта іх і пагубіла. Яны аслабілі ігру і пілнасць, чым скарыстаўся левы край ашмянцаў".

„Адкрыта аўтобусная лінія Маладзечна — Ашмяны.

АЎТОБУС АДПРАЎЛЯЕЦЦА з Маладзечна ў 9 г. раніцы, з Ашмян у 15.30.

Аўтобус курсіруе па ПАНЯДЗЕЛКАХ, ЧАЦВЕРГАХ І СУБОТАХ.

Цана праезда — 25 капеек за кіламетр.

Адкрыта таксама аўтобусная лінія МАЛАДЗЕЧНА — РАДАШКОВІЧЫ (штодзённы, тры рэйсы па раскладу)".

„10 чэрвеня г.г., будучы ў Маладзечна, мы зайшлі ў сталовую №1 і папрасілі піва. Нам падалі напітак вельмі дрэннай якасці, піць

**мы яго адмовіліся. Другія наведвальнікі зрабілі так жа.**

**Прызнацца, мы не меркавалі, што ў абласным цэнтры гандлююць такім «півам»“.**

Сапраўды, ня простыя савецкія людзі жылі ў Маладэчне, раз рабілі байкот прадукцыі піўзавода ў сорак дзявятым годзе. Але ж піва падавалі ня толькі ў сталовай. Міхал Залескі памятае самую папулярную піўную каля рынку і размовы, якія там вяліся.

— На колішняй вуліцы Губэрнатарскай, потым Рэвалюцыйнай, а сёньня Прытыцкага, была піўнуха. І каля піўнухі драўляны ганак. І той ганак быў зь дзіркамі. І вось інваліды, вэтэраны Вялікай Айчыннай вайны з усіх трох бакоў, зьбіраліся там і п’яныя гублялі капейкі, якія падалі ў тыя шчыліны. А мы, малыя, залазілі пад гэны ганак і зьбіралі сабе грошы на кіно і на марожанае. І ўжо ішлі ў „Камсамолец“ ці ў „Радзіму“ глядзець кіно. І чулі ўсе размовы гэтых людзей дзіцячым вухам. А размовы былі кепскія. Размовы былі пра парашутыстаў, пра эмгэбістаў, якія там непадалёку сядзелі. У іх абласны аддзел там быў. Пра тое, што ў вёсках робіцца. Бо, перш чым лаха абабраць і выцягнуць у яго грошы за прададзенае парася, зь ім вялі далікатныя гутаркі. На горцы быў рынак. І з таго рынку людзі ішлі ў бок вакзала. І некаторыя бедакі траплялі ў абарот. Стане селянін піўка папіць. А тут яму далікатны чалавечак з адной нагой пачынае „ўціраць“. „Ну што, дзя-

дзька? Забралі ў цябе каня? Як ты цяпер выкручваесься?“ — „Ды вось жывём жа ж неяк“. А тым часам другі яму ў кішэню. „Ну давай мы табе піўка праставім“. Ну а для селяніна гэта радасьць! Ён куфаль вып’е і, каб не прастаўляцца ў адказ, гаворыць: „Ну ўсё, хлопцы. Я пабег“. — „Ну бяжы, бяжы“. Уся гэтая публіка жыла ў прытонах на вуліцы Сухой. За чыгункай была такая вуліца Сухая. Гразі па калена. І там, у дарэвалюцыйных дамках зь землянымі падлогамі на кухнях і з дошкамі, кінутымі на гліну, у парадных пакоях, жылі мае сябры і родзічы.

Да прыходу бальшавікоў страшныя ў БССР гады — 1929-ы, 1933-і, 1937-ы — для жыхароў былой Віленшчыны былі звычайнымі гадамі мірнага жыцьця. Польскія ўлады, праўда, перасьледавалі беларускіх актывістаў і ўвесь беларускі нацыянальны рух, але ўсеагульную прышчэпку страху перад уладай бальшавікоў тут пачалі атрымліваць толькі ў 1939-м. І далёка ня ўсе зразумелі, што за народная ўлада прыйшла. Абласная „Сялянская газета“ па вайне праводзіла своеасаблівы палітычны лікбез для новых грамадзян самай шчасьлівай краіны. Працытую ўрывак зь вялізнага, на дзьве паласы, артыкулу „Барацьба партыі большэвікоў супраць беларускіх нацыяналістаў — злейшых ворагаў беларускага народа“.

**„Нацыяналісты праводзілі шкодніцтва і ўсяляк імкнуліся скампраметаваць у вачах працоўных калгасы і новую тэхніку. Яны**

**рэкамендавалі шкодніцкія севазвароты, ігнаравалі травасеянне, знішчалі жывёлу і г.д. Выкрыты і пасаджаны на лаву падсудных нацыяналіст, польскі шпіён Шаранговіч паказаў Вярхоўнаму Суду Саюза ССР, што ён і яго хэўра рабіла ўсё ад іх залежачае, каб не дапусціць перамогі калгаснага ладу“.**

Такім чынам жыхароў беларускага Захаду знаёмілі з тымі прозьвішчамі, якія на Ўсходзе даўно былі выкрасьленыя з усіх падручнікаў і аддадзеныя анафэме. Шаранговіч, Чарвякоў, Прышчэпаў. Але аднымі газэтнымі страшылкамі справу калектывізацыі ня вельмі пасунеш. Прыходзілася дзейнічаць больш наглядна. Успамінае былы работнік Маладачанскага абкаму Анатоль Грузьдзіловіч.

— Калектывізацыя ў Заходняй Беларусі ішла вельмі павольна. Асноўная работа бальшавікоў скончылася ў 1950 годзе. Я родам з Шаркоўшчынскага раёну. Бедны раён. Гліна і балота. Мужыкі жылі небагата, але ж не галадалі. Ад 1945-га па 1950-ы спрабавалі арганізоўваць калхозы, але арганізавалі зь пяток усяго. Астатнія — сходы да раніцы, ніхто не падпісвае і прадстаўнікі з раёну зьяжджаюць ні з чым. У нашай вёсцы, Пашкі, сходы ішлі ад 1947 году. Але ў 1950-м здаліся. Але для гэтага, каб нашы здаліся… У вёсцы багатыроў не было. Але былі гаспадары, хто меў 10, 15 гектараў. І быў такі Ўладзімер Кліманскі. Нармальны мужык, 1903 году нараджэньня. Меў сына і дачку. Было

ў яго 15 гектараў зямлі. Дык ён часта хварэў і прыходзілася наймаць людзей. І вось да яго прысталі — карыстаўся чужой працай, кепска плаціў. І ў сакавіку 1950-га ўсю сям'ю прызналі кулакамі і вывезьлі ў Сібір. І майго бацьку пужалі. У яго было 12 гектараў. Але ж ніхто зь вяскоўцаў не данёс, што мы кагосьці наймалі. І вось дом Кліманскага нацыяналізавалі і сходы ўжо праводзілі там. Ідзеш у ягоны дом і знаеш, што такое можа быць і з тваім домам. Вось тады, вясною, у былым доме Кліманскага падпісаліся за калхоз усе!

З гісторыяй Анатоля Грузьдзіловіча перагукаецца і гісторыя нашага героя, Язэпа Скіндара. Ня толькі высылкай, але і рабаваньнем дома. Вось прысуд людзям у справе „вооружённой грабительской террористической банды, возглавляемой Кривицким". Людзям, якія нікога не забілі, нічога ня скралі. Толькі дапамагалі.

**„Скиндера Иосифа Станиславовича и Липницкую Евгению Семёновну на основании санкции ст. 24-80 УК БССР, с учётом указа от 26 мая 1947 года «Об отмене смертной казни» лишить свободы с отбытием в исправительно-трудовых лагерях сроком на двадцать пять лет каждого, с последующим поражением в избирательных правах каждого на пять лет с конфискацией имущества, принадлежащего на долю осуждённых.**

**Куликовскую Клавдию Семёновну, Куликовского Бориса Адольфовича, Жеховскую**

**Татьяну Павловну и Божечко Антонину Людвиговну на основании санкции ст. 24-80 УК БССР лишить свободы с отбытием в исправительно-трудовых лагерях сроком:**

**Куликовскую Клавдию на десять лет, Жеховскую Татьяну на десять лет, Куликовского Бориса на восемь лет, Божечко Антонину на шесть лет, с последующим поражением в избирательных правах каждого на пять лет, с конфискацией доли имущества, принадлежащего осуждённым.**

**Липницкого Семёна Васильевича на основании санкции ст. 86 УК БССР лишить свободы сроком на один год“.**

Найбольшы гуманізм быў праяўлены да 66-гадовага Ліпніцкага. А ўдзел немаладой Антаніны Бажэчкі ў савецкім партызанскім руху дапамог ёй ня вельмі. Са словаў старой Натальлі, ніхто з гэтых людзей назад не вярнуўся. Яшчэ ад доктаркі Бажэчкі, якая бясплатна лячыла ўсіх дзяцей, застаўся вопіс маёмасьці, якую канфіскавалі ўлады, дзе Антаніна чамусьці напісаная праз мужчынскі род.

**„Опись имущества произведена у осуждённого Божечко Антонины Людвиговны**

**1. мягкий стул — три б/у**
**2. мягкое кресло — одно б/у**
**3. диван мягкий — один б/у**
**4. кушетка мягкая — одна б/у**
**5. гордероб — один б/у**
**6. часы тумбовые — одни б/у**

**7. стол раздвижной круглый — один б/у**
**8. стол простой — один б/у**
**9. шкаф со стеклянной дверью — один б/у**
**10. буфет старый — один б/у**
**11. подсвечники бронзовые — трёх лет б/у**
**12. подсвечники гипсовые — два б/у**
**13. зеркало стенное круглое — одно б/у**
**14. картины — три б/у**
**15. ламповые подставки — две б/у**
**16. шторы шерстяные — две б/у**
**17. скатерть белого цвета — две б/у**
**18. гардины — одна б/у**
**19. матрац ватный — один б/у**
**20. прялка — одна б/у**
**21. платье шёлковое старое — одно б/у**
**22. жакет шерстяной старый — один б/у**
**23. заготовка к ботинкам — одна пара**
**24. зонт старый — один б/у**
**25. ковёр старый — один б/у**
**26. скатерть шерстяная — одна б/у**

**Все имущество находится в опечатанном виде в помещении Божечко А.Л.“**

Якой невыноснай тугой цягне ад гэтага дакумэнта, напісанага такім каравым почыркам, што не адразу разьбярэш, што апісвае таварыш з МГБ. Асабліва парадавала ацэнка трох карцін. У мяне таксама ёсьць тры карціны. І яшчэ якія б/у! Цікава, каму ж дастаўся такі скарб? Як яго дзялілі? Чый кабінэт асьвяцілі канфіскаваныя бронзавыя кандэлябры? Мо старшыні сельсавету? Чыёй жонцы пашанцавала з шаўковай

сукенкай і жакетам шарсьцяным? Можа, якога інструктара райкаму партыі? Ці палкоўніка МГБ? І хто глядзеўся штодня ў люстэрка насыценнае круглае? Можа, сам старшыня аблсуду таварыш Трунін? Адно можна сказаць пэўна. Гэтыя рэчы не прапалі дарэмна. І ў люстэрка пераможцам глядзець было ня брыдка.

# „Эх, шкада, дзядуля Напалеон нас ня чуець“

*Мацуты, Пастаўскі раён*

1949 год быў у Заходняй Беларусі асаблівы. На яго прыпалі 10-я ўгодкі так званага вызвольнага паходу Чырвонай Арміі. І не было ніводнага нумару абласной „Сялянскай газеты“, дзе б не апявалася дата 17-га верасьня.

**„Раней бывала, часта сыны Андрушка або Міша прасілі жонку: — Мама, дай кавалак хлеба.**

**Яна адказвала, што хлеба ўжо няма, і сэрца яе аблівалася крывёй.**

**А цяпер у доме і хлеб, і да хлеба ёсць. Толькі авансам прывёз я сёлета 41 пуд збожжа, ды прывязу яшчэ столькі.**

**Хутка пераеду ў новы дом. У старым ужо неяк нялоўка жыць“.**

**„Да 1939 года сям'я майго бацькі, сем'і Бенедзікта Лашука, Аляксандра Цёплага і многіх другіх сялян вёскі Чарнята, якія мелі маленькія надзелы, заўсёды жылі ўпрогаладзь. Савецкая ўлада дала нам зямлю, аб якой вякамі марылі нашы бацькі і дзяды. Жыць стала лепш.**

**Наш калгас арганізаваўся напярэдадні 70-годдзя таварыша Сталіна, і на агульным**

сходзе мы адзінадушна рашылі прысвоіць арцелі гэтае дарагое імя. З імем правадыра мы пойдзем уперад да заможнага і культурнага жыцця“.

„Аб Вілейшчыне сённяшняга дня нельга пісаць без захаплення:

Сёння сагрэта ты сталінскай ласкай
Крочыш па светламу, новаму шляху.
Вышла абдзёртай ты, беднай,
жабрацкай.
Стала заможнай, культурнай, багатай.

Многа добрых вершаў аб новай калгаснай вёсцы напісаў Нікалай Астаневіч (вёска Андроны Пастаўскага раёна). Яны прасякнуты адной выразнай думкай: людзі, якія пралівалі за плугам сем патоў, толькі цяпер, з прыходам савецкай улады, сталі сапраўднымі гаспадарамі зямлі. Явай стала калісьці незбыткоўная мара беларускіх сялян аб машыннай апрацоўцы глебы: на палі прыйшоў „сталёвы конь“ — магутны трактар. Вось яна, наша калгасная навіна:

Ледзь народзіцца восеньскі ранак
І раса на траве заблішчыць,
На машыну садзіцца Святлана,
Едзе глебу у поле лушчыць.

Вось першыя вершы Івана Занковіча. Ён прысвячае іх сваёй роднай Вілейшчыне.

**Аўтар гаворыць аб тых вялікіх соцыяльных пераменах, што адбыліся ў яго роднай старане пасля незабыўнай восені 1939 года.**

**Сёння дзесятая ўжо гадавіна,**

**Як мы не ведаем гора з бядой“, — ўсклікае І. Занковіч“.**

Цікава, Іван Занковіч сам зразумеў, што ён напісаў? Дзесяць гадоў людзі ня ведаюць гора зь бядой? Уключна з трыма гадамі нацысцкай акупацыі? І як гэтую крамолу прапусьціў цэнзар? Але, як бы ні шчыравала „Сялянская газета“ ўдаваць сталінскую радасьць, самым папулярным артыкулам Крымінальнага кодэксу, паводле якога Маладачанскі суд выносіў прысуды і ў 1949-м, і ў 1950 годзе, быў артыкул нумар 80. Вось ён.

**„80. Бандитизм, то есть организация вооружённых банд и участие в них и в организуемых ими нападениях на советские и частные учреждения или отдельных граждан, остановка поездов и разрушение железнодорожных путей и иных средств сообщения и связи влечёт — лишение свободы на срок не ниже трёх лет с конфискацией части или всего имущества, с повышением в особо отягчающих обстоятельствах вплоть до высшей меры социальной защиты — расстрела с конфискацией имущества».**

У лютым 1950-га выязная сэсія суду ў Вялейцы асудзіла па гэтым арытыкуле тузін чалавек. Усе асуджаныя — маладыя людзі ад 20 да

23 гадоў: Місьнік Генрых Пятровіч, Лоўкіс Леанід Валяр'янавіч, Місьнік Вітольд Пятровіч, Лоўкіс Казімір Люцыянавіч, Казёл Іван Іванавіч, Пяткевіч Часлаў Станіслававіч, Місьнік Іосіф Ігнатавіч, Скіпар Лангіна Зафіраўна, Казёл Соф'я Іванаўна, Казёл Браніслава Міхайлаўна, Папелік Валеры Ўсьцінавіч. Усе зь сялян-серадьнякоў, беспартыйныя, халастыя, малапісьменныя. Усе палякі. Узростам і біяграфіяй вылучаецца толькі Ёсіф Місьнік. Народжаны ў 1922-м, ён пасьпеў паваяваць у Арміі Людовай. Нават быў узнагароджаны двума польскімі мэдалямі і савецкім мэдалём „За Победу над Германией“.

А якія цудоўныя імёны ў гэтых людзей. Генрых, Вітольд, Браніслава. Зрэшты, у кіраўніка гэтай групы таксама імя гучнае.

**„Установлено: Козел Иван, будучи призванным в школу ФЗО, через Поставский РВК, уклонился от мобилизации, после чего перешел на нелегальное положение, и в ноябре 1948 г. вступил в вооружённую грабительскую банду Струк Альфонса, а в декабре 1949 г. вовлек в банду Мисника Генриха, Ловкиса Леонида, Мисника Витольда и Ловкиса Казимира. И в составе указанной банды производили ограбления магазинов-сельпо, государственных учреждений и советских граждан“.**

Альфонс Струк. З такім імем трэба насіць гарнітуры ад Гуга Боса і чаравікі-нарыманы. Рабаваць гарадзенскія ювэлірныя крамы альбо

віленскія банкі. Пасьля чаго выпіваць марціні б'янка пад танга Оскара Строка. Але ж замест гэтага Альфонсу Струку, пэўна, прыходзілася насіць кірзачы, бамбіць вясковыя крамы сельпо і адзначаць удалую справу казённай водкай.

Імя Генрых я, савецкі школьнік, упершыню пачуў у фільме „Шчыт і меч". Асабліва запомнілася сцэна сустрэчы дзядзькі, афіцэра СС, якога граў Альгімантас Масюліс, са сваім пляменьнікам, героем Алега Янкоўскага. „Генрих, мой мальчик", — абдымаў сваяка добры штандартэнфюрэр. Як гэта гучала кранальна і па-нямецку. Мне, савецкаму школьніку, было няўцям, што і Генрых, і Адольф, і Вільгельм, і Рычард — самыя звычайныя імёны Заходняй Беларусі. Але нават яны, самі імёны, супрацiўляліся як маглі.

**„На гэтым здымку паказана сям'я калгасніка сельскагаспадарчай арцелі імя Сталіна, Пагосцкага сельсавета, Крывіцкага раёна, Іосіфа Напалеонавіча Жураўскага. Кожны член сям'і мае незвычайны музыкальны слух. Сам Іосіф Напалеонавіч выдатна іграе на скрыпцы, сын Генрых на баяне, дачка Адэля на цымбалах.**

**У часы адпачынку бацьку і дзяцей можна застаць за развучваннем новых музыкальных твораў. Апрача беларускіх нацыянальных песень і танцаў яны выконваюць немала народных рускіх песень, твораў совецкіх кампазітараў. Нядаўна яны развучылі новыя песні:**



*На гэтым здымку паказана сям'я калгасніка сельскагаспадарчай арцелі імя Сталіна. Пагосцкага сельсовета, Крывіцкага раёна, Іосіфа Напалеонавіча Журайскага. Кожны член сям'і мае незвычайны музыкальны слух. Сам Іосіф Напалеонавіч выдатна іграе на скрыпцы, сын Генрых — на баяне, дачка Адэля — на цымбалах.*

*У часы адпачынку бацьку і дзяцей можна застаць за развучваннем новых музыкальных твораў. Апрача беларускіх нацыянальных песень і танцаў яны выконваюць нямала народных рускіх песень, твораў савецкіх кампазітараў. Нядаўна яны развучылі новыя песні: «Аб Сталіне», «Калгасную песню аб Маскве», «Мы беларусы». Песні гэтыя ў іх выкананні гучаць радасна і натхнёна, адлюстроўваючы лепшыя пачуцці беларускага народа — любоў да вялікага Сталіна, да роднай і любімай Масквы, якія ўказалі беларускаму народу шлях да шчасця, да заможнага і культурнага калгаснага жыцця.*

Фото А. КОЖЫНА.

**«Аб Сталіне», «Калгасную песню аб Маскве», «Мы беларусы». Песні гэтыя ў іх выкананні гучаць радасна і натхнёна, адлюстроўваючы лепшыя пачуцці беларускага народа — любоў да вялікага Сталіна, да роднай і любімай Масквы, якія ўказалі беларускаму народу шлях**

**да шчасця, да заможнага і культурнага калгаснага жыцця“.**

Цяжка ўявіць, каб Ёсіф Напалеонавіч казаў свайму сыну: „Генрых, мой хлопчык. Вазьмі ж ты баян. Давай запяем нашу любімую, «Калгасную песьню аб Маскве». Эх, шкада, дзядуля Напалеон нас ня чуець“.

Але ж ня трэба быць вельмі назіральным, каб заўважыць такую дэталь жыцьця Заходняй Беларусі. Езьдзячы па колішняй Віленшчыне, я часта сустракаў і Мальвінаў, і Гертрудаў, і Вільгельмаў з Рычардамі. Ня ўсе яны былі палякамі, але ўсе яны былі рыма-каталікамі, народжанымі да 1939-га. Па вайне карціна рэзка зьмянілася. Людзі, народжаныя ў 1950-я, а пагатоў у 1960-я гады, усе называліся па-савецку. Колькі ў маёй школе было Сярожаў, Сашаў, Наташаў і Таняў! Дзімам я быў адзін на клясу. Пра імклівае зьнікненьне спрадвечных, па сьвятцах дадзеных імёнаў мне расказаў ураджэнец вёскі Завараты, глыбоцкі журналіст Зьміцер Лупач.

— „Нярускія“ імёны пачалі зьнікаць з паступовым наступам расейскай мовы. Людзі пачыналі саромецца сваіх імёнаў, калі ехалі ў горад на працу. Я памятаю, быў такі Людгард, які стаў Лёнем. Потым ведаю чалавека па імені Фларыян, а ў горадзе ён назваўся Федзем! Яніна сталася Нінай. У нашай вёсцы жанчыну бацькі назвалі Ядзяй. Але яна лічыла, што гэта дужа па-калхознаму, і перапісалася Надзяй. Хоць, у вёсцы, калі прыяжджала, усё роўна яе звалі

Ядзяй. Адна Валерыя стала Валяй. А быў чалавек, якога ў юнацтве забралі ў Нямеччыну на работы. І калі немцы пачалі плаціць былым остарбайтэрам грошы, яму прыйшлося шукаць пяць сьведак у вёсцы, каб даказаць сваё імя. Бо ён быў Геранімам, а як паехаў у Менск, перапісаўся Грыгорыем. Дзякуй Богу, тады яшчэ знайшліся жывыя людзі, якія памяталі яго як Гераніма. Неяк да нас у школу прыслалі настаўніцу з Магілёўшчыны. Дык яна ўсё дзівілася: „Якія ў вас сьмешныя імёны! Марцэля, Адэля, Мальвіна...“

Мацуты — гэта зусім маленечкая вёска па дарозе з Пастаў на Камаі. Жылых хатаў засталося каля дзясятка. Тут дажываюць свой век жанчыны, якія ў Мацуты выйшлі замуж зь іншых вёсак. Ні пра якога Альфонса яны, вядома, ня чулі. Але на адным з панадворкаў я заўважыў мужчыну, які сек дровы. На выгляд яўна за 60, але ж які маладжавы і бадзёры! Сапраўды, узрост не залежыць ад лічбы ў пашпарце.

Фэліксу Місьніку, як высьветлілася, 82 гады. Свой маладжавы выгляд ён патлумачыў адсутнасьцю сям’і. Стары кавалер так эмацыйна аспрэчыў сваё сваяцтва зь Місьнікам Генрыхам і Місьнікам Вітольдам, што я адчуў сябе нейкім сьледчым з МГБ. Патыхнула 1949 годам.

**„17 февраля 1949 года Козел Иван, Мисник Генрих, Ловкис Леонид, Мисник Витольд и Ловкис Казимир совершили вооружённое ограбление магазина-сельпо в дер. Оцковичи,**



Фэлікс Місьнік

**где забрали различных товаров на сумму 24329 рублей 80 копеек, разгромив Оцковский сельсовет“.**

Фэлікс Місьнік ласкава запрасіў мяне ў хату.

— Ды нічым яны палітычным не займаліся. Некаторыя проста хаваліся, некаторыя магазіны грабілі. Генрыха ўжо даўно няма. Ён пасьля лягеру ў Віцебску застаўся жыць. Сюды не вярнуўся. Бацькі памёршы, хацёнка малая. У той хаце, у Місьніка, сабраліся неяк хлопцы. І быў там Бужынскі такі. І раптам прыехаў участковы. Хацеў таго Бужынскага ўзяць. Ці ён каго прыстрэліўшы быў, ня знаю. І хацеў участковы яго ўзяць, а Бужынскі крэпкаваты быў мужык. Таму ўчастковаму даў па галаве, адабраў пісталет. І з гэтым пісталетам у Гадуцішкі, а потым у Латвію ўцёк. І так яго болей ніхто ня відзеў. Ягоны хутар быў за вёскай.

Во якія тут, аказваецца, былі баталіі пасьля вайны. Але ж ад вачэй савецкіх сьледчых нічога не схаваеш. Нават вось такое злачынства:

**„В начале июля 1949 года Ловкис Леонид, Мисник Генрих и Ловкис Казимир совершили ограбление гражданина Петкевич на хуторе Буцевичи, где, разорив 2 семьи пчёл, забрали с собой мёд“.**

— У нас тут у асноўным жывуць Місьнікі і Казлы. Ня Козел, а Казёл. Казёл — гэта фамілія. Гэта ня лаянка.

Напраўду, русыфікацыя прыйшла ня столькі ў выглядзе вершаў Аляксандра Пушкіна і прозы Льва Талстоя. Ня толькі зь бясконцых савецкіх песень пра Сталіна, што круцілі па радыё ўвесь дзень. Але таксама ў выглядзе новых моўных нормаў, якія панавалі ў савецкіх турмах. Ад чаго нэўтральнае слова „казёл“ альбо звычайнае прозьвішча Казёл раптам у новай рэальнасьці траціла свой нэўтральны сэнс. Такое прозьвішча ў савецкай краіне мець было нельга ні ў якім разе. Таму што „казёл“, згодна з турэмным кодэксам, гэта вязень, які адкрыта супрацоўнічае з адміністрацыяй. Лішне казаць, што слова гэтае — сур’ёзная абраза. Вось так звычайныя беларускія Казлы станавіліся савецкімі Козеламі.

**„Скипор Лонгина, Козел Софья и Козел Бронислава в декабре 1948 г. установили преступную связь с вышеуказанной грабительской бандой Струк, присутствовали на сбо-**

**рищах бандитов, где обсуждались вопросы о предстоящих ограблениях магазинов-сельпо, однако органы Советской власти об этом до сведения не доводили, укрывали бандитов в своих домах. Снабжали бандитов продуктами питания и участвовали с ними в распитии самогона и других спиртных напитков. Принимали от бандитов в счет вознаграждения за услуги награбленные ими товары“.**

— Гэта сёстры былі зь імі зьвязаўшыся. Дружылі, страчаліся. Танцы! Калі прыяжджала міліцыя, тады яны ўбягалі. Праз вокны. Міліцыя была акружыўшы. Цяпер жа ў клуб зьбіраюцца. А ў то ўрэмя ў хатах. Дзе большая хата, там і сабіраліся. У тое ўрэмя ў МГБ начальнік Мядзьведзеў быў. Іх усіх забралі. А сёстры тыя... у Магадане аказаліся зьвезеныя. Яны больш сюды не паявіліся. Браніслава там замуж выйшла і да сьмерці там жыла. Можа, і цяпер дзеці там жывуць. Прыяжджала яна, помню, раз. У госьці з Магадана. Жыла, казала, няплоха там. Холадна тока.

Асноўным заняткам людзей, якія па вайне праходзілі паводле 80-га „бандыцкага“ артыкулу, было рабаваньне крамаў. Здавалася б, навошта хаваць і маральна падтрымліваць гэтых рабаўнікоў? Але ж і хавалі, і падтрымлівалі многія людзі, ня толькі сваякі і ня толькі за грошы. Найлепшае тлумачэньне гэтым паводзінам дала старая Ядзьвіга зь вёскі Слабодка.

— Калі да мяне прыйдзе сусед і ўкрадзе ад мяне што, значы, яму грэх, па-нашаму. Грэх! Нада да нашага ксяндза ісьці спавядацца. А есьлі пойдзеш во ў магазын, украдзеш у магазыне — грэху няма! Грэху няма, бо гэта нашае!

Лёгіка простая. Нешта скрасьці можна ў гаспадара. Але дзяржаўная крама, як і ўсё, што ёсьць дзяржаўнае — гэта не гаспадар. У дзяржавы няма аблічча. Дзяржава ўвасобілася ў выглядзе чыноўніка зь сельсавету, афіцэра МГБ з райцэнтру, фінагента зь мястэчка. Дзяржава — гэта стоаблічная пачвара, ад якой ня варта чакаць дапамогі. Але толькі рабаваньня. Гэта чужая варожая ўлада. Таму кожная абрабаваная крама — маленькі подзьвіг, акт адноўленай справядлівасьці.

Фэлікс Місьнік расказаў мне, што той галава банды Альфонс Струк загінуў зусім недалёка ад хаты, дзе мы гутарым. На бязьлюднай, зарослай вуліцы, якая за домам Місьніка пераходзіць у палявую дарогу, цяжка ўяўляецца бой з выкарыстаньнем гранатаў.

— Яго тут убілі, дзе хата была. У Ядзі Урбан. Яны там начавалі. І раніцай МГБ прыехала. Яна іх у хату не пусьціла. Яны начали страляць у хату. Тыя з хаты страляць начали. Кінулі гранату, граната не ўзарвалася. І тыя кінулі гранату. І іхная не ўзарвалася. Тады праз вакно ўцякалі. Каля нашай хаты. Я быў малы. Мае браты былі старэйшыя. Але зь імі нікай сьвязі ня мелі! І аднаго каля нашай хаты застрэлілі.

А другі ўцёк аж туды і адстрэльваўся. І, здаецца, уцёк ад іх. А потым прыйшлі да нас. Сказалі бацьку запрагаць каня. Кінулі труп у воз і павезьлі яго аж у Паставы. І братоў маіх таксама забралі. Але, як непрычасныя былі, назаўтра адпусьцілі. А я застаўся адзін пацан у хаце. Братоў там дапрасілі, і ўсё. Але ўсю адзежу забралі. Можа, на эксьперцізу? Усё ў воз пакідалі і павязьлі.

Не вярнуць асабістых рэчаў людзям, якія праходзяць як сьведкі? Вось адкуль ідзе традыцыя. Але, дзякуй Богу, выпусьцілі жывымі. А вёска Мацуты фігуруе ў яшчэ адной крымінальнай справе. Справе, дзе зьяўляецца тая самая Ядзя Урбан, каля хаты якой застрэлілі Альфонса.

**„Урбан Ядвига Ивановна, проживая в дер. Мацуты и Спраговская Ванда Устиновна, проживая в дер. Видлы, Поставского р-на осенью 1948 установили преступную связь с участниками вооружённой грабительской банды, возглавляемой в начале Кривицким Владимиром, а в последствии Струк Альфонсом (оба убиты в ликвидации банды), которым оказывали активное содействие в преступной деятельности, представляли бандитам свои дома для укрытия, снабжали бандитов продуктами питания, вместе с бандитами участвовали в выпивках.**

**Кроме того Урбан неоднократно присутствовала на бандитских сборищах и в до-**

**статочной степени была осведомлена о всех намеченных преступных замыслах бандитов. В порядке вознагрождения получала от бандитов награбленное ими в магазинах сельпо товары, как то мануфактуру, платок и чулки, а Спраговская угощала бандитов водкой“.**

Ізноў зьяўляецца той высакародны Крывіцкі. Але гэтым разам пратакол адкрывае імя. Уладзімер. Значыць, наш герой-франтавік дажыў толькі да 1949 году. Фэлікс Місьнік працягвае:

— Утрам, часоў у шэсьць ці пяць, чуем у хаце — страляніна! Што гэта? Вайна ж кончылася. А гэта яны іх выстрашвалі з хаты. Ядзя была ўдава. У яе была дачка, разам са мной у школу хадзіла. Маці пасадзілі, а дачка тут засталася. Жыла ў радні, здаецца. У Споры мы хадзілі ў школу, далёка. А патом дачка выехала ў Польшчы.

Ядзьвізе Урбан прысудзілі пятнаццаць гадоў лягераў паводле 24-га артыкулу. Што ж гэта за 24-ы артыкул, праз які трыццацігадовую кабету разлучылі з дачкой і адправілі на 15 гадоў у лягер?

**„24. Участниками преступления, кроме исполнителей, могут быть: а) подстрекатели, то есть лица, склоняющие других к преступлению; б) пособники, то есть лица, содействующие выполнению преступления советами, устранением препятствий, предоставлением орудий или средств, сокрытием преступника или следов преступления“.**

Мне закарцела ўбачыць гэты дом. Дзе жыла Ядзьвіга Урбан, дзе адбылася перастрэлка і дзе забілі таго загадкавага Альфонса. Але...

— Дзе ён стаіць? У пяцьдзясят трэцім гаду, як была бура, я яшчэ кароў пасьціў, як хваціла крышу, дык на мэтраў сто пяцьдзясят адкінула ад іхнай хаты. І я ня знаю, дзе яе дзелі, гэту хату. Ядзю пасадзілі, дачка тожа ня знаю, дзе яна была. І гэту хату на дровы разабралі. Там толькі зруб застаўся. Такі ўраган быў у пяцьдзясят трэцім гаду, летам. Многія гумны паваліў.

Ад дома Ядзьвігі Урбан не засталося і сьледу. Але засталося пытаньне — хто яны былі, усе гэтыя людзі? Банальныя зладзеі ці пратэстоўцы?

— Яны не паліціканты. Вясковыя хлопцы. Якая паліціка ў тое ўрэмя? Проста не пайшлі ў армію. А тады началі іх лавіць. А ім жа трэба жыць, трэба піць. Раскош-маладзёж. Не паліціканты.

Якое смачнае і дакладнае слова. Яны былі не палітыкамі, не актывістамі. А менавіта палітыкантамі. Дылетантамі, але ўсё ж палітычнымі. Бо дэзэртырамі яны не былі дакладна. Прысягі ж не прымалі. І прысягаць уладзе, якая адразу пачала забіраць апошняе, не хацелі. І выжываць без прысабечваньня казённага дабра не маглі. І кожны іх крок, ад хаваньня ў лесе да рабаваньня „несваёй“ крамы, быў палітыканцкім.

Люблю ў сваёй справе нечаканыя сюрпрызы. Людзей, якія зьяўляюцца зьнянацку. Так здары-

лася і з радыёперадачай пра „банду“ Альфонса Струка. Той падкаст пачуў нехта з пастаўскіх краязнаўцаў. Затым у таго краязнаўца знайшлася знаёмая, чый сваяк быў у той самай „бандзе“. Які адбыў дзесяць гадоў у лягеры і назаўжды застаўся ў Расеі. І вось тая пастаўская жанчына паведаміла мне, што адзін зь фігурантаў справы Альфонса Струка, а менавіта Казімір Люцыянавіч Лоўкіс, 1927 году нараджэньня, да гэтае пары жывы і здаровы. Жыве ён у горадзе Арле. Я без усялякай надзеі пакінуў свой нумар тэлефона. Наўрад ці чалавек, якому за 90, захоча гаварыць пра тую справу. Але пазваніла ягоная дачка, Сьвятлана.

Дэталі, якія паведаміла сама Сьвятлана, народжаная ў 1961-м, прасьвятляюць карціну той даўняй крымінальнай справы. Атрымліваецца, што „Ловкис Казимир Люцианович, уроженец и житель деревни Леоновичи, из крестьян-середняков, поляк, беспартийный, холост, образование 4 класса, несудим“ — гэта сірата, абрабаваны савецкай уладай.

Казімір Лоўкіс асірацеў у два гады. Іх было ў бацькоў чацьвёра дзяцей. Трое хлопчыкаў і адна дзяўчынка. Што цікава, хлопцы пазьней разышліся па нацыянальнасьцях. Казімір застаўся палякам, Леанард азваўся літоўцам, а Напалеон стаў беларусам. Іх выхоўвала бабуля, якая пражыла да 100 гадоў. Да 1939 году сям’і належала 10 гектараў зямлі і 3 гектары лесу. Усё забралі яшчэ да вайны. Падчас начнога

паходу ў сельсавет здарыўся інцыдэнт, які чамусьці ніяк не фігуруе ў судовых дакумэнтах. Са сьцяны кабінэта быў скінуты партрэт таварыша Сталіна.

**„В ноябре 1949 года Ловкис Леонид, Мисник Генрих, Мисник Витольд, Ловкис Казимир и вновь вступивший в банду Петкевич Чеслав совершили вооружённое нападение на здание Оцковского сельсовета и, разгромив последний, забрали с собой государственных денег в сумме 10536 рублей, которые были разделены между участниками ограбления“.**

Сярэдні заробак у СССР у той час быў 600 рублёў, супастаўны зь сёньняшнім у Рэспубліцы Беларусь. Супастаўны і памерам. Цяпер тысяча — зарплата мары! І цэнамі. 10 тысяч рублёў — гэта былі сур'ёзныя грошы. Можна купіць аўтамабіль „Москвич“ і яшчэ застанецца на шыкоўную дарогу да Крыму. А што такое зрынуты партрэт Сталіна ў лістападзе 1949-га? Для гэтага варта раскрыць абласную газэту, дзе з нумара ў нумар найлепшыя пёры Беларусі славяць вялікага юбіляра. Ёсіф Джугашвілі, народжаны 18 сьнежня 1878 году, афіцыйнай датай свайго дня нараджэньня зрабіў 21 сьнежня 1879-га. Вялікаму правадыру і генэралісімусу празь месяц 70 гадоў! А тут у нейкім сельсавеце — скінуты партрэт. Дык значыць, ня мае рацыі спадар Місьнік. Былі яны „паліцікантамі“. Зрынуты партрэт — гэта выразны пасыл нянавісьці да таго, хто на тым партрэце.

**Слаў-жа ты, песня, дзень радасны свята,**
**Ленінам — Сталінам сцяг наш узняты,**
**Сцяг, на якім ззяюць сонечны герб,**
**Славай авеяны молат і серп,**
**І пад праменнямі, пад залатымі**
**Імя маёй Беларусі, радзімы.**

**—Мы клянемся, — пісалі яны**
**Бацьку Сталіну, — мужнымі быць,**
**І пранесці са славай сцягі**
**Праз пякельны агонь барацьбы... —**
**Словы клятвы шумелі вятры**
**Ад вячэрняй да ранняй зары,**
**Паўтаралі іх зоры, Дняпро**
**І смалістыя сосны ў бары.**
**І калі даляцелі яны**
**Да Крэмля, дык начы сінява**
**Азарылася па-над зямлёй —**
**Прагрымела салютам Масква.**

**Хто ты, веліч бязмерная?**
**Не зраўняць цябе з зорамі.**
**Хто ты, сіла магутная?**
**Не зраўняць цябе з громамі.**
**Гэта ты, родны Сталін наш,**
**Мудры наш правадыр.**

92-гадовы Казімір Лоўкіс доўга не пагаджаўся на размову „зь Менскам“. Але дачцэ ўрэшце праз тыдзень удалося ўгаварыць яго на тэлефонную гутарку. Асьцярожны старэчы голас на тым канцы дроту зь лёгкім беларускім

акцэнтам пачаў з таго, што ніякага Альфонса ніколі ў вочы ня бачыў.

— Этот Альфонс, он был парень такой. Везде, и тут, и там. Но я с ним не встречался и не видел его. Мы в то время были глупые пацаны. Босые, голодные. Как беспризорники. Пойдём туда, пойдём сюда. Ну и сходили в сельсовет. Мы шли не с намерением убить кого или поломать что-то. Думали, что деньги там есть. Постучались в двери. Женщина нам открыла. Сельсовет был в частном доме. В зале был сельсовет, а в кухне жила женщина. Мы зашли, посмотрели. Ничего нет. Мы и пошли себе. Никого мы там не били, не грабили. А там был секретарь сельсовета. Но он успел на чердак сбежать. Пока мы были там, он на чердаке сидел. И потом раздул, что бандиты напали! А мы ничего ему не причинили. Ну а когда нас повязали, начали сочинять.

Стары ўпарта спрабуе незнаёмаму чалавеку давесьці сваю невінаватасьць. Але ж мяне пераконваць ня трэба.

— Нас в группе было девять человек. Три девочки были. В деревне Круки школа была. И там была вечеринка. И всех там вечером и повязали. А меня из дома забрали. Всё мне выложили — где мы ходили, что мы делали. А я с ними только один раз в сельсовет по дурости сходил. Ни за что влип в это дело. А в то время Сталин загребал всех. После войны в руинах

всё было. Рабочая сила нужна. Ну и отработал десять лет ни за что.

Дзяўчат з гэтай справы, 20-гадовую Лангіну, 22-гадовую Браніславу і 27-гадовую Соф'ю, абвінавачвалі ў тым, што хавалі бандытаў у сваіх дамах, кармілі іх, пілі разам з бандытамі самагон, прымалі ў якасьці ўзнагароды нарабаванае дабро і, галоўнае, не данесьлі органам савецкай улады. Лангіне і Соф'і далі па восем гадоў, Браніславе — шэсьць.

— Они ничего не делали незаконного. Когда ребята ходили в магазин, взяли там материала какого-то. Там же не было готового пошива. Лежал материал трубками. Ну и дали им на платье. И взяли этих девчат несчастных. Они ни в чём не виноваты. Они их не кормили, не поили. Никакой банды там не было. А любовь была. Вот за это и пострадали. Когда нас арестовали, повезли в Поставы. Там, на допросах, всё было. Там кафельная печка была у них, раскалённая. И к этой печке прижали. „Рассказывай!“ А что рассказывать? И чуть не сожгли. И били. „Национальность?“ — „Поляк“. — „Какой ты поляк?“ Бах! Трах! Но ничего с меня не выбили. Хоть убейте, всё равно я поляк.

У судовым вядзеньні Казімір фігуруе ў некалькіх эпізодах. У рабаваньні крамы, у разгроме сельсавету і разарэньні дзьвюх пчаліных сем'яў у грамадзяніна Пяткевіча. І ўсё гэта, са словаў самога Казіміра, няпраўда.

— Мы не были бандой, как там написано. Мы жили каждый сам по себе. Может, мацутские ещё где ходили. Но я был только в сельсовете.

Калі верыць пану Казіміру, розныя крымінальныя выпадкі, ад крадзяжоў у краме, рабаваньня хутароў да візыту ў сельсавет, былі аб’яднаныя ў адну справу. У справу пра арганізаваную злачынную групу. А гэта і артыкул больш сур’ёзны, і ўзнагароды больш важкія.

— Вели нас двое суток по тайге. Новый лагерь открылся. Для политических. На природе был. Каждый день сто кубов леса давал. Я вальщиком был. Из Беларуси много было молодых людей. Особенно с Гродненщины. По „бандитской“ статье. В месяц тысячу пригонят в лагерь. В течение месяца многих нет в живых. На работу идёшь колонной, сзади две повозки идут. Люди падают, на ходу умирают. Их собирают, штабелюют на повозку. И там яма была. Их там и скирдовали. Умирали от голода. Там были и белорусы, и украинцы, и казаки. Все нации были отдельно по баракам. „Весело“ было жить. Как-то привезли на пересылку. Были мы в бараке, человек сто. Ночью открывается замок. И зэки с палками, с дубинами как начали лупить! Столько было покалеченных… Каша кровавая была. Я там у стеночки просидел. Не зацепили меня. Не хочется и вспоминать. Ни „воров“, ни „сук“. Там было ужасно. Я был молодой, здоровый. Не чифирил, не пил. Поэтому и выжил.

З тых людзей, якія былі аб'яднаныя сьледчымі ў адну „банду“, хоць некаторыя з „бандытаў“ нават ня ведалі адзін аднаго, ніхто не вярнуўся назад. Леанард, брат Казіміра, застаўся на Калыме, Казімір сам жыве ў Арле, хтосьці зьехаў у Польшчу, нехта яшчэ куды. Толькі не ў Беларусь. Ці ня ў гэтым была мэта органаў савецкай улады? Выціснуць усіх, хто не хацеў „у гасударства гэта ўступаць“. Усіх нязгодных. Усіх патэнцыйна небясьпечных. Каго — з дапамогай аблаваў — у Літву і Латвію. Каго — пры кожнай магчымасьці — у ГУЛАГ. Каб з астатніх, застрашаных і пакораных, нарэшце рабіць „гасударственьнікаў“. Да такой высновы прыходзіш, слухаючы Міхала Залескага.

— Мясцовыя людзі, пакуль не адлавілі ўсіх Філістовічаў, яны яшчэ верылі, што „нашы“ з-за Буга прыйдуць. Гэтая вера зьнікла недзе ў сярэдзіне шасьцідзясятых гадоў, і мясцовыя людзі пабеглі хто куды. Але асноўная частка з Маладачанскай вобласьці ехалі ў Літву і Латвію. Яны мелі цьвёрды спадзеў (я чуў і памятаю тыя размовы), мелі ўпэўненасьць, што прыбалты адарвуцца ад саветаў. Бо Амэрыка не прызнае! У Маладачанскай вобласьці ў многіх дамах на сьцяне вісела рамачка, дзе былі людзі і ў польскай, і ў ангельскай, і ў амэрыканскай форме. І людзі, якія мелі сваякоў за мяжой, паказвалі аднавяскоўцам на пошце канвэрты з усяго сьвету. І з Аргентыны, і з Парагвая, і з Канады, і з Францыі. Адкуль хочаш. І ў людзей, якія

не пасьпелі зьехаць, у іх была надзея, што прыбалты вырвуцца першымі. І іхная надзея спраўдзілася. Хоць і ня так хутка, і ня ўсе пасьпелі дажыць. Але спраўдзілася.

## „Дарожка дадому крывёй заплыла“

*Пілаты, Шаркоўшчынскі раён*

Калі прачытаеш пару дзясяткаў „бандыцкіх“ спраў, наступныя будуць здавацца копіямі папярэдніх. Паўсюль адны і тыя ж фармулёўкі, адны і тыя ж абароты ў адносінах да асуджаных. Гэта сьведчыць ня толькі пра канвэер карнай машыны, але і пра маштабы заходнебеларускага „бандытызму“. Аднак варта толькі зьявіцца ў „тыпавой“ справе нейкай жывой дэталі, як адразу бясколерная карціна ажывае. А пагатоў калі пра „наследие мрачных времён“ пакінулі свае словы самі ўдзельнікі і сьведкі.

Вёска Пілаты ўжо амаль зьнікла. Але для мяне гэта нейкае містычнае месца. І сваёю назвай, і тым, што адбывалася ў яе ваколіцах. А галоўнае — менавіта там я сустрэўся са спробай занатаваць, асэнсаваць і нават прасьпяваць тое, што адбылося.

Але давайце разгорнем гадавікі шаркоўшчынскай раёнкі „Калгасны шлях“ за 1948 і 1949 гады. Сярод звыклых матэрыялаў пра стварэньне новых калгасаў і клопаты таварыша Сталіна можна даведацца нямала дзівосаў.

**„Лепшыя арцелі мастацкай вышыўкі — Бабруйская, Чачэрская, Віцебская і Карманская — зрабілі чатырыста настольных гарнітураў для экспарту за мяжу. Гарнітур**

**складаюць расшыты крыжам абрус, дарожка і чатыры салфеткі. Першая партыя тавараў накіравана ў Ленінградскі порт для адпраўкі ў Нью-Йорк“.**

**„Калектыў Пінскага суднарамонтнага завода закончыў будаўніцтва першага пасажырскага цеплахода. Цеплаход спушчан на ваду. Выпрабаванні паказалі выдатную работу ўсіх механізмаў. У хуткім часе першынец Пінскага суднабудаўніцтва — цеплаход «Максім Горкі» выйдзе ў свой першы рэйс. Ён зможа перавозіць адначасова 300 пасажыраў“.**

**„На правым беразе Дняпра на развалінах былога вагонарамонтнага завода будуюцца карпусы першага ў Беларусі лакамабільнага завода. Да канца пяцігодкі прадпрыемства будзе ўжо выпускаць 4 тысячы лакамабіляў у год“.**

Вось ня думаў, што старая сталінская газэта адкрые нешта новае для мяне асабіста. Але ж наколькі былі вузкімі мае навуковыя далягляды! Я ніколі ня ведаў пра існаваньне такога цуду інжынэрнай думкі, як лякамабіль. Гэта гібрыд лякаматыва і аўтамабіля. Колы, як у трактара. Сьпераду тырчыць высачэзная паравозная труба. І з таго коміна валіць густы дым. Фантастычная карціна. Якая, к чорту, АЭС! Вось дзе наша выратаваньне! Для лякамабіля ня трэба ні нафты, ні газу. Знай толькі дровы падкідвай. На чым жа езьдзіць па аграга-

радах, як не на лякамабілі? Уяўляеце карцінку? Сотні міні-паравозаў у палях і на дарогах. А які прыгожы атрымаўся б лякамабільны прэзыдэнцкі картэж! „Мэрсам“ ужо нікога ня зьдзівіш. А вось ад такога імпартазамяшчэньня сам Кім Чэн Ын здох бы ад зайздрасьці. Я ўжо не кажу, наколькі б вырас паток турыстаў у нашу лякарэспубліку.

А вось і мясцовая навіна, якая, пэўна, парадавала ўсіх сялян Шаркоўшчынскага раёну. Зьвяртаю ўвагу на дату гэтай нататкі — лістапад 1948 году.

**„Нядаўна на базу заготжывёлы сяляне в. Маскалюкі Слабадскога сельсавета В. Міхайлаў, Е. Сцепанава прывезлі жывёлу для здачы ў лік мясапаставак бягучага года. Разлічыўшыся з дзяржавай па мясапастаўках за 1948 год, сяляне папрасілі прыёмшчыка залічыць застаўшаеся мяса ў лік паставак паследуючых гадоў.**

**— Я патрыёт сваёй Радзімы, — заявіў пры гэтым селянін В. Міхайлаў, — здаю мяса ў лік паставак будучых гадоў у чэсць надыходзячай знамянальнай даты беларускага народа — 30-годдзя ўтварэння БССР.**

**Пасьля падліку аказалася, што селянін В. Міхайлаў здаў у лік паставак 1950 года 50 кілаграм мяса, а сялянка Е. Сцяпанава 41 кілаграм“.**

Яшчэ ня скончыўся 1948 год, а гэтыя таварышы здаюць мяса ў лік 1950-га? Мы ўжо ве-

даем ад Міхала Залескага тыя „тонкасьці“ здачы мяса, калі дзеля пэўнай колькасьці кіляграмаў даводзілася забіваць значна большую вагою жывёліну. Але тут не слана ж забілі. Пэўна, у спадароў Міхайлава і Сьцяпанавай сапраўды здарылася нешта сур'ёзнае, каб такі энтузіязм прачнуўся. Бачна, што людзі адкупляліся. Ад чаго? Ад турмы ці ад высылкі?

Але пакуль краіна асвойвае выпускі лякамабіляў. Пакуль беларускія „салфеткі“ заваёўваюць нью-ёрскі рынак. Пакуль няшчасныя калгасьнікі ў 1948-м здаюць мяса ў лік 1950-га, ня ўсё яшчэ гладка ў савецкай краіне.

Вось і газэта ў артыкуле „Разгільдзяй і п'яніца зрывае будаўніцтва“ абрынулася на старшыню калгасу Шуневіча.

**„Праўленне калгаса не праяўляе клопатаў па забеспячэнню грамадскай жывёлы грубымі і сакавітымі кармамі. Касьба праводзіцца марудна, а да сіласавання тут зусім не прыступалі. Пры папусціцельстве старшыні калгаса разбазарваюцца арцельныя сенажаці. З касой у руках на калгасным лузе арудуе аднаасобнік Баговіч.**

**Чым жа заняты старшыня і чаму ён не кіруе калгасам? Сістэматычныя п'янкі, свае асабістыя справы адымаюць у Шуневіча ўвесь яго час. Днём ён будуе свой уласны дом, а вечарам п'е, на калгасных конях раз'язджае па гасцях. На сялібе калгаса Шуневіч паяўляецца даволі рэдка і то не заўсёды ў цвярозым стане.**

**Вядома, што пры такім становішчы не можа быць і гутаркі аб правільнай расстаноўцы рабочай сілы і цягла. Некаторыя несвядомыя калгаснікі, адчуваючы бескантрольнасць, не выходзяць на працу“.**

Што сталася з гэтымі цудоўнымі людзьмі, Баговічам і Шуневічам? Пасьля такіх публікацый у партыйнай газэце ўлада мусіла неадкладна рэагаваць. А найперш рэагавалі ўнутраныя органы. І калі аднаасобнік Баговіч мог адрабіцца ўступленьнем у калгас, дык старшыню калгасу маглі прышпіліць які-небудзь сабатаж. Але што была за мода ў савецкай прэсы ніколі не называць імёнаў. Толькі прозьвішчы. Зрэшты, у наступным матэрыяле ўжо назвалі поўнае імя „несазнацельнага“ таварыша — з калгасу з двухсэнсоўнай назвай „Памяць Ільіча“.

**„У калгас уліліся ўсе сяляне вёскі. Побач з добрасумленнымі і працалюбівымі сялянамі ў сельгасарцель уступіў і гультай Владзімір Цітовіч. У час перавыбараў кіраўніцтва калгаса ён пранік у члены праўлення. За ўвесь час прабывання ў праўленні В.Цітовіч нічога не зрабіў карыснага для калгаса, а наадварот займаецца разлажэннем працоўнай дысцыпліны. (...) Ён беспрычынна тыднямі не выходзіць на працу. А калі нядаўна калгаснікі, абураныя паводзінамі Цітовіча, запатрабавалі ад яго выхада на працу, то паследваў адказ: «Мне трэба праводзіць уборку на сваёй сялібе»“.**

Вось чаго не было ў „Калгасным шляху“, дык гэта крымінальнай хронікі. Зь ёю маглі азнаёміцца толькі адмысловыя чытачы.

**„Материалами предварительного и судебного следствия установлено**

**В 1950 году на территории Шарковщинского р-на Молодеченской области действовала вооружённая грабительская банда во главе с Лясковским Михаилом в состав которой входили Малявко В.И., Малявко В.Ю., Котович С.В. и др. лица. Участники указанной банды занимались вооружёнными ограблениями магазинов сельпо и советских граждан.**

**Подсудимые Гуща Виктор и Гуща Иван весной 1950 года установили связь с бандитами, оказывали банде Лясковского помощь путем снабжения бандитов продуктами питания, а также принимали участие в ограблении с ними магазинов.**

**Так Гуща Виктор весной 1949 года совместно с Малявко Виталием Ивановичем и Лясковским М.В. учавствовал в ограблении магазина в дер. Пилаты Шарковщинского р-на. Ограбление магазина произвели Лясковский и Малявко, а Гуща Виктор в это время находился возле магазина.**

**Награбленные товары Гуща Виктор совместно с Лясковским и Малявко отнесли в лес, где их и спрятали. На второй день похищенные вещи участники ограбления между**

**собой разделили, а спиртные напитки там распили. Из награбленных вещей Гуща Виктор получил два отреза сукна, шерстянной платок и др. мелкие товары. Все эти вещи Гуща Виктор принёс домой, использовав их затем на свои нужды.**

**В результате ограбления было похищено в магазине д. Пилаты товаров на 20430 руб 07 коп“.**

Сярод дзясяткаў крымінальных спраў за 1950 год гэтая зьвярнула маю ўвагу знаёмым прозьвішчам — Ляскоўскі. Справа ў тым, што Ўладзіслаў Ляскоўскі — герой маёй самай першай перадачы сэрыі „Палітычная геаграфія“, якая выйшла ў сакавіку 2002 году. Жыхар Шаркоўшчыны. Былы настаўнік, краязнаўца, грамадзкі дзяяч, аўтар шматлікіх публікацый пра гісторыю свайго краю. Ці не ягоны сваяк стаяў на чале банды ў 1940-х? З гэтым пытаньнем я і паехаў у Шаркоўшчыну да спадара Ўладзіслава.

— Я знайшоў у дакумэнтах, што мой прапрадзед Міхал Ляскоўскі купіў царкоўную зямлю каля Новага Пагоста і служыў старастам у царкве. Меў дужа вялікую сям’ю. Ягоны сын Васіль, мой прадзед, пасяліўся ў 1882 годзе ў Запрудзьдзі, дзе нарадзіўся і я. І нашыя запрудзкія Ляскоўскія перарвалі сувязі з тымі, новапагостаўскімі. А там іх многа было. Бо сям’я была вялікая. Таму гэтага Міхала Ляскоўскага я ня ведаў. Але чуў, што такі ёсьць. Што ён быў



Уладзіслаў Ляскоўскі

кіраўніком паўстаньня ці як сказаць... Барацьбы з уладай. І вось калі пералавілі яго сяброў і ён застаўся адзін, не здаваўся. Акружылі хату, дзе ён знаходзіўся, як расказвалі потым людзі. Ён адстрэльваўся. Потым, як ня стала чым страляць, кінуўся ўцякаць. Але застрэлілі яго. А потым, як мне расказвалі, прывезьлі хаваць туды, дзе міліцыя. Яна і цяпер там. Побач з кінатэатрам. І закапалі гэтага Мішку, і зрабілі туалет над ягонай магілай. Настолькі ён ім насаліў. Унутраны міліцэйскі туалет над ім зрабілі. Каб помсьціць з раніцы да вечара. А матку ягоную ў Сібір саслалі. Пры Хрушчову яна прыехала — хаты няма, нічога няма. І пайшла ў дом састарэлых. Я да яе езьдзіў у 1970-я. Пазнаёміцца хоць зь цёткай. Старушка, але дзяржалася крэпка. Казала: „Белых мядзьведзяў пасла“. Даволі бадзёрая была.

Калі я слухаў пра месца пахаваньня Міхала Ляскоўскага, дык міжволі спацеў. Справа ў тым, што ў 2002 годзе я быў бяз дай прычыны затрыманы мясцовай міліцыяй для высьвятленьня асобы. Хоць дакумэнты ў мяне былі пры сабе, я правёў тры гадзіны ў пастарунку. У тым самым пастарунку! Але ж, дзякуй Богу, прыбіральня ўжо была сучасная, таму я ніяк не зьняважыў прах гэтага чалавека. Але якая вернасьць традыцыям у карнікаў! Могуць зьмяняцца колеры дзяржаўных сьцягоў, могуць мяняцца ідэалёгіі. Могуць удасканальвацца мэтады задушэньня супраціву. Але, як і ў часы графа Мураўёва, найгоршая кара для паўстанца — пахаваньне пад прыбіральняй.

Такім чынам, улетку 1950 году ў Маладачанскім судзе слухалася справа братоў Гушчаў, Віктара ды Івана. З матэрыялаў суду вынікала, што браты Гушчы былі ўдзельнікамі антысавецкай банды Міхала Ляскоўскага. Бралі ўдзел у рабаваньні крамаў у вёсках Пілаты і Сьнегі. Хавалі нарабаванае дабро. Дапамагалі бандзе харчамі. За свае злачынствы 23-гадовы Віктар Гушча і 20-гадовы Іван Гушча, абодва „из крестьян-бедняков, беспартийные, белоруссы“, атрымалі паводле 80-га артыкулу восем і сем гадоў адпаведна.

Вельмі часта я чуў, што ў асноўным у лясы ішлі людзі, якія хаваліся ад мабілізацыі 1944 году. Але братам Гушчам ніякая мабілізацыя не пагражала — у вайну яны былі яшчэ

падлеткамі. Цікавую дэталь расказаў мне Ўладзіслаў Ляскоўскі. Аказваецца, улады па вайне абʼяўлялі амністыю, каб выбавіць тых дэзэртыраў зь лясоў.

— Шмат было маладзейшых за прызыўны ўзрост. Бо тых, хто хаваўся ад арміі, пералавілі і судзілі. Судзілі ня строга, яны хутка варочаліся. А гэта было маладое пакаленьне, якое ў вайну было пацанамі. А пасьля вайны савецкай улады не прызналі. Вельмі актыўнай барацьбы яны не вялі. А рабаваць крамы іх прымушаў голад. Не падпарадкоўваліся ўладам.

Яшчэ ў той судовай паперы, акрамя Міхала Ляскоўскага, згадваюцца „Малявко В.И., Малявко В.Ю. и другие“. І самае цікавае — менавіта гэтыя „другие“. Аказваецца, у справе Міхала Ляскоўскага было асуджана больш за 20 чалавек. Іхныя імёны захаваліся дзякуючы аднаму зь фігурантаў гэтай справы, вязьню ГУЛАГу Язэпу Шудзелю. Пад канец жыцьця ён вырашыў апісаць усё тое, праз што яму давялося прайсьці ў маладосьці. Язэп 1930 году нараджэньня. Па вайне зь вінтоўкай ахоўваў тую самую краму ў Пілатах. І неяк захацелася хлопцу схадзіць на танцы, на вячоркі. Папрасіў свайго таварыша Анатоля Маляўку павартаваць за яго. У тую ж ноч крама была абрабаваная.

Пісаў Язэп Шудзель свае ўспаміны на нейма-вернай трасянцы, часам вершамі, часам нейкім дзіўным гекзамэтрам. Частку ягоных успамінаў



Сшытак Язэпа Шудзеля

адрэдагаваў літаратар з Пастаў Алесь Касьцень, а выдаў пастаўскі выдавец Міхась Гіль. Гэтыя ўспаміны амаль непісьменнага чалавека лепш за шматтомныя зборы шматлікіх пісьменьнікаў паказваюць, наколькі складаным быў той час. А таксама ілюструюць, што падзеі канца 1940-х — гэта рэха часоў рэвалюцыі, гэта канфлікт бацькоў-бальшавікоў і іхных дзяцей. Гэта драма, якая не саступае эпапеі „Ціхі Дон“, але ў якой не знайшлося свайго Шолахава. Зрэшты, каштоўнасьць школьных сшыткаў Язэпа Шудзеля не ў літаратурным штукарстве.

Пілаты, Каўшэлева, Новы Пагост — родныя мясьціны хормайстра і этнографа Генадзя Цітовіча. У 1947 годзе для фільма „Родныя напевы“ хор Цітовіча запісаў, напэўна, сваю самую знакамітую песьню — „Рэчанька“. „Ой,

рэчанька, рэчанька. Чаму ж ты ня поўная...“ У той самы час, калі дзяўчаты ў вянках сьпявалі на вечаровым беразе, на радзіме музыкі адбываліся вось такія падзеі:

„Маляўка Юльян Казіміравіч вызначыўся ў час першага прыходу Савецкай улады ў наш край, са сьнежня 1918 году па лістапад 1919-га. У гэты час ён уступае ў партыю бальшавікоў і разам з другім мясцовым бальшавіком Кукуцём з удзелам атраду чырвонаармейцаў арганізавалі ў Новым Пагосьце валасны рэвалюцыйны камітэт і чынілі суд і расправу над мясцовым насельніцтвам. З прыходам Савецкай улады з 1939-га па 1941 год Маляўка Юльян працуе старшынём Каўшэлеўскага сельсавету. А бацька Гушчаў, Віталя і Івана, Гушча Стэфан — старшынём Більдзюскага сельсавету. І тут кідаецца ў вочы розьніца ў іх паводзінах. Былы грозны Маляўка Юльян цяпер паважна адносіцца да людзей. Пасяброваў нават з панічом Канаплянскім Віталём Міхайлавічам, што пражываў у фальварку Васілева і меў сорак гектараў зямлі. Ня даў яго вывозіць у Сібір. А ў гэты час Гушча Стэфан лютуе. Ні да кога ня мае літасьці. Адправіў у Сібір нават сям’ю свайго дзядзькі, што пражывала ў вёсцы Карчы. Дзядзька, Гушча Антон, працаваў лесьнікам у пана Канаплянскага. Разам зь ім вывезьлі ягоную маці Настасьсю, дачку Ганну, сыноў Міхала і Аляксандра. Маці ў Сібіры памерла, а Антону разам з сынамі ўдалося выехаць у Польшчу.

Маляўка Юльян Казіміравіч і Гушча Стэфан былі пакараныя сьмерцю падчас нямецкай акупацыі за сувязь з партызанамі. Гэта адбылося ў ліпені 1943 году. У 10 гадзін вечара Юльяна Маляўку арыштавалі ў сябе дома, у вёсцы Пілаты. Не дазволілі яму нават узяць з сабой харчоў, адказаўшы сынам, што яны яго „самі накормяць“. Туды ж прывялі зь вёскі Карчы партызанскіх сувязных — Гушчу Стэфана, Дзегцяронак Еўдакію, Драбовіч Ірыну і яшчэ аднаго мужчыну, прозьвішча ня памятаю. Адвялі іх за Новы Пагост. Зь левага боку дарогі ў сасоньніку загадалі выкапаць магілу. І ўсіх пяцярых расстралялі. У гэты час арыштавалі і Канаплянскага Віталя Міхайлавіча, што меў сяброў сярод партызанаў. Яго павесілі на скрыжаваньні вуліц у Новым Пагосьце. Так загінуў нашчадак знакамітага ў XIX стагодзьдзі роду Канаплянскіх. Калі ж прыйшла маці Канаплянскага і папрасіла дазволу разьвітацца з сынам, ёй адразу не дазволілі: „Калі загалосіш, то будзеш вісець побач з сынам. Калі не заплачаш, то можаш разьвітацца“. Маці валодала вялікай воляй. Разьвіталася бяз плачу.

Прайшло пяць гадоў. Падрасьлі дзеці Маляўкі і Гушчы. І падаліся ў антысавецкі партызанскі атрад. Цяжка паверыць, але дзеці падтрымалі змаганьне з той уладай, за якую ў свой час так зацята змагаліся іх бацькі“.

Алесь Касьцень памёр у 2009-м, Язэп Шудзель загадкава зьнік у 2013-м. Пайшоў з дому,



Язэп Шудзель

і больш яго ніхто ня бачыў. Але засталіся гэтыя ўспаміны. Пра Калыму, пра так званыя „суччыя войны“ ў лягерах, пра жыцьцё паўночных народаў. А таксама пра тое, што тварылася ў савецкіх пастарунках па вайне.

„Начальства ведала, што большасьць нас, палітычных, — гэта бязьвінныя вясковыя хлопцы, якія ня ведалі, што такое палітыка і адкуль яна бярэцца. Відаць, Бэрыя даводзіў плян, колькі людзей пасадзіць, а сьледчыя імкнуліся плян выканаць. Успомнілася, быў такі лейтэнант Шыркін зь менскай контравыведкі МГБ і старшы лейтэнант Сьвілкаў, якія дапытвалі мяне ў Шаркоўшчыне. У кабінэце МГБ, у прысутнасьці самога начальніка, капітана Бердашкевіча. Які сам не дапытваў. Дапытвалі

Ширкін, Сьвілаў, прозьвішча трэцяга я ня памятаю, такім парадкам — сорак-пяцьдзясят хвілін білі, а дзесяць-дваццаць хвілін давалі аддыхнуць. Каб падумаў і падпісаў тое, што ім патрэбна было для справы. Каб мяне пасадзіць. Білі да таго часу, пакуль ня страціш прытомнасьць. І тады ў маёй зьбітай галаве ўзьнікае шум, звон, быццам іграе аркестар. І тады яны мне падсоўваюць аркуш паперы, каб я падпісаў. Другога выйсьця не было, як падпісаць. Каб выжыць. І вось тады я ўжо на іх кручку. І што б потым я ні гаварыў, мне не было веры. Гэтыя тры афіцэры былі сапраўднымі злыднямі, выхаванцамі Бэрыя. Я іх абвінавачваю, ды толькі ня ведаю, дзе яны цяпер. Можа, цяпер займаюць месца Бэрыя і наносяць шкоду другім людзям, як гэта рабілі з намі?“

А як жа мне поўнай быць?
Зь беражкамі роўна плыць?
Янка коніка паіў,
Маня ваду чэрпала.

Якой поўнай магла б быць Беларусь, каб яе ня вычарпалі! Каб усе гэтыя людзі, пералічаныя рукой былога калымскага вязьня, засталіся на сваіх берагах.

„Жыхар вёскі Пілаты Маляўка Веньямін Іванавіч, 1929 году нараджэньня, занёс у банду брату паесьці. Другі яго брат, Маляўка Генадзь,

якому было 12 гадоў, схадзіў у лес праведаць брата. Арыштаваны.

Чапулёнак Міцька, жыхар вёскі Лучкі. Меў жонку, трое сыноў ад двух да шасьці гадоў, і дзьвюх дачок, ад сямі да дзевяці гадоў. Арыштаваны. Ня вытрымаў катаваньняў. Страціў розум.

Маляўка Станіслаў. Пражываў у Пілатах. Але калі пляменьнік Віталь пайшоў у банду, то, ратуючыся ад жахлівых наступстваў, пераехаў жыць у Мёрскі раён, у вёску Вусаўцы. Але яго і там знайшлі.

Цярпілка Аркадзь Васілевіч. 1922 году нараджэньня. Жыхар вёскі Лучкі. Меў жонку, Маляўку Марыю, дачку Лію трох гадоў, сына Генадзя двух гадоў. Даў паесьці бандзе. Асуджаны. Памёр у лягеры ў Сібіры".

Цярпілка… Якое алегарычнае беларускае прозьвішча. Але яно не дапамагло свайму ўладальніку.

Я паехаў у Пілаты, дзе мяне чакала новая гісторыя, якой няма ў тэчках Чарняўскага. Машыністкі з МГБ, напэўна, з заплюшчанымі вачыма маглі набіраць тыя аднолькавыя фармулёўкі пра „оказание помощи вооружённым террористическим бандам" ды іншыя „снабжения бандитов самогоном". Але гісторыя, якая чакала мяне ў Пілатах, — гэта зусім па-за рамкамі дабра і зла. Нават з папраўкай на сталінскія часы. Гэта пра тое, што ў расейскім лягерным

арго называецца „беспределом“. Якое, дарэчы, ніяк не перакладаецца ні на якую іншую мову.

У Пілатах, ад якіх засталася толькі адна хата, схаваная лесам, я нікога не засьпеў. Але каля самай дарогі Шаркоўшчына — Мёры, зусім недалёка ад гэтай вёскі зь біблейскаю назваю, ёсьць невялікія могілкі. Там у самым пачатку стаяць два танныя помнікі. Пад адным спачывае Вера Ўльянаўна Шудзель, народжаная ў 1909-м і памерлая ў 1981 годзе. Гэта маці. А з фота на суседнім помніку на нас глядзіць дачка, Людміла Чарняўская. Зь лёгкай усьмешкай і моднай фрызурай, якая, паводле майстра і пісьменьніка Сяргея Календы, называецца „халодныя хвалі“ (кудзеры замацоўваюцца цукровай вадой або півам, а сама мода лічылася францускай). Даты жыцьця 1931–1949. Тое, што пасьля вайны гінулі людзі, не сакрэт. Гінулі бандыты, гінулі ўдзельнікі антысавецкай партызанкі, гінулі партработнікі і эмгэбісты. Але сьмерць Людмілы Чарняўскай, а галоўнае, жыцьцё пасьля сьмерці, — такога я яшчэ не сустракаў.

Расказалі мне пра яе жыхаркі мястэчка Каўшэлева. Прыгажуня Людміла была мясцовай паштаркай. Акрамя лістоў і газэт, паштары ў той час насілі пэнсіі салдацкім удовам. І гэта былі адзіныя жывыя грошы на вёсцы. Бо працавалі калгасьнікі, як вядома, не за грошы, а за працадні. Вось гэтыя грошы і сталі прычынай сьмерці Людмілы Чарняўскай. Старажылка суседняга Каўшэлева Марыя Бяспальчык раска-




звала мне гэтую гісторыю, як быццам казку баяла.

— І тады работала Дабрасольцава такая, Фрося, заведуюшчай на пошце. А пошта была ў Бардзенцах. Ну і быў міліцыянэр. Там сядзеў, на пошце. А тады грошы аддавалі паштальёнам і яны насілі іх пехатою. І тая Фрося мелася атрымаць грошы. Але не атрымала. І паштарка бяз грошай пайшла. А той міліцыянэр думаў, што атрымала, і пайшоў упярод. І там на павароце ў лес тую дзяўчыну і забіў. А там непадалёк,



Марыя Бяспальчык

на хутары стаяў дом. І тады той міліцыянэр прычапіўся да маладога мальца. „Вось у цябе тапор. І ты яе забіў“. А той малец шчапаў дровы. І гэтага мальца былі пасадзіўшы.

Іншая жыхарка Каўшэлева, Эвэліна Язёнак, таксама ня можа забыць тую гісторыю.

— Я ведаю месца, дзе яе забілі. Як звалі тых мальцаў, я ня ведаю. А начальнік Шаркоўшчынскай міліцыі Казарын у іх тапара папрасіў. Думаў, што яна грошы нясець бальшыя. А ў той дзень ёй грошай не далі. Ну ён яе пераняў, гнаў яе. Я крыві ня бачыла, але мне расказвалі. Уцякала яна, бедная, крычала. Так расказвалі мальцы, якіх асудзілі. Ён усё на іх зьвярнуў. Яго нават сабака апазнаў! Далі ж панюхаць адзежу забітай. А ўсё роўна пакрылі яго. Выкруціўся. У Віцебск перавялі. Дык і цяпер так, дзе грошы і ўласьць. Начальнік міліцыі Казарын.

Ён не мясцовы. Прыслалі. Фашыст. Абвініў нявшчасных мальцаў. Там над імі так із'дзяваліся, мучылі. А яму ўсё сышло з рук.

Але жыцьцё паштаркі Люсі працягваецца пасьля фізычнай сьмерці. Люся стала гераіняй папулярнай у навакольлі песьні.

— Як на вячорках музыкі зморацца, дык людзі яе пяюць. А песьню злажыла Валя такая была. Яна зь ёй дружыла, дужа любіла яе. Я памятаю яе, Люсю. У нашай хаце танцы часта рабілі. Каса ў яе была. Красівая была дзевачка.

> У дзярэўні Юзафова жыла бедная ўдава.
> Муж на вайне забіты. Тры дочкі ў яе былі.
> Старшай дочкай Люсенька ў яе была.
> Яна, як цьвяточак у садзіке, цьвіла.

А далей я ня помню. Усё забылася. Там усё было расказана, у песьні. Як ён напаў. Матка яе ўвесь час хадзіла па інстанцыях. „Гэты бандыт забіў! Што вы прывязаліся да мальцаў гэтых?“ Усюды крыла, як знала. Але ніхто да яе не прыслухаўся. Ды знали яны ўсе. Ці называлася ў песьні фамілія Казарын? Вы што? Хто там Казарына будзе чапаць? Баяліся ж усе. Прыйшлі б на вячоркі ды арыштавалі б каго хочаш, нешта прыдумалі б. Тады ж было — сьцеражы Божа. Матка не баялася. Казала: мне ўсё роўна. Ігнарыравалі яе. Ды што салдацкая ўдава магла даказаць? Ды ў той час, пасьля вайны. Ды й цяпер...

Дарожка дадому крывёй заплыла,
Люсенька-дачушка дамоў не прыйшла.

Ён жа яе сек тапаром. Галаву расьсек. Усё крывёй заплыўшы было. А потым сьцягнуў з дарогі яе і накрыў лазой. І тапор там кінуў.

Больш за паўтара куплета Эвэліна, на жаль, успомніць ня здолела. Яшчэ крыху дадала жанчына на каўшэлеўскай вуліцы, якая вярталася з гасьцей:

— Так. Была такая песьня.

Мамачка да сонца рана ўставала.
І дачку ў дарожку рана выпраўляла.
Люсенька да сонца раніцай ішла.
Ня знала, што ў дарозе бяда сьцерагла.

Далей ня памятаю. Але ўсе плакалі над гэтай песьняй. Такая была дзяўчынка! Очань красівая, очань.

Старая паказала мне дом Аліны Катовіч, якая абавязкова мусіць ведаць тую песьню. Але і ў Аліны мяне чакала расчараваньне. Словы песьні старая ня памятала. Затое забойцу запомніла.

— Гэты чалавек пастаянна там на пошце тоўкся. Ня раз яго была відзеўшы. Усё высматрываў. Дзенюжак хацеў. Міліцыянэр, ды яшчэ ж глаўны нейкі. Ня просты міліцыянэр. І яго адгэтуль убралі. Кудысьці перамясьцілі. А нявінныя мальчыкі сядзелі. І мала пажылі пасьля. Вы ж знаеце, як там дапрашвалі? І білі,



Эвэліна Язёнак

і ўсяго было. Каб прызналіся. Лагунёнкі. Маладыя зусім. Доўга сядзелі, настаяшча. І скора памёрлі, як прыйшлі зь цюрмы. Іх выпусьцілі раней. Але былі замучаныя. Мала пажылі.

Каб уявіць карціну злачынства, ня трэба быць Шэрлакам Холмсам. Начальнік раённай міліцыі, ведаючы, у які дзень і якім маршрутам пойдзе 18-гадовая паштарка з грашыма, робіць засаду на яе і забівае сякерай. Сякерай, якую перад тым узяў у хлопца, што сек дровы. Каб затым сьпіхнуць на таго хлопца віну. Пры поўнай міліцэйскай кругавой паруцы начальніка пераводзяць у іншае месца. А няшчасны ідзе ў лягер. Ці сьпявалася пра гэта ў песьні? Можа, старыя пявуньні не хацелі адкрываць незнаёмаму чалавеку ўсю песьню? Чагосьці

асьцерагаліся? Можа, там, у песьні, нешта ёсьць пра несправядлівую ўладу ці пра міліцыю? Зрэшты, сваё стаўленьне да той улады яны выказалі. Ніхто зь іх ня верыць у тое, што сапраўдны забойца панёс пакараньне.

Шаркоўшчынскі краязнаўца Ўладзіслаў Ляскоўскі мне расказаў, што засудзілі ня двух чалавек, а аднаго. І той суд быў падобны на мітынг супраць кулакоў. Бо засуджаны хлопец быў зь сям'і хутаран, якія не ішлі ў калгас. Няшчасны адседзеў восем гадоў. Пасьля лягеру нават ажаніўся, але пражыў толькі тры гады. А сапраўдны забойца, той начальнік міліцыі, быў-такі выкрыты і асуджаны на доўгі тэрмін. Але ў гэта ў вёсцы ніхто ня верыць, бо ня ўпісваецца такі сюжэт ні ва ўяўленьне пра савецкае жыцьцё, ні ў народную песьню.

Неўзабаве вёска Пілаты зьнікне зусім. Але яна застанецца ня толькі кропкай на старых мапах. Дзякуючы амаль забытай песьні пра паштарку Люсю і некалькім асобнікам успамінаў пілатаўскага палітвязьня Язэпа Шудзеля. Пілаты ўжо ня зьнікнуць, нават толькі дзякуючы аднаму радку „Дарожка дадому крывёй заплыла“.

# „Абідзіць нас той, Вышшы. І цяпер абіжаець, і перш абіжаў“

*Галоднічы, Смаргонскі раён*

Я шукаў вёску Галодзічы Сьвірскага раёну Маладачанскай вобласьці — так пазначана ў судовай справе. У тых Галодзічах увосень 1949 году абрабавалі фінагента. Сама назва вёскі выклікала невясёлыя асацыяцыі. Калі продкі далі ёй такое сумнае імя, дык няйначай стаяць тыя Галодзічы на нішчымным суглінку ці ўвогуле на гіблым балоце.

Інтэрнэту тым вечарам не было — пратэрмінаваў аплату. Таму пошукі мае, як у недалёкім XX стагодзьдзі, абмяжоўваліся энцыкляпэдыяй „Гарады і вёскі Беларусі“ ды падшыўкай раённай газэты „Сталінскі шлях“. У энцыкляпэдыі я ніякіх Галодзічаў не знайшоў. А вось у „Сталінскім шляху“ сёе-тое цікавае было. Напрыклад, я даведаўся, куды вадзілі піянэраў на экскурсіі ў сталінскай Беларусі, як змагаліся са сьмяротнымі вірусамі і якая тады існавала прафэсія, дагэтуль мне невядомая…

**„Нядаўна вучні Засвірскай сямігадовай школы Шэметаўскага сельсовета пад кіраўніцтвам старшай піонерважатай тав. Піскіжовай пабывалі на экскурсіі ў Болькаўскім спіртзаводзе. Тэхнарук тав. Кавалёва азна-**

**ёміла іх з тэхнічным працэсам атрымання спірту, з пабудовай паравой машыны, з лабараторыяй і іншай апаратурай завода“.**

**„Совецкая ўлада пільна ахоўвае здароўе працоўных. Медыцынская дапамога аказваецца бясплатна. Акрамя таго эпідэмічная станцыя праводзіць вялікую работу сярод насельніцтва па прафілактыцы і барацьбе з эпідэмічнымі захворваннямі.**

**Да паслуг хворых прадастаўляюцца санітарныя самалёты. Дзясяткам людзям выратавана жыццё хуткай дапамогай санітарных самалётаў, дастаўляўшых хворых у гарады Мінск і Маскву“.**

**„У Выгаліненцкай хаце чытальні заўсёды ажыўлена. Сюды збіраецца моладзь і старыкі. Яны чытаюць газеты самі і слухаюць, як чытае тав. Мізула. Ён дэталёва растлумачвае аб гістарычных падзеях у нашай краіне і за рубяжом. Прысутнічаючыя вельмі цікавяцца і такімі пытаннямі, як аднаўляецца разбураная ворагам народная гаспадарка. Ізбач Мізула часта бывае ў вёсках. Ён праводзіць гутаркі з сялянамі на розныя тэмы. А ў сучасны момант ён выбраў асноўнай тэмай — растлумачэнне рашэнняў, прынятых Першай Сесіяй Вярхоўнага Совета СССР“.**

У мяне таксама ёсьць свой ізбач Мізула. Краязнаўца і пясьняр Алег Мізула зь мястэчка Жодзішкі. Ён таксама часта праводзіць гутаркі. Праўда, не зь сялянамі, а з гасьцямі сваёй



Алег Мізула

аграсядзібы. І, вядома, тэмы ў майго Мізулы іншыя, чым у ягонага фамільянта. Менавіта ад Алега Мізулы я й даведаўся, дзе знаходзяцца тыя Галодзічы. А дакладней, Галоднічы.

— У нашай ваколіцы перайменавалі вёсак пяць. Мелі назвы для камуністычнай сыстэмы ня вельмі мілагучныя. Мая бабуля была зь вёскі Авечкі. Яе перайменавалі ў Сасноўку. Вёска Марцішкі, альбо Мартышкі, стала Бярозаўкай. Ушыўца стала Лазоўкай, Сьвінка — Малінавай. Батракі аб'ядналі зь вёскай Андрэеўцы. Гэта была такая доўгая вёска, яна і цяпер ёсьць. Але Батракамі называлася тая частка, якая пасьля паўстаньня зьмяніла веру. Пасьля паўстаньня 1863 году людзей заманьвалі з каталіцызму ў праваслаўе, давалі зямлю, давалі грошы пад'ёмныя. І гэтая, самая бедная, частка перай-

шла ў праваслаўе. І стала Батракамі. Ну а вёска Галоднічы была перайменаваная ў Краснаазёрнае. Не павінна ж быць пры савецкай уладзе голых, босых і галодных.

Праўдзівыя назвы многіх паселішчаў Беларусі губляюцца ў глыбіні вякоў. Бальшавіцкія перайменаваньні закранулі нават спрадвечныя Раманавы, якія сталі Ленінамі. Пладзіліся шматлікія Кастрычнікі, Чырвоныя Сьцягі, Першамайскія, зусім ужо расейскія Пуцяводная Зьвязда, Надзежда, Акцябрскі, Пабядзіцелі… Заадно перайменавалі ўсё, што палічылі царкоўным ці проста незразумелым: Царковішча стала Пралетарскім, Ігумен — Чэрвенем, а Фэліксбэрг — Пралетарскай Камунай. Зьявіліся Чапаеўкі, Будзёнаўкі, Валадарскія, Варашылавы ды іншыя Сьвярдловы.

Галоднічы, альбо (ад 1964 году) Краснаазёрнае, — ідэальная вёска для загараднага адпачынку. Маленькае паселішча ў адну вуліцу схавалася за ляснымі пагоркамі паміж двума прыгажэннымі азёрамі. Які голад? Здаецца, першыя жыхары Галоднічаў адмыслова далі вёсцы такое застрашлівае імя, каб адвадзіць чужакоў. Каб рай быў толькі іхны. Зрэшты, карэнных жыхароў тут амаль не засталося. Рай даўно раскрыты. Гэта відаць па дагледжаных катэджах і чуваць па цішыні, якая пануе на панадворках: ні сабачага брэху, ні каровінага мыканьня. Каля адной хаты яе новы гарадзкі гаспадар зрабіў мастацкую інсталяцыю. На




прызьбе сядзіць манэкен у камуфляжы, касцы і супрацьгазе. Манэкен трымае дошку з надпісам: „Аставім унукам шыкоўную спадчыну. Астравецкая АЭС — 25 км“. Толькі дзеля такой інсталяцыі варта было прыехаць у Галоднічы.

Але прывяла мяне сюды справа Івана Казіміравіча Падмосткі, 1899 году нараджэньня,

жыхара хутара Пасекі, беларуса, зь сялян-сераднякоў, беспартыйнага, малапісьменнага, жанатага.

**„Подмостко Иван Казимирович, проживая на хуторе Пасеки Свирского района, в октябре 1949 года установил преступную связь со своим родственником главарём банды Козловским Леонидом. При посещении бандитами его дома в октябре 1949 года Подмостко принял участие в выпивке спиртных напитков вместе с ними, где бандиты обсуждали вопрос об ограблении финагента Статкун. Зная о достоверно готовящемся ограблении финагента, Подмостко не только не сообщил об этом советским органам, но по заданию бандитов пошел в разведку с целью установления, дома ли сам финагент и не имеются ли в деревне представителей органов Советской власти, которое им было выполнено и бандиты, будучи осведомлёнными о положении в дер. Голодичах, где проживал финагент, совершили ограбление последнего, забрав у Статкун 13 638 рублей государственных денег. После ограбления финагента бандиты вновь пришли в дом Подмостко, где об’яснили последнему об ограблении финагента, а за услугу Подмостко получил от бандитов 150 рублей“.**

Першы і адзіны, каго я сустрэў на ціхай галодніцкай вуліцы, быў просты чалавек. Просты камуфляж для рыбалкі. Простыя вочы, крыху

туманныя ад простай выпіўкі. Просты недаверлівы позірк на чужака. Нават вымаўленае мною праўдзівае імя вёскі не дадало ў ягоны позірк цеплыні. Мужык сказаў, што зь мясцовых у вёсцы застаўся толькі ён. Усе старыя даўно памерлі. Ніякіх Падмосткаў і Статкуноў ён ніколі ня чуў. Можна было разварочвацца і ехаць назад. Але, прагуляўшыся ў канец Галоднічаў, я заўважыў зусім ня дачны дом.

Вялікая сучасная двухпавярховая камяніца, побач некалькі гаспадарчых пабудоў, акуратна складзенае бярвеньне, трактары. Гаспар сядзібы яўна даўно і пасьпяхова займаецца лесам. Я зайшоў на шырокі двор. З хаты выйшаў ужо ня просты чалавек. Невысокі каржакаваты маладзён з позіркам пільным, але не падазроным. Я як мага карацей растлумачыў, што мяне прывяло ў Галоднічы.

Аляксандар, так звалі няпростага чалавека, папрасіў мяне пачакаць хвілін дзесяць. Зайшоў у дом. Затым выйшаў пераапрануты. Сеў у свой няпросты джып і папрасіў ехаць за ім. Паехалі мы ў суседняе Вішнева. Там няпросты чалавек зайшоў у адзін з дамоў, а вярнуўся не адзін, а зь немаладым спадаром, сваім бацькам. Цяжкая сківіца, прамы позірк блакітных вачэй, сівізна. Рыхтык амэрыканскі сэнатар. Так я пазнаёміўся з Уладзімерам Пурпурам, карэнным жыхаром Галоднічаў.

— Статкун работаў на савецкую ўласьць. Хлопцы ў яго былі майго возраста. Я зь імі



Уладзімер Пурпур

ў школу хадзіў, потым разам на танцы хадзілі. Я ў іх часта бываў у доме. Помню, як бацька прыхадзіў з такой сумкай вялікай у руках і там сьпіскі былі. Помню, як сабраньні правадзілі, як людзі плакалі. Беднякі, у каторых не было ні калёс, ні атос, ні гумна, толькі хадзілі памагалі тым, хто заможна жыў, яны сразу запісаліся ў калхоз. А мой бацька і другія сядзелі, галовы ўніз апусьціўшы. Хочаш ня хочаш, а запішуць. Помню, як разьбіралі гумны, як забіралі каня, калёсы, як маці плакала, як бацька плакаў. Усё забралі.

Адзін чалавек служыў уладзе, другі быў той уладай абрабаваны. Што не замінала іхным дзецям сябраваць паміж сабой. У гэтым месцы я зраблю адступленьне. Бо ахвяра гэтай справы — фінагент.

У паваеннай Заходняй Беларусі пасьля афіцэраў МГБ і ўпалмінзагаў людзі найбольш баяліся фінансавых агентаў. Калі упалмінзаг лез у хлявы і сьвірны, дык фінагент чысьціў сялянскія кішэні. Каб ніводнае яйка, прададзенае на рынку, не прайшло незаўважаным, не абкладзеным падаткам. А падаткі для адносна вольных аднаасобнікаў падвышаліся ледзь ня кожны месяц.

Пра аднаго ўнікальнага фінагента мне расказаў жыхар вёскі Каптаруны, што ў Пастаўскім раёне. Той фінагент на ўсе просьбы і маленьні сялян крыху пачакаць заўжды адказваў двума словамі: „Купі і здай“. „Ня маеш яек? Купі і здай“. „Малака няма? Купі і здай!“ І так кожнаму: „Купі і здай!“. Ён і сам не заўважыў, як аднойчы выслоўе стала ягоным імем. Мінула эпоха калектывізацыі, ужо даўно не было каму і не было патрэбы штосьці купляць і здаваць. Былы фінагент стаў спачатку бухгальтарам, пасьля выйшаў на пэнсію. Але для ўсіх людзей гэты чалавек так і застаўся Купіздаем. „Вунь Купіздай пайшоў“, „Ад Купіздая чуў“. „Дзе?“ — „Ды за Купіздаевай хатай“. Напэўна, так нараджаюцца прозьвішчы.

З Уладзімерам мы паехалі да найстарэйшай жыхаркі Галоднічаў, цёткі Рэні. Сын абрабаванага савецкай уладай селяніна і колішні старшыня сельсавету паказваў дарогу, а я ўсьцешана думаў, што, як ні старалася савецкая ўлада ўсіх людзей зрабіць простымі, але няпросты ча-

лавек невынішчальны. І вельмі часта, як вось у гэтых Галоднічах, ён гатовы адкласьці ўбок свае справы, каб дапамагчы беларускамоўнаму падарожніку. І думаю, беларуская, гэта значыць няпростая, мова — галоўны стымул для такога дзеяньня.

Цётка Рэня, 80-гадовая ўсьмешлівая кабетка, абставінаў таго даўняга рабаваньня ня памятала.

— Так. Ён быў фінагентам. Але я ня чула, каб яго аграбілі. Але чаго толькі тады ні было. Хтосьці хаваўся, не хацеў на вайну ісьці. Маладыя хлопцы. Але палітычных не было.

Спадарыня Рэгіна ў карціну паваеннага жыцьця дадала новы, дагэтуль нідзе ня чуты мною сюжэт.

— Клаліся пад трактары, пад камбайны. Страшна ўспамінаць. Пасьля вайны трохі разжыліся — і тут у калхоз! Мы трымаліся да пяцьдзясят трэцяга. Памятаю, мы, малыя, ляцім, а бабы ляжаць пад камбайнам. І не пайшлі. На жывога чалавека дзе ж яны пойдуць? Яно было, ёсьць і будзець. І цяпер. Каму нравіцца, каму ня нравіцца — ня пойдзеш жа проціў. Беларус жа ня пойдзе проціў. Так і тады. А клаліся тады, каб зарабіць. Трудадні. Бо ўбіралі ж косамі. А тут ня трэба — камбайн усё зробіць.

Калі ў Крыжоўцы сяляне з боем праганялі жняяркі са свайго, як яны лічылі, поля, каб сабраць свой, як яны лічылі, ураджай, дык тут калгасьнікі кідаліся пад камбайны, каб зара-



Цётка Рэня

біць самім. Вось такі быў калгасны галодніцкі лудызм.

— Абідзіць нас той, Вышшы. І цяпер абіжаець, і перш абіжаў...

Так часта бывае, што едзеш па адну тэму, а выплывае зусім іншая. Абрабаваны фінагент адышоў на задні плян. А наперад выйшла гісторыя пра тое, як у 1950-я калгасьніцы клаліся пад камбайны, каб толькі жаць сярпамі. Толькі дзеля таго, каб зарабіць лішні працадзень. Што ж сабою ўяўляў гэты загадкавы працадзень, што за яго людзі гатовыя былі рызыкаваць жыцьцём? Я абклаўся старымі нумарамі абласной „Сялянскай газэты“.

**„«Жанчына ў калгасе — вялікая сіла», — сказаў таварыш Сталін. Залатыя словы! Вось узяць хаця-б наш калгас. Усе асноўныя работы выконваюцца ў нас жанчынамі.**

**Жанчыны і жывёлу даглядаюць, і косяць, і жнуць, і праволваюць — усяго не пералічыць. І вось цяпер, калі ў самым разгары жніво, жанчына прыняла на свае плечы асноўную цяжасць працы.**

**Асабліва мне хочацца адзначыць работу двух жней, якія прыходзяць на поле раней за ўсіх і звяртаюцца дамоў пазней другіх. Адной з іх хутка споўніцца 50 год. Гэта Елена Асіпоўская. З ёй побач заўсёды можна ўбачыць калгасніцу Герасіменка. Гэтыя жанчыны, маючыя вялікі вопыт у палявых работах, зжынаюць за дзень да 30 сотак, між тым, як па норме належыць 15—20.**

**Радасна працаваць жанчынам на калгасным полі. Радасна таму, што праца нас вядзе да заможнасці, да ўсенароднага гонару, да шчасця“.**

Цікава, што думалі пра гэтую вясёлую нататку жнеі з Галоднічаў. Пра заможнасьць і шчасьце. Эканаміста Міхала Залескага гісторыя галодніцкіх жней зусім не зьдзівіла.

— І ў Студзянцы пад Забрэзьзем было такое ж паўстаньне. Таму што сутыкнуліся тэхналёгія вала з тэхналёгіяй рынку. І гэныя людзі не разумелі, чаму ім не даюць зарабіць. „Мы ж робім! Мы ж стараемся! А гэтыя сукі...“ Я гэта чуў ад людзей: „Што за ідыёта прыслалі старшыню? Чаму ён не дае зарабіць?“. Працадзень залежаў ад гаспадаркі. Колькі накідвалі на працадзень. Гэта не фіксаваная адзінка. Праца-

дзень ва ўзорна-паказальным калгасе — гэта ня тое самае, што ў бедным. Калгас дзейнічаў на аснове „Всесоюзного устава сельскохозяйственной артели“. Арцель — гэта таварыства. „Як патопаеш, так і палопаеш“. Але камуністы заўсёды адрозьніваліся двудушнасьцю. Як для вас, лахоў, — гэта статут арцелі, а як для нас, дзяржаўнікаў, — гэта плянавыя пастаўкі. Калі б мы з табой былі арцельлю, мы б пасеялі збожжа, два цэнтнэры на гектар. Мы б сабралі дваццаць цэнтнэраў. Два цэнтнэры б пакінулі на пасеў, пакінулі сабе, пакінулі жывёле, астатняе прадалі б, пакінулі на страхавы фонд і астатняе падзялілі. Так рабіла б арцель. А калі вырашаеш ня ты…

Адказ на пытаньне, што мусіць атрымаць калгасьнік, я знайшоў у адным з нумароў „Сялянскай газеты“ за 1948 год. Вось якія радасныя лічбы былі ў калгасе імя 17 верасьня Маладачанскага раёну. Калі ў 1945 годзе за адзін працадзень давалі 1,5 кіляграма збожжа, у 1946-м — амаль два кіляграмы, дык у 1948-м — ажно 6. Бульбы ў галодным 1945-м — 2 кілё, у 1946-м — 5, а ў 1948-м 12 кіляграмаў! Давалі нават грошы. У 1945-м — 50 капеек за дзень, у 1946-м — адзін рубель, у 1948-м — пяць з паловай! Тыя сталінскія рублі па цэнах у крамах вельмі падобныя на рублі сёньняшнія. Таму ўявіце, што вам за цяжкую працу заплацілі 150-200 рублёў. Ці ня праўда, сталінская радасьць мала адрозьніваецца ад цяперашняй? Я паказаў



Уладзімер Кажамяка

гэтыя лічбы Ўладзімеру Кажамяку, былому выкладчыку вэтэрынарнага тэхнікуму ў Ільлі (гэта былы райцэнтар той жа вобласьці).

— Гэта ўсё няпраўда. За год работы маглі даць пуд збожжа. І ты на плячо гэтыя шаснаццаць кіляграмаў — і прыносіш дадому. Увесь твой заробак збожжавых за год. Якія грошы? Маглі трохі бульбы даць. Таму сяляне ўсё вырошчвалі на сваіх сотках і спадзяваліся толькі на свае соткі. У нас было дваццаць сотак каля хаты і дзясятак сотак у полі. Якія грошы? Дзяржава бедная, грашыма заплаціць ня можа. А як зацікавіць? Вось прыдумалі гэтыя „палачкі“, як іх называлі. Бо брыгадзір ставіў такія насупраць прозьвішча ў сваім сшытку. А яшчэ гэта ж кантроль над табой! Відаць, што ты ходзіш на работы. Што ты выконваеш мінімум працадзён. Было такое паняцьце — мінімум праца-

дзён. Ты павінен кроў з носу яго выканаць. І паспрабуй ня выканай! Будуць спагнаньні матэрыяльныя. І працавалі. І ў нядзелю, і ў суботу, і канца не было. А колькі даць збожжа, бульбы, сена? Гэта ў залежнасьці ад ураджайнасьці. А калі год не ўраджайны і таго збожжа мала? А дзяржаўныя пастаўкі трэба выканаць калгасу? Здаць дзяржаве і сабе пакінуць на пасеў? Вось табе пуд на плечы. А ў іншы год, можа, трошкі болей.

А вось што піша ў „Сельскай газеце“ таварыш Шостак з Альковіцкага сельсавету Ільлянскага раёну. Была ўсё ж у савецкіх калгасах тая дзіўная прафэсія.

**„Заслужаным аўтарытэтам карыстаецца сярод членаў сельгасарцелі імя Варашылава калгасны ізбач камсамолка Соф'я Бохан. Ужо другі год яна з'яўляецца агітатарам у трэцяй брыгадзе. Вось і зараз, у гарачую пару ўборкі, яе можна амаль кожны дзень у абедзенны перапынак бачыць у полі з газетай у руках. Яна праводзіць гутаркі са жнеямі, арганізуе калектыўную чытку.**

**Жняя Яніна Лобач пакідала ў полі многа каласоў. Агітатар заўважыла гэта і прысараміла бракароба. У той жа дзень яна расказала калгаснікам, як з-за пакінутых каласоў трацяцца пуды і тоны збожжа. Назаўтра ў калгаснай насценнай газеце паявілася карыкатура на Яніну Лобач. Цяпер Яніна і яе**

**сяброўкі не пакідаюць у полі ніводнага каласка. І працаваць яны сталі значна лепш“.**

На старонках „Сялянскай газеты“ друкавалася шмат вершаў пра шчасьлівае калгаснае жыцьцё. Вершаў прафэсійных літаратараў і самадзейных паэтаў. Але, колькі я ні шукаў, нідзе ў гэтых творах не знаходзіў слова „працадзень“. Прыгадваецца толькі прыпеўка, пачутая ад Уладзімера Арлова: „Працадзень наш, працадзень. Зноў у сраку цэлы дзень“. А вось чым натхняла абласная газэта:

**„Я чытала Леніна,**
**Я чытала Сталіна,**
**Што калгасная дарога**
**Для сялянства правільна.**

**Жыць заможна у калгасе —**
**Гэта справа нашых рук.**
**Так сказаў таварыш Сталін,**
**Бацька наш, настаўнік, друг.**

**Шырэй, вуліца, раздайся —**
**Трактарам дарогу дай.**
**Мы змагацца будзем дружна**
**За высокі ўраджай.**

**Гарманіст, гучней іграй нам,**
**Усе дзяўчаты падпяюць.**
**Хай пачуюць ва ўсім свеце,**
**Як калгаснікі жывуць.**

**Ты ляці крылатай птушкай,**
**Наша песня пра калгас.**
**Бацьку-Сталіну падзяку**
**І паклон нясі ад нас!**

**(З частушак, запісаных у калгасах Мядзелскага, Пастаўскага і Смаргонскага раёнаў нашай вобласці)“.**

Жыцьцё ўяўнае і жыцьцё сапраўднае максымальна разводзіліся прапагандай. Паток ялею ліўся на таварыша Сталіна, на родную партыю. Але нідзе ніводнага слова ў адрас чалавека, ад якога былы селянін залежаў найперш. Гэта не старшыня сельсавету і не старшыня калгасу. Гэтыя два начальнікі занадта высока сядзяць, ня кожны дзень пабачыш. Галоўны пан для калгасьніка быў той, хто ставіў тыя палачкі працадзён у сшытак. Успамінае ільлянскі выкладчык Уладзімір Кажамяка:

— Брыгадзіры вялі ўлік і падавалі ў бухгальтэрыю гэтыя зьвесткі. І потым на кожнага калгасьніка разьлічвалася, колькі яму выдаць. На колькі яго падмануць, карацей кажучы. І паспрабуй з брыгадзірам пасварыцца — будзе табе дрэнна ва ўсіх адносінах. Бо гэта быў самы начальнік. Як правіла, гэта быў камуніст. Але ў канцы кожнага году, хоць калхоз і бедны, прадсядацель (пэўна, была такая ўстаноўка) праводзіў дажынкі. Недзе ў лістападзе, калі ўжо прымаразкі пачыналіся, у адной зь вясковых хат ставілі сталы. Прадсядацель выпіша хлеба, на-

гоняць гарэлкі, зарэжуць авечку ці кабанчыка. Ну і ўсе радыя, п’яныя. Адзін дзень у годзе быў такі. Мы, дзеці, туды бегалі на гэтыя дажынкі, на гэтыя п’янкі, і ўсё гэта бачылі. І ня толькі бачылі. Бо нас таксама частавалі гарэлкай.

Дык вось адкуль тая любоў да дажынак. Не дажынак народных, спрадвечных, а тых калгасных, п’яных і загульных.

Псэўданародныя прыказкі аб працадні і калгасе я ўсё ж знайшоў. У кнізе „Мудрыя дарадцы“, выдадзенай „Мастацкай літаратурай“ у 1973 годзе. У эпоху, калі працадзён ужо не было.

„Не хваліся працаднём, а хваліся, колькі ў ём“.

„У калгасе якая работа, такая і плата“.

„Мы калгасным ураджаем усіх ворагаў пужаем“.

Апошні шэдэўр цягне на артыкул Крымінальнага кодэксу пра выдаваньне дзяржаўнай таямніцы. Калі я сёньня бачу, на якім аўтамабілі езьдзіць старшыня калгасу, прабачце, дырэктар сельгаскаапэратыву, і якія лічбы фігуруюць у зарплатных ведамасьцях, я разумею, што калгасная эпоха працягваецца. І зусім не выпадкова старая сялянка цётка Рэня паўтарала ў будучым часе: „Абідзіць нас той, Вышшы...“

# „Людзі праз хутары разьбягаліся, як тараканы“

*Вайдзені, Вялейскі раён*

Неяк у Строчыцах загаварылі мы з маладым супрацоўнікам музэя пра этнаграфічныя рэгіёны Беларусі. „Іх усяго шэсьць, — пачаў згадваць я. — Палесьсе, Падзьвіньне, Панямоньне...“. „Ні ў якім разе! — усклікнуў апантаны музэйшчык. — Іх сем!“ — „А які ж сёмы?“ — „Віленшчына! — упэўнена прамовіў навуковец. — Ні з чым не параўнальная Віленшчына. Зь яе адрознай прыродай, зь яе нацыянальнай стракатасьцю, а галоўнае — зь яе хутарской сьвядомасьцю! Віленшчына — гэта краіна хутароў!“

Працуючы над кнігай пра сёмую вобласьць, я адразу ўспомніў тую гутарку пра сёмы этнаграфічны рэгіён. Бо яны супадаюць.

Вёска Вайдзені, што ў Вялейскім раёне, вядомая з 1766 году. Гэта ня хутар, але пасярод хутарскога краю — з насельніцтвам, надзеленым практычна хутарской сьвядомасьцю.

У 1938-м, перадваенным, годзе тут жылі амаль 250 чалавек. У 1949-м, як паведамляе энцыкляпэдыя „Гарады і вёскі Беларусі“, тут стварылі калгас „Сталінская канстытуцыя“. У 2008-м у Вайдзенях заставаліся 32 жыхары.

У 2019-м — 20. Далёка ня ўсе зьбеглі ад сталінскай канстытуцыі добраахвотна. І далёка ня ўсе засталіся ў жывых пасьля падзеяў, якія суха апісвае судовая справа 1950 году, справа Соф'і Сямашкі, 1925 году нараджэньня, пісьменнай, замужняй, беспартыйнай, несудзімай.

**„Семашко София признана виновной в том, что она в июне месяце 1950 года установила преступную связь с вооружённой бандгруппой, возгловляемой КОВАЛЁНОК Петром, действовавшей на территории Вилейского и Сморгонского районов.**

**В июне месяце 1950 года муж осуждённой Семашко Евгений при согласии на то осуждённой привёз в свой дом раненного главаря банды КОВАЛЁНОК Петра. В течении трех недель осуждённая совместно со своим мужем /ныне осуждённым/ укрывала от органов Советской власти упомянутого бандита, обеспечивала его продуктами питания, готовила для него пищу и оказывала медицинскую помощь“.**

Вайдзені — месца зацішнае. Яно схавалася ў глыбіні вялікага хваёвага лесу ад вялікіх дарог і чужых вачэй. У вёсцы хапае пустых хат, ёсьць дамы, абшытыя сайдынгам. Няйначай гарадзкія нашчадкі свае радавыя гнёзды перарабляюць у дачы. Мой першы суразмоўца Аляксандар Садоўскі занадта малады, каб памятаць пяцідзясяты год. Але памяць пра тую гісторыю ў Вайдзенях жывая дагэтуль.

— Я помню, дзе стаяў іхны дом. Вунь там на гарэ. Дом жа разабралі. Памятаю фундамэнт, падвал, дзе яны праталіся. Калі іх пасадзілі, яны ўжо не вярнуліся. А ў іх былі сыны, усе ў бандзе былі.

Калі я ўжо зьбіраўся сыходзіць, мой суразмоўца распавёў пра свайго дзядзьку, былога ўдзельніка вайны, які ваяваў у заградатрадзе, таксама вязьня ГУЛАГу, таксама арыштаванага ў 1950-я. Але яго справы не магло быць у маім архіве. Бо дзядзька быў супрацоўнікам МГБ.

— Майго дзядзьку, матчынага брата, ён быў міліцыянэрам, таксама рэпрэсіравалі. Адправілі ў Сібір. І там памёр. Ён былы ваенны, у заградатрадах быў. Строіў БАМ яшчэ да таго, як пачалі сьпяваць пра БАМ. Мікалай Сьцяпанавіч Аскірка, 1922 году нараджэньня. Ён у ашмянскай міліцыі служыў. У тыя часы, калі баролісь з бандамі. Іх адправілі кагосьці арыштаваць, на нейкім далёкім хутары. Яны, міліцыянэры, заначавалі непадалёк. А тыя бандыты ўцяклі. І вось іх за гэта ў Сібір. Замест тых. Прыслалі бумагу адтуль, з лагера, што памёр.

Я пайшоў у госьці да іншай карэннай вайдзянкі, Галіны Казёл. Галіна — жанчына моцная, мажная, галасістая, — як высьветлілася, далёкая сваячка фігурантаў той справы.

— Маёй мамы сястра была замужам за яе братам, Колем Сямашкам. А гэта Соня, яго сястра. Пасьля лягеру яны сюды не вярнуліся. Яны паехалі на Ўкраіну і там памерлі. Маім

сёстрам дваюрадным было па дзесяць лет, як іх бацька прыйшоў.

Такім чынам, Соф'я Сямашка — жонка Яўгена Сямашкі. У таго Яўгена быў яшчэ брат Мікалай і сястра Нюра. Мікалаева жонка — гэта родная цётка маёй суразмоўцы. Усе, акрамя Нюры, пайшлі ў ГУЛАГ. Сьляды Соф'і пасьля лягеру згубіліся. Астатнія пераехалі ва Ўкраіну. На радзіму не вярнуўся ніхто.

А цяпер зазірнем у абласную „Сялянскую газету" за 1950 год.

**„Ад селяніна Хохлаўскага сельсовета, Маладзечанскага раёна, паступіла пісьмо, у якім паведамлялася, што загадчыца магазінам Бармоціна парушае правілы савецкага гандлю. Разам з неабходнымі спажыўцу таварамі яна ў якасці «нагрузкі» прымушала браць сіньку для бялізны.**

**Загадчык райгандльаддзелам паведаміў у рэдакцыю, што пры праверцы на месцы факты поўнасцю пацвердзіліся. На загадчыцу магазінам накладзена адміністратыўнае спагнанне — вымова".**

**„У магазінах гор. Вілейка немагчыма купіць зубны парашок. Замест яго прапануюць зубную пасту, а парашок абяцаюць... «у бліжэйшы час».**

**Няўжо зубны парашок з'яўляецца такім рэдкасным таварам, якога не мае гандлёвая сетка горада?".**

**„У сяле Крэва, Смаргонскага раёна, ёсць тры магазіны. У адзін з іх зайшоў пакупнік.**

**— Папяросы ёсць? — запытаў ён.**

**— Няма, — адказаў прадавец.**

**— Махорка?**

**— Таксама няма.**

**Прадавец параіў прайсці ў другі магазін: «Там, магчыма, і гандлююць гэтым таварам».**

**Пакупнік наведаў і астатнія два магазіны. На яго пытанні паследвала знаёмае слова — няма.**

**— А дзе-ж усё-такі купіць пачку папярос? — запытаў пакупнік у трэцім магазіне. На шчасце, тут аказаўся і сам старшыня Крэўскага сельпо тав. Рапацэвіч. Ён і «выручыў».**

**— Паязджайце, дарагі, у Смаргонь, — сказаў ён, — там, здаецца, вы задаволіце свой попыт“.**

**„У вайну Пастаўскі вінзавод быў ператвораны ў груду развалін. У 1946 годзе яго аднавілі. За пасляваенныя гады значна ўдасканалена абсталяванне прадпрыемства. Зараз тут выпускаецца шэсць гатункаў він: вінаграднае, яблычнае, журавіннае, брусьнічнае, чарнічнае і фруктовае.**

**Калектыў завода настойліва змагаецца за палепшанне якасці сваёй прадукцыі, уступіўшы ў перадмайскае соцспаборніцтва з мясакамбінатам“.**

Хто выйграў „социялістычнае спаборніцтва“, мясакамбінат ці вінзавод, ведаю нават я, народжаны ў 1960-х. Ужо за часамі Брэжнева і Машэрава ня тое што ў вясковых, нават у крамах абласных гарадоў прадукцыя мясакамбінатаў была прэзэнтаваная толькі лівэрнай каўбасой, па вараную „доктарскую“ трэба было адстаяць у чарзе. Вэнджаныя каўбасы ўжо трэба было толькі „даставаць“. А вось з прадукцыяй вінзаводаў праблемаў не было ніколі. Але нашых герояў ні пладова-ягаднае віно, ні махорка, ні зубны парашок не цікавілі.

**„С июля до середины сентября 1950 года СЕМАШКО София принимала бандгруппу КОВАЛЁНОК Петра, состоящую из 4-х человек. Предоставляла бандитам свой дом и надворные постройки для укрывательства и отдыха. Снабжала бандитов продуктами питания и самогоном, а также сама неоднократно принимала участие в пьянках.**

**За оказанные услуги СЕМАШКО София получала от бандитов товары ограбленных ими магазинов сельпо в порядке вознаграждения, головные платки, 6 пар простых и шелковых чулок, туфли, отрез материала, зеркало, одеколон и другие товары“.**

З пратаколу добра бачны асартымэнт сельскай крамы. Гаспадыняй гэтага багацьця стала Нюра, сястра Мікалая і Яўгена, якая пазьбегла лягеру. Працягвае Галіна Казёл:



Уладзімер Садоўскі

— Тут жыла іхная сястра. І яны ў яе хавалі ўсё нарабленае. Але яе не пасадзілі, Нюрку. Пасадзілі толькі братоў. Казалі, што ў яе скрыні знайшлі дзецкіх баціначак, усяго людзкога. Яна выйшла сухой з вады. Яе не судзілі. Хаця там быў прытон партызанскі, бандыцкі.

А мы тым часам ідзём далей. Каб даведацца, што ж цікавага знайшлі супрацоўнікі МГБ у доме Сямашак у 1950-м, акрамя адэкалёну. Майму наступнаму суразмоўцу, Уладзімеру Садоўскаму, у той час было дзесяць гадоў.

— Бандзіты былі. Маю цётку пугалі: „Мы цебе адно месца надзяром, калі будзеш балтаць". Там былі і вайдзенеўскія, і з Урэчча, і з другіх дзеравень. Я былы ваеннаслужачы. І ў Северадзьвінску была ў мяне радня. І там была свадзьба. І на той свадзьбе была адна жан-

чына. Яна была замужам за адным зь іх. Я зь ёй разгаварываў. Гэта былі 1980-я гады. Яны ўжо ўсе паўміралі. Сямашка Франак даўно памёр. У яго аўтамат і кулямёт быў. Помню, як яго вялі, рукі назад, эмгэбэшнікі.

Аўтамат? Кулямёт? Нішто сабе арсэнал у гэтага Франка. Па больш падрабязны аповед я паехаў у Маладэчна, да найстарэйшага ўраджэнца Вайдзеняў Лявона Лявошкі. 86-гадовы Лявон Лявошка вельмі адпавядае свайму імю. Па-беларуску шчыры, усьмешлівы. Ён цудоўна памятае той час, калі сям'я Сямашак нечакана для ўсіх пачала багацець.

— Сямашкі — гэта хутар быў. Мнагадзетная сям'я, пяцёра дзяцей. Самы малодшы — Ванька, потым Барыс, трэці Коля і чацьвёрты Жэнька. І сястра Нюра. Я з Ванькам у школу хадзіў. Нашу вёску спалілі ў сорак чацьвёртым гаду, немцы. Потым усіх мужыкоў забралі ў армію. І быў такі пэрыяд, калі дома былі ўсе бацькі, толькі немцы сышлі. І ў гэты час быў очань разьвіты бандытызм. І гэтая сям'я ўчаствавала ў грабяжах магазінаў. У іх сталі паяўляцца, тады вельмі модныя былі, радыёпрыёмнікі! Я сам зрабіў яго. А ў іх паявіўся куплены. А дзе яны яго ўзялі? Бедныя ж былі. А патом веласіпед паявіўся. Каб купіць веласіпед, трэба было сто дваццаць пудоў хлеба!

Магазіны сям'я Сямашак „бамбіла“ творча. Да справы падыходзілі грунтоўна. Вярталіся на базу ня тым шляхам, які наўпрост вёў да



Лявон Лявошка

намечанай крамы. Па дарозе раскідвалі цукеркі з абрабаванай крамы, каб заблытаць сьляды. А пагарэлі на дробязі.

— Іхная сядзіба была на горцы. Падчас вайны ў іх нічога не згарэла. Спачатку ўсё разбамбілі, а потым хадзілі два мужыкі і паджыгалі дамы, каторыя не загарэліся. А іхнае ўсё засталося. І калі міліцыя ехала, глядзяць — там дарожка палявая. І замеценая венікам. А чаго яна замеценая? Можа, пасьля таго, як карову выганяла на пашу, ды замяла? А людзі гавораць, ды яна ў гадавы празьнік не замяце. А тут у рабочы дзень замяла. Штосьці ня тое. Аказалася, прайшоў воз, ноччу ж езьдзілі магазін грабіць, і дарожку, каб не замецілі людзі, замялі. Каб не было відна, што там нехта ехаў. Зайшлі да іх. Воз стаіць пасярод двара. Са снапамі сена. Разь-

біраюць гэты воз. А там, у снапах, — усё, што ў магазіне набралі. Потым Франак, муж Нюры, прынёс зь лесу пулямёт. Паглядзелі ў калодзеж — а там аўтамат. Колю забралі і Жэньку. Самыя старшыя. І гэтага Франка забралі.

Усё прадугледзелі Сямашкі. І раскіданыя цукеркі па далёкіх дарогах. І хаваньне нарабаванага ў снапах, на самым бачным месцы. І так па-дурному пагарэлі. Ня трэба ўсё ж здраджваць сваім звычкам. Але ж з арыштам Сямашак гісторыя ня скончылася.

Ужо ў 1970-я ў Вайдзенях адбылася трагедыя. Як рэха паваенных часоў. Ад шалёнай кулі загінуў малады чалавек, які нарадзіўся ўжо пасьля 1950 году.

— Калі ў іхным доме разьбіралі крышу, знайшлі пісталет. Месны дзядзька знайшоў, які крышу разьбіраў. Забраў той пісталет сабе і схаваў. А ягоны сын знайшоў. І да таго сына прыйшоў друг і стрэліў. Сабе ў лоб стрэліў. Насьмерць.

Аказваецца, шматдзетная сям'я Сямашак была зусім ня простай. Галава сям'і быў знаным на ўсё навакольле краўцом. Да размовы далучылася жонка Лявона Браніслава, таксама вайдзенская кабета.

— Апазыцыянэраў яшчэ не было. Былі чэсныя людзі і бандзіты. Ацец іх очань харошы партной быў. Шыў адзёжу. Да яго насілі шыць адзёжу толькі паны. Паноў у нас многа было. Ён толькі іх абшываў.

Умеюць нашы людзі часам выказаць тое, што называецца „голас народу“. „Тады апазыцыянэраў не было, толькі чэсныя людзі і бандзіты“. Але ўва ўсёй гэтай гісторыі ключавым словам для мяне гучыць слова „хутар“.

У старых тэчках ёсьць нямала спраў, дзе не знайсьці ніякіх канцоў у сёньняшнім дні. Ні сьлядоў фігурантаў, ні жывых сьведак тых даўніх падзеяў. А справы вельмі цікавыя. Як, напрыклад, справа Ганны Валяр'янаўны Бабіч, 1910 году нараджэньня, зь сялян, зь сярэдняй адукацыяй, несудзімай, адзінокай. Абласны суд выпісаў ёй 6 гадоў папраўча-працоўных лягераў.

**„Бабич признана виновной в том, что она у себя на квартире хранила антисоветскую, т.е. профашистскую, литературу, которая была у неё обнаружена.**

**Ссылка осуждённой Бабич, что антисоветская литература, обнаруженная у неё на квартире, принадлежит её квартирантке Козловской, которая осуждена за невыполнение налогов и отбывает меру наказания, является несостоятельной, так как указанная литература обнаружена в столе, принадлежащим Бабич“.**

Чым сябе пацешыць немаладой жанчыне пасьля цяжкай працы на гаспадарцы? Чым разнастаіць сваю самоту? Вядома, лепшага адпачынку, чым чытаньне антысавецкай, „гэта значыць прафашысцкай“, літаратуры не пры-

думаць. Шкада, што судзейскія не пакінулі ніводнага тлумачэньня, што ж за антысавецкая літаратура была ў тым стале? Ды яшчэ ў 1947 годзе? Старыя польскія газэты? Рэлігійныя кнігі? Гістарычныя нарысы пра польска-савецкую вайну? Пра гэта мы ўжо ніколі не даведаемся. Як не дазнаемся ні пра лёс Ганны Бабіч, ні пра лёс яе загадкавай кватаранткі Казлоўскай. Бо разам з гаспадыняй назаўжды зьнік і хутар Ляды, які некалі быў у Валожынскім раёне.

Няма і хутара Санава, што некалі існаваў на Астравеччыне, каля самай літоўскай мяжы. Дзе ў 1918 годзе нарадзіўся Мечыслаў Людвігавіч Глазко, зь сялян-кулакоў, паляк, пісьменны, несудзімы. Нават сухія радкі, якія пералічаюць злачынствы маладога чалавека, ператвараюць судовы дакумэнт у накід прыгодніцкага кінасцэнара.

**„Глазко признан виновным в том, что он, не желая служить в Советской Армии, в 1944 году перешел на нелегальное положение и вступил в бандгруппу Чернявских Бронислава и Эдмунда, осуждённых по другому делу.**

**В августе месяце 1944 года осуждённый Глазко совместно с Чернявскими были задержаны милиционером Лавреновичем, причем при конвоировании в РО МВД местечко Островец, в пути следования Глазко с Чернявскими напали на Лавреновича, отняли у последнего винтовку и пытались застрелить**

**его, но сделанным выстрелом промахнулись и в это время Лавренович скрылся в лесу.**

**В 1945 году Глазко снова был задержан и арестован и направлен в спецлагерь для проверки, а в июле месяце 1948 года был этапирован в город Молодечно, но в пути следования вторично совершил побег и скрылся.**

**В сентябре месяце 1949 года Глазко был задержан, у которого был отнят финский нож и паспорт, принадлежащий гр-ну Гончарову Ивану Тимофеевичу, подделаный в паспорте год рождения, из'яли из паспорта фотокарточку Гончарова и приклеили свою, по коему и проживал до момента задержания его“.**

Перастрэлкі, уцёкі, падробка дакумэнтаў. Як цікава і насычана жыў Мечыслаў Глазко! Зрэшты, абласны суд ацаніў ягоную пасіянарнасьць па вышэйшай планцы — 25 гадоў лягераў.

Таксама не засталося ніякіх зьвестак пра хутар Магільнікі Відзаўскага раёну. Там жыла Філіміна Адамаўна Швілпа, 1905 году нараджэньня, полька, непісьменная, беспартыйная, калгасьніца калгасу імя Суворава. Савецкай калгасьніцы далі дзесяць гадоў лягеру за тое, што

**„... была связанна с участниками вооружённых террористических групп польско-литовского подполья, которым оказывала содействие в их борьбе против Советской власти“.**

Польска-літоўскае падпольле? Пра Армію Краёву чуў, пра літоўскіх лясных братоў таксама. А вось пра такі сымбіёз… Гэта хіба нешта з тэрміналёгіі маскоўскіх карнікаў XIX стагодзьдзя. Як толькі забыліся напісаць, што ўзначальвала падпольле польска-літоўская шляхта. Але чытаем далей.

**„Швилпа признала себя виновной в том, что она в 1948 году 3 недели укрывала в своём доме одну женщину, которая была связана с литовскими партизанами. Швилпа подтвердила, что за этот период её дом три раза посещали «литовские партизаны», о чем органам советской власти она не донесла“.**

Літоўскія партызаны. Дзіўна, але хоць раз работнікі МГБ ня схлусілі. Назвалі рэчы сваімі імёнамі. Словазлучэньне „беларускія партызаны“ магло мець толькі савецкую афарбоўку. Але ці памятае хоць нехта пра тых літоўскіх партызанаў на беларуска-літоўскім памежжы? Хутароў не засталося.

Маім правадніком у тэме хутара ў паваеннай Беларусі зноў стаў эканаміст Міхал Залескі. Мы ідзём праз Мядзьведжынскі лес. Дзе таксама яшчэ засталіся сьляды былых хутароў. Ці ня сьведчыла ліквідацыя самай хутарской вобласьці пра пастаўленую і выкананую савецкай уладай задачу — ліквідацыю хутароў?

— Гэта памылка лічыць, што хутары былі зьліквідаваныя. У 1972 годзе я паступіў на працу ў Цэнтральны навукова-дасьледчы ін-

стытут мэханізацыі і электрыфікацыі СССР, у аддзел эканомікі і арганізацыі выкарыстаньня машынна-трактарнага парку. І вось ідэя камуністаў на той час была такая (гэта семдзесят другі год), што чым менш трактар робіць разваротаў, тым больш ён ашчаджае паліва. І таму хутары мусяць быць зьліквідаваныя. Таму што яны перашкаджаюць зрабіць вялікія палі. І я быў адпраўлены як лябарант у Цэнтральны дзяржаўны архіў імя Кастрычніцкай рэвалюцыі падлічваць хутары. Іх на той час было ў краіне 586 тысяч. І на тэрыторыі былой Маладачанскай вобласьці іх была асноўная частка. Увесь Віленскі край — ён быў самы хутарскі. І данішчаныя яны былі за Брэжневым. Бо ўлады дачакаліся, калі старыя будуць паміраць, маладыя зьедуць, і ўсё гэта зносілася.

На хутары не правядзеш палітінфармацыю. Сюды адмыслова не прывязеш кінаперасоўку, каб паказаць навіны дня. Нават з прымусовай падпіскай на газэту „Сталінскі шлях“ будуць праблемы. Але была яшчэ адна прычына, якая несла небясьпеку савецкаму рэжыму. Можа, асноўная, праз якую хутары належала вынішчыць. Гаворыць Міхал Залескі:

— Людзі на хутарах „клалі з прыборам“ на савецкую ўласьць. Былі такія людзі, як у нашай мясцовасьці. Дзядуля, каторы меў зяця-прадаўца, дачку-настаўніцу, мэдаль „Партызан Беларусі“ за тое, што гарэлку даваў партызанам, і хутар захаваў са сталыпінскіх часоў да нашага

часу. Хутар — гэта свабода. У мяне сваякі Завадзкія дажылі да ста гадоў і не прызнавалі гэтай улады. Іх ніхто не чапаў, бо яны навучыліся поўнай мімікрыі. Ліквідацыя хутароў — гэта была ліквідацыя базы забесьпячэньня магчымых паўстанцаў. Мой бацька, быўшы аграномам МТС, вазіў прэсу на хутар ксяндзу. Каторы там сядзеў пяць гадоў, а потым сышоў у Літву. Праз хутары людзі легалізаваліся. Людзі выходзілі з АК, людзі выходзілі з бандаў праз хутары. Таму што даказаць... „Я Завадзкага пляменьнік. Я на хутары жыў і лапцем хлябаў шчы. А зараз я очань хачу па камсамольскай пуцёўцы паехаць на цаліну!“ — „Вось табе пашпарт, таварыш! Яжджай!“ Атрымаў дакумэнт, разьвярнуўся, даехаў да Мурманска, наняўся на параход. Усё! Гэта рэальная гісторыя. Людзі праз хутары разьбягаліся, як тараканы.

Аднойчы, гадоў дзесяць таму, трапіўшы на клясычны беларускі хутар сярод густога лесу, на беразе Вяльлі, я быў зачараваны ня толькі прыгажосьцю мясьціны, але і той ступеньню свабоды, якую гэты хутар даваў. Таму мяне зусім не зьдзівіла энэргетычная вайна, якую вёў мясцовы сельсавет супраць хутараніна. Заломваючы неймаверныя цэны за тое, каб правесьці лінію электрычнасьці. Сельсавету трэба было, каб усе жыхары „непэрспэктыўных“ вёсак перасяляліся ў адзін аграгарадок. У аднолькавыя, пабудаваныя паводле аднаго праекту будынкі, пад адзін нагляд. Хутар па самой сваёй свабод-

най прыродзе — зьява індывідуалістычная, а значыць антысавецкая. Калгасы паступова вымираюць. А вось вёскі, на якія савецкія ўлады накінулі таўро „непэрспэктыўнасьці“, маюць бліскучую пэрспэктыву — адрадзіцца ў выглядзе самадастатковых сучасных хутароў. Са сваёй вадой, сваёй электрычнасьцю, сваім паветрам.

## „Ворагаў храмы прэч мы зьмяцём“

*Радашкавічы, Маладачанскі раён*

**„Стары 2000-ы год адыходзіў у гісторыю. Аб гэтым сведчылі старыя неонавыя надпісы, якія красаваліся на праспекце імя 80-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, цэнтральнай магістралі Радашковіч. Вогненныя літары заклікалі: „Калі вы жадаеце па-сапраўднаму сустрэць Новы год — адпраўляйцеся ў святочнае падарожжа на месяц. Там у кафэ „Пад зямлёй“ вы знойдзеце багаты выбар гарачых і халодных штучных страў“. „Лепшым навагоднім падарункам з'яўляецца кішэнная атамная электрастанцыя з запасам паліва на пяць год. Спяшайцеся набыць яе ў Цэнтральным радашковіцкім універмагу“ — паведамляў наступны надпіс. На вуліцах горада адчувалася перадсвяточнае ажыўленне. Бесперапынна імчаліся атамнабілі, напоўненыя падарункамі і цацкамі для ўпрыгожвання штучных ёлак. На верхніх пляцоўках рэстаранаў раз-по-раз садзіліся і ўзнімаліся рэактыўныя верталёты. Па высланых гумаю тратуарах спяшаліся з чарговай чатырохгадзіннай змены рабочыя і інжынеры заводаў — мэблевага, штучных замяніцеляў ільновалакна, кішэнных тэлевізараў“.**

Як цікава чытаецца гэты навагодні футурыстычны „Рэпартаж з будучыні“ напярэдадні Новага 1958 году. Напісаў артыкул „Новы 2001-ы“ малады супрацоўнік радашкавіцкай раённай газэты Адам Мальдзіс. І сёе-тое ўгадаў. І пра штучныя ёлкі, і пра багаты выбар штучных страў. І пра кішэнныя тэлевізары, якія, вядома, выробляюцца зусім не ў Радашкавічах. І пра кішэнную атамную станцыю. Якая, што праўда, ляжыць толькі ў адной кішэні. Дзіўна, чаму малады журналіст не згадаў пра лякамабілі? Зрэшты, на двары іншая эпоха! Усяго некалькі гадоў прайшло ад сакавіка 1953-га, а ўжо і карыкатуры весялейшыя, і тэксты больш людзкія, і няма вечнага правадыра на кожнай бачыне. Але, апісваючы фантастычную касьмічную будучыню, нават Мальдзіс ня мог уявіць яе без працадзён.

**„Толькі на працадні мы выдалі ў адыходзячым годзе чатырыста атамнабіляў і некалькі дзесяткаў турысцкіх пуцёвак на Месяц, Марс і Венеру. Аднак, у нас усё яшчэ ёсць і недахопы. Мала новых твораў развучыў у старым годзе наш сімфанічны аркестр. Яшчэ не ў кожнай вёсцы ёсць шырокаэкранны кінотэатр. Інжынер па штучнаму дажджу многа ўдзяляе ўвагі сардэчным справам і таму часамі пускае дождж не туды, куды трэба“.**

Турыстычныя пуцёўкі не ў Парыж і нават не ў сацыялістычную Прагу. Гэта ўжо такая



...годам прыгажэе наш раённы цэнтр—гарадскі пасёлак Радашковічы. Толькі ў гэтым годзе здадзены ў эксплуатацыю будынкі раймага, васьмікват... ...ць новыя вуліцы, скверы. **На здымку:** выгляд на плошчу імя Гастэлы гарадскога пасёлка Радашковічы.

фантастыка, пра якую і падумаць страшна. Лепш ужо на Марс з Вэнэрай. Пагатоў да іх рукой падаць (ёсьць такія вёскі ў Беларусі). А яшчэ ў 1957-м Радашкавічы пакінуў чалавек, пра якога газэта „Сцяг Ільіча“ нічога не напісала. Хоць для многіх радашкаўцаў ягоны ад'езд за заходнюю мяжу, то бок значна далей за Марс з Вэнэрай, значыў нашмат больш за будучыя падарожжы на Месяц.

У пасьляваенныя часы, каб атрымаць сур'ёзны лягерны тэрмін, не абавязкова трэба было хаваць у агародзе закапаны кулямёт, абрабаваць сельскую краму ці дапамагчы ежай і начлегам лясному брату. Дастаткова было, як у выпадку валожынскай хутаранкі Ганны Бабіч, пра якую я ўжо апавядаў, трымаць у доме антысавецкую літаратуру. Пад гэтае азначэньне можна было падагнаць што заўгодна. Ад старых польскіх газэт да рэлігійных кніг. Таму ў групе рызыкі значыліся сьвятары, асабліва каталіцкія. Як ксёндз Стэфан Шыманскі, 1911 году на-

раджэньня, ураджэнец вёскі Майдан Сіняўскі Яраслаўскага раёну Львоўскай вобласьці. Жыхар мястэчка Радашкавічы, паляк, адукацыя вышэйшая духоўная.

**„Шиманский Стефан Казимирович, проживая в м. Радошковичи, того же района Молодеченской области и являясь настоятелем Радошковического Римско-католического костёла, будучи враждебно настроенным к Советскому строю, на протяжении с 1941 года до дня ареста, используя религиозные предрассудки, систематически проводил антисоветские высказывания как в личных беседах с гражданами так и в своих проповедях в костёле, с клеветой на Советскую власть и её действительность, на проводимые мероприятия партией и правительством по реализации государственных займов, извращал законы Советской власти, изложенные в Конституции СССР. Восхвалял государственный строй и материальныя условия жизни бывшей Польши. Кроме того, на протяжении с 1938-1939 года и до дня ареста Шиманский хранил у себя на квартире антисоветскую контреволюционную литературу «Календарь матки», «Будьте верными» и журнал «Рыцеж непоколяный»“.**

У паваеннай сталінскай Беларусі, дзе яшчэ ня скончылася лясная вайна, дзе раённыя начальнікі ня езьдзяць на бліжэйшы хутар без аховы, дзе каталіцызм можа быць толькі поль-


4

РАЗВУЧВАЙЦЕ СОВЕЦКІЯ ПЕСНІ!

Мы беларусы

Словы М. Клімковіча. Муз. Н. Сакалоўскага.

*Мы, беларусы, з братняю Руссю*
*Разам шукалі к волі дарог.*
*У бітвах за волю, ў бітвах за долю*
*Мы здабылі з ёй сцяг перамог!*

*Нас аб'яднала Леніна імя,*
*Сталін павёў нас к шчасцю ў паход!*
*Слава Советам, слава Радзіме,*
*Слава табе, беларускі народ!*

У слаўным Саюзе люд Беларусі
Вырас, як волат нашых былін.
Вечна мы будзем вольныя людзі
Жыць на шчаслівай, вольнай зямлі!

Дружбай народаў мы назаўсёды!
Нашы граніцы ў сталь закуем.
Ворагаў храмы грозным ударам
З нашых прастораў прэч мы змяцем.

Фабрыка новых раслін

(Пісьмо з Крыма)

скім, з амбону нясуцца прамовы пра савецкую рэчаіснасьць? Гэты ксёндз альбо вар'ят, альбо герой ва ўсіх сэнсах слова.

Незвычайную памылку друку я заўважыў у адным з нумароў абласной газэты. Чытачоў знаёмілі зь песьняй „Мы, беларусы“, якая неўзабаве стане гімнам БССР. Апошні куплет быў надрукаваны вось у такім выглядзе:

**Дружбай народаў мы назаўсёды**
**Нашы граніцы ў сталь закуём.**
**Ворагаў храмы грозным ударам**
**З нашых прастораў прэч мы змяцём.**

Я не паверыў вачам. „Ворагаў храмы“? Знайшоў фанаграму на YouTube. Ну вядома, у тэксьце Клімковіча — „ворагаў хмары“! Але ж рука наборшчыка адчувала эпоху лепш за самога аўтара-паэта!

Радашкавічы, ці, на савецкі капыл, Радашковічы, колішні раённы цэнтар Маладачанскай вобласьці, амаль не зьмяніліся з 1950-х. Дастаткова разгарнуць раённую газэту „Сцяг Ільіча“, дзе сфатаграфаваная галоўная плошча мястэчка. Усё тыя ж даваенныя будынкі і сёньня на месцы. На ўзвышшы дамінуе райкам партыі. Вось толькі знайсьці ў сёньняшніх Радашковічах тых радашкавіцкіх старажылаў ужо ня так лёгка. І ня толькі з прыроднай невясёлай прычыны. Многія радашкаўцы зьехалі ў 1950-я ў Польшчу. Ужо няма тых, хто хадзіў на службу. Але яшчэ жывуць тыя, хто бачыў ксяндза  Шыманскага дзіцячымі вачыма. Спадарыню Аліну, карэнную жыхарку Радашкавічаў з дому шляхціца Фэлікса Вольскага, ксёндз Шымански хрысьціў.

— Я нарадзілася ў сорак другім годзе. Ён мяне хрысьціў. У мяне ёсьць малітоўнік зь ягоным надпісам. Помню, як у першы клас я пайшла ў сорак дзявятым, ён яшчэ служыў. А калі я ўжо ў другі клас пайшла, яго ўжо арыштавалі. Бацька мой быў землямерам. Акончыў беларускую гімназію. Тут, у Радашкавічах, была беларуская гімназія! Мой бацька нават з Максімам Танкам вучыўся! Пасьля вучыўся ў Вільні на землямера. У яго былі ўсе карты, усе пляны сядзібаў. У трыццаць дзявятым годзе ў бацькі быў прыёмнік і матацыкл. Ён калі за мамай ухажываў, на матацыкле яе падвозіў! Пан! А як прыйшлі камуністы, у яго было многа грошай



Спадарыня Аліна

у Вільні. І яны са сваім другам Рычардам паехалі ў Вільню здымаць грошы. Штосьці прывёз. Але столькі прапала... Бацька мой шляхецкага роду. Зямлі было многа. Лес. Усе былі агрэсіўна настроены да савецкай уласьці. Таму ня трэба было агіціраваць нікога. У трыццаць дзявятым нас прысаедзінілі, а ў сорак першым пачалася вайна. І, каб не вайна, тут, мусіць, нікога б не было. Бо ўсе мелі нейкую зямлю. Былі гаспадары.

Далікатная, каротка падстрыжаная, хударлявая, можна нават сказаць вытанчаная, пані Аліна паказвае мне старыя дакумэнты канца 1940-х. Замест лесу новая ўлада адарыла сям'ю некалькімі соткамі зямлі. Але ж магла і на-




Студэнцкі білет Фэлікса Вольскага

заўжды вырваць у лягерную неварацць бацьку Аліны.

— Забралі ўсю зямлю. Але прынялі рашэньне выдзеліць яму ноль трынаццаць гектар. Гэта трынаццаць сотак значыць. У сорак дзявятым была ў нас нацыяналізацыя. Я пайшла ў першы клас, а ў нас паўсюль запісвалі ў калхозы… Ксёндз агітаваў? Ня трэба было ніякай агітацыі. Усе ўсё бачылі. Арыштоўвалі ўсіх, хто штосьці меў. Тут жа граніца была. Хто працаваў на гэтай граніцы, усіх адразу адпраўлялі. Нехта вярнуўся, але мала. Не любілі бальшавікоў. Бо надта многа загінула людзей.

Тое, што бацька Аліны Фэлікс, ужо асуджаны і адпраўлены ў лягер, быў вернуты назад, інакш як цудам не назавеш.

— Мае бацькі выжылі, і слава Богу. Везьлі ў Петразаводзк, але не давезьлі. Выпусьцілі.


ВЫПИСКА ИЗ РЕШЕНИЯ

Исполкома Радошковичского Райсовета депутатов трудящихся
от 26-го апреля 1950 года № 203 гор. Радошковичи

СЛУШАЛИ:- О списании землепользования граждан.

Исполком Райсовета депутатов трудящихся - р е ш и л :-

1. В связи с тем, что землепользование гр-на Вольского Фел[illegible]
са Васильевича отошла под колхоз им. Гастелло и что гр-н Вольск[illegible]
работает в коммунхозе в качестве техника-инвентаризатора, спи[illegible]
землю и наделить ,как служащего в размере 0,12 га.

ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ИСПОЛКОМА РАЙСОВЕТА /К.СИНЯКОВ/

СЕКРЕТАРЬ ИСПОЛКОМА РАЙСОВЕТА
ДЕПУТАТОВ ТРУДЯЩИХСЯ /ВОРОНЯЕВ/

В е р н о :-

Ён жа землямер, а пачыналася калектывізацыя. Яго вярнулі. Трэба было срочна землі мераць. А ў яго дзела было не палітычнае, а нейкае іншае. І яго вярнулі. І бацька выжыў. Землеўстраіцелем работаў.

Але вернемся да Стэфана Шыманскага.

— Невысокага росту, паўнаваты, сымпатычны, у сутане. Можа, хто зь ім і вітаўся. Але нам у школе гаварылі: „Всё! Религии нет! Вы ничего не видите и не знаете никого!“ Помню, як я ішла са школы і зь ім павіталася. А ўсе ад яго адварачваліся. Я ведала, што людзі ў касьцёл хадзілі. Мяне матка вадзіла, хоць ужо запрашчалі. Тады было многа людзей. Гэта давала плюсы для ўласьці. Каб сачыць за ўсімі. Бо толькі пачалася ў нас савецкая ўласьць, а ўжо начальства было — будзь здароў! І ваенкаматы, і райкомы, і камсамольскія арганізацыі, і МВД, і МГБ, і суды, і чаго тут толькі не было. Усё было!

Такое ўражаньне, што, як толькі ўдалося „утихомирить“ неспакойны край, як толькі адчулі сваё поўнае панаваньне, адразу адпусьцілі лейцы і пачалі аб’ядноўваць раёны. Гэта значыць, скарачаць аддзелы МГБ. Але была яшчэ адна асаблівасьць у гэтым скарачэньні.

Колькі раёнаў зьнікла ў гады пасьля Сталіна? Вось гэты адміністрацыйны мартыралёг: Відзаўскі, Дзісьненскі, Дунілавіцкі, Івянецкі, Ільлянскі, Крывіцкі, Куранецкі, Пліскі, Радашкавіцкі, Сьвірскі, Юрацішкаўскі. Нават пры беглым аглядзе адразу разумееш, што выпадковых пунктаў тут няма. Памяць адразу падказвае вобразы, зь якімі гэтыя назвы асацыююцца. Відзы — самы высокі ў краіне касьцёл. Хто хоць раз праяжджаў празь Відзы, ужо гэтыя 60-мэтровыя шпілі Траецкага сабору не забудзе. Старажытная Дзісна, вядомая яшчэ з часоў Полацкага княства — замчышча, старыя камяніцы, аграмадзіна касьцёла на беразе Дзьвіны. Дунілавічы зь іх велічным барокавым саборам XVIII стагодзьдзя. Ці трэба камусьці напамінаць Івянец? Белы касьцёл, шэдэўр віленскага барока, найулюбёнейшы аб’ект усіх беларускіх фотамастакоў. Ільля. Там знаходзіўся, можа быць, самы велічны помнік памяці паўстанцаў 1863 году. Фундаваная нашчадкам палеглага паўстанца Мечыславам Багдановічам, тая капліца ўзьнімалася на 15 мэтраў над рынкавым пляцам. Крывічы, вядомыя мне зь „Лісткоў календара“ Максім Танка як цэн-

тар цывілізацыі наваколься. У Крывічах над усім абшарам пануе вежа касьцёла сьвятога Андрэя. А ў Куранцы — сьціплы, але вельмі зграбны драўляны касьцёл зь фігурнай званіцай і, напэўна, самыя вялікія могілкі паўстанцаў Каліноўскага. Сьвір неяк нават няёмка назваць гарадзкім пасёлкам (такі яе сёньняшні статус). Сваім пасадам Сьвір цягне на горад. Высачэзнае замчышча, бераг вялікага возера, дыхтоўныя камяніцы і па-над усім — „домская“ званіца агромністага сабора сьвятога Мікалая. Што праўда, з гэтага краязнаўчага маршруту крыху выпадаюць Юрацішкі, якія вырасьлі дзякуючы чыгунцы, і Падсьвільле, цэнтар Пліскага раёну, якое паўстала з прычыны дысьлякацыі ў ім польскай памежнай заставы. Але ж апошнія славяцца сваёй забудовай у „закапанскім“ стылі. І гэта скасаваныя раёны ў адной толькі Маладачанскай вобласьці.

Нават сёньня гэтыя колішнія райцэнтры вылучаюцца сярод астатніх мястэчак. Недзе на былой рынкавай плошчы расьсеўся грунтоўны сталінскі райкам з калёнамі, недзе местачковую забудову пацясьніў клясычны Дом культуры з заўсёдным портыкам. Але ёсьць адна акалічнасьць, якая аб’ядноўвае райцэнтры. У іх ва ўсіх былі закрытыя касьцёлы. Недзе быў зроблены склад, як у Дунілавічах, недзе арганізаваная спартовая заля, як у Відзах, а недзе нават зрабілі заводы, як у Сьвіры ды Радашкавічах. У Куранцы касьцёл проста разабралі. Як і капліцу

памяці паўстанцаў у Ільлі. Шчасьлівым выключэньнем стаіць касьцёл у Крывічах, які местачкоўцы адбілі, кідаючыся пад колы аўтамабіляў.

Але вяртаемся ў 1951 год, дзе раённая газэта „Сцяг Ільіча“ спрабуе заразіць сваіх чытачоў аптымізмам.

**„Пры белапольскай уладзе Радашковічы з'яўляліся глухім гмінным мястэчкам. Насельніцтва яго паступова змяншалася. Непазнавальна змяніліся Радашковічы за гады совецкай улады. Нягледзячы на вялікія разбурэнні ў час Вялікай Айчынай вайны пасёлак хутка адбудаваўся, вырас. Даюць сваю прадукцыю промкамбінат, арцель «3-е ліпеня», працуюць РДК, бальніца на 75 ложкаў, бібліятэка, школа-дзесяцігодка, некалькі магазінаў. У наступныя гады тут разгорнецца яшчэ большае будаўніцтва. Маладосць прыйшла да старадаўняга пасёлка“.**

Зразумела, што там, куды прыйшла маладосьць, касьцёлу месца не было. Можа, Стэфан Шыманскі і пазьбег бы лягеру, каб служыў недзе ў гмінным мястэчку, але ён апынуўся ў раённай сталіцы. Жыхарка Радашкавічаў Марына Пясэцкая, народжаная ў 1935-м, добра памятае ксяндза Стэфана. Але галоўнае, што паведаміла пані Марына, не пра ксяндза, а пра ягоную паству.

— Я тады яшчэ падлёткам была. Хадзілі ў касьцёл з падругай Ядзенькай. І адна, Патоцкая, напісала на яго, што ён проці ўласьці.




Папа Пій XII: „Благаслаўляю цябе, сын мой Трумэн, а таксама бомбу атамную ў імя літасцівага бога . . .
Тэкст П. Быкоўскага. Малюнак Н. Белабровіка.

Патоцкая была такая, латышка. Пераехалі ў Радашкавічы. Яна на яго наклевятала, а потым жа пісалі цэлае прашэньне. І там быў цэлы каляндар подпісаў! Усе парафіяне падпісаліся! Была цятрадзь вялікая. І цэлы быў журнал росьпісей. Просьбы, што ён невінаваты, што ён толькі рэлігію прапаведаваў, пра Бога. І пасьля паслалі ў суд і яго асвабадзілі. Дапамагло. Але ён пасядзеў. Калі вярнуўся, расказваў, што надзірацелі жалелі яго. Што ён ня мог цяжкую работу рабіць. Земляную работу там капалі цюрэмшчыкі. А яго паставілі кветкі даглядаць, клюмбу. А калі вярнуўся, месныя ўлады сказалі яму лучшэ ўехаць. Што будуць прасьледаваць.

**„Шиманский Стефан Казимирович, 1911 года рождения, уроженец деревни Май-**

**дан-Синявский Ярославского района Львовской области, житель местечко Радошковичи, Молодечненской области, образование высшее духовное, беспартийный, холост, несудимый, осуждён по ст. 65 УК БССР с санкцией ст. 64 УК БССР с применением Указа Президиума Верховного Совета СССР от 26 мая 1947 года «Об отмене смертной казни» к заключению в исправительно-трудовом лагере сроком на 25 лет с конфискацией всего имущества, с поражением прав по п.п. «а», «б», «в» ст. 34 УК БССР на пять лет“.**

У артыкулах, паводле якіх судзілі сьвятара, кожнае слова гучыць, як сьмяротны прысуд.

**„65. Сношения в контрреволюционных целях с иностранным государством или отдельными его представителями, а равно способствование каким бы то ни было способом иностранному государству, находящемуся с Союзом ССР в состоянии войны или ведущему с ним борьбу путём интервенции или блокады, влекут — меры социальной защиты, указанные в ст. 64 настоящего Кодекса“.**

**„64. Вооружённое восстание или вторжение в контрреволюционных целях на советскую территорию вооружённых банд, захват власти в центре или на местах в тех же целях и, в частности, с целью насильственно отторгнуть от Союза ССР и отдельной союзной республики какую-либо часть её территории или расторгнуть заключённые Союзом**

**ССР с иностранными государствами договоры влекут — высшую меру социальной защиты — расстрел или объявление врагом трудящихся с конфискацией имущества и с лишением гражданства БССР или иной союзной республики и тем самым гражданства Союза ССР и с изгнанием из пределов Союза ССР навсегда, с допущением при смягчающих обстоятельствах понижения до лишения свободы на срок не ниже трёх лет с конфискацией всего или части имущества“.**

Праявіць салідарнасьць з арыштаваным сьвятаром пры жыцьці таварыша Сталіна? Паставіць подпіс у абарону чалавека, асуджанага паводле самага страшнага антысавецкага артыкулу на найвышэйшую меру пакараньня? Гэта больш, чым салідарнасьць. Працягвае Марына Пясэцкая:

— Цяпер во сяджу і думаю — ужо тых людзей няма. Як падумаю пра гэта, дык тыя подпісы ў мяне ў вачах стаяць. Столькі іх было. І старыя, і маладыя, і дзеці. Усе падпісваліся. Ня помню, хто хадзіў па дамах.

Са словаў пані Марыны я зразумеў, што Стэфан Шыманскі выйшаў зь лягеру яшчэ пры жыцьці Сталіна. Але ж гэта занадта фантастычна. Яснасьць унесла іншая старажылка Радашкавічаў, Ірына Ніжанкоўская:

— Перад сваім ад’ездам у Польшчу ён падараваў мамінай сяброўцы адну кніжку. Па музычнай літаратуры. Яна 1956 году выданьня.

А выехаў ён недзе праз год. Значыць у 1957-м. А перад ад'ездам ён тут жыў некалькі гадоў. Не служыў, ні туды ні сюды. Тады вярталіся, хто былі настаўнікамі пры немцах. Я ведаю, што тады, як ён вярнуўся, людзі хацелі, каб адчынілі касьцёл. Пісалі, зьвярталіся. Ім сказалі, што гэта немагчыма, бо там была бомба ад сорак першага году. Сказалі, што гэта небясьпечна. А потым там зрабілі керамічныя майстэрні. Гэта людзям ня шкодзіла.

Дзякуючы сувязям, якія падтрымлівалі радашкаўцы з радзімай, вядома, што ксёндз вельмі сумаваў па мястэчку. Гаворыць Марына Пясэцкая:

— Ён у Польшчы захварэў на дыябэт і асьлеп. Прайшлі гады, радашкоўскія павыяжджалі. І ён быў на свадзьбе. Мацкевічы дочку аддавалі. І ён такую рэч казаў, так хваліў Радашкавічы. Казаў, што людзі, каторыя не жылі ў Радашкавічах, ня знаюць сьвету, ня знаюць, што такое жызьня. Так ён васхваляў гэтыя Радашкавічы. Але ён мусіў выехаць. Уласьці яго заставілі выехаць, а так ніколі не паехаў бы. Харошы быў ксёндз. Служыў для людзей. Невысокі такі быў, кругленькі. Ён тады ў Польшчу забраў прыслугу, Гаспосю. Ён і яе з сабой павёз у Польшчу. Ня кінуў яе тут. Там яму нялёгка было. Бо там ксяндзоў многа. Там у яго цяжолая жызьня была.

У гэтай справе няма трагедыі і сьмерці. Асуджаны сьвятар вярнуўся і дажываў свой век у Польшчы. Але загадка ў гэтай справе ёсьць.

Фэлікс Шыманскі атрымаў 25 гадоў лягераў як выключную меру. Ягоны працэс прыпаў на той час, калі савецкае кіраўніцтва вымушана было адмяніць расстрэлы. Бо па вайне ў лягерах не хапала рук. Але людзі, якія падпісваліся ў ягоную абарону, выдатна ведалі, чым можа абярнуцца іх учынак. Адкуль такая сьмеласьць у „гуманныя“ нерасстрэльныя часы? І што дае такую сьмеласьць? Вера ва Ўсявышняга, пачуцьцё справядлівасьці, патрэба застацца чалавекам у сваіх вачах?

Але чаму так баялася Рымска-каталіцкай царквы савецкая ўлада? Ну здаецца — царква пад надзейным вокам МГБ, абмежаваная польскай мовай, для польскай жа меншасьці. А вось гэтага, відаць, і баяліся. Ненадзейнасьці гэтай царквы як выключна польскай. Таму і закрывалі касьцёлы. А касьцёл Найсьвяцейшай Тройцы ў Радашкавічах, той самы, дзе хрысьцілі Янку Купалу, закрылі адразу па вайне, у 1946-м. Вярнулі вернікам толькі ў 1990 годзе. Як і астатнія касьцёлы несавецкай царквы. Якія ўрэшце сталі бастыёнам беларушчыны. І страхі бальшавікоў спраўдзіліся.

## „Я адчувала сябе, як вадалаз“

*Ядзейкі, Валожынскі раён*

Прозьвішча Мятліцкага сустракаецца ледзь ня ў кожнай судовай справе, датычнай Радашкавіцкага раёну.

Ад вёскі Ядзейкі, што ляжыць за ляснымі пагоркамі на поўнач ад Ракава, засталося літаральна пару хат. У гэтых Ядзейках жыла, як паведамляе пратакол Маладачанскага суду, Шуляк Сьцепаніда Васілеўна, 1900 году нараджэньня, зь сялян-серадлякоў, непісьменная, удава, калгасьніца, беларуска. Але ні правільныя нацыянальнасьць і сацыяльны статус, ні нават тое, што Сьцепаніда ня проста ўдава, а ўдава франтавіка, пра што маўчыць пратакол, ня сталі абярэгам ад 80-га „бандыцкага“ артыкулу, паводле якога Сьцепаніда атрымала дзесяць гадоў лягеру.

**„На территории Радошковического и смежных с ним районов Молодеченской и Баранавической областей действовала вооружённая бандитская группа, возглавляемая бандитами Метлицким и Шидловским, куда входили племянники подсудимой Шуляк — братья Лехтаровичи Мечеслав (убит) и Викентий, осуждён военным трибуналом.**

**Шуляк Степанида, проживая в дер. Ядейки Радошковического района, установила пре-**

**ступную связь с указанной бандой весной 1948 г. и поддерживала таковую до ареста, а именно встречалась с бандитами Метлицким и Лехтарович в своем доме, представляла им убежище в своем доме и надворных постройках для укрытия от преследования со стороны органов Советской власти. Представляла бандитам продукты питания“.**

Я ішоў паўзь нежылыя хаты да апошняй, адкуль даносіўся дзіцячы голас. На зялёным шырокім двары перад старым домам маладая жанчына гуляла з маленькай дачкой. На прызьбе грэлася на сонцы хударлявая бабуля. Я назваў старой імя Сьцепаніды Шуляк. Старая ўсьміхнулася:

— Гэта мая мужыкова маці. Сьвякруха. Ліхтаровіч — яе дзявочая фамілія. А той Ліхтаровіч — яе родны брат, — пачала свой распавед Соф'я Шуляк. — Хто там яшчэ? Мятліцкі? Ня буду называць іх бандай. Бо на маіх вачах гадаваліся. Там і сыны, і бацькі добрыя. Былі багатыя людзі. А куды яны пасьля падзеліся? Прапалі. Толькі адзін адседзеў Мятліцкі дваццаць пяць год і вярнуўся сюды, Сьцяпан. Але ён тут ня жыў. Паехаў кудысьці. Не захацеў тут жыць. Паглядзеў гэтыя сялібы. А ўжо ж бацькі пазьміралі былі. А братоў там неяк пабілі... Заможная была сям'я. Вунь іх сад. А хату партызаны спалілі.

Які часам пастаральны бывае беларускі краявід за вакном аўтамабіля. То таполі адбіва-



Соф'я Шуляк

юцца ў маляўнічай сажалцы, то мільгануць старыя прысады. Тут, каля дарогі на Ядзейкі, раскінуўся яблыневы сад. Уся гэтая пастараль з горкім смакам. Бо прырода не стварае сажалак і не садзіць садоў. Гэта ўсё прыкметы да канца ня зьнішчанай несавецкай Беларусі. А ў большасьці выпадкаў гэта ўсё сьляды зьнішчаных гаспадароў, чыіх імёнаў ужо амаль ніхто ня памятае. Вось у гэтага саду гаспадарамі былі Мятліцкія. І ня трэба пратаколаў, каб зразумець, чаму браты Мятліцкія пайшлі ў лес. Рукатворная прыгажосьць — як знак бяды.

— У Мятліцкіх былі тры сыны. Сьцёпка, Віцька, Косьця. Сястра была. Аднаго застрэлілі. Ніхто ня ведае, хто. Сьцёпка сядзеў, Віцька быў у турме ды вярнуўся. І яны начавалі тут. Дык



Стэфанія Шуляк

дажа што былі сястры дзеці — сядзелі па дваццаць пяць год. Дзеці Стэфкінай сястры! За тое, што зналіся. Многа сядзела нявінных.

Ну натуральна, не магло быць у тутэйшых мясьцінах пратакольнай Сьцепаніды і людзі яе памятаюць як Стэфку, Стэфанію. Як сказаў мне мовазнаўца Вінцук Вячорка, тыповая адаптацыя адпаведна расейскаму „кананічнаму” стандарту.

1949 год быў юбілейны. На працягу ўсяго гэтага году абласная газэта з нумару ў нумар не дае забыцца, каму спаўняецца 70 гадоў.

**Мы шчасце ў жыцці адшукалі,**
**Мы выйшлі з спрадвечнай начы.**
**Народ наш адзначыў сам Сталін!**
**Радзіму любіць навучыў!**

**Вясёлыя песні па праву**
**Рыхтуй, беларускі народ.**
**Твая маладая дзяржава**
**Святкуе трыццаты свой год!**

**„Новае жыццё трывала ўваходзіць у быт. Не тужлівыя песні аб цяжкай нядолі, а бадзёрыя, жыццярадасныя ўрываюцца ў сельскую вуліцу, звіняць на вечарах у школе, усюды, дзе збіраецца моладзь. Гэтыя песні адлюстроўваюць не толькі сённяшні дзень, але і заўтрашні. У іх гучыць гонар за сваю маладую Совецкую краіну, за свайго правадыра. З вялікай любоўю і натхненнем паўтарае моладзь маладога калгаса выдатныя словы песні — «Сталин — это народ, что к победам идёт!»“**

**„Асобнае месца ў творчасці Янкі Купалы займае вобраз вялікага правадыра і настаўніка, друга беларускага народа, тварца беларускай дзяржаўнасці Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Лепшыя, найбольш дасканалыя і эмацыянальныя вершы Янкі Купалы належаць да цыкла песень аб Сталіне і яго партыі.**

**Як яснае сонейка — гэтак нам свеціць.**
**Шляхі ён да шчасця і радасці квеціць.**
**Каб гора не зналі старыя і дзеці“.**

— Як хто правініўся, Сталін адразу застрэліць. Пры тым, што начальнік усім благі, — успамінае Соф'я Шуляк. — Добры начальнік

ня будзе. Мой брат дваццаць пяць год брыгадзірам быў. Памёр даўно, але і да сёньня клянуць, што благі быў. Помню, трактар прыйдзе гэтыя землі араць, дык бабы пад трактар клаліся. Трактарыст вылезе, выцягне з-пад трактара — і паедзе далей араць. Ой... Клаліся пад трактар, каб не аралі яе зямлі. Собственнай. Гэта ж была собственнасьць яшчэ ад Польшчы. А калхоз абагуліў і пазабіраў. Што было лішняга, ня можна было, каб было. Адна карова і сотак трыццаць. Астатняе адбіралі. Я помню, Паўлючыха Шніпава пад трактар палезла. Дык трактарыст вылез, адцягнуў. Дык усе рагаталі.

Аказваецца, гэтая форма мірнага пратэсту, пра якую згадвае Соф'я Шуляк, кіданьне пад трактар, была распаўсюджаная ў Заходняй Беларусі ня менш за ўзброены супраціў.

— А ў Мятліцкіх бацькі былі ня ўрэдныя. З усімі яны і дзяліліся, і мырыліся. Але рабіць людзі ішлі, наймалі. А хто там дзе быў, ці ў бандытах, ці ў партызанах? Хто ў Сталіна быў, хто ў Гітлера? Такі быў час... Помню, ехалі паліць людзей... Гэта, мусіць, пры Сталіну. Пасьля ўсё казалі: дзе ты быў, як Доры гарэлі? Як завяжуцца ва́дзіцца. „Дзе ты быў, як Доры гарэлі?“

„Доры“ для мясцовых людзей гучыць, як „Хатынь“. Як пекла. Доры спалілі 23 ліпеня 1943 году. Палілі ў царкве. 146 ахвяр, зь якіх 36 дзяцей. Тое, што спадарыня Соф'я блытае Сталіна з Гітлерам, можна патлумачыць узростам, усё ж 93-і год жыцьця! Але яна блытае



Вольга, дачка Соф'і

Сталіна менавіта з Гітлерам. А як жа ўся гэтая газэтная бравада? Пра вялікага і мудрага? Выходзіць, гэты сталінскі салют не пакінуў у сьвядомасьці ніякага сьледу. Сталін і Гітлер пераблыталіся ў памяці старой, склаліся ў абое рабое.

Я сядзеў у хаце старой Соф'і, нявесткі рэпрэсаванай Стэфаніі Шуляк, за сталом разам з дачкой Соф'і, якая прыехала ў Ядзейкі праведаць маці. Мы разглядалі вялікі сямейны фотаальбом. У Стэфаніі і Стэфана Шулякоў было чацьвёра дзяцей. Яўген, Уладзімер, Марыя і малодшы Канстанцін. Вольга — дачка малодшага сына Канстанціна. Пра падзеі канца 1940-х Вольга даведалася ўжо дарослай. Гэта ад дзяцей утойвалі.

— Папа, он никогда не говорил про это. Никогда. Я сейчас говорила со своей сестрой, перед вашим приездом. Когда я ей позвонила, она начала плакать. У неё была почти истерика.

„Это наша беда! Это наша судьба! Это наше горе! Никто не лезьте!“ Для них это был шок. Не так, как для меня. Я младше. Они больше знали. Папа вообще ничего не говорил про это, настолько для них это было болезненно. Ни за что осудили. Особенно дядю Женика. Он старший сын был. Я не то чтобы мимо этого. Меня старались не грузить. Я была самой младшей. И когда я ей сказала про вас, она агрессивно восприняла это. А назавтра позвонила: нет, Оля, встречайся, разговаривай. Меня это так тронуло, что я весь день не могла придти в себя. Я догадывалась, что мы „семья бандитов“. Какие-то непонятки, которые все умолчали и старались про это не вспоминать.

Сям'я бандытаў. Уяўляеце, як з такой пячаткай жыць у вёсцы? У якасьці ілюстрацыі я вам агучу кароткі дыялёг, які ў мяне адбыўся з кабетай з суседняй вёскі. Я зайшоў, каб пагаварыць на гэтую тэму зь яе мужам, 90-гадовым мясцовым старажылам. Да старога мяне не пусьцілі. На двары былі старая гаспадыня і яе дачка, якая прыехала з гораду.

Я (ветліва): Добры дзень, хацеў бы зь дзядзькам Лёнем пагаварыць.

Дачка (недаверліва): А чом?

Я: Пра сорак дзявяты год. Пра Стэфанію, пра Ліхтаровічаў.

Гаспадыня (заклапочана): Гэта тыя, што ў бандзітах былі?



Яўген Шуляк

Дачка (агрэсіўна гучна, каб заглушыць словы старой): Табе дзела, хто дзе быў? Ва ўсякіх бандзітах!

Гаспадыня (вінавата): Ну яны ж там былі. Пастралялі, падушыліся.

Увесь бандытызм Стэфаніі Шуляк заключаецца ў тым, што яна дала пераначаваць і паесьці сваім родным пляменьнікам, сынам брата. Дзесяць гадоў за чалавечнасьць. Але самым пацярпелым у гэтай справе выглядае старэйшы сын Стэфаніі Яўген, „дзядзя Жэнік“, чые паказаньні таксама паслужылі прысуду. Акрамя маці, былі арыштаваныя сыны Яўген і Ўладзімер. Уладзімера, як непаўналетняга, адпусьцілі. А вось Яўгена арыштавалі ў 1950 годзе, калі ён праходзіў тэрміновую службу ў Савецкай арміі.

— Дядя Женя, когда вернулся, он был вообще никакой. Он сразу уехал в Карелию. У него была не то что бы боль… Какая-то обида на всё. На жизнь, на судьбу. И больше он сюда… Хотя он старший… Бабушка отсидела и вернулась. Она страдала, но не так. Может, он в каких-то лагерях, в каких-то условиях был нестерпимых. Да ещё молодой совсем.

Нядоўга пажыўшы на радзіме, Стэфанія і Яўген паехалі ў Карэлію. Вярнуліся ў Беларусь у сярэдзіне 1970-х, пасяліліся ў Бабруйску. Яўген тут ажаніўся, нарадзіліся двое сыноў. Стэфанія памерла ў 1983 годзе.

— В Бобруйске все умерли. У них такая судьба поломанная. У него два сына было. Все поумирали. А вот наши все... Ой, не дай Бог, не хочу сглазить. Как-то всё у него кувырком. Не сложилось. Два сына умерли в молодом возрасте.

Вольга паказвае мне „Акт описи“ канфіскаванай маёмасьці ў Стэфаніі Шуляк.

— После её ареста остался папа с тётей Маней. Вот в этом доме жили. Свинья — две. Овцы — одна. Швейная машинка „Зингер“. Шкаф красный.

Тое, што самы справядлівы суд у сьвеце забраў у асірацелай сям’і машынку „Зінгер“, не зьдзіўляе. „Зінгер“ пасьля вайны быў нашмат каштоўнейшы за сёньняшні „Мэрсэдэс“. Няйначай, які міліцэйскі начальнік ужо пры першымператрусе запрыкмеціў будучы трафэй.

„Хороший будет подарок жене на Первомай“. Але на халеру ім старая шафа?

— У меня было больше страданий, что деда забрали. В сорок четвёртом году. Он был непригодным для воинской службы. И по возрасту, и по инвалидности. В сорок четвёртом призвали, а в сорок пятом погиб. Сколько она писала, чтобы его найти. Я так понимаю, под её диктовку кто-то писал.

Стэфану Шуляку ў 1944-м было 45 гадоў. У яго было чацьвёра дзяцей. Ён быў па стане здароўя непрызыўны — меў кепскі слых. Але быў мабілізаваны ў Савецкую армію. Вось ліст, напісаны Стэфаніяй 11 чэрвеня 1946 году.

**„Командиру роты.**

**Сердечно прошу Вас, сообщите о судьбе моего мужа, Шуляк Стефана Александровича, жит. дер. Ядейки Есьмановского с/совета, Родошковического р-на Молодеченской области. Который был призван в Красную Армию 25 июля 1944 года. Я последнее письмо получила 20 апреля 1945 года, тогда он стоял коля реки Одри, а сейчас уже год часу, как нет мне писем и никаких известий. Я всеми силами старалась и стараюсь помогать нашей Красной Армии. К сему жена защитника Родины, Шуляк Стефанида Васильевна, убедительно прошу Вас сообщить что с ним случилось, или же он убит или же ранены.**

**Прошу не отказать моей просьбы.**

**Шуляк. С.В.“**



11. IV. 1946 г.

Командиру роты.

Сердечно прошу Вас, сообщите о судьбе моего мужа, Шуляка Стефана Александровича жит. дер. Ясенки. Есьмановского сельсовета. Радошковичского р-на. Молодечненской области. Который был призван в Красною Армию 25 июля 1944 года. Я последнее письмо получила 20 апреля 1945 года, тогда он стоял оля реки Одри, а сейчас уже год, гасу как нет мне писем и никаких известий. Я всеми силами старалась и стараюсь помагать нашей Красной Армии. К сему жена защитника Родины. Шуляк Стефанида Васильевна. Убедительно прошу Вас сообщите что с ним случилось, или уже он убит или-же ранены. Прошу не отказать моей просьбы.

Шуляк С. В.

А вось папера з радашкавіцкага райваенкамату ад 24 ліпеня 1947 году. Цэлы год спатрэбіўся ўладзе для адказу.

**„Шуляк Стефаниде Васильевне.**
**Ваш муж солдат**
**Шуляк Степан Александрович.**

**В бою за социалистическую родину, верный воинской присяге проявил геройство и мужество**

**Погиб**

**25 апреля 1945 года, похоронен“.**

Пра вернасьць вайсковай прысязе, пра мужнасьць і сьмеласьць у баі за сацыялістычную радзіму ёсьць. А вось дзе пахаваны — у брацкай магіле ці асобнай, у якім месцы (самае важнае для сям'і) — гэтага няма. Можа, ваенная тайна? Лішне казаць, што гераізм і мужнасьць, праяўленыя ў баях за Радзіму, самым справядлівым судом ніяк не ўлічыліся.

Далей мой шлях ляжаў у вёску Манькаўшчына, дзе жыве старэйшая сястра Вольгі Раіса. Раіса — абаяльная, усьмешлівая спадарыня, добра памятае сваю бабулю. Пасьля лягеру і да ад'езду ў Карэлію разам з сынам Яўгенам Стэфанія гадавала Раісу ў Ядзейках.

— Яна ў нас была, калі мне было гадоў пяць. Я памятаю, як яна нам казкі расказвала. Я яе казкі цяпер унукам сваім расказваю. Пра Цярэшку. Пра яе лёс я, вядома, ня ведала. Усе гэтую тэму абыходзілі. Хіба б я сваіх пляменьнікаў не пакарміла, каб такая сытуацыя? Тады многія аддавалі сваіх дзяцей у чужыя вёскі хавацца па чардаках. Хто яго знае, што там было. Мой дзядзька ў чужой вёсцы хаваўся на гарышчы, каб не забралі ў армію. Бо дзядуля быў гарбаты і ня мог працаваць.



Раіса, сястра Вольгі

А мы тым часам паедзем у Валожын. Дзе нас чакае працяг гэтай гісторыі.

Немаладая спадарыня Леакадзія Мятліцкая не адразу пагадзілася на гутарку. Яна ўнучка Стэфаніі Шуляк. Яе маці, Марыя Шуляк, выйшла замуж за Мікалая Мятліцкага. З тых самых Мятліцкіх, якія наводзілі жах на савецкіх служак у ваколіцах Ракава ў канцы саракавых.

— Імя Мятліцкага там ня ўказана? Хутчэй за ўсё, гэта Сьцяпан. Гэта дваюрадны брат майго бацькі. Калі бабуля вярнулася з турмы, мая маці ўжо выйшла замуж. За Мятліцкага. Я ў дзявічастве Мятліцкая. І як узнала, што яе дачка выйшла замуж, дык так плакала... Сказала, што было адно дзіця — і тое Мятліцкія зьвялі. Не хацела, каб мая маці выходзіла замуж за Мятліцкага. Бо адсядзелі празь іх.



Леакадзія Мятліцкая

Я чытаю ўголас старыя судовыя дакумэнты, а мая суразмоўца ня можа стрымаць сьлёз. Для яе за гэтымі бляклымі літарамі на пажоўклых аркушах — бяда вялікай сям'і.

— Там начавалі і пляменьнікі, і гэты Сьцяпан начаваў. Скажуць: „Зьбяры на стол“, і зьбірала. А што было рабіць? Віна яе ў тым, што не данесла. Што яны ў яе начавалі. Жанчына была занятая гаспадаркай, домам, а ня тымі даносамі. І Жэню абвінялі ў тым жа самым. І дзядзя Жэня там перанёс такі голад страшны! І па гэтай прычыне без пары і памёр.

Я ўжо бачыў каля Ядзеек рэшткі яблыневага саду, які некалі саджалі Мятліцкія. Але належаў ім ня толькі сад. Гэта была магутная гаспадарка. Закладзеная яшчэ дзедам, за расейскімі дарэвалюцыйнымі часамі.

— Дзед Даніла скупіў усе абшары тут, у Яршэвічах. Да Пятрылаўкі. І пяшком хадзіў у Вільню афармляць гэту зямлю. Дзед майго мужа. Быў надта багаты, бо скупіў гэтыя землі. Усе хацелі гэтай зямлі. Нават я помню сваё маленства. Як прыходзілі кожную вясну да нас са сваёй кулячкай і абмяралі зямлю. І надта шкода было, калі нейкую паласу адразалі. У маім дзецтве зямля — была цэлая трагедыя, калі кусочак адрэжуць. А там і землі былі, і каровы былі, і сад быў, каторы адышоў пад калхоз.

Свайго стрыечнага дзядзьку, таго самага, які са зброяй у руках змагаўся супраць той улады, якая, па сутнасьці, абрабавала сям'ю, Леакадзія бачыла толькі аднойчы.

— Давялося неяк убачыць Сьцяпана Мятліцкага. У мяне ўжо быў маленькі сын. Мы прыехалі ў вёску на выходныя. І бацька прывёў мужчыну сядога. Ну і прадставіў. Што гэта яго брацельнік Мятліцкі. Што ён адседзеў дваццаць пяць гадоў. Відна, што ў маладосьці ён быў мажны такі мужчына. А тады ён быў... можна сказаць, што нікакой. Глухі голас, сядой. З гутаркі мы панялі, што ён баптыст. І была яшчэ жывая ягоная сястра ў Ракаве. Анця. Яна тожа за брата сядзела. Бацька расказваў, што ў маладосьці Сьцяпан быў такой неймавернай сілы! Энкавэдзісту пракусіў сапог. Я не панімаю, як яны займаліся разбоем і не ўцягнулі гэтых падросткаў — бацьку, бацькавага брата. Як іх гэта ўсё мінула? Яны ж у іх начавалі, і ня раз.

Яны начавалі ва ўсіх. Бабы ўсе іх шкадавалі. І ўсе сядзелі і трэсьліся. Баяліся, што закладуць. Мятліцкі пражыў пасьля турмы нядоўга. Але ўдалося яго ўвідзець.

Угаворваючы людзей на гутарку, я нярэдка сутыкаюся з адмовай. Што для мяне дзіўна, бо чаго сёньня ўжо баяцца? Гэтая сталінская змрочная эпоха нібыта мінула. Але для маіх суразмоўцаў, людзей немаладых і разумных, яна працягваецца. І іхныя сваякі, асуджаныя паводле антысавецкіх артыкулаў, не рэабілітаваныя.

— Хоць ён мой сваяк, але панёс наказаніе заслужана. Яны і магазіны рабавалі, і забівалі. Сельсавецкіх служачых. Бацька расказваў, што неяк на хрысьціны пайшлі і вызвалі тога маладога бацьку на вуліцу. Мусіць, старшыню сельсавету. І там жа на месцы загубілі. Каб мы зналі, што нас гэта касьнецца і хто-небудзь калі гэтым зацікавіцца, ясна, што мы б распытвалі падробней. А так нават мамка гаварыла — ня суньцеся, куды ня трэба. Бо вы Мятліцкія! Мая сястра замуж ішла, а жаніх у бацькі пытаецца: „Ці ведаеш ты ў Ядзейках Мятліцкіх“? А той кажа: „Былі там нейкія бандзіты“. Вось такая слава.

Леакадзія Раткевіч, стрыечная пляменьніца Сьцяпана Мятліцкага, асуджанага на 25 гадоў лягераў за бандытызм, расказала мне, што ягоныя сваякі могуць жыць у Ракаве. Родная сястра Сьцяпана Антаніна Мятліцкая была



Антаніна Мятліцкая з дачкой Тамарай

асуджаная, як і ўсе астатнія ўдзельнікі таго працэсу, у 1951 годзе. Але вярнулася ў Беларусь праз год, бо ў лягеры зацяжарала. Яе амніставалі разам з народжанай у лягеры дачкой. Спадарыня Леакадзія ня памятала ні тэлефона, ні адрасу. Ведала толькі, што дачка Антаніны Тамара працавала бухгальтаркай

у дзіцячым лягеры Акадэміі навук. Без асаблівай надзеі я паехаў пад Ракаў, па дзіцячых лягерах, але пасьля зусім ня доўгіх пошукаў ужо сядзеў у старым ракаўскім доме, піў чорны чай зь печывам, а спадарыня Тамара паказвала мне сямейны фотаальбом, зусім нічога не хаваючы ў размове пра дзядзьку і маці.

— Мая маці сядзела за тое, што насіла братам яду ў лес. Я ў яе распытвала, чаму іх усіх пасадзілі. Яна гаварыла, што яны процi Саветаў былі. У іх пазабіралі ўсё на сьвеце. Яны былі багатыя! Сям'я Мятліцкіх. Дзед езьдзіў у Амэрыку! Зарабіў там даляраў, прыехаў сюды і купіў зямлі. І яны не маглі ўсю зямлю абрабатываць самі. Наймалі працоўную сілу. А раз наймалі, значыць, капіталісты. І калі сталі іх раскулачваць — а там і дом вялікі, і зямлі многа — тады гэтыя сыны пайшлі ў апалчэньне. Ну і ўсё. Сталі там і біцца, і страляцца, і ўсё на сьвеце.

Як дакладна спадарыня Тамара назвала тое рушаньне, куды пайшоў яе дзядзька. Апалчэньне. Пагадзіцеся, быць пляменьніцай апалчэнца — гэта ня тое самае, што сваячкай бандыта. Чым болей слухаю сваякоў, тым больш разумею, што вымусіла Мятліцкіх у тое апалчэньне ісьці.

— Яны ўсе абразаваньне мелі. Дзед даў ім абразаваньне. Яны ў Вільні вучыліся. Адзін зь іх, Косьця, быў настаўнікам. А тады, як сталі шукаць, страляць гэтых братоў, ён вылазіў з вакна. Уцякаў. Яго застрэлілі, гэтага Косьцю,



Тамара,
дачка Антаніны
Мятліцкай

падчас той аблавы. Ён ваабшчэ ня меў ніякага дачыненьня да іхных спраў. Ён проста стаў уцякаць. А Сьцёпа адсядзеў канкрэтна дваццаць пяць гадоў. Пасьля прыяжджаў да нас у Ракаў. Зусім стары.

Вось ужо сапраўды, свой лёс не падманеш. Адзін брат, які не пайшоў у лес, загінуў ад дурной кулі падчас аблавы на свайго ж ляснога брата, які адбудзе цалкам 25-гадовы тэрмін і яшчэ пажыве пасьля лягеру. Спадарыня Тамара адшукала ягоную фатаграфію. Напэўна, лягерную. На тле драўлянага плоту стаіць яшчэ не стары чалавек у ватоўцы і аблавусе. Хударлявы, але, відаць, моцны. Вусны сьціснутыя ў нядобрай усьмешцы, вочы па-драпежніцку прыжмураныя. Харызма такая, што за такім



Той самы
Сьцяпан Мятліцкі

апалчэнцам сам у апалчэньне пойдзеш. Прыгажун!

— Ён, як адсядзеў, да нас прыяжджаў. Падаркі прывозіў. Ня нам судзіць. Яны проці ўласьці пайшлі! Дзе ён сядзеў, ён там і застаўся зь нейкай жанчынай жыць. У Мардовіі. Пасьля прыйшло адтуль саабшчэніе, што ён памёр, прыяжджайце. Але ж хто паедзе ў гэткую даль?

Мая суразмоўца нарадзілася ў лягеры. Але, каб успомніць, як называецца месца нараджэньня, Тамары давялося зазірнуць у пашпарт. „Горьковская область. Краснобаковский район. Пос. Чибирь“.

Пасёлак Чыбір? Тут і мне ёсьць што ўспомніць. Чыбір — гэта станцыя Горкаўскай чыгункі за горадам Сухабязводным. Ёсьць гарады, якія

ўзьнікалі на гандлёвых шляхах, пры берагах магутных рэк. Ёсьць гарады, заснаваныя вялікімі палкаводцамі. Ёсьць гарады прамысловыя, што будаваліся разам з заводамі. Сухабязводнае — гэта дзіця ГУЛАГу. Горад зьявіўся ў 1930-х гадах як цэнтар Унжанскага (ад назвы ракі Унжа) папраўча-працоўнага лягеру. Сумнавядомага Унжлагу, вялікай краіны ў архіпэлягу ГУЛАГ. Па тэрыторыі Унжлаг сувымерны са Швайцарыяй. На ягоных 28 лагпунктах валілі лес тысячы людзей. Колькі іх засталося ляжаць у тайзе, мы ніколі не даведаемся. На пачатку 1950-х насельніцтва Унжлагу складала 30 тысяч чалавек.

Пра Унжлаг я ўпершыню даведаўся, калі вучыўся ў Ніжагародзкай тэатральнай вучэльні. Падчас гарбачоўскай перабудовы. Тады праўда пра Вялікі тэрор аглушала і п’яніла адначасова. П’яніла, бо ў паветры штодня, здавалася, болела свабоды. І здымкі сатлелых баракаў і ржавых паравозаў у тайзе здаваліся нейкім назаўжды пройдзеным страхоцьцем. І менавіта тады для мяне сьмешная назва на мапе „Сухобезводное“ перастала быць сьмешнай. Ад яе павеяла змрокам і безнадзейнасьцю. Тады, у 1986-м, я нават уявіць ня мог, што калі-небудзь пабываю ў гэтым Сухабязводным.

Летам 2016-га я ехаў зь Ніжняга Ноўгараду ў Сухабязводнае. Вёз перадачу палітвязьню зь Беларусі Кірылу Сілівончыку. У дарозе чытаў зьвесткі пра Унжлаг. Праз гэты лягер прайшло

нямала знакамітых расейцаў. Сьпявачка Лідзія Русланава, праваабаронца Леў Копелеў, ураджэнец Дрыбіна пісьменьнік Залман Шыфрын, бацька артыста Яфіма (Нахіма) Шыфрына. Былі тут і беларусы. Уладзімер Арлоў у „Імёнах Свабоды“ пісаў пра паэта Сяргея Ракіту, які памёр ва Унжлагу. А я прыгадаў, як сам калісьці сустракаўся з жыхаркай Саскай Ліпкі Марыяй Дзярновай, якая за сувязь з паваеннымі антысавецкімі партызанамі атрымала найвышэйшую меру пакараньня — 25 гадоў. Вясёлая Марыя аказалася беларускай з паэтычным поглядам на жыцьцё. Называла свой лягер „лагерочкам“. І найперш успамінала ня цяжар лесапавалу, а тое, як на тым лесапавале хадзілі ў грыбы.

ГУЛАГам павеяла яшчэ на Маскоўскім вакзале Ніжняга Ноўгараду. Зайшоў быў там у прыбіральню. І злая, непрыгожая цёця, якая прадавала туалетныя білеты, гледзячы ў вочы, строга спытала: „Мужчина, вам по-большому?“ Я крыху зьбянтэжыўся. Такіх допытаў у грамадзкіх прыбіральнях у маім жыцьцёвым досьведзе яшчэ не было. Пагатоў за мной стаялі людзі. „Ну вы такие вопросы задаёте, что отвечать неудобно“, — пажартаваў я цытатай зь фільма „Мімino“. Але строгая цёця не ўсьміхнулася. Зірнуўшы на пакутны выраз майго твару і вырашыўшы, што я „по-большому“, цётка ацаніла маю мажную постаць і хуценька адмерала мне паперы — на тры свае локці. Калі б я быў крыху стройнейшы, яна б мне выдала, напэўна, шма-

ток у два свае локцікі. І па яе вачах было ясна, што спрэчкі тут бескарысныя. Краіна можа разьлівацца нафтай і газам, можа спальваць мільёны на войны і панты. А цётка на Маскоўскім вакзале ня дасьць лішняга сантымэтра туалетнай паперы, гэтага сымбалю дабрабыту зь ейнай маладосьці.

Сухабязводнае аказалася сонным пыльным пасёлкам. Ад станцыі да калёніі цягнулася доўгая вуліца з шэрымі платамі, іржавымі гаражамі, драўлянымі баракамі і пахілымі слупамі лініі электраперадач. Нават пагода не рабіла краявід прыгажэйшым. Сіняе неба толькі падкрэсьлівала яго паныласьць. У маленькай краме недалёка ад лягеру, дзе я купіў цыгарэты, перакінуўся парай слоў з пажылай прадавачкай. Якая мне і паведаміла, што „не то теперь Сухобезводное. Ох не то! Работы-то нету!“ Я нават адразу ня ўцяміў, пра якую работу „кручинится русская женщина“. І яе дзед, і яе бацька, і яе дзядзька былі ВОХРаўцамі. І такіх працоўных дынастый тут было нямала. Унжлаг — гэта ж было „градообразующее предприятие“. „Раньше-то! Со всего Союза тут сидели, — бедавала старая. —И с Украины, и из Белоруссии, и из Прибалтики“. У мяне ад яе бедаваньняў пабеглі дрыжыкі. Жартаваць цытатай „уж лучше вы к нам“ зусім не хацелася. Саюзная дзяржава ў нас ужо ёсьць. Жаданьне „поработать“ у нашчадкаў ВОХРы яшчэ не прапала. Што ж павінна адбыцца, каб беларусы ўцямілі, што

іх тут чакаюць. Па іх тут сумуюць. Іх, можна сказаць, тут любяць. Няўжо, каб засвоіць назаўсёды простую ісьціну „любі сваё“, прыйдзецца паўторна здаць гэты іспыт — яшчэ раз нарадзіцца на станцыі Чыбір?

Расейская пісьменьніца Марына Яфімава, якая эмігравала ў ЗША яшчэ ў 1970-я гады, у сваіх успамінах на Радыё Свабода „Роман с русским языком“ трапна апісвала сваё наведваньне радзімы пасьля доўгіх гадоў растаньня. **„Но вокруг звучала русская речь, и я чувствовала себя, как водолаз, долго пробывший в немом подводном мире и вынырнувший, наконец, к долгожданным звукам земли“.** Пачуўшы гэтую фразу, я, памятаю, тады задумаўся: а дзе ж павінен вынырнуць беларускі эмігрант, каб насаладзіцца роднымі гукамі? Ну не на менскай жа вуліцы. Ня кажучы ўжо пра абласныя цэнтры. Можа, на мітынгу апазыцыі? Наўрад ці. На літаратурнай імпрэзе ці на канцэрце беларускай групы? Хіба так. Але лепш за ўсё выправіцца туды, дзе жывуць беларусы звычайныя — такія, як мае суразмоўцы. Бо як мы пазнаём звычайнага паляка? Ці літоўца? Найперш па гуках мовы. Ужо потым можна знаёміцца, высьвятляць, наколькі ён прасунуты ў гісторыі ці нацыянальнай кухні. Але першая прыкмета — мова. І Леакадзія, і Тамара... Ды амаль усе мае суразмоўцы — слыхавая асалода для таго, хто даўно ня быў у Беларусі. Вось толькі Беларусь значна адступіла і сьціснулася.

Я разгарнуў абласную „Сялянскую газету“ за 1949 год. Адразу становіцца зразумела, хто прыйшоў і якое месца ў новай краіне адведзена беларусам.

**„Найбольш выдатная нацыя з усіх нацый, уваходзячых у склад Савецкага Саюза — так адазваўся вялікі Сталін аб рускім народзе. У светлыя святочныя дні нашай гістарычнай перамогі над злейшымі сіламі Германіі на ўвесь свет прагучала здравіца геніяльнага правадыра і палкаводца: «Я падымаю тост за здароўе рускага народа не толькі таму, што ён — кіруючы народ, але і таму, што ў яго ёсць ясны розум, стойкі характар і цярпенне». У гэтых словах правадыра знайшлі сваё яскравае выражэнне пачуцці падзякі і ўдзячнасці рускаму народу, якія напаўняюць сэрцы мільёнаў людзей“.**

**„Другі год у 45-й чыгуначнай школе працуе літаратурны гурток, арганізаваны загадчыкам навучальнай часткай Міхаілам Сяргеевічам Шашчэнка.**

**Міхаіл Сяргеевіч сумеў зацікавіць вучняў старэйшых класаў і гурток стаў хутка расці. Тут глыбока вывучаецца выдатнае наследдзе нашай літаратуры: працы Белінскага і Пісарава, Дабралюбава і Чэрнышэўскага, савецкіх крытыкаў“.**

**„У гады акупацыі аб існаванні бібліятэкі даведаліся каты-фашысты. Яны рашылі знішчыць нашы кнігі. У дом уварваўся не-**

**мец, зрабіў старанны вобыск і знайшоў частку літаратуры. Са звярынай злосцю фашыст схапіў томік Пушкіна і кінуў кнігу ў агонь“.**

**„Далёка ад нашай вёскі Масква, а здаецца, што зусім яна блізка, бо кожны дзень ва ўсім нашым жыцці мы адчуваем цяпло і клапатлівую руку Масквы.**

**Кім бы мы былі, калі-б не Масква? Яна — сэрца Радзімы — прынесла нам пазбаўленне ад польскіх памешчыкаў, яна вызваліла нас ад нямецка-фашысцкага рабства, яна дала нам свабоду і шчасце. Калі-б не Масква, жылі-б мы ў нястачы, кабале і горы, свету белага не ўбачылі-б.**

**У Маскве нарадзілася Сталінская канстытуцыя. Гэта асноўны закон нашага жыцця. Па гэтаму закону мы атрымалі вялікія правы, па гэтаму закону мы, беларусы, сталі людзьмі звацца“.**

Сваю першую сустрэчу з прадстаўніком „найбольш выдатнай нацыі з усіх нацый“ добра памятае былы супрацоўнік Маладачанскага абкаму Анатоль Грузьдзіловіч:

— У нашай школе ўсе прадметы былі толькі на беларускай мове. Але калі я паступаў у інстытут... Вось экзамэн па фізыцы. Фізыку я знаў добра. Усе пытаньні на экзамэне былі таксама на беларускай мове. І адказваць я пачаў па-беларуску. Экзамэнатар прагледзеў пісьмовае рашэньне задачы і гаворыць мне: „Ну задачку ты хорошо решил. Но на белорусской мове

ты мне на пятёрку не ответишь. Если будешь на русском отвечать, может, пятёрку и заработаешь“. І я з „напружаньня“ перайшоў на „напряжение“. І неяк адказаў. Ён паставіў мне пяцёрку. І аказалася, што, калі б я атрымаў чацьвёрку, то не прайшоў бы. Не хапіла б аднаго бала. Што тычыцца мовы ў Маладэчне. Гарадок быў маленькі. Сельскае насельніцтва і частка прыежджых з усходняй часткі Беларусі і крыху з Расеі. Начальства ў асноўным з Усходу. Былыя ўсходнія „замы“ тут сталі начальнікамі. А мясцовых пры ўладзе практычна не было. І не давяралі, і адукаваных людзей было мала. Таму ўся дакумэнтацыя вялася на расейскай мове, толькі „шапка“ дакумэнта была двумоўная.

95-гадовы вэтэран Канстанцін Пяцко, былы начальнік райфінаддзелу, які езьдзіў па вёсках толькі ўдзень і толькі з аховай, як сапраўдны савецкі патрыёт бачыў на той час толькі адну праблему — кадравую.

— Кадров нету! Нету кадров! Значит, привлекать приходится безграмотных бывших партизан. Или помогают другие области. Особенно Гомельская область. И единственное, что было нового в то время — Машеров был в Молодечно первым секретарём комсомола, он начал связываться с минскими ВУЗами. И он начал привлекать для работы в Молодеченской области студентов! Часть их после окончания поехала туда работать, часть не поехала. И тут встал вопрос пригласить в область молодых

специалистов со всего Советского Союза! Начали запрашивать. Мы получили — Ленинград, Москва, Казань, Киев, Львов! Вот какие кадры приехали к нам!

Так выглядала паглыбленая інтэграцыя 1940-х. Кажучы сёньняшнімі словамі, былая Віленшчына, як і ўся Заходняя Беларусь, увайшла ў „саюзнае гасударства“. І першае пытаньне, якое вырашаў цэнтар — кіраўніцкія кадры. Моўнае пытаньне было наступным. Бо той, хто кіруе, той і загадвае, на якой мове гаварыць.

Сярод усіх нумароў „Сялянскай газеты“ за 1949 год адзін нумар вылучаецца. Ён цалкам зроблены па-расейску. Ён такі быў адзіны. Напэўна, абкамаўскія ідэолягі самі спалохаліся таго, што зрабілі. Іхныя панэгірыкі „колхозному счастью“ загучалі занадта ўжо натуральна і таму хлусьліва. Наступны нумар ужо выйшаў па-беларуску. Для беларускай мовы пакідалася ніша. Для вершыкаў пра Сталіна, для самадзейнасьці, для вясковых школ і вось для такіх лістоў у рэдакцыю ад „простых людзей“:

**„У 28 кіламетрах ад Вілейкі, у баку ад шасейнай дарогі, сярод лясоў, раскінулася невялікая вёска Засценкі. Была яна пры панскай Польшчы гіблым краем, «мядзвежжым» кутком. Сяляне Засценак жылі ў нястачы, цемнаце і невуцтве, пераносячы социяльны і нацыянальны прыгнёт.**

**Дзесяць гадоў назад наша савецкая Радзіма працягнула руку брацкай дапамогі пра-**

**цоўным заходніх абласцей Беларусі, вырвала іх з-пад панскага ярма.**

**Велізарныя змены адбыліся за гэты час у Засценках, як і ва ўсіх гарадах і вёсках заходніх абласцей. Сёння Засценкі — квітнеючая калгасная вёска. Яна жыве жыццём усёй краіны.**

**Жыхары Засценак ведаюць: гэта Масква прынесла ў іх хаты шчасце. І таму першыя думы свае накіроўваюць яны ў Маскву, туды, дзе жыве і працуе вялікі правадыр савецкага народа таварыш Сталін. Сёння Засценкі не «мядзвежжы» куток, а часціца магутнай савецкай дзяржавы, часціца Масквы“.**

Я сапраўды ніколі ня чуў у жывой беларускай мове слова „калгас“. Толькі ў літаратурных тэкстах і ў мове журналістаў. А вось слова „калхоз“ гучыць у беларускай мове вяскоўцаў зусім натуральна. Як супрацьлегласьць чамусьці нармальнаму і людзкаму. Свайму.

## „Маня, колькі ты мяне будзеш ждаць?“

*Папкі, Валожынскі раён*

Працуючы над тэчкамі Міхася Чарняўскага, я пераслухаў больш за сотню фанаграм у фонавым аддзеле Нацыянальнай бібліятэкі. Ідэя была ў тым, каб у кожнай перадачы на радыё гучала новая песьня. Нішто так не акунае ў эпоху, як песьні. Што праўда, беларускіх песень пра бацьку Сталіна знайсьці не атрымалася. У хрушчоўскія часы змаганьня з культам асобы гэтыя шэдэўры былі схаваныя ад слухачоў у спэцыяльныя фонды.

Было шмат песень пра шчасьлівае калгаснае жыцьцё. Сярод іх нават трапляліся сапраўдныя шэдэўры. Як, напрыклад, „Любы зоры залацістыя“. Аўтарства загадкавага Г. Галавасьцікава. Дзіўна, што больш пра гэтага творцу я нідзе нічога не знайшоў. Няўжо самадзейны аўтар? А яшчэ мяне чакала прыемнае адкрыцьцё ў выглядзе лірычных песень, што пісаліся ў 1950-я і 1960-я гады. Міжволі ўспомніў словы паэта Валянціна Тараса ў адрас паэта Петруся Броўкі, якога да гэтае пары ўспрымаюць як паэтычна-партыйнага трыбуна, глыбока афіцыёзнага вершатворцу. Ён, са словаў Тараса, вымушаны быў сам наступаць сабе на горла. Урэшце, нават партыйны Броўка застанецца жыць, пакуль будуць сьпявацца „Алексан-

дрына“ і „Пахне чабор“. А тады, у 1950-я, самым сьпяваным паэтам быў Адам Русак. Кампазытар Ісак Любан ствараў геніяльныя шлягеры. Усе ведаюць песьню „Бывайце здаровы“. Дзякуючы сьпеваку Данчыку ў 1990-х гадах атрымала другое дыханьне „Не шукай“. Але была незаслужана забытая „Толькі з табою“. Кампазытар Юры Семяняка склаў „Не за вочы чорныя“, якую можна сьпяваць хоць пад баян, хоць пад сымфанічны аркестар. А на пачатку 1960-х малады, яшчэ нікому не вядомы студэнт Беларускай кансэрваторыі Ігар Лучанок піша выдатны раманс „Дзе ты, зорка мая“. Але калі ўключыць гэтыя песьні і пачаць чытаць крымінальныя справы, дзе галоўнай рухальнай сілай было каханьне і рэўнасьць, узьнікае вельмі дзіўны стэрэаэфэкт. Героі гэтых рамансаў набываюць аблічча, а ў старых песьнях гучаць новыя матывы.

Не шукай ты мяне
Каля жытніх палёў,
Не шукай,
Калі к сэрцу майму
Ты дарог не знайшоў,
Не шукай…

Ёсьць такі распаўсюджаны выраз „шэксьпіраўскія жарсьці“. Маўляў, у п’есах вялікага ангельца пачуцьці амаль нерэальныя сваім напалам. Калі каханьне, дык мацнейшае за страх сьмерці. Калі ўжо подласьць, дык ніжэйшая за




пекла. Калі ўжо вернасьць, дык да труны. Калі ўжо падступства, дык такое хітра-вытанчанае, што сам Люцыпар пазайздросьціць. Гэты выраз быццам гаворыць, што такія страсьці-жарсьці засталіся толькі ў Шэксьпіравых п’есах. У нашых прэсных часах і каханьне не такое гарачае, і гераізм не такі бясстрашны, і сьмерць не такая „красная“. Ня кажучы ўжо пра дэкарацыі.

Але варта прачытаць судовую справу Эдмунда Канановіча, 1927 году нараджэньня, жыхара вёскі Папкі, каб адчуць няпраўдзівасьць гэтага выразу. Для сапраўднай драмы дэкарацыі ня важныя. Муры Эльсынора толькі фон, як і муры калгаснага кароўніка.

**„Кананович Эдмунд признан виновным в том, что он, проживая в деревне Попки, Воложинского района, летом 1948 года имел**

**встречи с участниками вооружённой террористической бандитской группы Чернович и Шидловским. С июля 1949 года, проживая на нелегальном положении, три раза встречался с Чернович, Гедрович и другими у себя дома и, зная о преступных действиях бандитов, их намерениях и местонахождении, не заявил об этом в ограны Советской власти.**

**Доводы осуждённого Кананович о том, что с бандитами не встречался, являются неосновательными, так как его виновность в этом подтверждается показаниями Почиковского А.К., Почиковской А.К. и показаниями самого осуждённого на предварительном следствии“.**

Не кажы ты мне слоў,
Што ня грэюць цяплом,
Не кажы...
Калі сэрца тваё
Не палае агнём,
Не кажы…

Папкі — гэта вёска, што залегла ў нізіне, за невялікім лесам, каля мястэчка Пяршаі. З-за лесу сюды зусім не далятаюць гукі недалёкай гарадзенскай аўтамагістралі. Вёска маленькая. Яе адзіная вузенькая вуліца цягнецца ўсяго мэтраў на 400. У адным з дамоў у адчыненым акне я заўважыў паважнага веку гаспадыню. Сівая мажная жанчына аказалася старажылкай вёскі Зьдзіславай Таўгень, у дзявоцтве Більман.




Пагляджу, якая яго любоў да справы.
Рыс. Ю. Узбякова.
Прэсклішэ ТАСС.

Я толькі назваў імя Эдмунда Канановіча, як з вакна на мяне паліліся ўспаміны. Я толькі маліўся, каб не сапсаваўся дыктафон і каб гук уключанага тэлевізара ня надта шкодзіў запісу.

— Я пра яго ўсё знаю. Я вам раскажу. Гэта ўсё няпраўда. Ён ня быў бандытам. Ён меў дзевушку. І другі быў... Анатоль Пачыкоўскі, супернік. Ну і Эдмусь па п’янцы нешта, відаць, гаварыў. Што ўсіх камуністаў перавешаю. Але сьвідзецеляў не было, што ён так гаварыў. А той

другі камуніст быў. А пачыналася ўсё так. Эдмунд падрабіў дакумэнты. Нас жа абкладалі налогамі. Нада было зярна многа здаваць. І вось ён здаў зярно. І ягоны друг, Шавал з Запрудзьдзя, гаворыць: а давай мы паддзелаем дакумэнты. Недзе там ноль падставілі. Што ён быццам многа здаў. А патом гэта раскрылася. І яго б арыштавалі. Дык ён стаў хавацца. Усё ж хадзілі чуткі — Амэрыка прыйдзе! Такія легенды пасьля вайны. Ну колькі ж можна хавацца. Злавілі. Але ён ня быў у бандытах. Сахрані Бог! Гэта я знаю ад сваёй душы і свайго сэрца. Бо мая сястра за ягоным братам замужам была.

Вось табе і Шэксьпір. Любоўны трыкутнік, у якім падступны камсамолец піша данос на свайго аднавяскоўца, абвінавачваючы суперніка ў сувязях з бандытамі. Гэта значыць, гарантавана выпраўляючы ў ГУЛАГ. А ці былі бандыты?

— Пачыкоўскія Анатоль і Алімпія. Гэта ўсё яны на яго напісалі. Гэта цётка з пляменьнікам. Былі тут бандыты і прыходзілі. Потым яны пагіблі. У Яшкавічах іх разаблачылі. Аснаваў іх нейкі Радзюк зь Сярэдняга сяла. Аснаваў гэту банду. Толькі тады прынімалі, калі заб'е камуніста. А так не прымалі. Камуністаў любілі тут не вясьма. А бандыты тыя і да нас прыходзілі. Мы самі былі галодныя, а яшчэ і ім аддаваць што-небудзь. І сала дай, і хлеба дай. І вось прыйшлі яны да Канановічаў. І выйшлі на двор. І ішоў Алімпіі сын. Мой аднаклясьнік. Убачыў



Зьдзіслава Таўгень

гэтых бандытаў. І тыя хацелі яго забіць. За тое, што ўбачыў. А Эдмунд паручыўся за яго: „Гэта добры хлапец. Ня трэба забіваць“. Страчацца ён зь імі страчаўся, але бандытам сам ня быў. Яго ўгаварвалі, каб забіў камуніста і ішоў да іх.

А вось і шэксьпіраўскае падступства. Лясныя разбойнікі хацелі забіць сына высакароднай Алімпіі як небясьпечнага сьведку. А ад лютай сьмерці таго выратаваў высакародны Эдмунд. Няўдзячная Алімпія адплаціла даносам.

— Як адыходзіў Эдмунд у турму, дык спытаў у сваёй каханай: колькі будзеш чакаць? Яна кажа — пяць гадоў. І не дачакалася. А яго адпусьцілі раней. Бо Сталін жа памёр быў.

Я чуў пра абрабаваныя крамы, пра забітых старшынь сельсаветаў. Але пра галаву камуніста ў якасьці ініцыяцыі чую ўпершыню. Які, к чорту, Шэксьпір? Гэта ўжо нейкі Гамэр!

— Помню, у бацькі, я яшчэ падлёткам была, яны неяк прыйшлі, у кухні акно завесілі. І выпіць ім давалі, і паесьці давалі, і з сабой надаюць. І мама мая была бажэственная! Гаварыла: гэта ж грэх — забіваць чалавека! Дык адзін быў нейкі з-пад Валожына, казаў, што „Знаеце што? Дажэ папа гаварыў, што камуністаў трэба забіваць". Помню, як гэтыя словы чула ад яго. Але ж потым яны ў Яшкавічах абабралі магазін. І нехта ж нашоўся, даклаў. Прыехала ўся міліцыя з Валожына. Акружылі гэтае гумно, дзе яны спалі. Крычалі ім, каб здаваліся. А потым падпалілі гумно, і яны ўцякалі. Той Гедровіць, які гаварыў, што камуністаў трэба забіваць, адляцеўся. Яму па нагах далі. Яго хацелі жыўём узяць, а ён выняў рэвальвэр і сам сябе забіў. Трох іх там пагібла. І двух былі засталіся яшчэ. Голуб зь Янушкавіч і яшчэ Чараповіч нейкі быў, зь Пяршай. Дзе яны дзеліся? Ня знаю. Недзе іх, відаць, прыстрэлілі.

Гедровіць. А ў справе яго запісалі як Гедровіча. Ліхі быў атаман!

— Гедровіць... Красівы такі быў! У шчылінку паглядзела. Ён быў самы заправіла. Ён быў сільна вумны. Усюды езьдзіў. Па гарадох, усюды. Па-дурацкі пагіблі ўсе. Пяць чалавек іх было. Мелі зямлянку ў лесе. Ці многа забілі? Ня знаю. У Янушкавічах Мінька забілі. Прадсядацелем калхоза стаў. Яны тады да Голуба прыходзілі, да радні. А той прадсядацель даклаў куды нада. І тых людзей пасудзілі. Вось яны яго, таго

Мінька, за гэта і забілі. А так ня білі. За што яны будуць біць людзей сваіх? Камуністаў, можа, дзе і білі. Чорт іх знае...

А вось і самае нечаканае.

— Пачыкоўскія паўміралі. І Алімпія памерла даўно. І гэты Анатоль памёр. А дзяўчына іхная яшчэ жывая. Тут, у Папках жыве. Марыя Захаркевіч. Яна пайшла за Захаркевіча замуж.

Аказваецца, тая папкоўская Джульета жывая! Праўда, „дзяўчыне“ ўжо роўна 90 гадоў. „Ці захоча яна гаварыць пра тую драму і сваю ролю ў ёй?“ — думаў я, ідучы да дома Марыі Захаркевіч.

Не сьпявай пад акном
Ты мне песьні сваёй,
Не сьпявай…
Калі ў сэрцы ня я
Буду песьняй тваёй,
Не сьпявай...

Марыя, да якой заляцаўся камсамолец Анатоль Пачыкоўскі, што напісаў данос на Эдмунда Канановіча, прыбраўшы такім подлым чынам суперніка, дык вось тая Марыя так і засталася той самай дзяўчынкай. Гады пашкадавалі яе. Узрост пакінуў на яе твары толькі зморшчынкі. Хударлявая, энэргічная, з надзвычай вясёлымі, жывымі вачыма і юначай мімікай. Я, пакуль гутарыў зь ёй, зрабіў дзясяткі здымкаў, але ніводзін не перадае абаяльнасьці гэтай папкоўскай каралевы.

Марыя прыняла мяне з заўсёднай беларускай гасьціннасьцю. Гэта значыць, нечаканы госьць запрошаны ў залю, нечаканаму госьцю прапанавалі чай з прысмакамі, да нечаканага госьця ўвага, як да дарагога зяця. Але, калі я назваў імя чалавека, пра якога хацеў пагаварыць, вясёлы твар Марыі крыху пасуравеў. Усьмешка зьмянілася задуменнасьцю.

Яна пацьвердзіла, што Эдмунд, быўшы чалавекам пісьменным, уладкаваўшыся ў падатковую савецкую службу, дапамагаў сялянам, якія не пайшлі ў калгас, абысьці непамерныя паборы.

— Яны з другам падрабілі дакумэнты, а потым гэта разаблачылі. Яго хацелі арыштаваць. Ён з Маладэчна ўцёк і пачаў хавацца. Але ні ў якія партызаны ён не хадзіў. Проста хаваўся, каб яго не злавілі. А тут... як са мной... Дружылі мы... Сьледавацель Бажко быў у Валожыне. Ён усё да нас прыходзіў. У мяне яшчэ сястра была. Прыйдзе і сядзіць. „Ой, дзяўчаты!“ Усё прыходзіў і прыходзіў. Усё ў нас нешта нюхаў, нюхаў, нюхаў. Але, дзякуй Богу, у нас яго не злавіў. А злавіў там, на хутары. Гэта Пачыкоўскі падказаў, Толя. Мы разам гулялі. Той тожа хацеў са мной дружыць. А я такая была... Мне васямнаццаць было, такое яшчэ было... Абы-што. І вось я з гэтым, з Эдмусем, дружыла... А той раўнаваў. І праз гэта пайшла задзірка. Ну і прыдумалі, што Эдмусь дружыць з такімі хлопцамі... Што процiў Расіі... Партызаны... Анатоль замеціў,

што Эдмусь недзе ішоў з гэтымі хлопцамі. Ну і пайшло. Сталі лавіць. Што зьвязаўся з гэтымі партызанамі. У Янушкавічах, у Бурбаўшчыне жанчыны ім шылі, хлеб пяклі. І яго-такі злавіў гэты Бажко. І пасадзілі яго. І мяне дапрашвалі. У Валожыне. Цэлую ноч дапрашвалі. „Як гэта было? Што гэта было?“ Каб паболей урэдна зрабіць яму. Каб паболей даць гадоў. Вось так Пачыкоўскі яго прадаў. Як Эдмуся пасадзілі, думаў, што я ўжо свабодная. Не! Я не хацела зь ім. Мы не ругаліся, але дружбы ў нас не было. Ён быў камсамолец нейкі. Паказаў, што чуў, як Эдмусь гаварыў, што „камуністаў гэтых павывешваць трэба!“ І паказаў, што гэта было ў нашым двары. „У дзевушкі, з каторай Эдмунд дружыў“.

Праз гэтую дэталь у даносе, што Эдмунд быццам прамаўляў пра павешаных камуністаў на двары Марыі, і сама Марыя, і яе маці пабывалі на допытах у МГБ.

— Я ні ў чым не сазналася. Ды і ня чула гэтага! А маці... Ня ведаю. Яна потым на суд езьдзіла ў Маладэчна. На судзе гэта ўсё зачытвалі. Што я гаварыла, што нічога гэтага не было. Эдмусь потым благадарыў чэраз пісьмо, што я очань харашо, як дапрашвалі мяне, гаварыла. Перапісваліся пасьля... Але дружба кончылася. І ўсё. Такая была любоў маладая. Хаваўся, але папаўся.

Пакуль Эдмунд валіў лес у ГУЛАГу, Марыя выйшла замуж за Адольфа. Музыку, гаваруна і веселуна. Нарадзілася двое дзяцей. Сын

і дачка. Сын служыў ваенкамам на Паўночным Каўказе, памёр у 43 гады. Унук Марыі служыць у расейскай арміі. Там жа, на Каўказе. Дачка Марыі з унукамі жыве ў Валожыне. А ейны вясёлы Адольф праз пэўны час пачаў піць. Пакуль аднойчы, у пяцьдзясят тры гады, не засіліўся ў катуху, дзе сушацца каўбасы.

Не шукай ты мяне
У цішы вечароў,
Не шукай…
Калі к сэрцу майму
Ты дарог не знайшоў
Не шукай...

Ужо разьвітаўшыся з Марыяй, я вярнуўся праз хвіліну назад. З адным пытаньнем. Чаму ж яна не дачакалася Эдмуся?

— Ну чаго не дачакалася? Таму што гады сталі... Мне ж ужо дваццаць тры гады было. Пяць год ён праседзеў, вярнуўся тады. А мы зь ім, калі бяседавалі… „Маня, колькі ты мяне будзеш ждаць?“ А я так сяджу, помню, пад акном. Луна сьвеціць. „Пяць год“. І точна! Вы падумайце! Пяць год ён адседзеў і вярнуўся. А я замуж выйшла… А чаму выйшла? Думала — што ж я яго буду чакаць? Каб былі жанатыя... Дружылі хлопцы са мной, любілі мяне. Але каб я крэпка любіла яго — не... Яго дабрадушша... Ён добры быў хлопец. Не такі, што хацеў, каб я яму „дала“, як кажуць, ці што. Ён нікагда мне не напомніў пра гэта дзела. Я яго ўважала.



Марыя Захаркевіч

А любві крэпкай... Не. Былі крапчэйшыя... Але тыя ня бралі мяне.

Дзе ты, зорка мая прамяністая,
За якія ты хмары скацілася?
Дзе ты, радасьць мая залацістая,
На якой ты сьцяжынцы згубілася?

## „За што далі? За балталогію!“

*Яцкава-Канчане, Валожынскі раён*

Пачынаючы ад 1950-х, на старонках абласной і раённых газэтаў усё больш папулярнай становіцца тэма радыё. Ледзь ня ў кожным нумары апісваецца неверагодная радасьць калгасьнікаў, у якіх завялася „талерка“ рэпрадуктара. Але самыя большыя шчасьліўчыкі — тыя, хто маюць дэтэктарныя прыёмнікі. З усяго гэтага багацьця я выбраў цытату з Дунілавіцкай раёнкі „Сцяг Сталіна“. Тут у сатырычнай рубрыцы „Наш кракадзіл“ нейкі Л.Кухальскі вырашыў бліснуць ня толькі сваім веданьнем мовы Пушкіна, але і высокім штылем.

**„Если дело идёт об абонентной плате, то работники Дуниловического радиоузла «не спят в шапку». Возьмут, и даже досрочно, с каждого обладателя радиоточкой. А вот, что бы наладить нормальную работу радиоузла, вовсе не заботятся. Уже второй месяц жители Дуниловичей не слушают радиопередач из Москвы, Минска.**

**Надсмотрщик радиоузла Егор Иванов и его сотрудники додумались применить кое-что «новое» в вещании. Ремонтируя линию Варапаево-Дуниловичи, они продали часть столбов окрестным жителям за горелку. И в нетрезвом виде, сидя на столбах, напевали**




Слухаюць дэтэктарны прыёмнік

**«Тихо вокруг…». Наверное, не знают они, что слушателям надоела такая музыка.**

**По разрешению начальника райконторы связи тов. Терентьева, я установил и зарегестрировал радиоточку. Но Егору Иванову чего-то не понравилось. Пьяный он зашёл ко мне в квартиру, оторвал радиопроводку, в присутствии публики обозвал мою жену, медсестру Дуниловичской больницы, нецензурными словами и удалился в спокойном расположении духа.**

**Интересно, кто позволил Иванову творить такие безобразия? Когда же жители Дуниловичей будут слушать радио?“**

Прачытаў і міжволі адчуў сымпатыю да гэтага невядомага мне аматара радыё і мужа

мэдсястры Дунілавіцкай лякарні. За тое, што ў сваім расейскамоўным допісе абсалютна слушна ўжыў слова „горелка“.

„Шэксьпіраўскія жарсьці“ дзіўным чынам круціліся вакол каханьня, гарэлкі і… радыё. Не зусім нашага радыё. Бо радыётэматыка прысутнічае ня толькі ў раённай прэсе, але і ў справах Маладачанскага суду. Што праўда, слухачы, якія праходзяць у тых справах у якасьці абвінавачаных, слухалі зусім не Маскву зь Менскам.

Так, у 1952 годзе судзілі 18-гадовага жыхара вёскі Ліпнішкі Івейскага раёну Пятра Іванавіча Караля. Беларуса, зь сярэдняй адукацыяй, халастога, несудзімага. Паводле 72-га артыкулу маладому чалавеку прысудзілі пяць гадоў лягераў і канфіскавалі радыёпрыёмнік „Партызан“. Апошняе — рэчавы доказ злачынства.

**„Король Пётр Иванович, проживая в дер. Липнишки Ивьевского района Молодечненской области, в 1951 г., в связи с арестом органами Советской власти отца, Король Ивана Игнатьевича, стал на путь враждебной деятельности против существующего строя в СССР, систематически занимался слушанием антисоветских передач из Лондона и радиовещательной станции «Свободная Европа», в которых возводилась клевета на руководителей партии и Советского правительства, извращалась Советская действительность, велась пропаганда войны против СССР и реставрации капитализма.**

**Будучи враждебно настроенным, Король Пётр Иванович в августе м-це 1951 г. лично от руки изготовил в адрес военнослужащего Советской Армии Корицкого Казимира анонимное письмо, в котором выражал свои антисоветские антиколхозные взгляды, возводил клевету на одного из руководителей КПСС и на Советскую действительность“.**

У тым жа 1952 годзе судзілі іншага радыёаматара, 20-гадовага жыхара Сьвірскага раёну Дэйчку Бэнона Міхайлавіча. Беларуса, пісьменнага, нежанатага. Артыкул той жа, але далі ажно дваццаць пяць гадоў.

**„Дейчко Бенон, проживая в дер. Пукелишки Кемелишского с/с, с 1942 года хранил у себя немецко-фашистские газеты, антисоветского содержания.**

**После окончания Отечественной войны с 1947 г. вёл блокнот, в котором рисовал карикатуры вождей Советского государства и высмеивал их. С 1950 г. незаконно держал у себя радиоприемник «Родина» и систематически слушал антисоветские радиопередачи из Америки, Англии, Франции, о которых вёл условную переписку с братом Дейчко Зеноном, высказывая в письмах антисоветские взгляды и изменнические настроения.**

**Кроме того, в 1950-1951 г. совместно с дядей Дейчко Иосифом занимался изготовлением самогона“.**

А ў 1957 годзе, ужо пасьля сьмерці таварыша Сталіна, у эпоху так званай адлігі, паводле таго ж 72-га артыкулу судзілі 34-гадовага жыхара вёскі Асіноўшчына Смаргонскага раёну Станіслава Тарасевіча. Беларуса, судзімага ў 1956-м за самагонаварэньне, жанатага.

**„Тарасевич Станислав Михайлович, начиная с зимы 1956 года, посредством имевшегося у него детекторного радиоприемника «Комсомолец», через наушники, систематически слушал антисоветские радиопередачи из-за границы и содержание их пропагандировал среди местного населения, в частности, содержание этих радиопередач он рассказывал жителям деревни Осиновщизна II-я Дурейко Петру и Дурейко Ивану.**

**Враждебно относясь к существующему в СССР государственному строю и коммунистической партии Советского Союза Тарасевич 25 апреля 1957 года, желая исключения Дурейко Анны из комсомола, похитил из шкафа в её доме её комсомольский билет, учинил на нём антисоветские надписи, содержащие призыв к подрыву Советской власти и угрозы в адрес КПСС и этот билет опустил в один из почтовых ящиков гор. Сморгонь, где он и был обнаружен работниками конторы связи“.**

Шкада, што ў Асіноўшчыне ніхто ня памятае гэтай гісторыі. Ні шматлікія Дурэйкі, ні Тарасевічы. Ці, хутчэй за ўсё, ня хочуць успамінаць.

І зусім ніякага сьледу не засталося ад вёскі Букелішкі (не Пукелішкі), дзе жыў карыкатурыст і антысаветчык Бэнон Дэйчка.

А вось дзеці Пятра Караля да гэтае пары жывуць у Ліпнішках. Ягоны сын Віктар расказаў мне пра ўнікальны лёс свайго бацькі і дзеда. Дзед, Іван Ігнатавіч, сапраўды стаў на шлях варожай дзейнасьці супраць існага ладу. Уся дзейнасьць заключалася ў тым, што стары Іван не хацеў ні ўступаць у калгас, ні аддаваць туды жывёлы і калёсаў. І яшчэ ня стрымліваўся ў выразах ні ў адрас мясцовых актывістаў, ні ў бок крамлёўскіх таварышаў. За што атрымаў дзесяць гадоў. І гэта яшчэ ў 1945 годзе! Зь лягеру ён вярнуўся раней за сына, у 1955-м.

Сын Івана Пётра ў 1952-м спрабаваў паступіць у менскі палітэх. Але на ягонае месца, хоць ён і праходзіў па балах, узялі іншага маладога чалавека. Начальніцкага сына, як расказваў пасьля Пётра сваім сямейнікам. Ён спрабаваў дабівацца праўды, пісаў, скандаліў. За што, зь ягоных словаў, і паплаціўся. Але далейшы ягоны лёс — суцэльная адысэя. Спачатку лягер на Паўночным Урале, потым вызваленьне зь лягеру і забарона вяртацца ў Беларусь. Дзесяць гадоў пасьля лягеру ён бадзяўся па савецкай імпэрыі, мяняючы прафэсіі і краі. Праца матросам на Касьпіі, шаферства на цаліне, геалягічныя экспэдыцыі ў Каракумах. На радзіму Пётра вярнуўся толькі ў 1966-м, маючы за плячыма 34 гады. Ажаніўся, скончыў аўта-

транспартны тэхнікум у Бабруйску. Але вышэй за кіроўцу яму працаваць не далі. Зразумела, ні прыёмніка „Партизан“, ні Казіміра Карыцкага Віктар Кароль ня памятае.

А мы зараз настроім наш радыёпрыёмнік не на Бі-Бі-Сі і не на радыё „Вызваленьне“. А на Першы канал Беларускага радыё, дзе перадаюць чарговую песьню пра любоў — Юрыя Семянякі на верш Адама Русака.

Ціха растрывожыла
Думкаю-бяссоньніцай
Вечна неспакойная
Ты, любоў мая.
Не за вочы чорныя,
Не за бровы смуглыя,
А за сэрца шчырае
Палюбіла я.

3 красавіка 1953 году быў вынесены прысуд Зянько Феадосіі Дзьмітраўне. **„1925 года рождения, уроженка дер. Яцково-Кончание Воложинского района Молодечненской области, белорусска, образование среднее-педагогическое, беспартийная, незамужняя, ранее не судимая**.

**Зенько Феодосия Дмитриевна, находясь в неприязненных отношениях с жительницей м-ко Вишнево Молодечненской области Каминской Анной, в январе месяце 1952 года в радиоузел «Голос Америки» написала письмо антисоветского содержания, которое**

**опустила в один из почтовых ящиков гор. Воложина.**

**В письме Зенько, прикрываясь именем Каминской, изложила враждебные взгляды по отношению Советской власти, извращает Советскую действительность, возводит гнусную клевету на условия материальной жизни трудящихся СССР, клевещет на руководителей Коммунистической партии и Советского правительства и на мирную политику Советского государства.**

**Наряду с этим Зенько восхваляет жизнь в империалистической Америке и разделяет антисоветский характер радиопередач «Голоса Америки».**

**Совершая вышеизложенное, Зенько наряду с этим имела умысел создать ложный материал в отношении Каминской с тем, чтобы последняя была привлечена к уголовной ответственности.**

**В предъявленном абвинении Зенько Ф.Д. виновность признала полностью“.**

Я матляўся па Вішневе ад хаты да хаты, але ніхто са старажылаў ня памятаў ні Феадосію Зянько, ні Камінскую. Пакуль адна з жанчын, паглядзеўшы на дакумэнты, не запыталася ў мяне, чаму я ня еду на радзіму Феадосіі, у Яцкава-Канчане. Я паехаў у гэтую маленькую вёску з адзінай нават ня вулічкай, а зялёным лужком, абкружаным хатамі. І першая сустрэтая мною на тым лужку невысокая немаладая

кабета, Яніна Міньцюк, адразу адрэагавала на агучанае мною імя.

— Феадосія Дзьмітрыеўна? Зенька? Дык яна была настаўніцай. Вяла ў нас усе прадметы. У пачатковай школе. І арыфметыку, і беларускую мову, і рускую. Добрая была настаўніца. І з бацькамі пагаворыць заўжды. У нас кладкі былі цераз рэчку. Гэта ж цяпер мост, а так былі кладкі. Вясна, разьліецца вада, а мне няма ў чым ісьці ў школу. А яна прыйдзе да мамы і пазычыць боты. Дапамагала ўсім каму можна. Калі хто захварэў з гаспадароў, мы класам ідзём і яму бульбу капаем. Але ж гаротная была. Гаротная.

Яніна пайшла ў школу ў 1955-м. А настаўніца Феадосія Дзьмітрыеўна вучыла яе з трэцяе клясы. Значыць, вярнулася яна ў 1957 годзе, да канца не адбыўшы свой тэрмін. А паколькі вярнулася не адна, а зь сям'ёй, была пасьля лягеру на вольным пасяленьні.

— Замуж выйшла там, дзе сядзела. За ўкраінца. Міша Сыктым. Яны тут жылі. Прывезьлі з турмы дзяўчынку-калеку. Яна ня ела сама, нічога. Я часта зь ёй заставалася за няньку. Яе за носік возьмеш, тая рот разінець і тады будзе глытаць. Феадосія Дзьмітрыеўна мне дасьць заданьні. Я іх выконваю і тую малую люляю. А сама яна ідзе ў школу вучыць дзяцей. Пасьля прыходзіць, правярае заданьні і ставіць адзнакі. У яе пасьля было многа дзяцей. Міша яе быў благі муж. Зусім благі. П'янка за п'янкай. Ад


Яніна Міньцюк

гарэлкі ён і пагіб. Са сваім таварышам хадзілі ў суседнюю дзярэўню, там п’янствавалі. Ішлі, абодва ў лужу паваліліся і абодва захлынуліся. Але ж пасьпеў зрабіць восем дзяцей.

Знаю, не праложаны
Мне дарогі роўныя,
Кветкамі ня сьцелюцца
Сьцежкі у жыцьці.
Пушчамі глыбокімі,
Горамі высокімі,
Рук не разьнімаючы,
Нам з табой ісьці.

Я крыху баяўся непакоіць роднага брата Феадосіі Зенькі. Менавіта так гучыць яе прозьвішча

ў вёсцы. Як-ніяк, Канстанціну 87 гадоў і ён пасьля інсульту. І пытаньне ў мяне ня вельмі вясёлае. Бо не заўжды савецкія органы памыляліся. Але высокі, строгі Канстанцін цьвёрдым голасам, без усялякіх прэлюдый, адразу даў цьвёрды адказ.

— За што далі? За балталогію! Яна зрабіла подласьць! Яна ўлюбілася ў чалавека, а ён быў жанаты. І хацела, каб жонка сядзела. І ад імя ягонай жонкі напісала нешта на Сталіна. Але почырк яе выдаў. У яе зрабілі обыск. А ў яе почырк такі харошы, адметны. Але ж лёгка аддзелалася. Свой срок да канца не адсядзела. Лагер быў у Сібіры. Спачатку была на лесапавале, а потым рабіла на ферме, на вольным пасяленьні. Там і мужа сабе знайшла. Ён таксама ў турме быў. Там пазнаёміліся і пажаніліся. Нарадзілася дачка. Але ж... была лішэна здароўя. Не саабражала. Вярнулася. Я ёй хату паставіў.

Засьвяціся яснаю,
Сьветлаю, нязгаснаю,
Зоркаю шчасьліваю,
Ты, любоў мая.
Не за вочы чорныя,
Не за бровы смуглыя,
А за сэрца шчырае
Палюбіла я.

Спрабую ўспомніць, што было яркага і адметнага ў беларускай культуры пачатку пяці-



Канстанцін, брат
Феадосіі Зенькі

дзясятых гадоў. Мабыць, для гэтага трэба быць гісторыкам сацрэалізму. І ведаць ідэалягічна правільныя п’есы Аркадзя Маўзона, такія ж правільныя першыя аповесьці Янкі Брыля. Можа, хто памятае апавяданьні Ільлі Гурскага? Ці раманы Аляксея Кулакоўскага. Падобна, што ўсе, каго мы ведаем і перачытваем, прыйдуць пазьней. І Караткевіч, і Быкаў, і Барадулін, і Бураўкін. А для мяне пяцідзясятыя гады асацыююцца выключна зь песьнямі. Найперш на вершы Адама Русака.

І з тымі драмамі і жарсьцямі, якія адкрыліся ў тэчках Чарняўскага. Каханьне, гарэлка, радыё…

## „Я чалавек Belle Époque“

*Яршэвічы, Валожынскі раён*

У доме, якому амаль сто гадоў, я слухаю палянэз, што грае гаспадар дома Алесь Лось на раялі, якому больш за сто дваццаць гадоў. Апісваць сядзібу краязнаўца, дудара, кампазытара і мастака Алеся Лася і ягоную калекцыю старадаўніх музычных інструмэнтаў я ня буду. Для ўсіх, хто цікавіцца беларускай старасьветчынай, гэта адрас знакавы. Нават навігатар MapsMe ведае, дзе знаходзіцца „Хутар дудара“. За вокнамі старога дома — густы лес, крутыя пагоркі, спуск да ракі Яршоўкі. Можна бязь цяжкасьцяў адчуць сябе хоць у 1950-х гадах, калі тут быў Радашковіцкі раён Маладачанскай вобласьці, хоць у трыццатых гадах XX стагодзьдзя. Калі вось за гэтым самым сталом, за якім мы сёньня гутарым, сядзелі зусім іншыя людзі.

— Я яшчэ з гаспадыняй, Нінай Маркаўнай, размаўляў. Яна апавядала: „Знаеш, Алесь, які трыццаць дзявяты быў? Я тут сяджу за гэтым сталом, нешта наразаю. Нейкі салат раблю. І тут брычка пад'яжджае, і два чалавекі. Сымпатычныя, у форме. І да нас. «Што такое?» — думаю. Дзьверы адчыняю. «Здравствуйте, мамаша. Мы новая власть. Вот, приехали познакомиться». Вельмі ветліва. Такі высокі статны мужчына. «Ну прысядзьце». Адрэзала паляндвіцы трохі,

цыбулі. «Вот мы тут ищем, как бы нам организовать… На кого нам опереться. Где у вас тут беднота?» — «Якая бедната? Што вы маеце на ўвазе? Ёсьць там, у Яршэвіча, адзін піяк. Дык ён як за палякамі піў, так і цяпер будзе піць. Бедны чалавек». — «Нет. Те, у кого нет ни коровы, ни коня. Кто батрачил тут». — «У нас такіх няма. У нас у кожнага па тры, па чатыры каровы, і сьвінкі, і бараны. Вунь статак бегаець», — я яму расказваю. А ў яго твар чырванее, наліваецца. А потым насупіўся ды як дасьць па стале кулаком! «Да мы вас, суки, кулачить будем! Разжились здесь!» І як стаў крычаць. Добра, што мужыка не было. Бо тут бойка была б. У мяне рукі трасуцца: «Чаго вы крычыце? Гэта ж нармальна. Мы жывём са сваёй гаспадаркі. У нас хутар...» — «Ждите вестей! Ждите! Мы приедем!» Бразнулі дзьвярыма і зьехалі“. Але іх Бог ратаваў. Гаспадар, Міхал Аляксандравіч, сышоў. Ён пайшоў у Налібакі, у лясныя браты. Бо тут шмат сваякоў у Ракаве пабілі. І пасьля бальшавікоў немцы здаліся спачатку золатам. Вярнулі зямлю, аброць. Зрабілі пашпарты на коней, на людзей.

Аказваецца, гаспадар гэтага хутара, Міхал Цішковіч, — сапраўдны беларускі партызан, лясны брат, удзельнік антысавецкага супраціву, які сышоў у лес у саракавым і выйшаў зь лесу праз шаснаццаць гадоў. Алесь не засьпеў яго жывым. Ён гутарыў толькі з удавой, у якой і купіў хату.

— Ён плакаў па сваім лесе. Бо ў іх быў свой лес. Яны яго куплялі за золата. Гэты лес, які зараз, нарос адносна нядаўна. А пасьля вайны ўсё было высечана. Была думка будаваць Менск з магілёўскіх лясоў. Але ў сувязі з тым, што тут быў вельмі шматлюдны атрад лясных братоў, чалавек дзьвесьце, у іх нават свая друкарня была, лес высякалі тут. Цікава, што яны рабавалі інкасатараў, крамы, касы. Мала каго забівалі. Якога камсамольца-вар'ята, які зьдзекаваўся зь людзей. Забіралі грошы і гэтыя грошы раздавалі. Інкасатарскую машыну якую грабанулі — паехалі па вёсках, ня кажучы хто, адкуль, пад вокнамі тыя грошы пакідалі. Па вайне больш рабавалі, а да вайны стралялі больш. Энкавэдыстаў, салдатаў, камсамольцаў. Гэта была помста за гвалт і рабаваньне. А былі такія, што бальшавіцкіх грошай ня бралі ў рукі. Быў тут такі дзівак. Яму плацілі пэнсію. А ён казаў: „Я ў рукі не вазьму тыя грошы. Марыйка! Ідзі купі мне напітку «Бураціна» і хлеба". Ад сьвятла адмаўляліся. Былі хутары, якія прынцыпова жылі на газавых лямпах. Гэта былі такія формы пратэсту. Можа быць, бессэнсоўныя. І тое, што гэты хутар застаўся ў некранутым выглядзе — гэта цуд.

Цуд таксама ў тым, што колішні гаспадар гэтага дома застаўся дома. Яго абмінуў ГУЛАГ, яго не закранула МГБ.

— Гаспадар гэтай хаты, Міхал Цішковіч, выйшаў зь лесу ў пяцьдзясят шостым годзе.

У пяцьдзясят восьмым на яго наехалі ўлады. Абвінавацілі ў тым, што ён не прайшоў мабілізацыю ў Савецкую армію, і распачалі супраціў яго справу. Міхал напісаў ліст у Польшчу, што ён служыў у Польскім войску, удзельнік вайны, быў паранены і мае права на падтрымку. Што падчас акупацыі жыў на хутары, моцна хварэў. Прыдумаў сабе легенду. І з Варшавы прыехала дэлегацыя, некалькі чалавек з Генштабу, езьдзілі ў Менск. І ад яго адчапіліся „праз адсутнасьць складу злачынства“. Бо не было фактаў, што ён быў у лясных братах ці займаўся нейкім разбоем. Палякі далі яму пэнсіён як жаўнеру войска Польскага. І ён вось такім цудам застаўся на сваім хутары. Ну а па-другое, імі апекаваўся Якуб Колас. Паэт сюды езьдзіў пастаянна. Сябраваў зь Цішковічам, у лазьні парыўся. І ў паваенныя часы падтрымліваў іх. І Тамара, іхная дачка, расказвала мне, як Колас вадзіў яе на рэчку і чытаў вершыкі.

На хутар Алеся Лася мяне прывяла судовая справа, дзе фігуруюць дзьве сястры, Лідзія і Леаніла Мацієўскія. Жыхаркі вёскі Цішкаўшчына, адна 1926 году нараджэньня, другая — 1930-га. Беларускі зь сялян-сераднякоў, абедзьве незамужнія, пісьменныя, несудзімыя. Абедзьвюм прысудзілі па тры гады лягераў.

**„Матиевская Лидия и Матиевская Леонила, проживая на хуторе деревни Тишковщина Радашковического района, весной и осенью 1950 года неоднократно встречались**

**в доме с участниками вооружённой террористической банды Метлицкого-Шидловского. Однако в суде не установлено, что Матиевские Лидия и Леонила знали о контрреволюционном характере, т.е. террористическом намерении этой банды. В суде установлено, что обе подсудимые знали о посещении их дома бандитской группы, которая в их присутствии договаривалась об ограблении магазина сельпо в дер. Тишковщина и кассира МДС, и о том, что они были ограблены, подсудимые также знали, однако об этом органам Советской власти не донесли“.**

Вёска Цішкаўшчына знаходзіцца за кілямэтар ад хутара Алеся Ластя. І прозьвішча Маціеўскіх сёе-тое гаспадару гаворыць.

— Жыў у вёсцы Кісялькі такі Русецкі. Стары дзед. Ён ужо памёр. Дык вось ён расказваў такую гісторыю. Пра Маціеўскіх. Яны былі амаль усе музыкі. Бацька вельмі музыкальны быў. На ўсім іграў практычна. У яго было ці не чатыры дачкі. Там і цымбалы, і скрыпка была. Яны прафэсійна гралі на вясельлях. Людзі былі вельмі пагодныя па духу. Пасьля 1939-га яны трапілі пад раздачу бальшавікоў. Сям’ю выслалі ў Сібір, а малодшую дачку згвалцілі і пакінулі тут. Сказалі — будзеш тут жыць і назіраць, як будуецца рай. Дзяўчынка тая звар’яцела. Жыла яна ў Яршэвічах. Любіла па могілках хадзіць. Счэзла і памерла. Гэта зь ягонага аповеду.

Можа, яны вярнуліся зь Сібіру? Хаця... Гэта пяцідзясяты год...

У 1940 годзе, калі сям’я была раскулачаная і сасланая ў Сібір, Леаніле было 9 гадоў, а Лідзіі — 13. Няўжо дзяцей не забралі? І яны дажывалі свой век у сваёй хаце?

Я паехаў у Яршэвічы, дзе, згодна з распаведамі старога, дажывала малодшая Маціеўская. Самотная, звар’яцелая, што да самай сьмерці хадзіла на вясковыя могілкі і там праводзіла большую частку дня. Але па дарозе ў Яршэвічы давайце зазірнем у раённую газэту „Сцяг Ільіча“. Вельмі вясёлая была раёнка. Вось як высьмейвалі радашкавіцкія журналісты асобныя недахопы новага жыцьця. Сумна высьмейвалі.

**„Новыя радашковіцкія параўнанні.**

**Адрамантавалі, як падлогу ў лазьні.**

**Цёмна, як вечарамі на Совецкай і Камуністычнай вуліцах.**

**Цяжкі і вадзяністы, як хлеб з нашай пякарні.**

**П’янствуе, як кладаўшчык чайной Васілій Гарбаценка.**

**Халтураць, бы шафёры з райспажыўсаюза.**

**Мала, як хлопцаў на платных танцах Дома культуры.**

**Брудна, як вакол будынка райкамгаса і ў калідорах яго.**

**Знявечылі чалавека, бы на фатаграфіі, што зрабіла ў майстэрні ад арцелі „3 ліпеня“ т. Рудэрман“.**

Яршэвічы — вёска карцінная. Зьвілістая рака Яршоўка разрывае паселішча глыбокім, зарослым дрэвамі ярам. На высокім беразе ўзвышаецца царква. Такіх па Беларусі мноства. Пабудаваная ў 70-х гадах XIX стагодзьдзя паводле тыпавога праекту, за якім замацавалася назва „мураўёўка“. Царкоўна-будаўнічым камітэтам краю пасьля паўстаньня кіраваў сапраўдны стацкі саветнік, этнограф Пампей Бацюшкаў. І гэтыя шматлікія цэрквы — плён ягонага трактату „О придании благолепного вида церквям в Северо-Западном крае России“. А ў 1865-м выйшлі **„Правила, которые следует соблюдать при постройке православных церквей и причётнических сооружений в Северо-Западном крае“**. Цікава, што вось такія бацюшкаўскія цэрквы, як у Яршэвічах, мусілі стаць сымбалем адзінай веры, а сталі чыста беларускай зьяваю. Бо ў самой Расеі такіх цэркваў няма. Складзеных з валуноў і з разынкавай муроўкай. Маркава, Браслаў, Касута, Крайск, Краснае… І Яршэвічы. Задача гэтых цэркваў была ў тым, каб прывязаць край да Масковіі. Але атрымалася інакш. Бацюшкаўскія цэрквы пазначылі ня проста межы „нярускага краю“. А сталі маркерамі найбольш мяцежных і непакорных мясьцін. „Усмирить“ гэты край так і не ўдалося.



Царква ў Яршэвічах

Ніхто з сустрэтых мною мінакоў ня памятаў старой Маціеўскай. Але вось з крамы выйшаў немалады чалавек са сьлядамі цяжкага лёсу на твары і зь дзьвюма бутэлькамі пладова-ягаднай амброзіі.

— Так. Жыла такая. Але ня тут, а на хутары. У яе было з галоўкай не ў парадку. Хадзіла па дзярэўнях. Магла на двое сутак пайсьці. Магла вабшчэ далёка пайсьці. Людзі пасьля прывядуць дамоў яе. Зінаіда яе звалі. А сястра яе жыла аж у Ліхачох! Валя.

Вось так. Зінаіда і Валянціна. Гэта былі не мае Маціеўскія. Гэта былі іншыя дзеці, пакінутыя бальшавікамі без бацькоў. Няйначай, тая Зіна была зусім маленькай, калі дзіцячая псыхіка ня вытрымала шоку сіроцтва. Яе лёс, нават пазначаны пункцірам, выклікае скруху. Родная

сядзіба. Любімы краявід. Дарагія старэйшыя сёстры. Гукі музыкі ад нараджэньня. Старыя песьні. Гастролі па ўсіх навакольных вясельлях ды ўлазінах. Новы 1940 год. Зімовая ноч. Чужыя салдаты. Гвалт і сьлёзы. Апошні позірк маці. Аглушальная цішыня. І бясконцае, да самай сьмерці, блуканьне па навакольлі, якое раптам стала чужым. З чужымі людзьмі, з чужымі словамі, чужымі гукамі. І вось з такімі песьнямі, якія несьліся з чорных радыёталерак.

**Мы растём, мы поём, мы играем,**
**Мы в счастливое время живём,**
**Песней дружною мы открываем**
**Пионерский наш радостный дом.**

**Вы, трамваи, звените потише,**
**У реки, на Бульварном кольце,**
**Чтобы Сталин любимый услышал**
**Нашу песню в Кремлевском Дворце.**

Зьвярнуцца да Язэпа Рубацкага, найстарэйшага жыхара Яршэвічаў, мне падказала сацыяльная работніца. Язэпу 90 гадоў. Жыве з жонкай на самым краі вёскі, каля густога лесу. Салідны, усьмешлівы гаспадар з гучным голасам адразу ўспомніў гэтае прозьвішча. Бо Леаніла Маціеўская была ягонай аднаклясьніцай.

— Так. Маціеўскія жылі на хутары. Адна дзяўчынка хадзіла са мной у школу. Пры тых саветах. Да вайны, у трыццаць дзявятым. Леаніла. І яна хадзіла ў цэркаў. Гэтую цэркаў



Язэп Рубацкі

і закрывалі, і палілі. Калі я сем класаў аканчываў, яна ўжо ў школу не хадзіла. Я помню, што бацькі ў іх не было. Маціеўшчынкі. Але іх замуж ніхто ня браў. За што іх судзілі? За банду Мятліцкага? Мятліцкія ў Даўгулях жылі. Была такая банда. Дызерціры. Хаваліся. Але іх у Заслаўі злавілі. І невядома, дзе іх дзелі, тых Мятліцкіх. А Маціеўская была невясёлая ўвесь час. І адна, і другая хадзілі ў цэркву. Невясёлыя, набожныя. У хоры яна пела! Хор быў у царкве, і яна ўчаствавала. Некалькі жанчын і яна падпявалі бацюшку.

Пасьля размовы са старым Язэпам я зусім інакш паглядзеў на гэтую царкву. Я не запамінаю назваў храмаў і датаў, калі яны былі пабудаваныя. Але запамінаю гісторыі. Убачыўшы здалёк вежы варнянскага касьцёла, згадваю гісторыю ад Алеся Юркойця пра вышыньніка,

які ледзь не загінуў падчас усталяваньня крыжа. Я памятаю руіны сьвятыні ў Саматэвічах, дзе хрысьцілі Аркадзя Куляшова. Ніколі не забуду руіны царквы ў Кублічах, якія маляваў Васіль Быкаў. Заўжды, праяжджаючы каля Плябані, успамінаю, што муры цяпер адноўленага храма калісьці служылі для практыкаваньняў альпіністаў. Яршэвіцкая царква таксама для мяне ажыла. Тут сьпявала ў хоры сумная дзяўчынка, якая па вайне разам зь сястрой дапамагала людзям, якія не прынялі новых парадкаў.

Вярнуўшыся на сядзібу Алеся Ляся, я ўжо больш уважліва разглядаў рэчы з той, незнаёмай, эпохі. Дыхтоўныя лавы, разьбяная шафа, вытанчаная брычка, старадаўнія скрыпкі. Але найбольш уразіў раяль. „J.Becker“ 1892 году. Зграбнасьць у кожнай лініі, высакароднасьць у кожным бліку старога дрэва. Як жа гэты раяль цудоўна дапасоўваецца да такіх вобразаў, як „нашаніўская пара“, „старасьвецкія часы“. Ды і „беларускае адраджэньне“ яму да твару. Але толькі не „калхоз“. Была ў Беларусі іншая эпоха. І нагадаў мне пра яе Міхал Залескі:

— У нас не разумеюць, што такое была Маладачанская вобласьць па мэнтальнасьці. Я чалавек Belle Époque. Я местачковец, каторы мае ўсе культурныя традыцыі 1870–1914 гадоў. Тады сфармаваліся традыцыі і мэнтальнасьць людзей. Маладачаншчына трапіла ў эўрапейскую, хай і адсталую ад Заходняй Эўропы, Польшчу. Потым трапілі ў адсталую ад Польшчы Са-

вецкую Беларусь. Але ўзоры канца XIX — пачатку XX стагодзьдзя, узоры паводзінаў, узоры працы — яны гэта ўсё ўнасьледавалі. І яны гэта ўсё мелі. Я памятаю, якая ў нас стаяла цудоўная сячкарня. Аўстрыйская, фірмы „Герлях“. Які ў нас быў прыгожы посуд. Якая ў нас была выдатная жывёла. Уся племянная. Не як у калгасе. Які быў конь. І як усе плакалі, калі разьвіталіся з тым канём. Я на ўсё жыцьцё запомніў, як бабка плакала, а бацька яму цукар даваў. І стаяў побач чалавек, які купіў каня, цыган. І цыган плакаў таксама. Перажыў той конь Маладачанскую вобласьць.

Францускім словам Belle Époque назвалі час ад канца XIX стагодзьдзя да пачатку Вялікай вайны. Час навуковых адкрыцьцяў, тэхнічнага прагрэсу. Час фота, рэнтгенаўскіх промняў, кінэматографу, аўтамабілебудаваньня, паветраплаваньня, мадэрновай моды, фэмінізму ды іншых дзівосаў, якія, на жаль, ня здолелі спыніць усеагульнага вар’яцтва ў 1914-м. Але сьляды той эпохі я й сам часам бачу на абшарах колішняй Віленшчыны. То ў звычайным савецкім сэрванце мільгане вытанчаны крышталёвы кілішак, то на сьцяне вясковага дома прыцягне ўвагу фотапартрэт былой гаспадыні сядзібы ў сукенцы — хоць на парыскі бульвар апранай, то на панадворку прагляне вялізнае чыгуннае кола колішняй сячкарні, настолькі сваёй прыгажосьцю чужароднае сёньняшняму часу, быццам дэталь іншаплянэтнага карабля, які

пацярпеў крушэньне ад сутыкненьня з калгасным трактарам. Пасьля такога адкрыцьця Міхала Залескага зусім па-новаму глядзіш на заходнюю мяжу колішняй Маладачанскай вобласьці. Мяжу Belle Époque. Цудоўнай эпохі, зьнішчанай калгасам і працаднём.

Старыя рэчы, сьведкі тае эпохі, толькі ў межах Маладачанскай вобласьці сустракаліся падчас маіх падарожжаў часта. І ў кожнага такога рарытэту свая гісторыя, зьвязаная зь лёсам іхных гаспадароў.

Вось стары маятнікавы гадзіньнік у доме майго сябра Зьмітра Лупача зь вёскі Завараты.

— Гэты гадзіньнік мой дзед купіў у 1921 годзе. Гадзіньнік 1870-х гадоў выпуску. Ён каштаваў дзеду некалькі пудоў жыта. Тады расейскія грошы ўжо ператварыліся ў паперу, а польскія яшчэ не набылі моцы. І разьлікі ішлі ў пудах жыта. У яго корпус крыху пашкоджаны. Бабуля мне расказвала, што гадзіньнік хавалі ад партызанаў. Бо першае, што забіралі народныя мсьціўцы, — адзежу і гадзіньнікі. Рабавалі, каб сваім жонкам падарунак зрабіць. Пасьля вайны людзі бачылі на іншых свае сукенкі, кажухі. Таму гэты гадзіньнік хавалі ў жыце, потым у склепе. І корпус, на жаль, пацярпеў. А вось мэханізм — не. І гадзіньнік заўсёды паказваў „польскі“ час. Мне было незразумела, чаму дзед казаў „ужо дванаццатая зараз“, калі гадзіньнік паказваў дзьве гадзіны дня. І ня толькі ў нас так. Былі ў вёсцы два чалавекі, у якіх нават за



Зьміцер Лупач
з гадзіньнікам

Брэжневым гадзіньнікі ішлі на дзьве гадзіны назад. Па Варшаве. І гэта не была дэманстрацыя нейкай польскасьці. Гэта была фронда. Непрыманьне ўсяго несправядлівага, савецкага.

А ў вёсцы Жукоўшчына пад Шаркоўшчынай у былога настаўніка Язэпа Квача аўтамабіль ніколі не стаіць у гаражы. Бо ў гаражы стаіць брычка на дзьве асобы. Лёгкая, зграбная, грацыёзная, упрыгожаная каванымі дэталямі. Асабліва вылучаецца фігурная падножка. Свой экіпаж Язэп пафарбаваў у яркія колеры.

— У нас гэта называлася лінейка. Транспартны сродак для выездаў. Адпаведная і вы-



Язэп Квач



Лінейка

праж мусіла быць. Тут натуральныя драўляныя колы! Кавальская праца. Калі карова каштавала шэсьцьдзесят злотых, дык гэтая лінейка — злотых дзьвесьце. Яны рабіліся і набываліся толькі




Ян Рыдзіка

за польскім часам. Пры калхозах іх разабралі старшыні, брыгадзіры. Іх ужо толькі дабівалі. Гэта ж быў атрыбут сацыяльнага статусу, шляхетнасьці. Як цяпер дарагі аўтамабіль.

У Барадзенічах пад Браславам у мастака Яна Рыдзікі я нават адразу не здагадаўся, што гэта перада мною. Кубічнай формы чорная скрыначка зь дзірачкай пасярэдзіне. Няўжо фотаапарат? Аказалася, сапраўды, амэрыканскі фотаапарат „Кодак“. Набыты сто гадоў назад Антоніем Рыдзікам, бацькам майго суразмоўцы:

— Ён фатаграфаваў з 1920-х гадоў. На здымках — тагачаснае жыцьцё. Адна мая менская




Фотаапарат „Кодак“

знаёмая кажа: „Нам пудрылі мазгі, як вы тут, пад панамі, стагналі. А тут усе апранутыя па тагачаснай модзе, у капелюшах“. А гэта ж усё сяляне. У гальштуках і капелюшах. Калі сьвята — значыць, сьвята. А гэта ваш пакорны слуга. Мне тут тры гады.

Наша жыцьцё дзякуючы смартфонам даўно ператварылася ў суцэльную фатасэсію. У чараду бясконцых стрымаў і сэлфі. Таму назіраць за фаталетапісам Барадзенічаў стогадовай даўнасьці, зьнятым на шырокую стужку — сапраўднае дзіва. Вось маленькі хлопчык у дзіцячым вазку. Вось вясёлыя жняяркі на полі. Вось зухаватыя мужыкі чысьцяць дарогу ад сьнегу. Вось сьвяточная працэсія ідзе да касьцёла. І паспрабуй адрозьніць селяніна ад месьціча. Пра якія мазалі ды лапці пісалі клясыкі?



— Мы мелі мала зямлі. Але бацька працаваў у будаўнічай фірме. Яны будавалі дамы ў Горадні, у Вялейцы, па ўсёй Заходняй Беларусі. А зімой сталярствам займаўся. Але найбольшы даход прыносілі маляванкі. Аднаму зрабіў, другому. І так пайшла слава пра яго. У мяне недзе захоўваецца запісная кніжка. Там сотні заказаў на ягоныя дыванкі. З навакольных вёсак. Ажно з-пад Глыбокага прыходзілі. Звычайна маляванкі рабіліся так: кветкі па краях і пасярэдзіне альбо лебедзі, альбо красотка ў лодцы. А ён пэйзажы маляваў.

А яшчэ Belle Époque была наскрозь пранізаная музыкай. Гаворыць Ян Рыдзіка:

— Касьцёл выконваў ролю рассадніка музычнай культуры. Былі выбітныя сьвятары, як ксёндз Шутовіч, але гэта выключэньні. Звычайна сьвятар займаўся сваёй справаю і больш нічым. Але ў кожным касьцёле быў арган.



На Кальварыі. Здымак Антонія Рыдзікі

У кожным касьцёле быў арганіст. У кожным касьцёле арганізоўваўся хор. У нашай мясцовасьці ад касьцёла да касьцёла — 10-12 кілямэтраў. Сетка густая. І вось уявіце, у кожным гэтым пункце — музычны кіраўнік. Яны вучыліся адзін у аднаго. Мой стрыечны брат Ян быў арганістам. У яго хоры сьпявалі на чатыры галасы, а не ва ўнісон. Калі былі вялікія сьвяты, у адзін з касьцёлаў зьяжджаліся арганісты і паказвалі, хто на што здольны.

Я праглядаў нотныя зборнікі, якія засталіся ад арганіста Яна. Літоўская народная музыка, „Плачет рояль“ — музыка Оскара Строка, песьні Станіслава Манюшкі, нактурн Джона Фэльда, музыка Ёгана Штраўса. Гэта ўсё гучала




ў Барадзенічах. Засталіся і старыя кнігі. Забыты ў Польшчы пісьменьнік Ян Лям, „Гісторыя беларускай літаратуры“ Максіма Гарэцкага, выдадзеная ў Вільні, польскія часопісы. На вокладцы аднаго зь іх польская жанчына ў народным касьцюме каля вайсковага самалёта. Сяляне сабралі грошы, на якія пабудавалі гэты лятак. На вокладцы — чэрвень 1939 году.

— Была густая сетка невялікіх шляхецкіх маёнткаў. Там былі бібліятэкі. І калі прыйшлі бальшавікі, гаспадароў выправілі ў Сібір. Людзі паступова тыя маёнткі расьцягвалі, у тым ліку і кнігі. Пасьля амаль у кожным доме былі дзясяткі кніг. Вось кніга Гарэцкага з аўтографам паэта Мар’яна Пецюкевіча…



Рыдзікі, бацька і сын

Сёньня Барадзенічы і навакольныя вёскі выміраюць пасьля савецкага зьдзічэньня. Нічыйная зямля зарастае пустазельлем. І старыя фатаздымкі, і венскія ноты, і віленскія кнігі выглядаюць, як прадметы, выкінутыя на бераг пасьля караблекрушэньня.

Былы выкладчык аўтамабільнай справы Франц Хоміч зь мястэчка Дунілавічы зьбірае свой музэй. Ён паказаў мне экспанат, які мае самую непасрэдную сувязь з Belle Epoque. Дакладней, з адным зь яе магільшчыкаў.

Мы прайшлі з гаспадаром углыб двара, дзе за хатай схаваўся летні дамок. Дзьве газьніцы пад стольлю стваралі поўную атмасфэру пачатку XX стагодзьдзя. У няяркім сьвятле паблісквалі



Франц Хоміч

старыя самавары, нейкія інструмэнты, старая мэбля.

— Вось гэтая драўляная канапа. У Першую ўсясьветную вайну праз Паставы прыходзіла лінія фронту. Вайна была пазыцыйнай, і фронт стаяў два з паловай гады. А Дунілавічы былі прыфрантавой тэрыторыяй. Галоўным гаспадаром у Дунілавічах быў граф Юзаф Тышкевіч. І ў ягоным палацы знаходзіўся штаб 1-й Сібірскай стралковай дывізіі. Увесну шаснаццатага году рыхтавалася Нарачанская наступальная апэрацыя расейскіх войскаў. І 7 лютага ў Дунілавічы прыехаў цар Мікалай ІІ. Для агляду войскаў перад пачаткам гэтай апэрацыі. Прыехаў ён на станцыю Сяславіна, а потым на аўтамабілях па зімовых замеценых дарогах дабраліся сюды. Недалёка ад Дунілавічаў быў зроблены пляц. Маршам праходзілі войскі.




Царская канапа

А потым у гэтым штабе ён праводзіў нараду з афіцэрамі. Потым абедаў. Нават мэню гэтага абеду вядомае. На першае былі „шчы“, на другое катлета рубленая з кашай. А потым была кава з марозівам. Гэта я ў ягоных дзёньніках знайшоў.

Той запіс за 7 лютага 1916 году Мікалай скончыў фразай: „Вечером играл в домино“. Які агляд, якая нарачанская апэрацыя? Якая вайна? Дайце пагуляць у даміно! Але тое, што я пачуў ад спадара Франца далей, мяне зусім агаломшыла.

— Справа ў тым, што вось гэтая канапа, на якой мы зараз сядзім, яна стаяла ў палацы Тышкевічаў. Калі ў трыццаць дзявятым прыйшлі Саветы, мясцовы люд пачаў рабаваць гэты палац. І аднаму чалавеку дасталіся дзьве такія канапы. Да нашага часу захавалася адна зь іх, і ён мне яе падараваў. Магчыма, на гэтай канапе некалі сядзеў апошні расейскі імпэратар.



Аляксандар Часнакоў зь сям’ёй

Седзячы на царскай канапе, мне было пра што падумаць. Пра сваё.

У 1916 годзе загінуў мой прадзед, сормаўскі рабочы Аляксандар Часнакоў. Магчыма, загінуў у Беларусі. Мо нават у той Нарачанскай апэрацыі. Дзякуючы сямейнаму фатаздымку я ведаю, як ён выглядаў: прыгажун-прадзед ужо ў салдацкай форме, у фуражцы, перад адпраўкай на фронт зухавата пазіруе зь сям’ёй. На руках маладой жонкі, маёй прабабкі Анны, зусім маленькая, гадавалая бабуля Зоя, побач стаяць тры задуменная вісусы ў аднолькавых касьцюмчыках, браты бабулі. На Аньне прыгожая ядвабная сукенка з карункамі і рушамі. І гэта сям’я сормаўскага рабочага. Апрані галаву ся’мі ў афіцэрскі мундзір — і не адгадаеш сацыяльнага статусу ніжагародзкага сямейства. Прадзед, яшчэ трыццаці гадоў няма, даволі

сьмешна спрабуе надаць свайму твару з маладымі, мяккімі вусамі ваяўнічы выраз. Часам, зірнуўшы на гэты фотапартрэт, мне бывае балюча. Не за прадзеда. Я ж яго ня ведаў і ведаць ня мог. А вось маленькую бабулю памятаю цудоўна. Яна называла мяне „Димтя“, бо не магла вымавіць „Дима“. У яе быў парушаны моўны апарат. Малая на здымку зь цікаўным позіркам у аб’ектыў яшчэ ня ведае, што бацьку свайго больш ня ўбачыць ніколі. Што маці ня зможа адна пільнаваць усю дзятву. І што праз нейкі месяц, пакінутая адна на печцы, пакуль тры брацікі будуць дурэць у суседнім пакоі, яна ўпадзе з той печкі і паляціць галавой уніз у пограб. І скончыцца ўсё амаль поўнай стратай слыху і доўгім аднаўленьнем маўленьня. І ўсяго гэтага магло ня быць, калі б адзін расейскі грамадзянін, які лічыў сябе „хозяином земли русской“, ня здраджваў сабе, працягваў займацца ўлюбёнай справай — гуляць у даміно.

Як уявіць сабе працяг Цудоўнай Эпохі? Эпохі, калі тэхнічны прагрэс быў бы запушчаны дзеля прагрэсу, а не для забойстваў. Не было б газавых атак? Кулямётнага кінжальнага агню? І перамогі бальшавікоў не было бы? І паразы Нямеччыны з нараджэньнем нацыянал-сацыялізму? І засталіся б стаяць архітэктурныя ансамблі старых гарадоў? І Няміга ў Менску, і „Собачья“ пляцоўка ў Маскве, і цэнтры Ўроцлава і Бэрліна? І ўсе засталіся б жывыя? І мой прадзед? І няшчасны Мікалай? І ўсе, хто мусіў

загінуць падчас Вялікага тэрору і Галакосту? І жылі б мы зараз у працягу той цудоўнай эпохі ў цудоўнай Расейскай імпэрыі, якая б межавала зь Нямеччынай і Асманамі? Не жылі б. Бо нас бы не было. Мяне дык дакладна. Бо толькі бальшавікі і зрабілі магчымым той будучы мэзальянс, калі дачка сормаўскага рабочага выйшла замуж за сына былога купца І гільдыі, мільёншчыка. Каб пасьля іхная дачка пабралася з сынам адэскага адваката. Але ня толькі б нас не было. Эпохі той цудоўнай не было б таксама. Бо цудоўнай яна ўсё ж стала, калі, страціўшы галаву, заплакалі па валасах. Belle Époque, трапляючыся на вочы сваімі матэрыяльнымі вабнотамі, назаўжды будзе абуджаць настальгію па часах, нам не вядомых. Часах, дзе не было начных арыштаў і шыбеніц на вуліцах. І тым падобных да нейкага эдэму. І сумаваць па той эпосе, і ўсхваляць яе, і ганіць будуць толькі тыя, хто выжыў. Бо мёртвым, як вядома, не баліць.

## „Ён яшчэ будзе страляць“

*Міхалова, Валожынскі раён*

Лета 1993 году. Я еду па аўтамагістралі Вільня — Клайпеда. Мой віленскі прыяцель вязе мяне, паважанага беларускага госьця, на сваім „Фордзе“ да сваіх жэмайційскіх сяброў. Прыяцеля завуць Альфансас. Якой мадэлі і якога году „Форд“, ня важна. Ён раскошны ўжо таму, што „Форд“! Асаблівае трымценьне ў мяне выклікаюць лякаваныя драўляныя ўстаўкі на пярэдняй панэлі. За Коўнам Альфансас паведамляе, што трэба заехаць на хутар да старога бацькі. „А як завецца бацька?“ — „Адальфас“. Значыцца, я еду „на машыне маркі форда“, як сьпявалася ў „адэскай“ песьні майго дзяцінства, па эўрапейскай аўтастрадзе з Альфонсам Адольфавічам? На сапраўдны літоўскі хутар? Ды гэта проста цуд! Мара юнага антысаветчыка! Чым я тут жа падзяліўся з Альфансасам. Не забыўшы выказаць сваё захапленьне як літоўскімі „ляснымі братамі“, так і літоўскім хутарам як апорай нацыянальнай барацьбы. „Ты толькі гэта, — папярэдзіў Альфансас, — бацьку не кажы пра цудоўных лясных братоў“. Я зьбянтэжыўся. Як так? „Ды вось так. Ягонага бацьку, майго дзеда, забілі. Яны і забілі. Нешта з гаспадаркі ім аддаваць не хацеў. Адным словам, гэтую гераічную тэму, калі ласка, не ча-

пай“. Хутар быў, дарэчы, як зь фільма Вітаўтаса Жалакявічуса „Ніхто не хацеў паміраць“. Пачарнелыя драўляныя сьцены. Грубая сялянская мэбля. І сярод гэтай аўтэнтыкі барадаты гаспадар у простай кашулі, які амаль не разумеў па-расейску.

А ўспомніў я гэтую паездку, калі менскі праграміст стрэліў у байца КГБ. Вось толькі невядома, ці ён забіў. Але для будучых унукаў забітага, відаць, тэма жніўня 2020-га таксама будзе табу. У маёй неадукаванай галаве няма радкоў Гётэ і Шэксьпіра, але як па-новаму гучыць Уладзімір Высоцкі! „Мой Гамлет“. Для лірычнага героя якога „быць“ азначала „здолець забіць“.

„А мой пад’ём прад сконам ёсьць правал.
Афэлія! Ты мне раскрыла крылы!
Ды я сябе забойствамі зраўняў
З усімі, з кім я лёг на дно магілы“.

Між тым Літва прысутнічала і на старонках „Сялянскай газеты“. Вядома, ня ў выглядзе хронікі „барацьбы з бандытызмам“. У 1951 годзе ў СССР адбываліся выбары ў Вярхоўныя Саветы рэспублік.

**„Радасць літоўскага народа**

**Святочна расквечаны алымі сцягамі вуліцы лікуючай сталіцы Савецкай Літвы. На фасадах будынкаў — вялікія партрэты ўсенароднага кандыдата ў дэпутаты Іосіфа**

**Вісарыёнавіча Сталіна. Тысячы людзей ідуць на выбарчыя ўчасткі.**

**Асабліва ажыўлена ў Сталінскай выбарчай акрузе горада Вільнюса, дзе ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Літоўскай ССР балатыруецца таварыш Сталін І.В.**

**...Вуліца Круопу. У 6 гадзін раніцы раскрыліся дзверы памяшкання 18 выбарчага ўчастка. Старшыня ўчастковай выбарчай камісіі Ю.Пеполіс віншуе выбаршчыкаў з наступіўшым святам. Ва ўрачыстай абстаноўцы пачынаецца галасаванне.**

**Адной з першых тут апусціла бюлетэнь стаханаўка табачнай фабрыкі імя Дзяржынскага Зофія Сукайкайце. Яшчэ не так даўно яна пераступіла парог прадпрыемства, а цяпер ужо сваімі працоўнымі поспехамі праславілася на ўсю Літву. Энергічная дзяўчына — ініцыятар работы па гадзіннікаваму графіку на прадпрыемствах рэспублікі.**

**Усё ажыўленей становіцца на выбарчым участку. З песнямі прышлі сюды студэнты Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта. Многія з іх — у яркіх нацыянальных касцюмах.**

**Галасуюць тэхнік завода „Камунарас“ І. Шатас, артыстка Дзяржаўнага драматычнага тэатра Літоўскай ССР Ю. Барташуце, кампазітар лаурэат Сталінскай прэміі І. Шведас, настаўніца С. Багдановічуце“.**

Але асноўныя матэрыялы — вядома, пра электаральную, прабачце, кампанію ў БССР. Як мала я, аказваецца, ведаў пра савецкія рэаліі.

Вось сьпіс дэпутатаў ад горада Мінска. Па Молатаўскай акрузе беларускай сталіцы балятуецца Молатаў Вячаслаў Міхайлавіч. Па Калінінскай акрузе таварыш Варашылаў Клімент Яфрэмавіч. Дзяржынскую акругу ашчасьлівіў Бэрыя Лаўрэнці Паўлавіч. І, зразумела, па Сталінскай акрузе балятуецца сам таварыш Сталін Ёсіф Вісарыёнавіч. Тое, што таварыш Сталін ні разу не завітаў на сэсію Вярхоўнага Савету БССР, гэта вядома. А ці наведаў хоць раз сваю Дзяржынскую акругу таварыш Бэрыя? Зрэшты, калі і не наведваў, наўрад ці менчукі засмучаліся.

А зьдзівіла іншае. Аказваецца, ніводзін Вярхоўны Савет саюзнай рэспублікі не абыходзіўся без дэпутата Сталіна. А яшчэ над БССР у тым самым 1951 годзе залунаў чырвона-зялёны сьцяг. Але чытаем „Сялянскую газету“ далей:

**Я галасую першы раз**
**І не магу не хваляваццa.**
**Ды хто-ж не хваляваўся з вас,**
**Каму мінула восемнаццаць?**

**Вось наступае гэты дзень,**
**Святочны, радасны, ў краіне.**
**Бяру я ў рукі бюлетэнь,**
**Заходжу з гордасцю ў кабіну.**

**І там так ціха. Я адзін.
Ды толькі сэрца б’ецца часта...
Савецкі я грамадзянін
Свой голас аддаю за шчасце!**

**І каб квітнелі з года ў год
Багаццем сонечныя далі,
Я галасую за народ
За Вас, любімы Сталін!**

А вось пра што не пісала „Сялянская газета“. 24 студзеня 1951 году Маладачанскі абласны суд абвясьціў вырак Эміліі Лагуновіч, 1922 году нараджэньня, зь сялян-беднякоў, польцы, замужняй, несудзімай. Пазбаўленьне волі тэрмінам на адзін год.

**„Логунович Эмилия, проживая домработницей у Ковалевского в дер. Михаилово Радошковического района, зимой и летом 1949 года неоднократно встречалась с участниками антисоветской террористической банды Метлицкого, которые приходили в дом к своему бандпособнику Ковалевскому“.**

Што гэта за Міхаілава? У былым Радашковіцкім раёне ёсьць толькі Міхалова. Але тое Міхалова (ня блытаць зь менскай станцыяй мэтро, таксама колішняй вёскай) даўно стала прысталічным дачна-катэджным пасёлкам, таму сумневы ўзмацняліся. Ці памятае хто тую Эмілію? Ці ведае хто дом Кавалеўскага? Вось з такім смутным настроем я паехаў у Міхалова.

А цяпер уявіце маё зьдзіўленьне, калі, паезьдзіўшы па навакольлі, у вёсцы Міжрэчча дзьве старажылкі паглядзелі на мяне, як на дурня. Маўляў, як гэта вы ня ведаеце, дзе жыве Стась Кавалеўскі? Я пажартаваў — маўляў, мне вельмі сорамна, што дажыў да сівой барады, а дзе мае гонар жыць пан Стась Кавалеўскі, да гэтае пары не дазнаўся. Але мой сарказм быў недарэчны. Бо пан Кавалеўскі мяне якраз ведаў.

Дом Кавалеўскіх не ў самім Міхалове. Гэта хутар за вёскай, на высокім пагорку. Каля дыхтоўнага дома ў двары стаяў і трактар, і легкавік. На зялёнай лужку перад домам дагаралі ў мангале дровы ў чаканьні сырога мяса. А з хаты даносіліся родныя гукі Радыё Свабода. Як у старыя добрыя часы. Ішла трансьляцыя праз спадарожнік. На двор выйшаў гаспадар. Высокі, падцягнуты немалады мужчына ў акулярах. І з вусамі. Вусы — гэта выдатны індыкатар высакародзтва. Бываюць такія твары, што ніякімі вусамі не ўпрыгожыш. А ёсьць твары, якія немагчыма ўявіць бяз вусаў, настолькі яны пасуюць. Напрыклад, твар славутага рэдактара газэты „Наша ніва“ Аляксандра Ўласава. Вось і афіцэрскі твар Стася Кавалеўскага вусы ўпрыгожвалі.

— Тут жыла нейкая Эмілія Лагуновіч, якая працавала домработніцай у нейкага Кавалеўскага.



Станіслаў Кавалеўскі

— Ня нейкага, а ў майго дзеда. Ён яе выдаваў за сястру. Бацька многа знаў. Ён любіў расказаць, толькі я мала запомніў.

— Яна была арыштаваная за сувязь з бандай.

— Зь якой бандай? Мятліцкіх? Ну якая ж „банда“? Для бальшавікоў гэта „банда“, а для кагосьці гэта яшчэ нехта. Бацька не гаварыў, што яна была арыштаваная. Мой бацька сам быў арыштаваны. За белага жарабца.

Як вам заўвага майго суразмоўцы наконт бандыта Мятліцкага? Я ўжо не кажу пра тое, што Станіслаў Кавалеўскі сам сын палітвязьня, Францішка Кавалеўскага, чалавека неверагоднага лёсу. Вось табе і сумны прыгарад, вось табе і звычайны працаўнік малаказавода. Гэта ж колькі гісторый хаваецца ў тых забытых тэчках?

— У бацькі быў жарабец белы. І нейкім чынам ён аказаўся ў Мятліцкіх у лесе. Але

бацька не данёс. А не данёс — значыцца, саўдзельнік. Нехта ўбачыў каня. Чый конь? Кавалеўскага конь. Ну ідзі сюды і едзь у Сібір. Ён у Кемераўскай вобласьці быў. Вярнуўся нават не ў пяцьдзясят шостым, а пазьней — даседжваў давесак за пабег. Паўгода блукалі па тайзе. Сем чалавек іх было. Сьмешна гучыць, але ішлі ў Амэрыку.

У мяне, відаць, ніколі не атрымаецца глядзець на навакольны краявід вачыма тутэйшага жыхара. Я гляджу на блізкі лес і стужку дарогі, як на прыгожую карцінку. Але гэтая карцінка — колішняя ўласнасьць. Твайго абрабаванага савецкай уладай дзеда, твайго сасланага бацькі. Ці можна на гэта ўсё глядзець спакойна? Бяз болю? Ці з надзеяй?

— У дзеда быў вось гэты абшар увесь, дзе мы стаім. Як бальшавікі сюды ўвосень трыццаць дзявятага прывезьлі сваё шчасьце, дык дзед сходу — казалі нават, што зьдзяцінеў, — аддаў усё, што меў, усю сваю гаспадарку аддаў у калхоз. Бацька чуць адцерабіўся — прадсядацелем сунулі. А дзед стаў пралетарыем. Ну ясна чаго — каб ня ехаць у Сібір.

Мы селі са Станіславам у цені грушы і чыталі старыя дакумэнты. Такім чынам, куды пасьля лягеру падзелася сваячка Кавалеўскіх Эмілія Лагуновіч, спадар Станіслаў, вядома, знаць ня мог.

— Майго дзеда вазілі ў Вялейку. Гэта было пасьля вайны. Бацька ўжо сядзеў. Не было яго

тут. Гэта мне казала Гэлька, пляменьніца бацькі. Дзед, казала, ужо выжыў з розуму. У вазку яго вазіў у Вялейку чырвонаармеец. Дзеду рабілі нейкі допыт. Што там пыталіся, невядома. Ужо думалі, што дзед назад не прыедзе. Але чырвонаармеец прывёз яго назад у гэтым жа вазку. Сюды, у Міхалова. Значыць, нешта яны пыталіся. Але што? Невядома. Ён, хоць быў зьдзіцянеўшы, пэўна, знаў, што можна казаць, а што нельга.

Са Станіславам Кавалеўскім мы паехалі ў Міжрэчча, да Мечыслава Більмана. Са Зьдзіславай Більман я ўжо гаварыў у Папках. Якое, аказваецца, ня рэдкае беларускае прозьвішча!

Мечыслаў жыве каля самага малочнага завода. У гэтага завода свая гісторыя. Пабудаваны ён яшчэ за польскім часам чалавекам з прозьвішчам Маслоўскі. Старажылы гавораць, што ён мянчук, які зьбег на Захад, пакуль савецка-польская мяжа была яшчэ досыць дзіраваю. Не хацеў, як і літаратурны герой Астап Бэндэр, будаваць сацыялізм. Знайшоў у Ракаве ня вельмі прыгожую, але вельмі багатую нявесту, выгадна ажаніўся і на жончын капітал распачаў сваю маслоўскую справу. Пабудаваў у Міжрэччы малочны завод. Вольны ад працы час праводзіў у бяседах і пагулянках. Памёр перад самым прыходам Саветаў у Вільні. І як памёр! У „доме цярпімасьці“, абкружаны прадажнаю ласкаю любімых вакханак.



Мечыслаў Більман

Ягоны малочны завод сваю працу не спыняў нават за часамі гітлераўскай акупацыі. Закрыўся ён пару гадоў таму. Стары Більман мае сумнеўнае задавальненьне назіраць за тым, як прыходзіць у заняпад старая малачарня. Семдзесят гадоў таму, калі Мечыславу было шэсьць гадоў, ён на свае вочы бачыў атрад Сьцяпана Мятліцкага.

— Так. „Чысьцілі“ гэты заводзік. Прыехалі сярод белага дня, между прочым. Гэта я помню. У пяцідзясятым, здаецца, годзе. Мне з вакна было відаць. У нас усё з хаты прасматрывалася. Казалі — Мятліцкі! Помню — у чорным паўшубачку, зь нямецкім „шмайсэрам“ на грудзях, на вуглу завода. Казалі потым, ехалі бабы з млына. Коней ім завярнулі. Сюды на завод. Муку выгрузілі. Затарыліся сырам, маслам. На гэтых конях і павезьлі. Сярод белага дня. А ў нас на

кватэры жыла такая Маркелава, расіянка. Казала: „Чего доброго, убьют и пальто снимут!“ Паліто было цэннасьць! Купіла і павесіла над кравацьцю. Надзела сваё паліто, залезла ў сарай і ў салому зарылася… Як да яго ставіліся? Неяк бацька твой прыходзіць да нас. Каталікі ж былі. Памаліцца трэба ў нядзелю. Маёй матцы кажа: „Ганна, такія хлопцы ў лесе ёсьць! Уй, такія хлопцы!“ Нейкая перамена, кажа, будзе. Ну і ўсё. Дзе і дзеўся? Укінулі чацьвяртак.

Памятаю, зь якім неразуменьнем я слухаў аповеды Цімоха Вострыкава, байца БНР, скінутага амэрыканцамі ў Налібацкай пушчы ў 1952 годзе. Скачок з вольнай Эўропы ў сталінскі СССР здаваўся поўным вар'яцтвам. Але сёньня, крыху ведаючы пра маштаб узброенага партызанскага супраціву, гэтыя дэсанты ўжо не здаюцца вар'яцтвам.

— Сталінскі Савецкі Саюз! Непераможная Чырвоная Армія! І людзі спадзяюцца на нейкіх...

— Хлопцаў у лесе? Ну дык, слухай, яны доўга тут сядзелі. У Багачоўскім лесе. Вырылі норы. Сьлядоў стараліся зімой не рабіць. Мясцовыя зналі. Яны ж там не чапалі нікога. Хлопцы вылазілі часам. Магазіны правяралі. У Дубашах нейкага Рачніцкага, прадсядацеля сельсавета, павесілі.

А яшчэ хлопцам у лесе нейкую надзею давалі заходнія радыёгаласы, якія слухалі па хутарах на велізарных лямпавых прыёмніках.

— Бацька мой у пяцьдзясят утарым гаду выпісаў радзіва „Родзіна“. „Пасылторгам“ прыслалі з Масквы. Адны батарэі — як удваіх падняць! А хочацца ж паслухаць, дзе што кажуць. „Голас Амэрыкі“, „Нямецкая вална“. Помню, што слухалі, а там нічога не пачуеш. Адзін гул...

Спыню на хвіліну расповед спадара Більмана, каб даць слова іншаму сьведку тых часоў, этнографу Сымону Барысу, ураджэнцу вёскі Касічы на Вялейшчыне. 84-гадовы спадар Сымон, паслухаўшы пра мае падарожжы па колішняй Віленшчыне, сам выйшаў на мяне. І ягоныя сьведчаньні ня проста цікавыя — гэта замалёўкі жыцьця, убачаныя і запомненыя зусім маладым чалавекам. Да таго ж юным камсамольцам і сталінцам.

— У 1954 годзе наш участковы прадаў мне кіцель. Міліцэйскі кіцель. І я яго надзеў і ў Папоўцах праводзіў дзяўчыну. Падыходзяць два хлопцы, дзецюкі, а я ж яшчэ школьнік, мне шаснаццаць. Падыходзяць, падвыпіўшыя, і сталі чапляцца. За тое, што я ў міліцэйскім кіцелі. Значыць, я сын ці сваяк міліцыянта. Ну пастрашылі мяне, селі на ровары і паехалі. Праходзіць пэўны час. Я прыяжджаю ў Ралічы, гэта каля Чурлёнаў, да дзядзькі. Іду на танцы, на вячоркі, і сустракаю там аднаго з тых дзецюкоў, што мяне страшылі. А я ж ужо ня ў кіцелі, а ў пінжаку. „Ах ты, — думаю, — бандзюга!“ Я свайму дзядзьку кажу: „Ідзі паглядзі, хто

гэта. Ён хацеў мяне пабіць за кіцель“. Дзядзька пайшоў, пагаварыў. Хлопец той быў з суседняй вёскі. І дзядзька мне кажа: „Ай, ня зьвязвайся. Пастрашылі цябе хлопцы крыху. Супакойся“. А я мог на яго заявіць. Я быў камсамолец! А тады сталінскія камсамольцы былі о-го-го! Каб дзядзька мяне не папрасіў, я б мог яго залажыць. Калі б я залажыў, і гэта пацьвердзіла дзяўчына, Сібір яму быў бы гарантаваны. Сто працэнтаў Сібір быў б. За пагрозу з-за міліцэйскага кіцеля. Не заклаў. Але падумаў, што сапраўды, нехран мне гэты кіцель адзяваць. А то сюды не прыехаць будзе.

А вось і адказ на пытаньне, ці былі нашы лясныя браты вар'ятамі, якія прагнулі перамагчы сталінскую армію?

— Мой дзядзька меў такое самае імя, як і я. Таксама Сымон Барыс. І ведаеце, што ён мне ўвесь час гаварыў? У Заходняй Беларусі чакалі высадкі амэрыканскага дэсанту. І, калі б Амэрыка ўмяшалася, я чэсна скажу, уся б Заходняя Беларусь, Літва, Заходняя Ўкраіна палыхнулі б. Сорак дзявяты год. Тады, як калхозы рабілі. Што такое забраць зямлю? Ты ўяўляеш? Палыхнула б усё! І ўсе чакалі! І я нават не сумняваюся, што мой дзядзька, Сымон Барыс, у нейкай ступені недзе ўдзельнічаў. Як і тыя, хто на хутарах жылі. У тыя гады забівалі міліцыянэраў, савецкіх служачых. Памятаю, калі бацька быў на фронце, гэта сорак пяты год, хадзіў па хутарах работнік МГБ і вынюхваў

усё. Да баб прыставаў і гэтак далей. Іваноў, так прадстаўляўся. Забілі яго — і перастаў хадзіць. А яшчэ быў выпадак з Ганнай Новік, паэткай вялейскай. Яна працавала намесьніцай начальніка палітаддзела ў МТС. Камуністка была! І аднойчы сустракаюць яе ў лесе „зялёныя“. Знайшлі партыйны білет. Вырашылі яе не забіваць, а ўзялі партбілет і парэзалі на кавалкі. А там, маўляў, свае накажуць. І тут у райкаме партыі пачалося! Што рабіць? „Чаму цябе адпусьцілі?“ Толькі білет парэзалі. І думалі-думалі, што зь ёй рабіць. Вырашылі білет замяніць, і ўсё. Але напалохалі яе здорава. „Зялёных“ тады ў лесе было многа. І дурнямі яны не былі. Разьлічваць справіцца з такой махінай, як Савецкая Армія! Яны ня дурні. На што яны разьлічвалі? На заходнюю дапамогу разьлічвалі. І вось я прыяжджаю ў канцы шасьцідзясятых гадоў на радзіму. Заходжу да свайго дзядзькі Сымона. Тады ўжо Брэжнеў быў, сталі трошкі плаціць, жыцьцё крыху палепшала. І дзядзька кажа: „Усё! Амэрыка ўпусьціла шанец. Не хацела ў сорак дзявятым годзе ўмяшацца, а цяпер і Амэрыку апракінуць“.

Пра кампазытара Ўладзімера Алоўнікава, аўтара „Лясной песьні“, існуе такая показка. Неяк да творцы пасьля канцэрту падышлі ўдзячныя слухачы. І, выказаўшы захапленьне „Лясной песьняй“, сказалі, што сьпявалі яе ня раз у партызанскім лесе, у сваёй баявой маладосьці. На што кампазытар выказаў зьдзіў-

леньне: „Гэтага ня можа быць! Бо «Лясная песьня» напісаная ў 1950 годзе“. Але, чым болей я слухаю расповеды сьведак, тым болей пераконваюся, што „лясную песьню“ маглі сьпяваць у беларускіх лясах і ў 1950-х.

> Адышлі тыя годы, адгрымелі паходы,
> Толькі пушча за полем шуміць.
> Ой, бярозы да сосны, партызанскія сёстры,
> Вас ніколі ў жыцьці не забыць.

Сёньня, езьдзячы па навакольлі Ракава, цяжка зразумець, у якіх лясах хаваліся партызаны. Бо амаль няма ніякіх лясоў — адны пералескі ўздоўж Іслачы. Між тым у саракавыя гады тут паўсюль была Налібацкая пушча. І колькі яшчэ блокбастэраў можна будзе стварыць у будучыні толькі паводле аповедаў тутэйшых людзей!.. Працягвае спадар Більман:

— Тут і пачыналася Налібацкая пушча. Пасьля вайны лесавозы цягалі і цягалі бясконца гэтыя лясы. Лес вазілі на Мінск. Вырубілі тут гэтую пушчу. Мінск вастанаўлівалі… А як іх бралі, цэлы бой быў. Чуваць было стральбу, очарадзі, разрывы гранат. Я помню гэта. А самога Мятліцкага, казалі, узялі ў Заслаўі. Нейкая баба ў сталовай апазнала яго. Тут жа ў органы саабшчыла. І яго тут жа ў сталовай і павязалі. Так я чуў. І доўга яны яшчэ хадзілі, усё пранюхвалі. Помню, мой брат на акардэоне зайграў. А яны з дарогі пачулі. Зайшлі. „Што тут у вас



Падмуркі капліцы на могілках

такое?“ С краснымі аколышамі фуражкі, аўтаматы ППШ, круглыя дыскі вісяць запасныя на рамнях. „Што тут у вас за зборышча?“ — „Ды нічога. Проста сабраліся“. Паглядзелі і пайшлі. Хадзілі і начамі, усё правяралі.

Аказваецца, на могілках вёскі Кіявец стаяла капліца, якую калгас разабраў на дошкі. А ў той капліцы падчас разбору быў знойдзены кулямёт. Апошняе прывітаньне ад Сьцяпана Мятліцкага.

— Знайшлі пад палом кулямёт. У пяцьдзясят трэцім. І яшчэ, казалі, запіска была пры ім. „Ён яшчэ будзе страляць“. Пад палом, вядома, там суха. Таму доўга праляжала, сахранілася.

Мы паехалі са Станіславам на тыя могілкі. Вельмі ўтульныя, прыхаваныя ад дарогі на Івянец старымі хвоямі. А вось і мураваны пад-

мурак колішняй капліцы, дзе калісьці знайшлі змазаны кулямёт і пры ім запіску.

— Ну вось тут стаяла капліца. Калі б тут чалавек з кулямётам засеў, то ён дорага бы сябе прадаў. Так гаварылі.

Той кулямёт так і ня стрэліў. Наступны стрэл прагучаў толькі праз семдзесят гадоў. Але ці можаце вы ўявіць сёньняшняга гэбіста ў вясёлай гутарцы з чалавекам, які мог яго забіць? А тады такое было. Былыя франтавікі маглі сабе дазволіць рыцарскае высакародзтва. Вось якую гісторыю расказаў мне Сымон Барыс:

— У сорак дзявятым годзе я зламаў нагу. Лячыўся ў вялейскай бальніцы. У палаце ляжалі: я, школьнік чацьвёртага класа, на суседнім ложку ляжыць мужык з адарванай нагой (глушыў рыбу ў рацэ), тут мужык са страўнікам ляжыць, там ляжыць савецкі афіцэр з прастрэленымі нагамі, каля дзьвярэй ляжыць хлопец маўклівы, гадоў сямнаццаці, таксама паранены, а каля яго сяржант з аўтаматам, які яго ахоўваў. Помню, я баяўся гэтага сяржанта, які ляжаў з аўтаматам, калі аўтамат быў настаўлены руляй на мяне. Бо любы аўтамат можа рана ці позна стрэліць. Калі пераварочваўся, мне спакойна было, а як на мяне дула, дык страшна станавілася. Афіцэр і хлопец — удзельнікі адной перастрэлкі каля Ільлі. Пра сябе і таго дзецюка зь беларускіх „зялёных“ апавядаў нам той паранены афіцэр. У нашай палаце ён вёў рэй. „Яны, — казаў, — у лесе каля Ільлі ства-

рылі цэлую базу са зброяй. Зь імі мы вялі бой. Іх там было больш за роту. Параненыя і забітыя былі з абодвух бакоў. Але базу іх са зброяй мы захапілі. А яны разьбегліся. Вось і мяне там паранілі. Падабралі параненага гэтага маўчуна. Яго сюды зь вялейскай турмы даставілі. Як вылечаць, ізноў забяруць у турму і судзіць будуць. І чаго яму, такому маладому, захацелася ваяваць? Ішоў бы служыць у Савецкую армію, і яму знайшлося б з кім ваяваць!“ — „А можа, ён і яны, тыя бандзіты «зялёныя», супраць калгасаў ваявалі?“ — пытаў нехта з хворых. „Але ў калгас ніхто прымусова не заганяе“, — адказваў той афіцэр. „Можа, гэты «зялёны» дзяцюк і параніў вас?“ — „А хто яго ведае, калі ўсе страляюць. А можа, я яго параніў“. Такіх гутарак было некалькі. Але беларускі дзяцюк маўчаў, як нямы. Яго ніхто і не наведваў. Можа, радня ня ведала ці не дапускалі яе. А можа, і баялася заходзіць. Жывот таго дзецюка хутка зажываў. Доктар казаў, што на ім зажывае ўсё як на сабаку. А вось параненыя ногі таго афіцэра не зажывалі. А што з тым дзецюком далей? Ён не сказаў ні імя, нічога. Неўзабаве яго перавялі ў другую палату, а потым у вялейскую турму. Празь месяц недзе выпісалі і мяне, і бацька павёз мяне дамоў. Зь Вялейкі на Касічы. Едзем празь лес Калоду. І раптам нашу павозку спыняюць два дзецюкі. Пытаюцца, куды едзем. Бацька кажа, што сын нагу зламаў. Распыталі

пра абстаноўку на дарозе — дзе, як прайсьці. І пайшлі. Гэта быў сорак дзявяты год.

Маштаб паваеннага супраціву, мяркуючы нават па адной тэчцы, ахопліваў увесь захад Беларусі. Ня тое што раёну, а, пэўна, сельсавету не было без сваёй „террористической банды“. Дык кім жа яны былі ў масе сваёй? Узброеныя паўстанцы паваенных часоў? Палітычнымі змагарамі, нацыянальнымі партызанамі ці ляснымі разбойнікамі? Ільлянскі краязнаўца Уладзімер Кажамяка вылучае найперш палітычны чыньнік:

— У вёску Суднікі да маёй знаёмай жанчыны неяк завітаў Пётра Клімёнак, вядомы ў наваколльлі як Харытонаў. Камандзір атрада. І пытаецца: „Цётка Тэкля, ці пазнала ты мяне?“ — „А як жа я цябе не пазнаю? Я ж цябе маленькага няньчыла“. А потым яна яму кажа: „Пётра, ты заняўся дрэннай справай. Зловяць цябе, заб’юць!“ — „Не, — кажа, — цётка Тэкля, нас многа ў лесе. І мы пераможам гэтую ўладу!“ Бачыце, якія думкі былі? Перамагчы савецкую ўладу. І мне здаецца, гэты дыялёг якраз падкрэсьлівае, што нават калі некаторыя пачыналі як бандыты, то потым яны вось так разважалі. Людзі не падпарадкоўваліся? Так. Супраціўляліся? Так. У людзей быў недавер. Большасьць не гаварылі нічога, баяліся. Бо тут жа данясуць. Але недавер быў амаль ва ўсіх. А як яго магло ня быць, калі гэтая ўлада рабіла ўсё, каб гэтых людзей падмануць і прымусіць?

Людзі плакалі. А сьлёзы — гэта ўжо супраціў. Як гэта плакаць, калі ты мусіш радавацца? Ты што, нечым не задаволены? Ды нават сёньня, калі да людзей такія адносіны, як камуністы ўстройвалі, то... Людзі адплацяць. Можа, значна пазьней. Можа, праз пакаленьне. Але ўсё роўна пакрыўджаныя адплацяць.

А вось які адказ на маё наіўнае пытаньне пра змагароў і бандытаў даў мне Міхал Залескі:

— Тыя людзі, якія гавораць пра адсутнасьць палітыкі ва ўсякім сялянскім руху, яны не разумеюць сялянства. Сялянства ня ў стане, кажучы сучаснаю моваю, артыкуляваць свае патрабаваньні. Яно ў стане выразіць у баі свой гнеў і нянавісьць. Гэныя людзі, як шалёныя сабакі, кідаюцца на ўсіх, хто прымушае тое, што яны любілі, паміраць раней за іх.

У „Маім Гамлеце" Высоцкага я адразу зьвярнуў увагу на слова „кроў". А адказ хаваецца ў слове „ўсе".

Я кроў праліў, як ўсе. І, як яны,
Ня здолеў я адмовіцца ад помсты.

У таго безыменнага гамлета зь вялейскага шпіталя не было выбару ў спосабе барацьбы — толькі быць! Як усе. Гэта значыць узяць зброю. Тую зброю, якой поўна было пасьля вайны. І, як выглядае сьмерць, ён бачыў на свае вочы, пэўна, ня раз. І кроў гатовы быў праліць, як усе.

Толькі, у адрозьненьне ад лясных братоў Літвы, наш вялейскі герой, які не назваў свайго

імя, што магло быць данесенае да нашых часоў, так і застаўся невядомым…

2001 год. Вільня. Рэстаран Stikliai. Утульны падвал, дзе мы сядзім невялікай кампаніяй. Я, мой сябра Кастусь і ягоная жонка Наталка. Побач з нашым столікам літоўскае трыё — скрыпач, баяніст ды басіст — іграюць ды пяюць літоўскія народныя песьні. Мы з Кастусём ужо добра ўзьнялі градус сваёй крыві і спыняцца не зьбіраемся. Раптам мой таварыш вырашыў паўдзельнічаць у музычнай імпрэзе. „Зараз я вам перакладу, пра што яны сьпяваюць!“, — кульнуўшы чарку старкі, падміргнуў нам Кастусь. „Ты што, ведаеш літоўскую?“ — крыху зьбянтэжана паглядзела на яго жонка. „А то!“ — усьміхнуўся сябра. І пачаў удаваць, што перакладае на расейскую, з робленым „прыбалтыйскім“ акцэнтам, даволі гладка трапляючы ў тэмп вясёлай літоўскай песенькі:

„Как радостно сегодня в нашей хате!
Музыка и танцы с утра до вечера!
Всем гостям мы рады!
Весело скворчит на плите наша сковородка!“

„Мілы, — з усьмешкай сказала жонка, — ты можаш перакладаць крыху цішэй? Нас могуць пачуць літоўцы“.

„Вядома, дарагая!“ — адказаў сябра і пачаў даганяць сваім перакладам другі куплет.

„Посмотрите, кто к нам пришёл!
Это же русский. Какая у него винтовка!
Какие у него сапоги. Какая фуражка!

Весело скворчит на плите наша сковородка!“

„Любы, — ужо больш нэрвова прамовіла жонка, — збаў дэцыбэлы. Нас могуць пачуць літоўцы“.

Але сябра было ўжо не спыніць. Ён кульнуў чарку і пасьпеў на трэці куплет:

„Чьи это там валяются в углу сапоги?

Чья это лежит винтовка?

Некому на ней больше стрелять!

Весело скворчит на плите наша сковородка!“

Наталку было не стрымаць:

„Заткнись, сволочь! Нас услышат литовцы!“

І тут да нас павярнуўся ад суседняга століка сівы хударлявы пан. „Не волнуйтесь. Литовцы вас услышали! Нам очень понравился перевод. Хоть это всего лишь песенка о празднике урожая в нашей деревне. А на счёт русских вы можете сходить в музей геноцида. Это там, где было КГБ“.

Ходзячы па залях гэтага незвычайнага Музэя акупацыі і змаганьня за свабоду, дзе ўсімі сучаснымі ды інтэрактыўнымі сродкамі паказаны пакутніцкі шлях паваеннай барацьбы літоўцаў, ад расстрэльнай камэры да вагонаў-цяплушак, у якіх людзей высылалі на будоўлі камунізму, я прыгадаў учорашнюю бяседу ў рэстаране і жарты пра расейцаў. У залі, прысьвечанай Літоўскай ССР, дзе пад амаль такім самым гербам, як сёньняшні герб Рэспублікі Беларусь, былі выстаўленыя дакумэнты з архіву літоўскага МГБ. Якія, к чорту, рускія?

Зразумела, куды бязь іх. Але колькі ж было саміх літоўцаў сярод сьледчых і судзьдзяў! Вось ужо сапраўды — ня толькі „ніхто не хацеў паміраць“, а многія хацелі і жыць някепска.

Я хадзіў па гэтым музэі ня раз. І з кожным годам музэй адкрываў мне нешта новае. Тут можна зайсьці ў сапраўдную камэру. Прысесьці на шконку. Падумаць. Напрыклад, пра тое, як жа беларусам да 2020-га не хапала вось гэтай прыступкі… Прыступкі, каб адчуць сябе дарослымі і роўнымі сярод суседзяў. Сваёй нацыянальнай казкі пра народны супраціў саветам. Сьведкі маўчалі. Удзельнікі таксама. Тыя, хто выжыў, не сказалі ні слова. А дзеці паверылі, што гэта іхнае „гасударства“. І што ніхто і ніколі і ня думаў зь яго выходзіць, ня тое што не ўступаць. А замяні ў Віленскім музэі шыльдачкі зь літоўскімі прозьвішчамі на беларускія, і ўсё стане на свае месцы. І гэтаму гербу будзе месца толькі ў такім музэі. І толькі над адпаведнай экспазыцыяй.

Я пацягнуў на сябе цяжкія музэйныя дзьверы. У вочы шыбанула зыркае сонечнае сьвятло, быццам выбухнула тая бомба, якую Чарняўскі усё ж такі рвануў.

# Паказьнік імёнаў, мясьцінаў, прадметаў і зьяваў

# Пра аўтара

Зьміцер Бартосік нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рыбінску (Расея) у сям'і рэжысэра і акторкі драматычнага тэатру. Разам з бацькамі шмат вандраваў па абшарах савецкай імпэрыі. У школу пайшоў у казахстанскім Усьць-Каменагорску (Эскемене). Працягнуў вучобу ў расейскім Горкім (Ніжнім Ноўгарадзе). У 1979-м сям'я пераехала ў беларускі Гомель, дзе ў школе аўтар быў вызвалены ад вывучэньня беларускай мовы. Што ўрэшце карэнным чынам паўплывала на яго далейшы лёс. Цікавасьць да беларускай культуры як глыбока несавецкай зьявы прывяла аўтара спачатку ў віленскую рэдакцыю „Нашай нівы“, а пасьля і на Радыё Свабода. Выдаў кнігу апавяданьняў з уласнага жыцьця „Чорны пісталет“ (2002) і два альбомы сваіх песень. Кніга падарожжаў „Быў у пана верабейка гаварушчы…“ (Бібліятэка Свабоды, 2016) прынесла аўтару прэміі Аляксандра і Марыі Стагановічаў (за непрыдуманую літаратуру), Алеся Адамовіча (Беларускага ПЭН-цэнтру) і Ежы Гедройця.

Паводле кнігі быў пастаўлены спэктакль беларускага Свабоднага тэатру. Наступная кніга гэтай сэрыі „Клініка кітайскага дантыста“ выйшла ў 2018 годзе. Кніга „Забіць упалмінзага“ завяршае трылёгію *Падарожжаў Свабоды*.

*Аўтар выказвае сардэчную ўдзячнасьць Беларускаму ПЭН-цэнтру, Калегіюму Ўсходняй Эўропы імя Яна Новака-Езяранскага, а таксама Старамескаму дому культуры ў Варшаве, у чыіх рэзыдэнцыях працавалася асабліва плённа.*

# Summary

The author, award-winning journalist and writer, Zmitser Bartosik, fortuitously gets his hands on classified documents of the Belarus secret services in the years following WWII. These are criminal matters relating to peasant insurrections against collectivization and a new order which is robbing them of their property — land, grain, livestock. All those opposed are either killed or jailed by the government. In response, people revolt. Seventy years later, the author tracks down pertinent addresses and speaks with surviving witnesses. What emerges from documentation and interviews with participants is a broad tapestry of „wars after the war". The author brings back to the national consciousness a period of post-war resistance to occupation hidden from collective memory, a reminder without which national consciousness today cannot effectively endure.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.**
Зборнік гутарак
і песень 100
удзельнікаў
перадачы
«Барды Свабоды».
Мультымэдыйны
DVD-дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
192 с.: іл.




**Галасы
Салідарнасьці.**
Міжнародная
падтрымка
беларускай
дэмакратыі.
Мультымэдыйны
DVD-дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў
Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
330 с.




**Саўка ды Грышка.
Год першы.**
Калекцыя 50
песьняў – падзеі
году ў сатырычным
дуэце Лявона
Вольскага з самім
сабой на Радыё
Свабода.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная
энцыкляпэдыя
Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2011. —
320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка.**
**Сто песень.**
**2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.

